НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## ТЭМАТЫЧНЫ СЛОЎНІК



Мінск
«Беларуская навука»
2010

УДК 811.161.3'374.3:63
ББК 81.2Беи-4
С29

Складальнікі:
В. Д. Астрэйка, Н. М. Бунько, А. У. Ксяндзова,
Л. П. Кунцэвіч, В. М. Курцова, Ю. В. Маліцкі,
Н. В. Сівіцкая, Т. М. Трухан, А. І. Шаблоўскі

Навуковыя рэдактары:
Л. П. Кунцэвіч, В. М. Курцова

Рэцэнзенты:
кандыдат філалагічных навук Г. Ф. Вештарт,
кандыдат філалагічных навук І. Л. Капылоў

С29 **Сельская гаспадарка** : тэматычны слоўнік / склад. В. Д. Астрэйка [і інш.]; навук. рэд. Л. П. Кунцэвіч, В. М. Курцова. – Мінск: Беларус. навука, 2010. – 527 с.
ISBN 978-985-08-1230-8.

Слоўнік уключае выбраныя з розных крыніц рэгіянальныя беларускія народныя назвы, якія звязаны з сельскай гаспадаркай, а таксама са спадарожнымі традыцыйнай сялянскай працы заняткамі. Уваходзяць у яго і словы, якія абазначаюць розныя паняцці народнай астраноміі і метэаралагічных з'яў.

**УДК 811.161.3'374.3:63**
**ББК 81.2Беи-4**

**ISBN 978-985-08-1230-8**

# ПРАДМОВА

Тэматычны слоўнік «Сельская гаспадарка» – гэта працяг серыі слоўнікавых выданняў (апублікавана тры выпускі – Жывёльны свет; Раслінны свет. Мінск, 2001; Чалавек. Мінск, 2006), падрыхтаваных супрацоўнікамі аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. Новы слоўнік уключае лексіку, звязаную з традыцыйнай гаспадарчай дзейнасцю селяніна, – апрацоўка зямлі, догляд пасеваў, збор і захаванне ўраджаю, назвы прылад працы і асобных падручных сродкаў, з дапамогай якіх ажыццяўляецца той ці іншы этап працы хлебароба, а таксама шматлікія іншыя найменні, што непасрэдна або ўскосна атаясамліваюцца з сельскай гаспадаркай. Гэта назвы зямельных надзелаў і іх відаў, назвы палеткаў пасля ўборкі збожжавых зернавых і бабовых культур, ільну, лексічныя абазначальныя сродкі сенажацей, іх відаў і характар працы, выкліканы нарыхтоўкай сена, кармоў наогул і г. д. Асобную частку слоўнікавых матэрыялаў складаюць назвы гаспадарчых пабудоў і іх частак, у якіх апрацоўваліся ці захоўваліся збожжа, лён, сена, салома. Падаюцца ў слоўніку і назвы асноўных сродкаў перамяшчэння – воза, саней, а таксама найменні збруі, той часткі спадарожнага начыння, без якой сельскагаспадарчая дзейнасць немагчыма. Зразумела, функцыі і выкарыстанне сродкаў перамяшчэння ў сялянскім побыце значна шырэйшыя, чым толькі ўласна гаспадарчыя, але, улічваючы іх асноўнае прызначэнне менавіта для сель-

скагаспадарчай вытворчасці, найменні для абазначэння воза, саней і збруі ўключаны ў гэты слоўнік.

У даведніку адлюстраваны таксама назвы з'яў нежывой прыроды – найменні стану надвор'я, працэсаў, з'яў, абумоўленых імі, інакш кажучы, назвы з метэаралагічнай сферы. Пры ўключэнні апошніх у склад дадзенай лексікаграфічнай працы яе аўтары арыентаваліся на структуру і асаблівасці ўпарадкавання спецыяльнага тома ЛАБНГ «Сельская гаспадарка. Т. 2» (Мінск, 1994). Такім чынам, у структурных адносінах слоўнік «Сельская гаспадарка» аб'ядноўвае ўласна намінатыўныя адзінкі, а таксама розныя іншыя абазначальныя сродкі, якія традыцыйна выкарыстоўваліся ў якасці адзінак моўнага забеспячэння сельскагаспадарчай дзейнасці селяніна і дадатковых заняткаў, звязаных з ёй.

У аснову тэматычнай класіфікацыі лексікаграфічнай працы пакладзены пашыраныя народныя ўяўленні аб зямлі і працы хлебароба на зямлі, яе характары і асаблівасцях, аб сродках, з дапамогай якіх такая работа рабілася раней ці ажыццяўляецца зараз, а таксама ўключаны ўсе тыя традыцыйныя паняцці і ўяўленні, што непасрэдна не датычацца селькагаспадарчага вытворчага цыкла і спадарожных яму заняткаў хлебаробаў, але маюць пэўныя адносіны да сельскай гаспадаркі.

Як і ў папярэдніх выданнях серыі, лексічныя матэрыялы падзяляюцца на асобныя блокі або лексіка-тэматычныя групы слоў. Загалоўным словам у артыкуле выступае адпаведнае па значэнні слова літаратурнай мовы. У асобных выпадках (пры адсутнасці такога слова) у якасці загалоўнага выкарыстоўваецца найбольш пашыранае рэгіянальнае найменне. Слоўнікавыя артыкулы ў тэматычных падборках размешчаны паводле загалоўных слоў у алфавітным парадку. У канцы слоўніка змяшчаецца алфавітны паказальнік адлюстраваных у кнізе слоў, кожнае з іх забяспечваецца нумарам старонкі, адпаведным нумару ў тэкставай частцы.

Аўтарская работа выканана наступным чынам:

1. Назвы сельскагаспадарчых угоддзяў, назвы ворнай і няворнай зямлі – Л. П. Кунцэвіч (артыкулы «Агрэх», «Града» падрыхтаваны сумесна з Н. М. Бунько, артыкулы «Абсевак», «Баразна», «Заварот», «Мяжа», «Скіба» падрыхтаваны Н. М. Бунько).

2. Назвы традыцыйных сельскагаспадарчых прылад працы, іх частак, прыстасаванняў, спадарожнага начыння – В. М. Курцова (артыкул «Сродкі ўмацавання рубля» падрыхтаваны сумесна з А. У. Ксяндзовай, артыкулы «Стажар», «Апоўзіны» падрыхтаваны Т. М. Трухан).

3. «Апрацоўка зямлі, сяўба, догляд пасеваў» – Н. М. Бунько.

4. «Збор і апрацоўка ўраджаю» – Ю. В. Маліцкі.

5. «Сенакос» – Т. М. Трухан (артыкул «Чубарына» падрыхтаваны А. І. Шаблоўскім).

6. «Нарыхтоўка кармоў» – Т. М. Трухан.

7. «Назвы меры вагі, аб'ёму і плошчы» – А. І. Шаблоўскі (артыкул «Пакос» падрыхтаваны сумесна з Т. М. Трухан).

8. «Назвы сельскагаспадарчых і вытворчых пабудоў» – Н. В. Сіціцкая.

9. «Народная астраномія і метэаралогія» – В. Д. Астрэйка.

10. «Назвы воза, саней, іх частак, збруі» –– А. У. Ксяндзова.

У сувязі з тым, што слоўнік прызначаны для шырокага кола чытачоў, словы ў слоўнікавых артыкулах згодна з усталяванай для серыі традыцыяй падаюцца ва ўніфікаванай правапісна адаптаванай форме, але так званыя нерэгулярныя фанетычныя асаблівасці мясцовых слоў захоўваюцца. Акрамя таго, у асобных выпадках паралельна з літаратурнай формай абазначальнага сродку падаецца яго фанетычны варыянт (варыянты). Гукавое аблічча лексем адлюстроўваецца пераважна ў словах, якія былі зафіксаваны на тэрыторыі заходнепалескіх гаворак. Пры наяўнасці варыянтаў ужывання аднаго і таго ж слова з прыстаўнымі зычнымі альбо пры наяўнасці граматычных варыянтаў апошнія падаюцца ў дужках: *(в)о́тліга*, *аўся́на(я) сало́ма*. Такім жа чынам перадаецца і варыянтнае вымаўленне зычнага гука **г**,

як фрыкатыўнага ці выбухнога (выбухны гук абазначаецца сімвалам ґ). Указанне на тэрыторыю распаўсюджання мае абагульняльны, арыентацыйны характар. Каля кожнай лексемы змяшчаецца крыніца яе фіксацыі, а таксама агульнапрынятыя граматычныя і стылёвыя паметы пры іх наяўнасці ў лексікаграфічнай крыніцы.

Слоўнік з'яўляецца лексікаграфічным даведнікам па беларускай мясцовай лексіцы, якая звязана з сельскай гаспадаркай у яе шырокім разуменні. Ён будзе карысным і цікавым не толькі для філолагаў, але і гісторыкаў, этнографаў, краязнаўцаў, – наогул усіх, хто любіць роднае слова, цікавіцца і захапляецца народнай словатворчасцю.

*Ад рэдактараў*

# ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

## НАЗВЫ ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ

| | |
|---|---|
| АЛА – | Агульнаславянскі лінгвістычны атлас. Архіў матэрыялаў па населеных пунктах Беларусі сеткі атласа. Захоўваецца ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. |
| Бялькевіч – | Бялькевіч І. К. Краёвы слоўнік усходняй Магілёўшчыны. Мінск, 1970. |
| Варлыга – | Варлыга А. Краёвы слоўнік Лагойшчыны. Нью-Йорк, 1970. |
| ГЧ – | Гаворацъ чарнобыльцы. Мінск, 1994. |
| ДАБМ – | Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мінск, 1963. |
| Дабравольскі – | Добровольский В. В. Смоленский областной словарь. Смоленск, 1914. |
| ДСБ – | Дыялектны слоўнік Брэстчыны. Мінск, 1989. |
| ЖНС – | Жывое народнае слова. Мінск, 1992. |
| ЖНшС – | Жывое наша слова. Мінск, 2001. |
| ЖС – | Жывое слова. Мінск, 1978. |
| З нар. сл. – | З народнага слоўніка. Мінск, 1975. |
| Каспяровіч – | Каспяровіч М. І. Віцебскі краёвы слоўнік. Мінск, 1927. |
| Кучук – | Кучук І. М., Малюк А. К. Палескі слоўнік. Лельчыцкі раён. – Мазыр, 2000. |
| ЛАБНГ – | Лексічны атлас беларускіх народных гаворак: У 5 т. Мінск, 1993–1998. |
| ЛП – | Лексика Полесья: Материалы для полесского диалектного словаря. Мінск, 1968. |

| | |
|---|---|
| ЛМПП – | Лексіка народнай гаспадаркі ў гаворках Мазырска-Прыпяцкага Палесся / А. А. Станкевіч, А. М. Воінава, Л. М. Мінакова / М-ва адукацыі РБ, Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф. Скарыны – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2008. |
| Мат. апыт. – | Матэрыялы, сабраныя ў час спецыяльных экспедыцыйных выездаў, у выніку апытанняў прадстаўнікоў гаворак. |
| Мат. Гом. – | Матэрыялы да дыялектнага слоўніка Гомельшчыны // Беларуская мова і мовазнаўства. Мінск, 1975–1982. Вып. 3–10. |
| Мат. Гродз. – | Сцяшковіч Т. Ф. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці. Мінск, 1972. |
| Мат. Маг. – | Матэрыялы для абласнога слоўніка Магілёўшчыны. Мінск, 1981. |
| Мат. мін.-мал. – | Матэрыялы для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак. Мінск, 1970–1977. Вып. 1–3. |
| Мат. дыял. сл. – | Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы. Мінск, 1960. |
| Нар. скарбы – | Народныя скарбы. Мінск, 2008. |
| Насовіч – | Насовіч І. І. Слоўнік беларускай мовы. Мінск, 1983. |
| НЛ – | Народная лексіка. Мінск, 1977. |
| НЛГ – | Народная лексіка Гомельшчыны ў фальклоры і мастацкай літаратуры: Слоўнік. Мінск, 1983. |
| НС – | Народнае слова. Мінск, 1976. |
| Н. сл-сць – | Народная словатворчасць. Мінск, 1979. |
| НСГТ – | Народная сельскагаспадарчая тэхніка беларусаў. Мінск, 1974. |
| Растаргуеў – | Расторгуев П. А. Словарь народных говоров Западной Брянщины. Мінск, 1973. |
| Сл. Гродз. – | Сцяшковіч Т. Ф. Слоўнік Гродзенскай вобласці. Мінск, 1983. |
| СНМ – | Скарбы народнай мовы. Мінск, 2005. |
| СРЛГ | Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны / Пад рэд. М. А. Даніловіча, П. У. Сцяцко. Гродна: ГрДУ, 1999. |

| | |
|---|---|
| СПЗБ – | Слоўнік гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча: У 5 т. Мінск, 1979–1986. |
| СЦБ – | Слоўнік гаворак цэнтральных раёнаў Беларусі: У 2 т. Мінск 1990. Т. 1. |
| Станкевіч – | Станкевіч Я. Белорусско-русский (Велико-литовско-русский) словарь. Нью-Йорк, 1995. |
| Сцяцко ДС – | Сцяцко П. У. Дыялектны слоўнік: З гаворак Зэльвеншчыны. Мінск, 1970. |
| Сцяцко НЛ – | Сцяцко П. У. Народная лексіка. Мінск, 1970. |
| Сцяшковіч – | Сцяшковіч Т. Ф. Гаворкі Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці. Гродна, 1959. |
| ТС – | Тураўскі слоўнік: У 5 т. Мінск, 1982–1987. |
| Трухан – | Лексіка апрацоўкі льну. Тэматычны слоўнік, лексічны атлас / Трухан Т. М., Клімчук Ф. Д. Мінск, 2006. |
| Цыхун – | Цыхун А. П. Скарбы народнай мовы. Гродна, 1994. |
| Шаталава – | Шаталава Л. Ф. Беларускае дыялектнае слова. Мінск, 1975. |
| Шатэрнік – | Шатэрнік М. В. Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны. Мінск, 1929. |
| ЭСБМ – | Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мінск, 1978–2008. Т. 1–12. |
| Юрчанка – | Юрчанка Г. Ф. Дыялектны слоўнік (з гаворак Мсціслаўшчыны). Мінск, 1966; Юрчанка Г. Ф. Народная сінаніміка. Мінск, 1969; Юрчанка Г. Ф. Народнае вытворнае слова: З гаворак Мсціслаўшчыны. Мінск, 1981–1985. Вып. 1–3; Юрчанка Г. Ф. Сучаснае народнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны: Слоўнік. Мінск, 1968; Юрчанка Г. Ф. Сучасная народная лексіка: З гаворкі Мсціслаўшчыны: Слоўнік: А – Н. Мінск, 1993. |
| Янкова – | Янкова Т. С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны. Мінск, 1982. |
| Янкоўскі – | Янкоўскі Ф. М. Дыялектны слоўнік. Мінск, 1959–1970. Вып. 1–3. |
| Яўсееў – | Яўсееў Р. М. Маці казала так: З гаворкі Бялыніцкага раёна. Мінск, 1978. |

## НАЗВЫ ДЫЯЛЕКТНЫХ ГРУП ГАВОРАК

| | |
|---|---|
| агульн. – | агульнавядомае |
| асн. мас. г. – | асноўны масіў гаворак |
| зах.-пал. г. – | заходнепалескія гаворкі |
| паўдн.-зах. д. – | паўднёва-заходні дыялект |
| гродз.-бар. г. – | гродзенска-баранавіцкая група гаворак |
| пал. г. – | палескія гаворкі |
| слуцк.-маз. г. – | слуцка-мазырская група гаворак |
| паўн.-усх. д. – | паўночна-ўсходні дыялект |
| віц.-маг. г. – | віцебска-магілёўская група гаворак |
| пол.-мін. г. – | полацка-мінская група гаворак |
| сярэд.-бел. г. – | сярэднебеларуская група гаворак |
| усх.-маг. г. – | усходнемагілёўская група гаворак |

## АСНОЎНЫЯ ДЫЯЛЕКТНЫЯ ЗОНЫ

| | |
|---|---|
| цэнтр. з. – | цэнтральная зона |
| паўн.-зах. з. – | паўночна-заходняя зона |
| паўдн.-усх. з. – | паўднёва-ўсходняя зона |
| зах. з. – | заходняя зона |
| усх. з. – | усходняя зона |

## ДЫЯЛЕКТНЫЯ РЭГІЁНЫ

| | |
|---|---|
| Беластоц. р. – | Беласточчына (Польшча) |
| Бярэз. р. – | у наваколлі р. Беразіны |
| Вілен. р. – | Віленшчына |
| Віц. р. – | у наваколлі Віцебска |
| Гом. р. – | у наваколлі Гомеля |
| Гродз. р. – | у наваколлі Гродна |
| зах.-бран. р. – | Заходняя Браншчына (Расія) |
| Латгал. р. – | Латгальскі рэгіён |
| Маг. р. – | Магілёўскі рэгіён |
| Мін. р. – | Мінскі рэгіён |
| пал. р. – | палескі рэгіён |
| Паням. р. – | Панямонне |
| паўдн. р. – | паўднёвы рэгіён |

| | |
|---|---|
| паўн. р. – | паўночны рэгіён |
| Слуцк. р. – | Слуцкі рэгіён |
| Смален. р. – | Смаленскі рэгіён |
| усх.-маг. р. – | усходнемагілёўскі рэгіён |
| Чэрв. р. – | Чэрвеньскі рэгіён |

## ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

| | |
|---|---|
| адзінк. – | адзінкавае |
| адм. – | адмоўнае |
| дзеепрым. – | дзеепрыметнік |
| дзіц. – | дзіцячае |
| ж. – | жаночы род |
| жарт. – | жартоўнае |
| зак. – | закончанае трыванне |
| зб. – | зборнае |
| зневаж. – | зневажальнае |
| зніж. – | зніжанае |
| іран. – | іранічнае |
| ласк. – | ласкальнае |
| м. – | мужчынскі род |
| метаф. – | метафарычнае |
| мн. – | множны лік |
| мясц. – | мясцовае |
| н. – | ніякі род |
| незак. – | незакончанае трыванне |
| непахв. – | непахвальнае |
| павеліч. – | павелічальнае |
| пагардж. – | пагарджальнае |
| памянш. – | памяншальнае |
| перан. – | пераноснае |
| прым. – | прыметнік |
| прысл. – | прыслоўе |
| рэдк. – | рэдкае |
| устар. – | устарэлае |
| фалькл. – | фальклорнае |
| экспр. – | экспрэсіўнае |
| эмац.-ацэн. – | эмацыянальна-ацэначнае |

## НАЗВЫ РАЁНАЎ

Акц. – Акцябрскі
Арш. – Аршанскі
Асіп. – Асіповіцкі
Астр. – Астравецкі
Ашм. – Ашмянскі
Бабр. – Бабруйскі
Бар. – Баранавіцкі
Барыс. – Барысаўскі
Бераст. – Бераставіцкі
Беш. – Бешанковіцкі
Браг. – Брагінскі
Брасл. – Браслаўскі
Брэсц. – Брэсцкі
Буда-Каш. – Буда-Кашалёўскі
Бых. – Быхаўскі
Бял. – Бялыніцкі
Бяроз. – Бярозаўскі
Бярэз. – Бярэзінскі
Віл. – Вілейскі
Віц. – Віцебскі
Валож. – Валожынскі
Ваўк. – Ваўкавыскі
Верхнядзв. – Верхнядзвінскі
Ветк. – Веткаўскі
Воран. – Воранаўскі
Ганц. – Ганцавіцкі
Гарад. – Гарадоцкі
Гл. – Глускі
Глыб. – Глыбоцкі
Гом. – Гомельскі
Гор. – Горацкі
Гродз. – Гродзенскі
Дзярж. – Дзяржынскі
Дзятл. – Дзятлаўскі
Добр. – Добрушскі
Докш. – Докшыцкі
Драг. – Драгічынскі
Дрыб. – Дрыбінскі
Дубр. – Дубровенскі
Ельск. – Ельскі
Жаб. – Жабінкаўскі
Жлоб. – Жлобінскі
Жытк. – Жыткавіцкі
Зэльв. – Зэльвенскі
Іван. – Іванаўскі
Івац. – Івацэвіцкі
Івян. – Івянецкі
Іўеў. – Іўеўскі
Кір. – Кіраўскі
Калінк. – Калінкавіцкі
Кам. – Камянецкі
Капыл. – Капыльскі
Карм. – Кармянскі
Карэл. – Карэліцкі
Касц. – Касцюковіцкі
Клім. – Клімавіцкі
Кліч. – Клічаўскі
Клецк. – Клецкі
Кобр. – Кобрынскі
Краснап. – Краснапольскі
Кругл. – Круглянскі
Круп. – Крупскі
Крыч. – Крычаўскі
Лід. – Лідскі
Лаг. – Лагойскі
Лёзн. – Лёзненскі
Лельч. – Лельчыцкі
Леп. – Лепельскі
Лоеў. – Лоеўскі
Лун. – Лунінецкі
Люб. – Любанскі
Лях. – Ляхавіцкі
Мін. – Мінскі
Маг. – Магілёўскі
Маз. – Мазырскі
Маладз. – Маладзечанскі
Малар. – Маларыцкі
Маст. – Мастоўскі
Мёр. – Мёрскі
Мсцісл. – Мсціслаўскі
Мядз. – Мядзельскі
Навагр. – Навагрудскі

Нараўл. – Нараўлянскі
Нясв. – Нясвіжскі
Пін. – Пінскі
Паст. – Пастаўскі
Петр. – Петрыкаўскі
Пол. – Полацкі
Пруж. – Пружанскі
Пух. – Пухавіцкі
Раг. – Рагачоўскі
Рас. – Расонскі
Рэч. – Рэчыцкі
Саліг. – Салігорскі
Свісл. – Свіслацкі
Светлагор. – Светлагорскі
Сен. – Сенненскі
Слаўг. – Слаўгарадскі
Слон. – Слонімскі
Слуцк. – Слуцкі
Смал. – Смалявіцкі
Смарг. – Смаргонскі
Старадарож. – Старадарожскі
Стаўб. – Стаўбцоўскі
Стол. – Столінскі
Тал. – Талачынскі
Уздз. – Уздзенскі
Ушацк. – Ушацкі
Хойн. – Хойніцкі
Хоц. – Хоцімскі
Чав. – Чавускі
Чач. – Чачэрскі
Чашн. – Чашніцкі
Чэрв. – Чэрвеньскі
Чэрык. – Чэрыкаўскі
Шарк. – Шаркаўшчынскі
Шкл. – Шклоўскі
Шум. – Шумілінскі
Шчуч. – Шчучынскі

# 1. НАЗВЫ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ УГОДДЗЯЎ, НАЗВЫ ВОРНАЙ І НЯВОРНАЙ ЗЯМЛІ

## Аблога

Даўно не аранае поле, пакрытае дзірваном.

*аблóг* м. – Карэл., Жытк., Стол., Лях., Ваўк., Воран., Брэсц. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ДСБ, Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., ЛП, Кучук), *блóга* ж. – Крыч. (АЛА), *аблóга* ж. – Мсцісл., Тал., Бял., Жлоб., Рэч., Сен., усх. з. (АЛА, ДАБМ, ЛАБНГ, Каспяровіч, Юрчанка), *аблóжа* ж. – Тал. (ДАБМ), *адлóг* м. – Воран., Шчуч., Ліпск., Гродз. р. (АЛА, ДАБМ, СПЗБ, Сцяцко, Цыхун), *адлóга* ж. – Драг. (ДАБМ, АЛА), *адлагóн* м. – Воран. (ДАБМ), *злог* м. – Драг. (ЛП), *цалíк* м. – гродз.-бар. г., усх.-пал. р., Мядз., Лаг., Барыс., Віл., Клім., Пруж. (ЛАБНГ, Яўсееў, Кучук), *цальнíк* м. – Астр., Брасл. (ЛАБНГ), *цаліна́* ж. – Старадарож., Слуцк. р., Валож., Лаг., Асіп., Бабр., Карм., Брэсц., Клецк., Лун., Смарг., Жлоб. (ЛАБНГ, ДАБМ, Мат. апыт.), *уцэ́ла* ж. – Леп. (ЛАБНГ), *уцалíк* м. – Ветк. (ЛАБНГ), *за́леж* ж. – спарадычна асн. мас. г. (АЛА, ДАБМ, ЛАБНГ, Мат. Гродз., ЛП, ЛМПП, Янкова, Мат. апыт.), *за́лег* м. – Шарк., Лун. (АЛА), *за́лежань* м. – Рас. (АЛА, Шаталава), *за́лежа* ж. – Стол. (ДСБ), *залíжак* м. – Жаб. (ДСБ), *залóгішча* н. – Брасл. (ДАБМ), *прылóж* м. – Іван. (ДАБМ), *за́лезь* ж. – Стаўб. (Мат. мін.-мал.), *залéгласць* ж. – Драг. (ДАБМ), *залéгліца* ж. – Навагр. (НС), *залéгля* ж. – Драг. (ЛП), *злог* м. – зах.-пал. г., Брэсц. (АЛА, ДАБМ, ДСБ), *пералóг* м. – гродз.-бар. г., спарадычна Слуцк. р., Мін. р., Стол. (ДАБМ), *за́лях* м. – Шчуч. (З нар. сл.), *злюг* м. – Малар. (НЛ), *лох* м. – Віл.

(ЖС), *дзірва́н* м. – паўн.-зах. з., спарадычна паўдн. р. і віц.-маг. г. (ДАБМ), *дзёран* м. – Глыб., Верхнядзв., Барыс., Гом. (ДАБМ), *дзірва́нне* н. – Ушацк. (ДАБМ), *дзярно́* н. – Ганц., Іван., Пін., Стол., Драг. (ДАБМ), *дзербіна́* ж. – Петр. (ДАБМ), *дзёрна* ж. – Люб. (ДАБМ), *дрэ́ніна* ж. – Малар., Драг. (ДСБ), *дэрня́к* м. – Драг. (ДСБ), *папа́р* м. – Докш. (ЛАБНГ), *парані́на* ж. – Шкл., Кругл., Ветк. (АЛА, ЛАБН) *па́рына* ж. – Драг. (ЛАБНГ), *тало́ка* ж. – Гом. р. (ДАБМ), *пусты́р* м. – Верхнядзв., Рас., Пол., Віц. (ДАБМ), *пусцэ́ля* ж. – Пол. (ДАБМ), *пу́сташ* ж. – Пін. (ДАБМ), *му́рава, мурава́* ж. – Дзятл., Старадарож., Бяроз., (ДАБМ, ДСБ), *навіна́* ж. – Жытк., Браг. (ДАБМ), *траяні́на* ж. – Лун. (ДАБМ), *траякі́* мн. – Іван. (ДАБМ), *пустадо́лле* н. – Браг. (ДАБМ), *далаві́на* ж. – Лях. (ДАБМ), *ла́ва* ж. – Лоеў. (Янкова), *ніго́жжа* н. – Бабр. (ДАБМ), *пале́так* м. – Мядз. (ДАБМ), *за́раснік* м. – Смал. (ДАБМ), *паля́дак* м. – Слаўг. (ДАБМ), *паля́д* м. – Пін. (ДАБМ), *паля́нка* ж. – Крыч. (ДАБМ), *вы́пуск* м. – Добр. (ДАБМ), *лысу́ха* ж. – Светлагор. (ДАБМ), *груд* м. – Люб. (ДАБМ), *первіна́* ж. – Кругл. (Мат. Маг.), *дубро́ва* ж. – Добр. (ЛАБНГ), *адбо́й* м. – Ушацк., Валож. (ЛАБНГ), *лёгкапо́ліца* ж. – Бяроз. (ЛАБНГ), *старапо́ль, старапо́ліца* ж. – спарадычна ўсх.-пал. р. (ДАБМ), *по́джар* м. – Стол. (ДСБ, ЛП); **зямля, не араная некалькі гадоў запар**: *я́лавіна* ж. – Лід., Навагр., Віл., Шчуч., Ваўк., Маст., Лях., Брэсц., Чэрв., Бяроз., Стол., Гродз. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Шатэрнік, ЛП, Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., Сцяцко ДС), *ялавіна́* ж. – паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г. (ДСБ, ДАБМ), *ялаве́нь* м. – Арш. (ДАБМ), *я́лаўка* ж. – Докш. (ДАБМ), *я́лаўня́* ж. – Старадарож., Гом. (ДАБМ), *я́лава* ж. – Івац. (ДАБМ), *заро́сліна* ж. – Навагр. (АЛА), *памёт* м. – паўн. р. (ДАБМ), *пагно́й* м. – Стол. (ЛП), *зале́гля* ж. – Драг., Іван. (ЛАБНГ), *ля́да* ж. – Пол. (АЛА), *плеш* м. – Стол. (ЛП);

**прыметнікі**: *залёжны* прым. – Смарг. (СПЗБ), *злогава́ты* прым. – Малар. (ДСБ), *я́лавы* прым. – Шчуч., Ганц. (СПЗБ), *ляжа́вы* прым. – Лельч. (Кучук), *абло́жная зямля́* – Ушацк., Баран., Стаўб., Уздз., Карэл. (ЛАБНГ), *па́рнае* н. – цэнтр. з. (Мат. мін.-мал.), *папа́рная зямля́* – Бых. (ЛАБНГ);

**дзеясловы**: *ялавець* незак. – агульн., зах.-пал. г. – спарадычна (ЛАБНГ), *пераялавець* зак. – Чач., Бых. (Мат. апыт., Мат. Маг.), *аблагава́ць* незак., *злагава́ць* зак. – Малар. (ЛП), *пераблагава́ць* зак. – Лоеў. (Янкова), *праабло́жыць* зак., *пераабло́жыць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *яблагава́ць* незак. – Хойн. (ЛАБНГ), *благава́ць* незак. – Акц. (ЛАБНГ), *валгава́ць* незак., *валкава́ць* незак. – Паст. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ляжа́ць* незак. – Бяроз., Стол. (ДСБ, ЛП), *вылѐжываццa* незак. – Петр. (ЛП), *паралѐжаць* зак. – Бяроз. (ЛАБНГ), *пустава́ць* незак. – Бяроз., Лун., Стол. (ЛП), *спусце́ць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *па́рыць* незак. – Пін. (ЛАБНГ), *па́раваць* незак. – Чэрв. (ЛАБНГ), *з'ярэ́ць* зак. – Лаг. (Варлыга).

## Абсевак

Голыя лапіны на засеяным полі, дзе збожжа не паўсходзіла.

*абсе́ў* м. – усходняя частка гродз.-бар. г., зах.-пал. г., Мін., Слуцк., Чашн., Барыс., Бял., Жлоб. (ЛАБНГ, СПЗБ, СНМ, ТС, ЛП, Варлыга), *абсе́вак* м. – Калінк., Ельск., Стол., Краснап. (ЛАБНГ, ТС, Бялькевіч), *прасе́ў* м. – Гарад., Лёзн., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *про́сеў* м. – Шкл., Жытк. (ТС, Мат. Маг.), *недасе́ў* м. – Ашм., Брасл., Астр., Гродз., Пол., Бял., Бяроз., Стол., Жытк., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., ЛП), *недасе́вак* м. – Маз. (ЛАБНГ), *агрэ́х* м. – Жаб., Жлоб., Хойн., Зэльв. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *угрэ́х* м. – Сен. (ЛАБНГ), *узрэ́х* м. – Чав., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *абмы́л* м. – Ваўк. (Мат. Гродз.), *абмі́нак* м. – Пруж., Зэльв. (ЛАБНГ, Сцяцко), *міну́ха* ж. – Капыл. (ЛАБНГ), *ла́па* ж., *ла́пік* м., *ла́піна* ж., *лапе́ка* ж. – спарадычна гродз.-бар. г., усх.-маг. р., Бярэз., Чэрв., Мін., Слуцк., Гом., Пол., Пін., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ла́та* ж., *ла́тка* ж. – спарадычна цэнтр. з., Бяроз., Лельч. (ЛАБНГ, СПЗБ), *лато́чына* ж. – Мядз. (ЛАБНГ), *лы́сіна* ж. – Бяроз., Петр. (ЛАБНГ, Янкова, ЛП, Шаталава), *дулэ́па* ж. – Драг. (НЛ), *біча́йка* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *вы́мачка* ж. – Кругл., Петр., Акц., Чач., Кобр. (ЛАБНГ),

*атмо́чка* ж. – Хоц. (ЛАБНГ), *не́радзь* ж. – Лун. (ЛАБНГ), *галамяно́* н. – Буда-Каш. (ЛАБНГ), *прага́ліна* ж., *прага́ліва* н., *прага́лка* ж. – цэнтр. з., спарадычна ўсх.-маг. р., Мёр., Кам., Драг., Віл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *пералёт* м. – Лаг. (СПЗБ), *плеш* м. – паўн.-усх. д., спарадычна паўдн.-усх. з., Стол., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ, ЛП), *пліш* м. – Драг. (Н. сл-сць), *плі́шка* ж. – Кам. (ЛАБНГ), *ліша́й* м. – Малар. (ЛАБНГ), *пліша́ль* м. – Шарк. (ЛАБНГ), *пляха́* ж. – Паст., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *пле́ха* ж. – Брэсц., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *плех* м. – спарадычна паўн. р. і гродз.-бар. г., Лельч. (ЛАБНГ, СПЗБ), *плёса* ж. – Ганц., Стаўб. (ЛАБНГ, СПЗБ), *лёшка* ж. – Навагр., Слон. (ЛАБНГ, НЛ), *пля́ма* ж. – Лаг. (ЛАБНГ), *пе́тначка* ж. – Гродз. (ЛАБНГ), *кругло́віна* ж. – Чэрв. (ЛАБНГ).

## Агарод

Участак зямлі звычайна каля дома для вырошчвання гароднiны.

*агаро́д* м. – агульн. (АЛА, ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Шатэрнік, Каспяровіч, Мат. Гродз.), *агаро́дзіна* ж. – Лоеў. (Янкова), *гаро́д* м. – спарадычна агульн. (АЛА, ЛАБНГ, Мат. Гродз., ТС, Каспяровіч, Юрчанка), *план* м. – Ветк. (ЛАБНГ), *вара́ва* н. – Ашм. (СРЛГ), *уса́дзьба* ж. – Мсцісл. (Юрчанка, Мат. апыт.), *гра́ды* мн. – Мсцісл. (Юрчанка), *гарады́* 'агароды' мн. – Лях., Зэльв. (СПЗБ, Мат. апыт.).

## Агародчык

Агароджаны кавалачак зямлі перад хатай, дзе садзяць кветкі.

*агаро́дчык* м. – спарадычна паўдн.-зах. д., зах.-пал. г., паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., Мат. апыт.), *агаро́дзік* м. – Ушац., Воран., Лід., Навагр., Карэл., Стаўб., Уздз., Слуцк., Кобр., Люб., Хойн. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *гаро́дчык* м. – паўн.-зах. д., зах.-пал. г., паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., НЛ), *гаро́дзец* м. – Жытк. (ТС), *паліса́днік* м. – усх. з. (ЛАБНГ),

*прысáдзік* м. – Арш. (НС), *квéтнік* м. – Навагр. (Мат. Гродз.), *квятнíк* м. – Віл., Бярэз. (ЛАБНГ), *цвятнíк* м. – паўн.-усх. д., Мін. р. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *вашчэ́вень* м. – Навагр., Мсцісл. (Сл. Гродз., З нар. сл.).

## Агрэх

Дрэнна ўзараная або прапушчаная пры ворыве, сяўбе лапіна зямлі на полі.

*агрэ́х* м. – паўдн.-усх. з., спарадычна паўн. р., спарадычна пал. р., Карэл., Стаўб., Лаг., Чэрв. (ЛАБНГ, СНМ, ЛП, Мат. мін.-мал., Варлыга, Шатэрнік, Мат. апыт.), *угрэ́х* м. – усх.-маг. р. (ЛАБНГ, Бялькевіч), *узрэ́х* м. – сярэд.-бел. г., акрамя ўсходняй часткі, Маг., Дубр., Мсцісл., Вілен. р. (ЛАБНГ, Н. сл-сць, Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., СПЗБ, Шаталава, Юрчанка), *узрэ́шына* ж., *узрэ́шак* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *узгрэ́х* м. – Маг. (ЛАБНГ), *урэ́х* м. – гродз.-бар. г., Беластоц. р. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., СПЗБ, Сцяцко, Цыхун, Шаталава), *орíх* м. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ, СНМ, ДСБ), *загрэ́х* м. – Чэрв., Нараўл. (ЛАБНГ, Мат. мін.-мал., ЛП), *абрэ́х* м. – Віл. (ЛАБНГ), *прарэ́х* м. – Круп., Стол., Гродз., Дзятл. (ЛАБНГ, Сл. Гродз., Цыхун), *вагрэ́ф (вогрэ́ф)* м. – Ельск. (ЛАБНГ), *грэх* м. – Хоц., Краснап., Калінк. (ЛАБНГ, Бялькевіч), *цалізнá* ж. – Рас., Беш. (Каспяровіч, Шаталава), *цылізнá, цілізнá, чылізнá, сілізнá* ж. – паўн. р., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ, Шаталава), *цалíх* м. – Віл., Круп., Ваўк., Дзятл., Лід., Навагр. (ЛАБНГ, СПЗБ), *цальнíк* м. – Воран., Паст., Брасл. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз.), *цаля́к* м. – Воран. (ЛАБНГ), *абмíнак* м. – Бяроз., Пух., Зэльв., Пруж. (ЛАБНГ, Мат. мін.-мал., Сцяцко, Леванцэвіч), *мінýха* ж. – Лоеў. (Янкова), *абóрак* м. – Рас., Мсцісл. (Н. сл-сць, Бялькевіч), *атóраўка* ж. – Пін. (ЛАБНГ), *варóк* м. – Навагр. (СРЛГ), *грэ́бень* м. – Маз., Бяроз., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Леванцэвіч), *казá* ж. – Івац. (ЖС), *ля́ха* ж. – Чэрык. (Мат. Маг.), *прóпуск* м. – Пол., Бяроз., Навагр. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *пратáліна* ж. – Воран. (Мат. Гродз.), *хіб* м. – Чэрв.

(ЛАБНГ), *лабя́к* м. – Быx. (Мат. Маг.), *абсе́вак* м. – Старадарож. (Мат. апыт.), *цалі́к* м. – Дзятл., Нясв., Пін., Бял. (ЛАБНГ, НС), *уцэ́ла* ж. – Леп. (ЛАБНГ), *лы́сіна* ж. – Жытк., Стол. (ТС, ДСБ), *лысу́ха* ж. – Стол. (ДСБ), *плеш* м. – зах.-пал. г. (ЛП), *пле́шка* ж. – Карэл. (Сл. Гродз.), *недахо́д* м. – Бяроз. (Леванцэвіч), *або́рак* м. 'невялікая мясціна сярод поля (часцей нізіна), вакол якой ралля' – Мсцісл., Люб. (Бялькевіч, Юрчанка), *ато́рак* м. – Лоеў. (Янкова); *абме́жак* м. 'неўзараная зямля пры плоце' – Лаг. (Варлыга), *узме́жак* м. – Лаг. (Варлыга), *мяжні́к* м. 'вузкая паласа неўзаранай зямлі паміж двума палеткамі' – Быx., Чач. (Мат. Маг., Мат. апыт.), *паўме́жак* м. 'мяжа, парослая травой' – Дзярж. (НС); *клін* м. 'палоска зямлі, якая застаецца ад загона пры ворыве' – Чач. (Мат. апыт.), *сыч* м. – Гродз. (Сцяцко).

### Баразна

Доўгая паласа на паверхні глебы, зробленая плугам, у якую садзяць бульбу ці іншыя караняплоды; радок бульбы пасля акучвання, абмежаваны разорамі.

*баразна́* ж., *баразёнка* ж. памянш. – спарадычна агульн., Вілен. р. (СПЗБ, Кучук, Мат. Гродз., Мат. Маг., ТС, Каспяровіч, Сцяцко, Юрчанка), *бараздá* ж. – Лоеў. (Янкова), *гра́дка* ж. – Віл., Смарг., Стаўб., Мсцісл. (СПЗБ, ЖС, Юрчанка, Шаталава), *гра́ду́с* м. – Капыл., Ганц., Лях., Стаўб., Карэл. (СПЗБ, ДСБ, ЖС, Мат. мін.-мал., СНМ, З нар. сл.), *граду́са* ж. – Капыл. (З нар. сл.), *гра́нка* ж. – Шум., Барыс., Лаг., Круп., Паст., Лельч., Стол., Вілен. р. (СПЗБ, ДСБ, ЖС, Кучук), *ляха́* ж., *ле́шка* ж. памянш. – Пол., Бял., Мсцісл. (НЛ, Яўсееў, Юрчанка), *рыс* м. – Лаг. (Варлыга), *ры́са* ж. – Чэрв. (НЛ), *ро́скідка* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *склад* м. – Брэсц. (ДСБ), *со́шка* ж. – Іўеў. (СПЗБ), *трыця́к* м. 'радок бульбы, які выворваецца ў другую чаргу' – Драг. (З нар. сл.), *уры́х* м. – Драг. (НЛ), *шаро́ўка* ж. – Лід. (СПЗБ), *разго́ны* мн. – Шчуч. (СПЗБ);

**спараныя барозны бульбы**: *блізна́* ж., *блізніцы́* мн. – Слон. (ЖНС, НС), *блізнюкі́* мн. – Ваўк. (Мат. Гродз.), *бліз-*

*ня́ты* мн. – Зэльв. (Мат. Гродз.), *блізнякé* мн. – Навагр. (З нар. сл.), *спары́ш* м. – Навагр. (Мат. Гродз.), *спарыша́нка* ж. – Астр. (Мат. мін.-мал.), *прыліпо́к* м. – Воран. (Мат. Гродз.), *урэ́шак* м. 'адзін бок баразны' – Свісл. (Сл. Гродз.), *хвост* м. 'канец баразны' – Люб. (СПЗБ);

**папярочка** 'кароткая папярочная баразна, засаджаная бульбай': *папяро́чка* ж. – гродз.-бар. г., Маг., Бял., Дубр., Клім., Асіп., Буда-Каш., Стаўб. (ЛАБНГ, СНМ, Яўсееў), *папяро́чная* прым. – Брасл., Маладз., Круп., Віл., Стаўб., Мін., Чэрв., Бых., Слаўг., Мсцісл., Касц., Краснап., Капыл. (ЛАБНГ), *папярэ́чка* ж. – паўн. р., Гродз., Віл., Мсцісл., Бабр., Лях., Ганц., Маз., Лельч., Ельск., Лун. (ЛАБНГ, ЖС, Шаталава), *папярэ́чная* прым. – Паст., Верхнядзв., Ашм., Іўеў., Глыб., Мядз., Барыс., Мёр., Леп., Круп., Навагр., Кобр., Жаб. (ЛАБНГ), *папярэ́чнік* м. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *упяро́чка* ж. – Клім., Гл., Буда-Каш., Старадарож. (ЛАБНГ, СНМ), *упяро́чная* прым. – Гом., Чэрык. (ЛАБНГ), *упе́рачка* ж. – Слуцк., Петр. (ЛАБНГ), *пе́рак* м. – Докш., Пух., Чэрв., Бярэз., Бых. (ЛАБНГ, СПЗБ), *упёрак* м. – Добр. (ЛАБНГ), *упо́перак* м. – Гор., Нараўл., Лоеў. (ЛАБНГ), *перакаве́ц* м. – Чэрв. (НЛ), *паперачня́к* м. – Драг. (СНМ), *перако́ўка* ж. – Чэрв. (СПЗБ), *перакава́я* прым. – Докш., Чашн., Круп., Кругл., Пух., Бярэз., Бял. (ЛАБНГ, НС), *пярэ́чка* ж. – Пол. (НЛ), *адо́рак* м. – усх.-пал. р., Мін., Лаг., Рас., Пол., Астр., Бераст., Смарг., Раг., Старадарож. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., Н. сл-сць), *уто́ра* ж. – Лун. (Шаталава), *канча́р* м. – гродз.-бар. г., Бярэз., Валож., Стаўб. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз.), *канча́рык* м. – Валож. (ЛАБНГ), *канчу́р* м. – Маладз., Стаўб., Віл., Бярэз. (ЛАБНГ, СПЗБ), *канчу́к* м. – Вілен. р. (СПЗБ), *канчы́к* м. – Паст. (СПЗБ), *кане́чак* м. – Верхнядзв. (СПЗБ), *канцы́* мн. – Тал. (ЛАБНГ), *канча́ты* мн. – Дзятл. (ЛАБНГ), *прыгало́вач* м. – пал. р. (ЛАБНГ, ЛП), *угало́вач* м. – Івац. (ЛАБНГ), *пагало́вач* м. – Стол. (ДСБ, ЛП), *узгалава́шкі* мн. – Калінк. (ЛАБНГ), *ла́ўка* ж. – Глыб. (ЛАБНГ, СПЗБ), *за́вараць* ж., *заваро́т* м. – Лоеў. (Янкова), *абаро́т* м. – Лёзн., Стаўб. (ЛАБНГ, СНМ), *заваро́так* м. – Верхнядзв. (Шатала-

ва), *азмéжак* м. – Віл. (СПЗБ), *загóнчык* м., *загóнец* м. – Кобр. (ЛАБНГ), *прыкíдка* ж. – Хойн. (ЛАБНГ), *шахóўня* ж. – Чач. (ЖС), *абарóты* мн. – Беш. (ЛАБНГ), *сýвараты* мн. – Пін. (НЛ), *абугóны* мн. – Тал. (ЛАБНГ), *ганкé* мн. – Навагр. (З нар. сл.), *гáткі* мн. – Чач. (ЛАБНГ), *грáдачкі* мн. – Драг. (ЛАБНГ), *загóны* мн. – Стол. (ЛАБНГ), *разбýркі* мн. – Кобр. (СНМ), *узнáчкі* мн. – Пін. (ЛАБНГ);

**дзве баразны, прыараныя адна да другой**: *склад* м. – Свісл., Воран., Гродз., Петр., Чач., Лаг., Мсцісл. (Мат. Гродз., Варлыга, Шаталава, Юрчанка, Мат. апыт.), *хіб* м. – Пруж., Жлоб. (ЛАБНГ).

### Агульная назва зямельнага ўчастка

*зямля́* ж. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., Кучук, Шатэрнік, ЖНшС), *грáматная зямля́* ‘спадчынная зямля’ – Навагр. (СПЗБ), *зямня́* ж. – Зэльв., Шчуч., Кобр. (ЛАБНГ, СНМ, СРЛГ, З нар. сл.), *нíва* ж. – Стол., Іван., Воран., Гродз., Азяр. (ТС, ДСБ, Каспяровіч, Мат. Гродз.), *глéба* ж. – Чэрв. (Шатэрнік), *грунт* м. – Чэрв., Беласт. р. (СПЗБ, Шатэрнік), *павалóка* ж. – Кам. (ЖНС), *палóса* ж. – Сен. (Каспяровіч), *сцяг* м. – Віл. (СПЗБ), *седзíба* ж. ‘лепшая зямля, што адводзяць пад ячмень і каноплі’ – Хоцім. (Бялькевіч).

### Града

Палоска зямлі, спецыяльна прыгатаваная для вырошчвання агародніны.

*градá* ж. – паўдн.-зах. д., спарадычна сярэд.-бел. г., віц.-маг. г., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Н. сл-сць, ТС, Каспяровіч, Шатэрнік, Янкова, Юрчанка), *грáдка* ж. – зах.-пал. г., спарадычна сярэд.-бел. г. і гродз.-бар. г., Дубр., Гарад., Леп., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СНМ), *грэ́дучка* ж. – Драг. (ЛАБНГ), *грáдус* м. – Ашм. (Сл. Гродз.), *ляхá* ж. – паўн. р., Смарг., Віл., Барыс., Кругл., Круп., Пруж., Вілен. р., Бела-

стоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СНМ, Мат. Гродз., Каспяровіч, Шаталава), *ляха* ж. – Пол., Ушацк., Мядз., Смарг., Браг., Крыч. (ЛАБНГ, Мат. Маг.), *лёха* ж. – Лях., Гарад., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *лёшка* ж. – Верхнядзв., Рас., Мёр., Леп., Тал., Брасл., Астр., Маст., Пін., Стол., Зэльв. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, СНМ, Сцяцко, Шаталава), *лёшачка* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *лахётка* ж. – Гродз. (Сл. Гродз.), *гра́нка* ж. – Шарк., Пол., Чашн., Жытк., Гродз., Іўеў. (ЛАБНГ, ТС, Мат. Гродз., Сл. Гродз., Каспяровіч), *заго́н* м. – Бераст., Шчуч., Гродз., Воран., Навагр., Свісл., Пруж., Івац., Ганц. (ЛАБНГ, Шаталава), *заго́нчык* м. – Бераст., Бяроз. (ЛАБНГ), *заго́нка* ж. – Воран. (ЛАБНГ), *лу́нка* ж., *кварта́лка* ж. – Слаўг. (ЛАБНГ, Мат. Маг.), *адо́рак* м. 'больш вузкая за іншыя града' – Петр. (ЛМПП), *пралёт* м. – Гродз. (Сл. Гродз.), *акіда́нкі* мн., *акіда́нцы* мн. – Свісл. (Сл. Гродз.), *вага́шка* ж. – Навагр. (СРЛГ), *вы́сыпкі* мн. 'грады ў залітых вадой мясцінах, высыпаныя высока за кошт зямлі з разор' – Пін. (НЛ), *раўча́на* ж. 'рад пасеяных буракоў' – Навагр. (Сл. Гродз.), *радо́к* м. – Стол. (ТС), *гняздо́* н. 'паглыбленне на градзе, куды садзяць цыбулю, часнок' – Касц. (Мат. Маг.), *раўча́к* м., *разо́рка* ж. 'канаўка для пасеву' – Калінк. (ЛМПП), *канча́рык* м. 'канец градкі' – Навагр. (З нар. сл.), *штаны́* мн. 'дзве градкі, якія сходзяцца ў адну' – Лоеў. (Янкова);

**градка бульбы папярок загона:** *папяро́чка* ж. – Гродз., Воран. (Мат. Гродз.), *папярэ́чка* ж. – Гродз., Навагр. (Цыхун, Мат. Гродз.), *упяро́чка* ж. – Старадарож., Люб. (ЖНС, Мат. апыт.), *адго́рак* м. – Астр. (Мат. Гродз.), *ато́рак* м. – Старадарож. (НС), *прыда́ткі* мн. – Бераст. (Сл. Гродз.), *заваро́так* м. – Верхнядзв. (Шаталава); *лі́нка* 'вузкае паглыбленне радкоў на градзе для пасадкі гародніны' – Дзятл. (Мат. Гродз.), *заго́н* м. 'некалькі баразён, узараных у склад' – Лаг., Старадарож. (Варлыга, Мат. апыт.); *заме́жак* м. 'разора' – Маст. (Сл. Гродз.).

## Ворыва

Узаранае поле.

*во́рыва* н. – асн. мас. г. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *арба́* – Лаг., Глыб., Смарг., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Варлыга), *гарба́* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *па́хата* ж. – Гом. р., Маг. р., Ваўк., Мёр., Мін., Чач. (ЛАБНГ, ЛП, Мат. Гродз., СПЗБ, Мат. апыт.), *па́хаць* ж. – Паст., Мядз., Зэльв., Драг. (ЛАБНГ, Сцяцко ДС, СНМ), *па́хань* ж. – Лаг., зах.-пал. г. (Варлыга, Кучук), *па́хаця* ж. – Глыб. (СПЗБ), *па́ханіца* ж. – Віл. (СПЗБ), *пашня́* ж. – Докш., Бар., Верхнядзв., Чэрв., Шчуч., Латгал. р. (СПЗБ), *ралля́* ж., *раля́* ж. – агульн. (ЛАБНГ, Шатэрнік, Варлыга, Мат. Гродз., ЛП, Сцяцко, Мат. апыт., Яўсееў), *аралля́* ж. – Пол., Бял., Лоеў., Кругл. (НЛ, Н. сл-сць, Янкова, Мат. Маг.), *аральба́* ж. – Беш., Лёзн. (Каспяровіч), *рудля́* ж. – Брэсц. (ДСБ), *ralі́ца* ж. – Мядз. (СПЗБ), *раллё* н. – Шкл. (Мат. Маг.), *рыллё* н. – Мсцісл. (Бялькевіч), *зямля́* ж. – Шчуч., Гарад. (СПЗБ), *по́ле* н. – Астр., Бар., Верхнядзв., Стаўб., Шчуч., Латгал. р. (СПЗБ), *уго́р* м. – Вілен. р. (СПЗБ), *па́хатная зямля́* – паўн.-усх. д. (ЛАБНГ), *во́рная зямля́* – зах. з. (ЛАБНГ), *сыраво́р* м. 'свежая ралля' – Лаг. (Варлыга), *ко́пань* ж. 'ралля, ускапаная зямля' – Бар. (ДСБ), *ро́скід* м. 'ворыва ад сярэдзіны да краёў поля' – Гродз., Ваўк. (Мат. Гродз.), *ро́скідзь* ж. – Воран. (Мат. Гродз.), *ро́скідка* ж. – Дзятл. (Мат. Гродз.);

**прыметнікі:** *узара́ны, узо́раны* – Бярэз., Леп., Старадарож., Люб. (ЛАБНГ, Мат апыт.), *о́рны* – Смарг. (СПЗБ), *гаро́мы* – Вілен. р. (СПЗБ), *го́рны* – Астр. (СПЗБ), *гара́ны* – Воран. (СПЗБ), *загара́ны* – Ганц., Шчуч. (СПЗБ); *заво́раты* – Бар. (СПЗБ), *ру́ханы* – Паст. (СПЗБ), *разо́раны* – Ашм. (СПЗБ), *разо́раты* – Ашм. (СПЗБ), *ганя́ны* – Віл. (СПЗБ), *няго́раны* – Гродз. (Мат. Гродз.); *скаро́джаны* 'забаранаваны' – Мсцісл. (Юрчанка).

## Заварот у канцы загона (ворыва)

Месца ў канцы загона, дзе араты разварочваецца з плугам.

*заваро́т* м. – усх.-маг. г., спарадычна сярэд.-бел. г., паўн. р., Слуцк., Бяроз., Лун., Жытк., Лельч., Драг., Маст., Карэл. (ЛАБНГ), *за́варат* м. – віц.-маг. г., слуцк.-маз. г., Гом., Нараўл., Лун., Лоеў., Верхнядзв., Нясв., Зэльв., Шчуч. (ЛАБНГ, Шаталава), *за́вараць* ж. – Рэч., Калінк. (ЛАБНГ), *заваро́жка* ж. – Барыс., Нясв. (ЛАБНГ), *за́варатак* м. – Бял. (ЛАБНГ), *зваро́т* м. – Івац., Стол., Іван., Малар. (ЛАБНГ), *зварата́* ж. – Стол. (ЛП), *паваро́т* м. – Глыб., Ушацк., Ашм., Валож., Гродз., Бераст., Чэрв., Краснап., Касц. (ЛАБНГ, СПЗБ), *паваро́тка* ж. – Мсцісл. (ЛАБНГ), *паваро́так* м. – Шум. (СПЗБ), *разваро́т* м. – Ельск., Нараўл. (ЛП), *су́варат* м., *сувара́та* ж. – Стаўб., Карэл. (ЛАБНГ), *ву́заварат* м. – Слон., Іўеў. (ЛАБНГ), *разваро́т* м. – Ушацк., Чэрык., Добр. (ЛАБНГ), *абаро́т* м. – Беш., Сен., Лёзн. (ЛАБНГ), *ато́р* (*адо́р*) м. – Рас., Валож., Навагр., Зэльв. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., Шаталава, Сцяцко), *ато́рак* (*адо́рак*) м. – Лаг., Мін., Дзярж., Асіп., Раг., Старадарож., Жлоб., Рэч., Хойн., Астр., Смарг. (ЛАБНГ), *ато́ра* – Пол., Светлагор., Лельч., Ельск. (ЛАБНГ), *прыво́рак* м., *узво́рак* м. – Паст. (ЛАБНГ), *папярэ́чка* ж. – Воран., Навагр., Дзятл. (ЛАБНГ), *папярэ́чнік* м. – Карм., Кам. (ЛАБНГ), *перакаве́ц* м. – Чэрв. (ЛАБНГ), *перакаві́к* м. – Бярэз. (ЛАБНГ), *прыгало́вач* м. – Петр., Жытк. (ЛАБНГ), *згалава́шка* ж. – Маз. (ЛАБНГ), *о́галаў* м. – Стол. (ТС), *закра́ёк* м. – Малар. (ЛАБНГ), *захо́п* м. – Мядз. (ЛАБНГ), *узва́лля* ж. – Капыл. (ЛАБНГ), *вараты́* мн. – Жытк., Люб. (ЛАБНГ, ЛП), *канцы́* мн. – Круп. (ЛАБНГ), *папярэ́чкі* мн. – Пол., Гарад., Тал. (ЛАБНГ), *стаі́* мн. – Іўеў. (ЛАБНГ), *су́ганкі* мн. – Слуцк. (ЛАБНГ), *су́вараці* мн. – Стол. (ЛП), *упяро́чкі* мн. – Клім., Петр. (ЛАБНГ), *уці́нкі* мн. – Віц. (ЛАБНГ).

**Зябліва**

Узаранае з восені поле пад веснавую сяўбу.

*зяб* ж. – усх. з., Карэл., Іван. – спарадычна (ЛАБНГ, Мат. Гродз., ЛП), *зя́бліва* н. – цэнтр. з., зах.-пал. г., паўн.-зах. з., Віц. р. – спарадычна (ЛАБНГ), *зя́бля* ж. – Маст., Ваўк., Глыб., Стол., Зэльв. (СПЗБ, Сцяцко), *зя́бліна* ж. – Іўеў. (СПЗБ), *зя́бра* ж. – Смарг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *чарну́ха* ж. – Малар. (ДСБ), *азі́мак* м. – Віл. (СПЗБ), *па́хата* ж. – спарадычна Маг. р., Гом. р., Мёр., Мін. (ЛАБНГ), *ралля́* ж. – спарадычна агульн. (ЛАБНГ), *аралля́* ж. – паўн. р. (ЛАБНГ), *во́рыва* н. – спарадычна Маг. р., Мёр., Брэсц., Лельч. (ЛАБНГ), *пар* м. – зах.-пал. г. (Кучук), *парані́на* ж. – Стол. (ЛП), *па́роціна* ж. – Стол. (ЛП); *падганя́нне* н. ‘асенняе ворыва’ – Стол. (ТС).

**Ляда**

Расчышчанае месца ў лесе пад пасеў або пад сенажаць.

*па́сека* ж. – паўн.-зах. з., цэнтр. з. (АЛА, ЛАБНГ, Шатэрнік, ЖС, ЛП, Леванцэвіч), *ля́да* ж. – усх. з., спарадычна зах.-пал. г. (ДАБМ, АЛА, ЛАБНГ, Юрчанка, Леванцэвіч), *паля́дак* м. – Маг. р. (АЛА), *ля́дзіна* ж. – Лаг., Пух., Лун., Акц. (АЛА), *вы́цераб* м. – гродз.-баран. г., Ваўк., Нараўл., Маст. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., Леванцэвіч), *вы́церабка* ж. – Глыб., Бяроз., Івац. (СПЗБ, Леванцэвіч), *пацяро́б* м. – Раг., Чэрв., Бярэз., Лельч., Іван., Зэльв. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Леванцэвіч), *ацяро́б* м. – Мядз. (ЛАБНГ), *церабе́ж* м. – Шчуч., Асіп., Пін., Кобр. (ЛАБНГ, СПЗБ, СНМ), *про́цераб* м. – Саліг., Лун., Стол. (ЛАБНГ, ЛП), *расцяро́б* м. – паўн.-усх. д., Гом. р., Іўеў., Валож. (ЛАБНГ, Леванцэвіч), *расцяро́бка* ж. – Бяроз. (Леванцэвіч), *расцяро́ба* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *вы́цераб* м. – Гродз., Зэльв., Нараўл., Пруж. (ЛАБНГ), *вы́цераба* ж. – Карэл. (ЛАБНГ), *вы́церабка* ж. – Карэл., Нясв., Стол. (ЛАБНГ), *вы́руб* м. – Маст. (АЛА), *вы́рубка* ж. – Маст. (АЛА), *пару́бка* ж. – Бяроз. (Леванцэвіч), *вы́дзірак* м. – Воран., Бяроз., Петр., Слон., Ганц. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.),

*раскарчоўка* ж. – Кругл. (Мат. Маг.), *карчавіна* ж. – Смарг. (СПЗБ), *раскарчаванне* н. – Бяроз. (Леванцэвіч), *плянтоўка* ж. – Навагр., Ваўк. (Мат. Гродз.), *ройст* м. – Гродз. (Сл. Гродз.), *драніна* ж. – Драг. (ЛАБНГ), *цяробкі* мн. – Чэрык. (Мат. Маг.), *прыбірышча* н. – Старадарож. (СПЗБ), *навіна* ж. – спарадычна зах.-пал. г., Дзятл., Петр. (ЛАБНГ), *выкарчаванне* н. – Бяроз. (Леванцэвіч), *залеж* ж. – Жытк. (АЛА), *прыдзёры* мн. – Драг. (ЛАБНГ), *выдранае поле* – Бяроз. (ЛАБНГ), *раскарчаванае поле* – Брэсц. (ЛАБНГ), *выкарчаванае поле* – Баран., Маз. (ЛАБНГ), *выкарчаваная ніўка* – Лун. (ЛАБНГ), *вырабленае поле* – Бяроз. (Леванцэвіч), *пажарышча* (*пожарышчэ*) н. – Стол. (ЛП).

## Мачыльня

Месца, дзе мочаць лён.

*мачулішча* н. – Віл., Чэрв., Краснап., Пол. (СПЗБ, НЛ), *мачуліска* н. – Ваўк. (ЛАБНГ, СПЗБ), *мачула* ж. – Гродз., Брасл., Маладз., Дзятл., Лях., Вілен. р. (СПЗБ, Цыхун), *мочала* ж. – Навагр., Іўеў. (СПЗБ), *памак* м. – Шчуч. (НЛ), *дублянка* ж. – Шчуч. (Сл. Гродз.).

## Мяжа

Вузкая паласа неўзаранай зямлі паміж палеткамі, участкамі.

*мяжа* ж. – Верхнядзв., Шчуч., Ганц., Пух., Навагр., Слуцк., Стол., Малар., Іван., Драг., Жытк., Ельск. (СПЗБ, СНМ, ЛП), *абмежак* м. – Пол., Беш. (НЛ, Каспяровіч), *замежак* м. – Лях., Стол. (СПЗБ, ЛП), *узмежак* м. – Чэрв., Лёзн. (Каспяровіч, Шатэрнік), *прамежак* м. – Ашм. (СПЗБ), *брод* м. – Карэл., Беластоц. р. (СПЗБ), *грана* ж. – Брэсц. (ДСБ), *маргоўніца* ж. – Стол. (ТС), *сценка* ж. – Драг., Ельск., Іван., Малар., Петр., Стол. (ЛП), *засценак* м. – Стол. (ЛП), *роскос* м. – Жытк. (ТС).

## Сцелішча

Месца, на якім вылежваўся лён.

*сцélішча* н. – паўн.-усх. д., паўднёва-ўсходняя Гомельшчына, Люб., Слуцк., Гл., Драг., Пін., Стол. (ЛАБНГ, ЛП, Мат. апыт.), *сцíлішча* н. – Глыб., Гор., Клім., Лельч., Хойн., Нараўл. (ЛАБНГ), *сцялíшча* н. – Гродз., Чэрв., Чач. (ЛАБНГ), *сцéльбішча* н. – Калінк., Нараўл. (ЛП, Мат. апыт.), *сцíльбішча* н. – Старадарож., Акц. (ЛАБНГ, НС), *сцельбíшча* н. – Ельск. (ЛП), *пасцéлішча* н. – Пол., Віл., Буда-Каш. (ЛАБНГ), *сцéліва* н. – Пол., Дзятл., Навагр. (ЛАБНГ, ЖС), *сцéліска* н. – Бераст. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *сцíльшча* н. – Віл. (Мат. мін.-мал.), *слíшча* н. – паўдн.-усх. з., усходняе Панямонне, Верхнядзв., Віц., Барыс, Смал. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЛП, НС, З нар. сл., Мат. мін.-мал., Бялькевіч, Мат. апыт.), *нáслішча* н. – Рас., Дзятл. (СРЛГ, Шаталава), *наслíшча* н. – Рас. (ЛАБНГ), *слíска* н. – Лях. (ЛАБНГ), *слáнішча* н. – Мёр., Бых. (ЖНС), *пасла́не* н., *пасланё* н. – Навагр. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *льнíшча* н. – Чав., Ельск. (ЛАБНГ), *ільнíшча* н. – Тал., Кругл. (ЛАБНГ), *алля́нішча* н. – Бял. (ЛАБНГ), *льнíска* н. – Ваўк., Бяроз., Драг., Іван. (ЛАБНГ), *льня́ніска* н. – Нясв. (ЛАБНГ), *лля́нне* н. – Бых. (ЖНС), *лéжыва* н. – Слон., Пін. (НС, Н. сл.-сць), *лéжышча* н. – Віл. (СЦБ), *лéжбішча* н. – Ушацк. (ЛАБНГ), *лагавíла* н. – Малар. (ДСБ, ЛП), *засцёл* м. – Жытк. (Мат. апыт.), *пóплаў* м. – Лях., Ганц., Кам., Пруж., Івац., Драг. (ЛАБНГ), *луг* м., *лужóк* м. памянш. – Арш., Дубр., Жаб. (ЛАБНГ), *сенажáць* ж. – Шчуч., Мін. (ЛАБНГ), *пóжня* ж. – Брасл., Сен. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *ржэ́ўнік* м. – Бял., Краснап. (ЛАБНГ), *аржы́шча* н. – Мядз. (ЛАБНГ), *лóнка* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *азярцó* н. – Лід. (ЛАБНГ), *грудóк* м. – Бяроз., Стол. (ЛАБНГ), *лéшка* ж. – Шчуч. (ЛАБНГ), *лужкí* мн. – Кобр. (ЛАБНГ).

## Назва поля, з якога сабраны ўраджай

**агульныя назвы поля, з якога сабралі ўраджай:** *сцё-ран* м. – Гом. р., Калінк., Лун., Нясв., Гарад., Сен., спарадычна пал. г. (АЛА, ДАБМ, Янкова), *сцярнó* (*сцéрне*) н. – пал. г. (ДАБМ), *стырня́* ж. – зах.-пал. г., спарадычна паўдн. р., Краснап., Кам., Слуцк. (ДАБМ, СПЗБ), *сцéрня* ж. – Кам., Брэсц., Стол. (АЛА, ЛП), *пажэ́нне* (*пожэ́нье*) н. – Стол. (ЛП), *пóжня* ж. – Гродз. р., паўдн. р. (ДАБМ, СПЗБ, ДСБ, ТС, Шаталава), *пóжнявішча* н. – Пін. (АЛА), *жні́ўнік* м. – паўдн.-усх. з., спарадычна Віц. р., Докш., Леп., Барыс., Маладз. (ДАБМ, ЛП), *жніўё* н. – Віц., Смарг., Люб., Саліг. (ДАБМ), *пóжнішча* н. – Ганц. (ДАБМ), *пóжніска* н. – Лун. (ДАБМ), (*і*)*ржы́ска* н. – гродз.-бар. г. (ДАБМ), *пустапáс* м. – Шчуч. (СПЗБ), *пакóпіска* н. 'поле пасля ўборкі клубняў агародніны' – Ганц. (СПЗБ), *убрáнае пóле* – Шкл. (АЛА);

**жытнішча** 'назва поля, дзе расло жыта': *жы́тнішча* н. – слуцк.-маз. г., спарадычна гродз.-бар. г., зах.-пал. г., спарадычна сярэд.-бел. г. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, ТС, Шатэрнік, ЛП), *жы́тніска* н. – зах.-пал. г., спарадычна гродз.-бар. г. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, ДСБ, Мат. Гродз. Шаталава), *жнéўнік* м., *жні́ўнік* м. – Слуцк. р., Чэрв. р., спарадычна усх.-пал. р. (ДАБМ, ЖНшС, СНМ, АЛА, Шатэрнік, Янкова, ЖНС, ЛМПП), *жы́тніца* ж. – Навагр. (СРЛГ), *іржы́шча, аржы́шча* н. – асн. мас. г., пераважна паўн.-усх. д., цэнтр. з., спарадычна зах.-пал. г. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз., Варлыга, Шаталава), (*а,і*)*ржы́ска* н. – гродз.-баран. г. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз., Сцяцко, Шаталава), *ыржы́шча* н. – Карэл., Навагр. (СПЗБ, Сл. Гродз., Шаталава, ЖС), (*і*)*аржá-нішча* н., *аржóнішча* н. – Слаўг., Мсцісл., Лаг., паўн. р., Мін. р. (ДАБМ, Бялькевіч, Варлыга, Шатэрнік, Н. сл-сць), *аржó-ніска* н. – Воран. (Сл. Гродз.), (*і, а*)*ржóнне* н. – Верхнядзв., Лаг. (АЛА, СПЗБ, Мат. мін.-мал., Варлыга, Шаталава), (*і, а*)*ржэ́ўнік* м. – паўн.-усх. д. (ДАБМ, АЛА, Шатэрнік, Бялькевіч), (*і*)*ржы́ннік* м. – спарадычна асн. мас. г. (ДАБМ), (*і*)*ржы́нне* н. – паўн. р., Мін. р., спарадычна віц.-маг. г.

(ДАБМ), *жыршча* н. – Зэльв. (СПЗБ), *пóжня* ж. – Гродз. р., зах.-пал. г., Слуцк. р., Бярэз. р. (АЛА, ДАБМ, Шатэрнік, Мат. Гродз., ЖНшС), *жнéўе* н. – Саліг. (ДАБМ), *зя́брына* ж. – Смарг. (Сл. Гродз.), *зя́бла* н. – Слуцк. (ДАБМ), *паля́д* м. – Пін. (ДАБМ), *азíмак* м. – Віл. (ДАБМ), *жытня пóжня* – Шчуч., Маст., Ганц., Акц., Маз. (АЛА), *жытня ржыска* – Свісл. (АЛА), *сцéрня жытня* – Брэсц. (АЛА), *пóжневі-шча* н. – Пін. (АЛА), *жытнóе* н. – Пол. (НЛ);

**аўсянішча** 'назва поля, дзе рос авёс': *аўся́нішча* н. – асн. мас. г., спарадычна зах.-пал. г. (АЛА, ДАБМ, СПЗБ, Бялькевіч, Каспяровіч, ЛП), *óўсішча* н. – Віц. р., пал. р., Слуцк. р., Чэрв. р. (ДАБМ, АЛА), *аўся́нне* н. – Мін. р., усх.-маг. р., спарадычна Гом. р. (ДАБМ, СПЗБ, Бялькевіч, Юрчанка, Варлыга, Шаталава, Мат. апыт.), *аўся́нка* ж. – Смарг., Воран. (АЛА), *аўся́ніска* н. – гродз.-бар. г., зах.-пал. г. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз., Цыхун, Шаталава, СНМ), *аўся́нік* м. – Слуцк., Маг., Карм., Краснап. (ДАБМ, Юрчанка), *(в)óўсіска* н. – Свісл., Пін. (АЛА, Шаталава), *аўсóшча* н., *авёсаві-шча* н. – Слаўг. (Н. сл-сць), *аўсóвіска* н. – Бяроз. (ДАБМ, АЛА), *аўся́на пóжня* – Шчуч., Івац., Бяроз. (АЛА), *аўся́на сцéрня* – Брэсц. (АЛА), *жнéўнік аўся́ны* – Бярэз. (АЛА), *аўся́на аржышча* – Навагр. (АЛА), *іржы́нне* н. – Верхнядзв., Рас., Ушац. (ДАБМ), *іржы́ннік* м. – Верхнядзв. (ДАБМ), *ржэ́ўнік* м. – Брасл., Мёр., Барыс., Талач., Гродз., Уздз., Асіп., Кір., Раг., Краснап., Жлоб., Ветк. (ДАБМ), *ржыска* н. – паўн.-зах. з. (ДАБМ), *пóжня* ж. – паўдн.-зах. д., спарадычна (ДАБМ), *стерня́* ж. – зах.-пал. г. (ДАБМ);

**ячменішча** 'назва поля, дзе рос ячмень': *ячмéнішча* н. – паўн. р., паўдн.-усх. з., паўн.-зах. з. (ДАБМ, АЛА, ТС, НС, НЛ, ГЧ, Шаталава), *я́чнішча* н. – цэнтр. з., слуцк.-маз. г., спарадычна паўн. р. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, Шатэрнік, ЛП), *ячмéніска* н. – Зэльв., Ваўк., Гарад., Шчуч., Пін., Гродз. (АЛА, ДАБМ, ДСБ, СПЗБ, Мат. Гродз., Шаталава), *я́чніска* н. – зах.-пал. г., спарадычна гродз.-бар. г. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, Шаталава), *ячня́нка* ж. – Воран. (АЛА, Шаталава), *я́чанне* н. – Лаг., Тал., Рас., Барыс., Дубр., Маг., Слаўг., Касц.,

Чач., сярэд.-бел. г. (ДАБМ, АЛА, СПЗБ, Варлыга, Шаталава), *ячме́нне* н. – Асіп., Кам., Буда-Каш. (ДАБМ), *ячме́нка* ж. – Іўеў. (СПЗБ), *ячмя́нка* ж. – Воран. (АЛА), *я́чаннік* м. – Бых. (Мат. апыт.), *я́чышча* н. – Мсцісл. (АЛА), *я́рышча* н. – Мёр., Глыб. (ДАБМ), *ярaві́шча* н. – Докш. (ДАБМ), *я́чна* (*ячме́нна*) *по́жня* – Шчуч., Івац., Калінк., Гродз. (АЛА), *ячме́нны жне́ўнік* – Бярэз. (АЛА), *ячме́нна аржы́шча* – Навагр. (АЛА);

**грачанішча** ‘назва поля, дзе расла грэчка’: *грача́нішча* н. – паўдн.-усх. з., паўн. р., паўдн. ч. гродз.-бар. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНС, Шаталава), *грачы́шча* н. – Віц., Асіп., Краснап. (ЛАБНГ), *грэ́чышча* н. – Краснап., Кобр., Гом., Лоеў. (ЛАБНГ), *грэ́чнішча* н. – Глыб., Мёр., Тал., Дубр. (ЛАБНГ, СПЗБ), *грача́нне* н. – Гарад., Тал., Бярэз., Слаўг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *грыча́нка* ж. – Іўеў. (ЛАБНГ), *грача́ніца* ж. – Капыл. (ЛАБНГ), *грачкaві́нне* н. – Стол. (ЛАБНГ), *грацко́ўе* н. – паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г., Лёзн. (ЛАБНГ, СПЗБ, Янкова, Сцяцко, НЛ, Шаталава, ЖС, Варлыга, Сцяцко, ЖНшС, З нар. сл., НС), *грачко́ўе* н. – Лаг., Жаб., Кам., Лун., Малар. (ЛАБНГ, СПЗБ), *грача́ніска* н. – Зэльв., Астр., Шчуч., Кам. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Сцяцко), *грацко́вішча* н. – Докш., Маст. (ЛАБНГ, СПЗБ), *грацко́ўка* ж. – Мсцісл., Лельч., Ельск. (ЛАБНГ), *грацко́ўнішча* н. – Уздз. (ЛАБНГ), *грачы́ска* н. – Пін. (ЛАБНГ), *грацко́ўнік* м. – Люб. (ЛАБНГ), *грачы́шнік* м. – Тал. (ЛАБНГ), *рачыко́віска* н. – Шчуч. (СПЗБ);

**пшанічышча** ‘назва поля, дзе расла пшаніца’: *пшані́чышча* н. – Віл., Верхнядзв., Рас., Пол., Лоеў. (СПЗБ, НЛ, Янкова, ЛП), *пшані́чніска* ж. – Брэсц., Шчуч., Карэл., Кам., Пін. (СПЗБ, ДСБ, Шаталава), *пшо́нішча* н. – Чэрв., Віл., Лаг., Смарг., Навагр., Зэльв., Карэл. (АЛА, СПЗБ, Шатэрнік, Шаталава), *пшо́ніска* н. – Маст., Ваўк. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *пшані́чыска* н. – Вілен. р. (СПЗБ), *пшо́нне* н. – Віл., Тал. (Шаталава), *пшані́чнішча* н. – Лоеў., Смарг., Чач. (Янкова, Шаталава, Мат. апыт.), *я́рышча* н. – Лоеў. (Янкова);

**прасянішча** ‘назва поля, дзе расло проса’: *прася́нішча* н. – асн. мас. г., Стол. (СПЗБ, ЛП, ЛМПП, Мат. апыт.), *прася́ніска* н. – Ганц. (СПЗБ), *про́свішча* н. – пал. г. (Кучук);

**гарохавішча** ‘назва поля, дзе рос гарох’: *гарóхавішча* н. – асн. мас. г. (ЛАБНГ, Шатэрнік, Каспяровіч), *гарóхвішча* н. – Ушацк., Гарад., Сен., Слуцк., Быx., Раг., Чэрык., Хоц., Рэч., Лоеў. (ЛАБНГ), *гарóхаўе* н. – Мін. р., Чэрв. р., Маг. р., Арш. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шаталава, Варлыга, Янкоўскі), *гарóхавінне, гарóхаві́нне* н. – Чэрв., Бяроз. (Шатэрнік, Шаталава), *гарóхавіска* н. – зах.-пал. г., Шчуч., Лун., Маст., Кам., Дзятл., Зэльв., (ЛАБНГ, СПЗБ, Сцяцко, Шаталава), *гарóхавініска* н. – Вілен. р. (СПЗБ), *гарахавéнне* н. – Шчуч., Бяроз., Іван. (ЛАБНГ), *гарахвя́ніска* н. – Астр., Навагр., Драг. (ЛАБНГ), *гарахвéнне* н. – Барыс. (СПЗБ), *гарахвя́нне* н. – Бярэз., Быx., Тал., Слаўг., Карм., Клім., Навагр., Карэл. (ЛАБНГ), *гарахвя́нка* ж. – Іўеў., Воран. (ЛАБНГ, СПЗБ), *гарахвя́нішча* н. – спарадычна паўдн.-зах. д., Паст., Дубр., Круп., Саліг. (ЛАБНГ, Сл. Гродз., НС, ЖС, Янкоўскі), *гарóхвінішча* н. – Асіп. (ЛАБНГ), *гарóшышча* н. – Шум., Асіп., Буда-Каш., Петр., Лельч. (ЛАБНГ), *гарóчышча* н. – Гор. (ЛАБНГ), *гарóшнішча* н. – Барыс., Дубр., Карм., Гом., Рэч. (ЛАБНГ), *гарóшнік* м. – Чэрык., Дубр. (ЛАБНГ), *гарахавéне* н. – Шчуч. (З нар. сл.), *гарóшанішча* н. – Нараўл. (ЛАБНГ), *гарахвéнішча* н. – Лельч. (ЛАБНГ);

**ільнішча** ‘назва поля, дзе рос лён’: *ільні́шча* н. – паўдн.-усх. з., Чэрв. р., спарадычна Віц. р., Кобр., Драг. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шаталава, ЛМПП, Мат. апыт.), *льні́шча* н. – паўдн.-усх. з., Віц. р., Чэрв. р., Дзятл., Слон., Баран., Бяроз., Драг. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Мат. Гродз.), *ля́нішча* н. – паўн.-зах. з., Маладз., Карэл., Саліг., Ельск., Круп. (ЛАБНГ, Цыхун, Шаталава), *лёнішча* н. – Навагр. (Сл. Гродз., З нар. сл.), (*і*)*лля́нішча* н. – Лаг., Леп., Бял., Валож., Мін., Быx., Бабр., Раг., Буда-Каш., Рэч., Добр. (ЛАБНГ, Варлыга), *альля́нішча* н. – Мсціcл. (Бялькевіч), *лені́шча* н. – Лоеў. (Янкова), *льня́нішча* н. – Дзятл., Зэльв., Стаўб., Карэл., Уздз., Маст., Слуцк., Добр. (ЛАБНГ, Бялькевіч), *ільня́нішча* н. – Пол., Верхнядзв. (НЛ, Шаталава), *ілля́нішча* н. – Докш., Глыб., Брасл. (СПЗБ), *ля́ніска, ляні́ска* н. – Воран., Навагр., Астр., Івац. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шаталава, Мат. Гродз.), *льня́ніска* н. – Дзятл., Зэльв.,

Нясв., Кам., Вілен. р. (ЛАБНГ), (*і*)*льніска* н. – Ваўк., Пруж., Вілен. р., Драг., Кобр., Кам., Дзятл., Лун. (СПЗБ, ДСБ, З нар. сл., Шаталава), *лёніска* (*лёныско*) н., *льніска* (*льніско*) н. – Малар., Брэсц., Пін. (ДСБ), *льнóвіска* н. – Маст. (Сл. Гродз.), (*і*)*лля́нне* н. – Лаг., Бых. (ЛАБНГ, ЖНС), *ллянóвішча* н. – Бял. (ЛАБНГ), *льнóвіска* н. – Маст. (Сл. Гродз.), *льня́ніска* н. – Шчуч. (Сл. Гродз.), *ллянóвішча* н. – Бял. (ЛАБНГ), *лёнышча* н. – Малар. (ЛАБНГ), *ля́нка* ж. – Іўеў. (СПЗБ), *ілля́нне* н. – Лаг. (СПЗБ), *льнéніска* н. – Зэльв. (Сцяцко ДС), *льнéнішча* н. – Зэльв. (Сцяцко ДС), *лён* м. – Драг., Вілен. р. (СПЗБ);

**бульбянішча** ‘назва поля, дзе расла бульба’: *картапля́нішча (картафля́нішча)* н. – паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз., Шатэрнік, Янкоўскі, ЛП, З нар. сл., Янкова, Шаталава), *картапля́ніска* (*картафля́ніска*) н. – гродз.-бар. г., спарадычна зах.-пал. г., Астр. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Сцяцко), *картаплéніска* (*картафлéніска*) н. – Дзятл., Свісл., Карэл., Івац. (АЛА, ЛАБНГ), *картаплéнішча* н. – Дзятл., Зэльв. (ЛАБНГ, Сцяцко, ДС), *картóплішча* н. – пал. р., Карэл., Бераст. (ЛАБНГ, АЛА, Сл. Гродз., Шаталава), *картапліві́шча* (*картоплі́ві́шчэ*) н. – Жытк. (ЛМПП), *картапля́нік* м. – Касцюк., Лельч. (АЛА, Бялькевіч, Кучук), *картаплéнне* н. – Зэльв., Слон. (АЛА, Сцяцко, ДС), *картóпліні́ска* н. – Кам. (СПЗБ), *картóплішча* н. – Стол. (ТС), *картóпліска* н. – зах.-пал. г., Ваўк., Маст., Ганц., Ваўк. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ДСБ, ЖНС, Шаталава), *бульбóвішча* н. – усх.-маг. р., Маладз., Тал., Кругл., Драг., Стол. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ТС, ЛП, Юрчанка), *бульбéнішча* н. – усх.-маг. р., Карм., Пол., Віц. (ЛАБНГ, АЛА, Каспяровіч, НЛ), *бульбóўнішча* н. – Мёр., Валож., Тал., Дубр., Іўеў. (ЛАБНГ, СПЗБ, АЛА), *бульбя́нішча* н. – паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г., спарадычна Гом. (ЛАБНГ, Бялькевіч, Варлыга), *бульбі́шча* (*бýльбішча*) н. – Гарад., Лаг., Стол., Лельч., Слаўг., Краснап. (АЛА, ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНСл), *бульбя́ніска* н. – Шчуч., Бераст., Ваўк. (АЛА, ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., З нар. сл.), *бульбóвіска* н. – Вілен. р., Лун., Пін. (АЛА, ЛАБНГ, СПЗБ, Шаталава), *бульбóўнік* м. – Тал., Круп., Арш., Бял.,

Карм., Чэрык., Добр., Лун. (АЛА, ЛАБНГ), *бульбéшнік* м. – Карм., Віл. (АЛА, ЛАБНГ, Шаталава), *бульбя́нка* ж. – Іўеў., Воран. (АЛА, ЛАБНГ), *бульбя́нне* н. – Бярэз., Касц., Ветк., Віл., Бых. (АЛА, ЛАБНГ, СПЗБ, Бялькевіч), *бульбéлішча* н. – Докш. (СПЗБ), *булёвене* н. – Пруж. (СПЗБ), *пакóпішча* – Вілен. р., Гродз., Малар., Драг. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., ЛП), *гарóдзіна* ж. – Драг. (ЛП), *гарадзі́шча* н. – Стол. (ЛП);

**кукурузнішча** 'назва поля, дзе расла кукуруза': *куку-рýзнішча* н. – Смарг. (Шаталава), *какарýзі́шча* н. – Маст., Маз. (СПЗБ, ЛМПП, Шаталава), *какарýзіска* н. – Пін., Свісл. (Шаталава), *какарýзніска* н. – Ганц., Карэл. (СПЗБ, Шаталава), *кукурýзнік* м. – Кругл. (Мат. Маг.);

**лубінішча** 'назва поля, дзе рос лубін': *лýбінішча* н. – гродз.-бар. г., Докш., Лаг., Бар., Глыб., Віл., Бярэз., Чэрв., Старадарож. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз.), *лубя́нішча* н. – асн. мас. г., гродз.-бар. г., Віц. р., Лельч. (ЛАБНГ, Кучук), *лýбініска* н., *лубя́ніска* н. – паўн.-зах. з., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, Мат. Гродз., Шаталава), *лубавéнішча* н. – Дзятл., Барыс., Бярэз. (ЛАБНГ, СПЗБ), *лубавéніска* н. – Маст. (СПЗБ), *лýбін* м. – Маладз., Капыл., Пін., Рэч., Лоеў. (ЛАБНГ), *лубаві́нне* н. – Іван. (ЛАБНГ), *люпя́нішча* н. – Паст., Краснап. (ЛАБНГ), *люпі́нішча* н. – Паст. (ЛАБНГ), *лубавя́на* н. – Навагр. (ЛАБНГ), *рýмішча* н. – Беш. (ЛАБНГ);

**канаплянішча** 'назва поля, дзе раслі каноплі': *канапля́нішча* н. – Стол. (ЛП), *канóплішча* н. – Смарг. (Шаталава), *калапля́нішча* н. – Пол. (НЛ), *канаплéніска* н., *канапля́ніска* н. – Зэльв., Карэл. (Сл. Гродз., Шаталава, Сцяцко), *канóпліска* н. – Пін., Малар., Кам. (ДСБ), *канапля́нё* н. – Зэльв. (СРЛГ);

**вічышча** 'назва поля, дзе расла віка': *ві́каўе* н. – Віл., Верхнядзв. (Шаталава), *вікóўе* н. – Чэрв., Лаг., Мсцісл. (Шатэрнік, Варлыга, Юрчанка), *вікóвішча* н. – Хойн. (ЛМПП), *ві́чышча* н. – Маг., Жытк. (Мат. Маг., ЛМПП), *віча́нішча* н. – Гродз., Пол. (Мат. Гродз., НЛ);

**канюшынішча** 'назва поля, дзе расла канюшына': *канюшы́нішча* н. – Зэльв., Чэрв. (Мат. Гродз., Сцяцко, ДС, Шатэрнік), *канюшы́ніска* н. – Свісл. (Сл. Гродз.), *клевяры́шча* н. – Браг., Пол., Чач. (Шаталава, НЛ, Мат. апыт.);

**бурачнішча** 'назва поля, дзе раслі буракі': *бура́чнішча* н. – спарадычна асн. мас. г. (ЛАБНГ, СПЗБ), *бура́чышча* н. – спарадычна паўн. р., Гор., Рэч. (ЛАБНГ, НЛ), *бурако́ўнішча* н. – Кір., Гл., Гом., Ельск. (ЛАБНГ), *бурако́вішча* н. – спарадычна Маг. р., Карм., Драг. (ЛАБНГ), *бурако́ўе* н. – Бял., Мсцісл. (ЛАБНГ, Юрчанка), *бурача́ніска* н. – Бераст. (Сл. Гродз.), *бурачы́ска* н. – Вілен. р., Ваўк., Шчуч., Бяроз., Кобр. (ЛАБНГ, СПЗБ), *бура́чніска, бурачні́ска* н. – спарадычна гродз.-бар. г., зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *бурака́віска* н. – Лун., Пруж. (ЛАБНГ), *бура́чнік* м. – спарадычна паўн.-зах. з., Чав., Касц. (ЛАБНГ);

**бабовішча** 'поле, дзе рос боб': *бабо́вішча* н. – асн. мас. г., Малар. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ), *бабо́ўнішча* н. – Дубр., Мсцісл., Хойн. (ЛАБНГ), *бабо́ўнік* м. – Паст., Лаг., Барыс., Бял., Арш., Чэрв., Лід., Бярэз., Чав., Карм., Ганц., Добр., Ельск. (ЛАБНГ), *бабо́віска* н. – гродз.-бар. г., зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *бабо́ўніска* н. – Ганц., Бяроз., Кобр., Івац. (ЛАБНГ, СПЗБ), *бабо́ўе* н. – Віл., Маладз., Маг., Чэрв., Лаг. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шатэрнік, Варлыга), *бабаўё* н. – Ашм., Валож. (ЛАБНГ), *бабаві́нне* н. – Кобр., Іван. (ЛАБНГ), *цівя́нішча* н. – Мёр. (ЛАБНГ), *бутве́нішча* н. – Драг. (ЛАБНГ);

**бручковішча** 'назва поля, дзе расла бручка': *бручко́вішча* н. – Маг. р., спарадычна цэнтр. з., спарадычна усх.-пал. р., Клім. (ЛАБНГ), *бручко́ўнік* м. – Арш., Віл., Докш., Асіп., Чав. (ЛАБНГ), *бручко́ўе* н. – Лаг., Валож., Маг. (ЛАБНГ, Варлыга), *бручкаве́нне* н. – Іўеў. (ЛАБНГ), *бруча́нішча* н. – Шум., Леп. (ЛАБНГ), *бручкаве́нішча* н. – Карэл. (ЛАБНГ), *бручко́ўніска* н. – спарадычна гродз.-бар. г. і зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *бруквя́нішча* н. – Маг., Карм., Бабр., Буда-Каш., Маз. (ЛАБНГ), *бруко́вішча* н. – Тал., Гор., Слаўг., Карм. (ЛАБНГ), *бруко́ўнішча* н. – Шкл., Гл., Гом., Нараўл. (ЛАБНГ), *брукаве́нне* н. – Бяроз. (ЛАБНГ), *брукаві́нне* н. – Іван. (ЛАБНГ), *брукаве́ніска* н. – Ганц. (ЛАБНГ), *бруко́ўнік* м. – Арш. (ЛАБНГ), *брукові́ска* н. – Пруж., Беласт. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *бруксо́ўнік* м. – Клім. (ЛАБНГ), *бруквí́ска* н. – Кобр. (ЛАБНГ), *бруко́венніска* н. – Івац. (ЛАБНГ), *брушко́ўніска* н. – Бераст., Чэрв.,

Маст. (Сл. Гродз., СПЗБ), *брукóўніска* н. – Лун. (Шаталава), *грыжóўнішча* н., *грыжэ́ўнішча* н., *грыжóвішча* н., *грыжá-нішча* н. – паўн. р. (ЛАБНГ), *рыжóвішча* н. – Сен. (ЛАБНГ), *гручкóўнішча* н., *гручкóўнік* м. – Паст. (ЛАБНГ), *кáлічнішча* н. – Пол. (ЛАБНГ), *сіню́шша* н. – Гарад. (ЛАБНГ), *буксóўнік* м. – Касц. (ЛАБНГ);

**марковішча** 'назва поля, дзе расла морква': *маркóвішча* н. – спарадычна паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г., Гом. р., Нясв., Малар. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *мóрквішча* н. – Драг. (ЛАБНГ), *марквíшча* н. – Ушацк., Слаўг., Светлагор. (ЛАБНГ), *маркавéнне* н. – Дзятл., Бяроз. (ЛАБНГ), *маркóўнік* м. – спарадычна віц.-маг. г., сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ), *маргóўнік* м. – Паст. (ЛАБНГ), *маргóвішча* н. – спарадычна паўн.-зах. з. (ЛАБНГ), *маркóўнішча* н. – Вілен. р., Верхнядзв., Ушацк., Маладз., Уздз., Кір., Мсцісл., Люб., Стол., Маз., Гом., Ельск. (ЛАБНГ), *марквя́нішча* н. – Пол., Мёр., Светлагор., Лельч. (ЛАБНГ), *маркóўе* н. – Валож., Віл., Бял., Мсцісл. (ЛАБНГ), *марквéннік* м. – Навагр. (ЛАБНГ), *марквя́ніска* н. – Бераст., Шчуч. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *маркавéніска* н. – Кобр. (ЛАБНГ), *маркóвіска* н. – зах.-пал. г., спарадычна гродз.-бар. г. (ЛАБНГ);

**капуснішча** 'назва поля, дзе расла капуста': *капу́снішча* н., *копу́сніско* н. – асн. мас. г., за выкл. Гродз. р. (ЛАБНГ, ЛМПП, СПЗБ, Варлыга), *капу́сніска* н. – зах.-пал. г., спарадычна гродз.-бар. г. (ЛАБНГ), *капу́снік* м. – гродз.-бар. г., спарадычна віц.-маг. г. і Гом. р., спарадычна зах.-пал. г. (ЛАБНГ, НС, Мат. Гродз., Сцяцко, Шаталава), *капуця́нік* м. – Паст., Валож. (ЛАБНГ), *капусцéнне* н. – Бяроз., Драг. (ЛАБНГ, Шаталава), *капу́сціска* н. – Кобр., Ганц. (ЛАБНГ), *капусця́ніска* н. – Маст. (ЛАБНГ, СПЗБ), *капусця́нішча* н. – Маз. (ЛАБНГ), *капусня́ніска* н. – Нараўл. (СПЗБ), *капустынне* н. – Бяроз. (ДСБ), *качáнішча* н. – Іўеў. (ЛАБНГ);

**агурочышча** 'назва поля, дзе раслі агуркі': *агурэ́чышча* н. – Шчуч. (Сл. Гродз.), *агурóчнішча* н. – Віл. (СПЗБ), *агурэ́чнік* м. – Саліг. (ЛАБНГ), *агурóчнік* м. – Віц., Барыс., Навагр., Лід., Нясв., Асіп., Лун., Лельч., Ельск., Паст., Чэрв., Раг., Рас. (ЛАБНГ), *агурчáнішча* н. – Кір. (ЛАБНГ), *гурóч-*

*нішча* н. – паўн.-зах. з., спарадычна паўдн.-усх. з., Сен., Чашн., Дубр. (ЛАБНГ), *гурóчышча* н. – Гор., Чав., Хойн., Пол. (ЛАБНГ), *гурэ́чышча* н. – Шум., Шчуч. (ЛАБНГ), *гуркавéніска* н. – Івац., Ганц. (ЛАБНГ), *гуркаві́нне* н. – Маст., Лях., Бяроз. (СПЗБ, ЛАБНГ), *гуркóўнішча* н. – Тал., Круп., Бял., Мсцісл., Слаўг., Гом., Рэч. (ЛАБНГ), *гуркóвішча* н. – Гарад., Бял., Жлоб., Стол., Маг., Слаўг. (ЛАБНГ), *гуркóўе* н. – Валож., Бял. (ЛАБНГ), *гурóчніска* н. – Ваўк. (ЛАБНГ), *гуркаві́ска* н. – Кам. (ЛАБНГ), *гуркаўні́ска* н. – Бераст. (ЛАБНГ), *гурóўнішча* н. – Дубр. (ЛАБНГ), *агурчы́ска* н. – Кобр. (ЛАБНГ), *гуркóўнік* м. – Маг. р., усх.-маг. р., Ганц., Браг. (ЛАБНГ);

**цыбуліска:** *цыбулі́ска* н. – 'назва месца, дзе была цыбуля' – Ваўк. (СПЗБ);

**макавішча:** *мáкавішча* (*мáковышчэ*) н. – 'назва месца, дзе рос мак' – Пін. (НЛ).

## Неўрадлівая зямля

*пусты́ня* ж. – спарадычна агульн. (ЛАБНГ, Мат. Маг., ЛП, СНМ, Варлыга, Янкова), *пу́сташ* ж. – спарадычна паўн.-зах. з., усх.-маг. р., пал. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Маг., Янкова), *пустапóлле* н. – Шчуч., Бярэз., гродз.-бар. г., Жлоб. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *пустапóль* ж. – Гродз. (ЛАБНГ), *пустапóля* ж. – Воран. (СПЗБ), *пустапóліца* ж. – спарадычна гродз.-бар. г. і пал. р., Маг., Бых., Асіп. (ЛАБНГ, СПЗБ), *пустатá* ж. – Мёр., Шкл., Бял., Кругл., Чав. (ЛАБНГ, Мат. Маг.), *пустальгá* ж. – Гродз., Навагр., Бабр. (ЛАБНГ), *пустэ́льніца* ж. – Драг. (ЛАБНГ), *пустэ́ч* м. – Мядз. (ЛАБНГ), *пустэ́ча* ж. – зах.-пал. г., Мін. р., Чэрв. р., Слуцк. р., гродз.-бар. г., спарадычна Маг. р., Ушацк., Быx. (ЛАБНГ, СПЗБ), *пусты́нь* ж. – Кар., Бярэз. (СНМ, СПЗБ), *пустэ́льга* ж. – Шкл., Бял., Кругл., Чав. (Мат. Маг.), *пустальгá* ж. – Гродз. (Сл. Гродз.), *пустэ́льня* ж. – Маст., Навагр. (Сл. Гродз.), *пусцéча* ж. – спарадычна слуцк.-маз. г. (ЛАБНГ), *пустóпуш* ж. – Нараўл. (ЛАБНГ), *пусты́р* м. – спарадычна усх. з., Брасл., Чашн., Дубр., Слуцк., Ганц., Рас. (ЛАБНГ), *пу́стка* ж. – Іўеў., Бераст., Стаўб., Кам., Бяроз., Пін., Петр., Маз.

(ЛАБНГ, Шатэрнік), *пустóе пóле* – спарадычна паўдн. р., Іўеў., Пух., Старадарож. (ЛАБНГ), *пешчугá* ж. – гродз.-бар. г., зах.-пал. г., Клім., Бых., Буда-Каш., Добр. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, Сл. Гродз., НЛ, ЛП, ЖС, Н. сл-сць, Янкоўскі, Сцяцко), *пясчы́на* ж. – спарадычна агульн. (СПЗБ, ЛАБНГ), *пешчынá* ж. – спарадычна паўн.-зах. з. (ЛАБНГ), *пяшчурá* ж. – Дзятл., Лун., Мёр., Пол., Тал., Гродз., Навагр., Карэл., Раг. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., Цыхун), *пяшчáнка* ж. – Чэрв. (ЛАБНГ, СПЗБ), *пяшчáніца* н. – Навагр., Свісл. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *пясóк* м. – спарадычна агульн. за выкл. Слуцк. р. (ЛАБНГ), *пяскí* мн. – Вілен. р. (СПЗБ), *сýпесак* м. – пал. г. (Кучук), *пескавáтка* ж. – Ваўк., Паст. (ЛАБНГ, СРЛГ);

**пясчанае поле**: *няўдóба* ж. – Маг. р., спарадычна Навагр., Слуцк., Лун., Стаўб., Малар., Брэсц., Свісл. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., СНМ, Шаталава, ДСБ, Мат. Маг.), *няўдóбак* м. – Астр., Ваўк., Зэльв. (Сцяцко ДС, Мат. Гродз.), *няўдóб* м. – Слон. (Мат. Гродз.), *няўдóбіца* ж. – паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г., Гом. р., Карэл., Нясв., Баран., Лях., Вілен. р. (ЛАБНГ, Шатэрнік, СПЗБ, Мат. апыт.), *няўдóбка* ж. – Драг., Іван. (ЛАБНГ, ЛП), *няўдóбкі* мн. – Зэльв., Слон., Лях., Гродз. (ЛАБНГ, Цыхун, ЖНшС), *няўдóбія* ж. – Смарг., Бар., Глыб., Шчуч., Іўеў., Маст., Докш. (ЛАБНГ, СПЗБ), *няўдóбшчына* ж. – Лоеў., Пруж., Пін., Ваўк. (ЛАБНГ, НЛ, Мат. Гродз., Янкова), *няўдóбішча* н. – Воран. (Мат. Гродз.), *няўдóбная зямлá* – паўн.-зах. з. (ЛАБНГ), *жаўтапéсак* м. – Светлагор. (ЛАБНГ), *жаўтапёс* м. – Чэрв. (ЛАБНГ, Шатэрнік), *жаўтазём* м. – Дзятл. (Мат. Гродз.), *жаўтля́к* м. – Лун. (Шаталава), *жаўкры́нец* н., *жукры́нец* м. – Лун. (Шаталава), *жóвэнэц* м. – Пін. (НЛ), *сіня́к* м. – Зэльв. (Сцяцко), *сінюгá* ж. – Вілен. р., Смарг. (СПЗБ), *сіняпёс* м. – Карэл. (Мат. Гродз.), *сівáк* м. – Шчуч., Лід., Дзятл., Навагр., Уздз. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз.), *сівéц* м. – спарадычна паўн.-зах. з., Жлоб., Светлагор. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сівýха* ж. – спарадычна паўн.-зах. з., Асіп., Саліг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сівазём* м. – Навагр. (Мат. Гродз.), *сівазéміца* ж. – Івац. (ЛАБНГ), *сівабáвіна* ж. – Стаўб. (Мат. мін.-мал.), *сівóпісь* ж. – Нараўл. (СПЗБ), *сíвая*

*зямля́* – спарадычна пал. р. (ЛАБНГ), *сіўцава́тая зямля́* – Віл. (СПЗБ), *сіпа́к* м. – Паст., Віл., Барыс., Лаг. (ЛАБНГ, Мат. мін.-мал.), *сіпе́ц* м. – Бярэз., Мядз. (ЛАБНГ, Мат. мін.-мал.), *сіпу́н* м. – Мёр., спарадычна паўн. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ), *сіпуга́* ж. – Уздз., Тал., Круп. (ЛАБНГ, Мат. мін.-мал.), *сіпі́ца* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *сіпя́х* м. – Паст. (СПЗБ), *падзо́л* м. – паўн.-усх. д., Гом. р. (ЛАБНГ), *падзо́ль* ж. – Докш., Віц., Мядз., Бярэз. (ЛАБНГ), *падзо́лле* н. – Краснап. (ЛАБНГ), *падзо́ліца* ж. – спарадычна паўн. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *бялю́га* ж., *белюга́* ж. – Смарг., Пол., Мёр. (СПЗБ, ЖНС, НЛ), *прастапо́ль* м. – Гродз. (СПЗБ), *прастапо́ліца* ж. – Карэл., Ваўк. (ЛАБНГ, Н. сл-сць), *прастапо́лле* н. – Слон. (Мат. Гродз.), *прасціна́* ж. – Воран. (ЛАБНГ, СПЗБ), *чыстапо́ліца* ж. – Бяроз. (ЛАБНГ), *здý хавіна* ж. – Лун., Лід., Барыс., Навагр., Вілен. р., пал. г. (СПЗБ, ЛП, Шаталава), *здý ха* ж. – Шчуч., Гродз. (З нар. сл., Цыхун), *уздý ха* ж. – Стаўб. (З нар. сл.), *цы́ндра* ж. – паўн.-зах. з. (ЛАБНГ), *дзы́ндра* ж. – Стаўб. (З нар. сл.), *жвір* м. – Слон. (ЛАБНГ), *жвіра́к* м. – Навагр. (Мат. Гродз.), *жвірча́к* м. – Гродз. (Цыхун), *жвіры́* мн. – Вілен. р. (СПЗБ), *чвіра́к* м. – Лаг. (ЛАБНГ), *чвырэ́ц* м. – Касц. (ЛАБНГ), *глей* м. – паўн.-усх. д., Гом. р., спарадычна Маг. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *суглé й* м. – Бярэз., Вілен. р. (СПЗБ), *гляйча́к* м. – Бераст. (Сл. Гродз.), *глеюга́* ж. – Смарг. (СПЗБ), *глейчý на* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *глеёвына* ж. – Малар. (ДСБ), *глі́на* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *суглі́нак* м. – Навагр. (Мат. Гродз.), *суглі́нкі* мн. – Брасл. (СПЗБ), *глі́нішча* н. – Пін., Мсцісл., Драг. (СНМ, ЛП, Юрчанка), *га́ляч* ж. – Гродз. (Цыхун), *галы́нка* ж. – Шчуч. (Сл. Гродз.), *пе́ліка* ж., *пе́ляка* ж. – Докш., Бярэз., Барыс., Чэрв., Круп. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ), *пяле́ка* ж. – Дзятл. (СПЗБ), *пялё-та* ж. – Бар. (СПЗБ), *сы́зма* ж. – Мядз., Лаг., Паст. (ЛАБНГ, СПЗБ, Н. сл-сць), *лысý ха* ж. – Івац., Малар. (ЖС, НЛ), *лы́сіна* ж. – Драг. (ЛП), *вывію́ха* ж. – Малар. (ЛАБНГ, ДСБ), *гара́* ж. – Стол. (ЛАБНГ), *ра́па* ж. – Кобр., Драг. (СНМ, НЛ), *ра́пыця* ж. – Кобр. (СНМ), *хра́па* ж. – Драг. (НЛ), *каляні́ца* ж. – Старадарож., Пух., Маст., Гарад. (СПЗБ), *камяні́к* м. – Вілен. р. (СПЗБ), *грý зля* ж. – Слон. (СПЗБ), *грý заўка* ж. –

Ваўк. (СПЗБ), *свішчугá* ж. – Ашм. (СПЗБ), *ілавéц* м. 'зямля сярод балота' – Лаг. (Варлыга), *дзічы́на* ж. – Віл. (СПЗБ), *дзічóвіна* ж. – Стол. (ДСБ), *развéй* м. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *разавéй* (*розовéй*) м. – Шчуч. (НЛ), *ройст* м. – Маст. (ЛАБНГ), *калатóўка* ж. – Мядз., Гарад., Стаўб., Лун. (ЛАБНГ), *пурхóтына* ж. – Стол. (ЛП), *ігры́шча* н. – Стол., Лельч. (ЛАБНГ, ТС), *нерх* м. – Стол. (ТС), *шлін* м. – Вілен. р. (СПЗБ), *дзярбáн* м. – Чэрв. (Шатэрнік), *гай* м. – Лун. (Шаталава), *лáта* ж. – Верхнядзв. (Шаталава), *плóхвіна* ж., *плахві́на* ж. – Стол. (ТС), *лятýчка* ж. – Стол. (ЛП), *ёлап* м. – Старадарож. (НС), *шыпéц* м. – Глыб. (СПЗБ), *крушня́* ж. – Ваўк. (СПЗБ), *цвярдзі́на* ж. – Віл. (СПЗБ), *я́вура* ж. – Паст. (СПЗБ), *смактýн* м. – Ашм. (СПЗБ), *палёт* м. – Шум., Докш. (СПЗБ), *няўжы́так* м. – Лід. (Мат. Гродз.), *развéй* м. – Шчуч. (Сл. Гродз.), *ніўжыткі* (*ны́вжыткэ*) мн. – Драг. (ДСБ, ЛП), *гéрга* ж. – Гродз. (Сл. Гродз.), *пры́сак* м. – Чач., Старадарож. (Мат. апыт.), *рыжэ́ц* м. – пал. г. (ЛП), *жýжаль* м. – пал. г. (Кучук), *барчаві́на* ж. – Лаг. (Варлыга), *скáла* ж. – (СНМ), *вы́дмухі* мн. – Астр. (СПЗБ), *пухлéц* м. – Пол. (НЛ), *кургáн* м. – Гродз. (ЖНС), *сухатá* ж. – Віл., Лях. (СПЗБ), *жывéц* м. – Зэльв. (Мат. Гродз.), *лы́сіца* ж. – Люб. (ЛАБНГ), *рэ́жыц* м. – Драг. (СНМ), *смугá* ж. – Слон. (ЛАБНГ), *галóдніца* ж. – Пруж. (ЛАБНГ);

**няўгноеная зямля:** *бязгнóіца* ж. – Ганц. (СПЗБ), *прастапóль* м. – Ваўк. (СПЗБ), *прастапóльніца* ж. – Гродз. (Цыхун), *лявóш* м. 'далёкія ад сядзібы палеткі, на якія не давалі гною' – Гродз. (Цыхун);

**прыметнікі:** *худы́* прым. 'няўгноены' – Вілен. р. (СПЗБ), *пусты́* прым. – усх.-маг. р., спарадычна зах.-пал. г., Валож., Пух., Люб., Добр., Лоеў. (ЛАБНГ, СПЗБ, Янкова, Варлыга), *пясчáны* прым. – Верхнядзв., Лельч., Пол., Пух. (ЛАБНГ), *пескавы́* прым. – Мядз. (ЖС), *неўрадлі́вы* прым. – Брэсц., Кобр. (ЛАБНГ), *пóсны* прым. – Верхнядзв. (СПЗБ), *няўдóбны* прым. – Віл., Дзятл. (СПЗБ), *кéпскі* прым. – Свісл., Скід. (СПЗБ), *лядáчы* прым. – Маст. (СПЗБ), *глёўкі* прым. – Раг., Бярэз., Браг., Пух., Старадарож. (СПЗБ), *глéісты* прым. –

Мсцісл. (Юрчанка), *глееўвы* прым. – пал. г. (Кучук), *пелекава́ты* прым. – Дзятл., Чэрв. (СПЗБ, НЛ), *гра́вісты* прым. – Клім. (Мат. Маг.), *падзо́льны* прым. – Вілен. р. (СПЗБ), *глі́ністы* прым. – Смарг., Бар., Іўеў., Ганц. (СПЗБ), *керхава́ты* прым. – Стол. (ТС), *суглеі́сты* прым. – Шум., Вілен. р. (СПЗБ), *сі́вы, сівы́* прым. – Лід., Астр., Смарг., Мядз., Латгал. р. (СПЗБ), *рапава́ты* прым. – Кам. (ЖНС), *гру́зкі* прым. – Вілен. р. (СПЗБ), *цвёрды* прым. – Шчуч., Чэрв. (СПЗБ), *прыпа́дзісты* прым. – Асіп. (ЛАБНГ), *нягно́йны* прым. – Маз. (ЛАБНГ), *няўжы́тачны* прым. – Лун. (ЛАБНГ), *грудава́ты* прым. – Іўеў., Дзятл. (СПЗБ), *камяні́сты* прым. – Карэл., Шчуч., Брасл. (СПЗБ), *барава́ты* прым. – Лаг. (Варлыга), *шаро́хаваты* прым. – Лях. (СПЗБ), *карча́вы́* прым. – Лях., Шчуч. (СПЗБ), *скалі́сты* прым. – Лід. (СПЗБ), *по́сны* прым. – Маз. (ЛАБНГ), *руды́* прым. – Стол. (ЛАБНГ), *грудлі́вы* прым. – Мёр. (ЖНС), *слабкі́* прым. – Віл. (СПЗБ), *неру́ханы* прым. – Паст. (СПЗБ), *ту́пкі* ‘цвёрды, утаптаны’ – Стаўб. (З нар. сл.).

**Нізкае месца**

*смакту́га* ж. – Зэльв. (Сцяцко), *смактуга́* ж. – Зэльв. (Н. сл-сць), *смактаві́на* ж. – Драг. (ЛП), *ла́тока* ж. – Беш., Ушацк. (НС), *лажбі́нка* ж. – Слон. (ЖНС), *лагці́на* ж. – Зэльв. (Сцяцко), *вымаклі́на* ж. – Навагр. (НС), *макля́к* м. – Лаг. (ЛАБНГ), *вы́рва* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *вымачкі́* мн. – Докш. (СПЗБ), *сычаўка* ж. – Барыс. (СПЗБ), *узду́ха* ж. – Гродз. (Сл. Гродз.), *алёс* м. – Кам. (ЖНшС), *круч* м. – пал. р. (Кучук), *або́рак* м. – Віц. р., Мсцісл. (Шатэрнік, Мат. Маг., Юрчанка), *абу́рак* (*обу́рык*), *обу́рок* м. – Стол., Жытк. (ТС), *ачву́рак* м. – Мёр. (НС), *нізьбі́на* ж. – Рэч. (НС), *катлаві́на* ж. – Ушацк. (НС), *зато́нейка* ж. – Лях. (НС), *прыва́лак* м. ‘нізкае месца ў канцы загона’ – Брасл., Вілен. р. (СПЗБ), *ціхаво́д* м.’нізкае месца з вадой на сенажаці’ – Навагр. (НС).

**Палетак**

Участак поля, які выкарыстоўваецца пад пасевы.

*палётак* м. – зах. з., Гом. р., Мін. р., Маг. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС), *палётка* ж. – Паст., Ашм. (СПЗБ), *паласа́* ж. –

Мсцісл., Івац., Леп., Дзятл., Асіп., Бых., Івац., Рэч., Добр. (ЛАБНГ, Юрчанка), *учáстак* м. – усх. з., Паст., Валож., Бяроз., Івац., Іван. (ЛАБНГ), *шнур* м. – Воран., Ганц., Паст., Маст., Драг. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *надзéл* м. – Мсцісл., Іўеў., Чэрык., Клім., Хоц. (ЛАБНГ, Юрчанка), *сóткі* мн. – Рас., Лях., Лун., Старадарож., Добр. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *ні́ва* ж. – Верхнядзв., Астр., Шчуч., Лаг., Нараўл., Вілен. р. (СПЗБ), *лáнка* ж. – Драг., Стол., Пін. (ЛАБНГ, ДСБ), *нóрма* ж. – Слуцк. р., Мін. р., Малар., Барыс., Чэрык., Жлоб. (ЛАБНГ), *нарэ́з* м. – Барыс. (ЛАБНГ), *дзя́лка* ж. – зах. з. (ЛАБНГ, НС, Сцяцко), *дзяля́нка* ж. – Верхнядзв., Паст., Шум., Дзятл., Слон., Круп., Краснап., Нараўл., Лоеў. (ЛАБНГ), *пáйка* ж. – Маг. р., Гом. р., Арш., Люб. (ЛАБНГ), *пáечка* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *рóльня* ж. 'соткі ў полі' – Стаўб. (Мат. мін.-мал.), *парцэ́ля* ж. 'невялікі надзел зямлі' – Гродз. (Сл. Гродз.);

**зямля аднаго гаспадара:** *валóка* ж. – Паст., Ашм., Віл., Лаг., Докш., Круп., Чэрв. (ЛАБНГ), *загóн* м. – Гродз., Пін. (ЛАБНГ), *пляц* м. – Валож., Баран., Слуцк., Асіп., Бых., Слаўг., Карм., Івац., Клецк., Браг. (ЛАБНГ), *шнур* м. – Віц. (ЛАБНГ), *грунт* м. – Пух. (ЛАБНГ), *зямля́* ж. – зах.-пал. г., Маз., Мядз. (ЛАБНГ); *плáшка* ж. 'нешырокая паласа поля' – Стол. (НЛ), *усáдзьба* ж. 'уся ворная зямля вакол дома' – Мсцісл. (Юрчанка), *лáва* ж. 'участак зямлі на асушаным балоце' – Івац. (ДСБ);

**адрэзак паласы ворнай зямлі**: *гóны* мн. – зах. з. (ЛАБНГ, Цыхун), *гóні* мн. – усх. з. (ЛАБНГ), *ганкі́* мн. – Уздз., Стол. (ЛАБНГ), *ні́ўка* ж. – Глыб. (ЛАБНГ), *шнурóк* м. – Шум. (ЛАБНГ), *стáі* мн. – Воран. (Мат. Гродз.), *вагáшкі* мн. – Навагр. (СРЛГ), *вéратні* мн. – Іўеў., Карэл., Навагр. (ЛАБНГ, Мат. мін.-мал.);

**вузенькі загончык зямлі:** *атыр* м. – Івац. (НС), *скрáвак* м. – Шчуч. (Мат. Гродз.), *лытка* ж. – Ушацк. (НС), *пагóн* м. – Лоеў. (Янкова), *смугá* ж. – Стаўб. (3 нар. сл.), *складóчак* м. – Лоеў. (Янкова), *палóсіца* ж. – Бераст. (Сл. Гродз.).

## Папар

Поле, пакінутае на адно лета незасеяным з мэтай паляпшэння глебы пад пасеў азімых.

*пар* м. – Лоеў., спарадычна паўд.-усх. з., Верхнядзв., Мёр., Дзятл., Лёзн., Шкл., Рэч., Смарг. (АЛА, ЛАБНГ, Янкова, ЛП), *папáр* м. – агульн., Віц. р. і ўсх.-маг. р. спарадычна (АЛА, ЛАБНГ, СПЗБ, Шатэрнік, Каспяровіч, ЛП, СНМ, Мат. Гродз., Варлыга, Кучук), *папáра* ж. – Івян. (АЛА), *прыпáр* м. – Лоеў. (Янкова), *пáраніна, параніна* ж. – усх.-маг. р., спарадычна паўдн.-усх. з. (АЛА, ЛАБНГ, СПЗБ, Юрчанка, Бялькевіч, Яўсееў, Шаталава, Мат. апыт., ЛП), *пáрына* ж. – Сен. р., Жытк., Віц., Лёзн. (АЛА, ТС, Каспяровіч), *парыння́* ж. – Чэрык. (ЛАБНГ), *падпáр* м. – Краснап., Рэч., Нараўл. (ЛАБНГ), *папáраніна* ж. – Кругл., Чэрык. (Мат. Маг.), *пáрнае* прым. – цэнтр. з. (Мат. мін.-мал.), *перало́г* м. – Кам., Акц. (АЛА, ЖНшС), *зáлеж* ж. – Івац., Лун. (АЛА, ЖС), *я́лавіна* ж. – Мядз., Гродз., Шчуч., Навагр., Стаўб., Бярэз., Бяроз., Клецк., Рэч., Добр., Маз., Лельч., Браг., Стол., Чав. (ЛАБНГ, АЛА), *я́длавіна* ж. – Воран. (Мат. Гродз.), *тало́ка* ж. – Гом., Рэч., Добр., Краснап. (ЛАБНГ, Бялькевіч), *талáка* ж. – Лоеў. (Янкова), *паро́ха* ж. – Стол., Малар. (ЛП, ДСБ), *палéтак* м. – усх. ч. зах.-пал. г. (ЛАБНГ, СНМ), *абло́г* м. – Брэсц. (ЛАБНГ), *лéжаво* н. – Лельч. (АЛА); *адло́г* м. – Гродз. (АЛА), *паравóе пóле* – Верхнядзв., Мёр., Чав., Чач., Добр., Лельч. (ЛАБНГ), *пáрнае пóле* – Бяроз. (ЛАБНГ), *пая́лавае пóле* – Пін. (ЛАБНГ), *я́лавае пóле* – Стол. (ЛАБНГ), *пагуля́ўшая зямля́* – Лоеў. (Янкова);

**быць пад папарам:** *паравáць* незак. – Стол. (ТС), *пáрыцца* незак. – Жытк. (ТС), *пáраваць* незак. – Пол. (НЛ), *папаравáць* зак. – Стол. (ТС), *перапапáрваць* незак. – Лаг. (Варлыга), *талакавáць* незак. – Лоеў. (Янкова), *я́лавіць* незак. – Лаг. (Варлыга).

## Паша

Месца, дзе пасецца жывёла, выпас.

*паша* ж. – Чэрв., Нясв., Паст., Навагр., Брасл., Віл., Вілен. р., Зэльв. (СПЗБ, Сцяцко), *пажа* ж. – Люб., Старадарож. (СПЗБ, Мат. апыт.), *паста* ж. – Смарг., Круп., Верхнядзв., Бярэз., Старадарож. (СПЗБ, Шаталава), *паства* ж. – Рас., Докш. (СПЗБ), *пасвіска* ж. – Бяроз., Нараўл., Вілен. р., Зэльв. (СПЗБ, Сцяцко, Шаталава), *пасвішча* н. – Стол., Смарг. (ТС, Шаталава), *пасбіска* н. – Вілен. р. (СПЗБ), *пасцішчэ* н. – Стол. (ТС), *пашня* ж. – Навагр. (СПЗБ), *падбішча* н. – Латгал. р. (СПЗБ), *выпас* м. – Асіп. (СПЗБ), *гамшар* м. 'выган, дзе пасуцца авечкі і козы' – Дзятл. (СРЛГ), *галізна* ж. 'паша, дзе мала травы' – Паст., Вілен. р. (СПЗБ), *галеча* ж. – Іўеў. (СПЗБ), *выгрызінь* м. 'лапіна, дзе жывёла выскубла ўсю траву' – Вілен. р. (СПЗБ), *бубен* м. 'выбітая паша' – Жытк. (ТС), *быдлы* мн. 'вытаптаная паша' – Мсцісл. (Юрчанка), *сарвітут* м., *сервітут* м. 'паша на панскіх угоддзях' – Лях., Ганц., Іўеў., Смарг. (СПЗБ);

**месца каля вёскі, дзе пасецца жывёла:** *выган* м., *выгань* м. – Віл., Паст., Брасл., Верхнядзв. (СПЗБ), *балонне* (*болонье*) н. 'выган, прырэчны луг перад вёскай' – Стол. (ТС);

**абгароджанае месца для жывёлы ў полі**: *выгарадзь* ж. – Шум. (СПЗБ), *выгарадня* ж. – Астр., Смарг. (СПЗБ).

## Поле

Засеяны або падрыхтаваны да пасеву ўчастак зямлі.

*поле* н. – агульн. (ЛАБНГ, ТС, Мат. Гродз., ЛП, СНМ, Шатэрнік, Юрчанка, Мат. апыт.), *пашня* ж. – спарадычна агульн. (ЛАБНГ, ЛП, Мат. апыт.), *сяўба* ж. – Стол. (ДСБ, ЛП), *ніва* ж. – Чэрв., Драг. (СНМ, Шатэрнік), *пасеў* м. – Стол. (ТС), *сцеп* м. 'вялізнае поле' – Пух. (СПЗБ), *палянка* ж. 'поле ў лесе' – Стол. (ЛП), *пудборыца* ж. 'поле каля лесу' – Беласт. р. (СПЗБ), *футар* м. 'поле, якое далёка ад вёскі' – Гарад. (СПЗБ), *навоз* м. 'поле, якое знаходзіцца за гумном, ці

прысядзібным участкам' – Лях. (СПЗБ), *зады́* мн. 'поле за сядзібай' – Верхнядзв. (Шаталава);

**частка поля пэўнай формы**: *рог* м. – Стол. (ЛП), *рагавічо́к* м. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *вусаві́на* ж. – Пол. (НЛ), *барада́* ж. 'пакінутая незапаханай частка поля' – (ЛП), *круглаві́на* ж. 'частка поля круглай формы' – Мёр., Пол. (ЖНС, НЛ), *прыкі́дка* ж. 'частка поля ад мяжы' – Кругл. (Мат. Маг.), *закраёк* м. 'невялікі ўчастак у канцы поля' – (ЛП), *загумёнкі* мн. 'участак поля за гумном' – Уздз. (СПЗБ), *зады́* мн. 'задняя частка поля' – Беш., Верхнядзв. (Каспяровіч, Шаталава), *адо́ра* (*одо́ра*) ж. 'частка поля, узаранага ўроскідку' – Стол. (ЛП), *вератні́к* м. 'частка поля ў даўжыню, якая апрацоўваецца асобна ад іншых, каб была магчымасць адпачыць на паваротах' – Віц. р. (Каспяровіч);

**частка поля, якая прыворваецца да асноўнага масіву**: *прыдзёр* м. – Драг. (НЛ), *прыдзі́рак* м. – Старадарож. (ЖНС, ЛП), *прыдзі́р* м. – Лях. (ЛАБНГ), *вы́дзірак* м. – паўдн.-зах. д. (ЛАБНГ), *прыда́так* м. – Лід., Іўеў., Астр., Віл., цэнтр. з. (ЛАБНГ, СПЗБ), *надда́ткі* мн. – спарадычна агульн. (ЛАБНГ), *даба́ўкі* мн. – Стол. (ТС), *во́дсеў* м. 'поле, якое нанава засяваецца' – Слуцк. (ЖНшС);

**частка ўзаранага поля**: *пла́ха* ж. – Стол. (ЛП), *уле́ха* ж. – Свісл. (Сл. Гродз.), *ралю́х* м. – пал. г. (ЛП), *старэ́ц* м. 'частка поля ад мяжы да баразны пры ворыве ўроскідку' – Івац. (ЖС), *вы́дма* ж. 'частка поля, занесенага пяском' – пал. р. (ЛП), *лу́жышча* н. 'поле, дзе раней было балота' – Навагр. (ЖС);

**нязжаты кавалак поля**: *каза́* ж. – Ваўк. (Сл. Гродз.), *хвост* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *пупо́віна* ж. – Гродз. (Сл. Гродз.).

**Назва поля ў залежнасці ад таго, калі і колькі разоў яно было ўзарана**:

**поле, узаранае першы раз**: *аднаво́р* м. – Чэрв., Слаўг. (Н. сл-сць, Шатэрнік), *аднаво́рка* ж. – Слаўг. (Н. сл-сць), *аднара́ль* ж. – Стол. (ТС, ЛП), *наві́на́* ж. – Зэльв., Дзятл. (Мат. Гродз.), *но́віна* ж. – Петр. (Шаталава);

**поле, узаранае другі раз**: *мéшань* ж. – Сен., Пол., Маладз., Верхнядзв., Мядз. (СПЗБ, НЛ, Каспяровіч), *мешанíна* ж. – Воран., Вілен. р. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *мéшальніца* ж. – Навагр. (ЖС);

**поле, узаранае трэці раз**: *траéніна* н. – Стаўб., Стол. (СНМ, ЛП), *сíтнік* м. – Слон. (Мат. Гродз.), *палéткавы* прым. 'уключаны ў трохпольны севазварот' – Стол. (ТС);

**поле, якое засяваецца з прамежкамі ў некалькі гадоў**: *старапóлле* н. – Стол. (ЛП), *старапóль* ж. – Старадарож. (НС), *старапóліца* ж. – Жытк., Стол., Пін. (ТС, ДСБ), *змéна* ж. 'поле ў севазвароце' – Сен. (Каспяровіч), *перааблóг* м. 'поле, пакінутае незасеяным для павышэння ўраджайнасці' – Стол. (ЛП), *перамéж* м. 'месца, дзе мяняюцца пасевы' – Люб. (СНМ), *пярэ́рва* ж. 'поле, якое раздзяляе што-н.' – спарадычна гродз.-бар. г., зах.-пал. г. (ЛАБНГ); *вóдсеў* м. 'поле, з якога зняты яравыя і адразу сеюцца азімыя' – Мсцісл. (Юрчанка); *запáшка* ж. 'поле, якое здавалі або бралі ў арэнду' – Вілен. р. (СПЗБ), *зáгараддзе* н. 'поле за агародамі' – Беласт. р. (СПЗБ), *гумéнніца* ж. 'поле за гумнамі' – Слон. (Сл. Гродз);

**дзеясловы**: *гуля́ць* незак. 'пуставаць (пра поле)' – Ганц. (СПЗБ), *валдавáць* незак. – Паст. (СПЗБ).

## Прысядзібны ўчастак

*усáдзьба* ж. – зах.-пал. г., Маг. р., Чэрв. р., спарадычна Бярэз. р., Віц. р., Пух., Круп., Іўеў., Леп., Люб., Рэч. (ЛАБНГ, Янкова, Юрчанка, Мат. апыт.), *уся́дзьба* ж. – Бял., Хоц., Касц. (ЛАБНГ, Мат. Маг.), *уся́дзьбіна* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *сядзíба* ж. – зах.-пал. г., Смарг., Мін., Уздз., Асіп. (ЛАБНГ), *ся́дзьба* ж. – Бял. (Яўсееў), *сялíба* ж. – Іўеў., Чэрв., Пін. (ЛАБНГ), *сóткі* мн. – агульн. (ЛАБНГ, НС, Сцяцко, Мат. апыт.), *план* м. – Гом. р., Карм., Слон. (ЛАБНГ), *пляц* м. – зах. з., спарадычна паўдн.-усх. з. (ЛАБНГ), *дзяля́нка* ж. – Кам. (ЛАБНГ), *дзя́лка* ж. – Маст. (ЛАБНГ), (*а*)*гарóд* м. – паўн. р., Гродз., Бераст., Карм., Хоц., Кам., Малар., Капыл.,

Добр., Рэч., Браг. (ЛАБНГ), *паўгектáр* м. – Дубр. (ЛАБНГ), *прысядзíбны ўчáстак* – Сен. (ЛАБНГ), *прыўсáдзебны ўчáстак* – Круп., Чэрык. (ЛАБНГ), *прыдусáдзебны ўчáстак* – Пол., Верхнядзв., Чэрв., Лёзн., Калінк., Лельч. (ЛАБНГ).

## Разора

Доўгі равок (баразна) паміж градамі.

*разóра* ж. – паўдн.-зах. д., зах.-пал. г. (акрамя заходняй часткі), Ушацк., Вілен. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ГЧ, ДСБ, ЛП, Мат. Гродз., Каспяровіч, Сцяцко), *разóр* м. – Гарад., Пол. (ЛАБНГ, НЛ), *разóрка* ж. – Воран., Пол. (ЛАБНГ), *баразнá* ж. – паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г., Ваўк., Петр., Малар. (ЛАБНГ, ЛП, СПЗБ), *рóспуга* ж. – Жаб., Кобр., Кам. (ЛАБНГ, ДСБ, СПЗБ, Шаталава), *рóспруга* ж. – Брэсц. (ЛАБНГ), *мяжá* ж. – Гом., Ветк., Добр., Пруж., Чав. (ЛАБНГ), *прамéжак* м. – Брасл., Паст. (ЛАБНГ), *межагрáдак* м. – Жлоб. (ЛАБНГ), *канáўка* ж. – Леп. (ЛАБНГ), *сугрýдак* м. – Кір. (ЛАБНГ), *распáх* м. – Касц. (ЛАБНГ), *празёра* ж. – Кам. (СПЗБ), *развóрак* м. – Астр. (Мат. Гродз.), *зрáліна* ж. – Кобр. (ЛП), *равéц* м. – Лельч. (Кучук).

## Скіба

Пласт узаранай зямлі.

*скíба* ж. – паўн.-зах. з., Пол., Гродз., Зэльв., Бяроз., Чэрв., Драг., Касц., Лун., Бабр., Калінк., Браг., Беластоц. р. (АЛА, СПЗБ, Шатэрнік), *пласт* м. – спарадычна паўн.-усх. д., Жлоб., Лаг., Барыс. (АЛА), *баразнá* ж. – Ганц., Драг., Вілен. р. (СПЗБ), *брыла* ж., *брыля* ж. – Іўеў., Вілен. р. (СПЗБ, Мат. мін.-мал.), *скрыга* ж. – Докш., Віл. (СПЗБ, Мат. мін.-мал.), *скрыль* м. – Барыс., Стаўб., Верхнядзв. (СПЗБ, СНМ, Мат. мін.-мал.), *плітá* ж. – Шарк. (АЛА).

## Урадлівая зямля

*пагнóй* м. – Чэрв., Калінк., Зэльв. (СПЗБ, Шатэрнік, Сцяцко ДС, Кучук), *зём* м. – Краснап., Клім. (Бялькевіч),

*то́рпа* ж., *то́рфа* ж. – Гродз. (СПЗБ), *тарфя́нік* м. – Навагр. (Мат. Гродз.), *тарфя́ніска* н. – Шчуч. (З нар. сл.), *чарназём* м. – Астр., Навагр. (ТС, Мат. Гродз.), *чарназе́м'е* н. – Гродз. (Сл. Гродз.), *чорно́зім* м. – Пін. (СНМ), *чо́рная зямля́* – Гродз., Ганц. (ЛАБНГ, СПЗБ), *удо́бшчына* ж. – Пін., Стол. (ДСБ, ЛП);

**прыметнікі**: *угно́ены* прым. – Вілен. р. (СПЗБ), *прагно́йны* прым. – Карэл. (СПЗБ), *гно́йны* прым. – Бар., Віл., Драг., Беластоц. р. (СПЗБ), *вы́гнаяны* прым. – Маладз., Маст. (СПЗБ), *зажыро́ны* прым. – Смарг. (СПЗБ), *удабро́ны* прым. – Чэрв., Глыб. (СПЗБ), *зажырнава́ты* прым. – Карэл. (СПЗБ), *прыдо́бны* прым. – Старадарож., Бярэз. (СПЗБ), *сі́льны* прым. – Карэл. (СПЗБ), *фа́йны* прым. – Мёр. (СПЗБ), *барав́ы* прым. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *стручн́ы* прым. – Асіп., Бярэз., Чэрв. (СПЗБ), *до́льная зямля́* – Воран. (Мат. Гродз.), *(в)о́рны* прым. – Воран., Сен., Лаг., Маладз., Стаўб. (Варлыга, Мат. Гродз., Каспяровіч, Мат. мін.-мал.), *пуша́ны* прым. – Вілен. р. (СПЗБ), *пу́льхны* прым. – Воран. (СПЗБ), *жыв́ы* прым. – Кам. (ЖНС).

## Цаліна

Зямля, якая ніколі не аралася.

*цаліна́* ж. – Брасл., Валож., Чэрв., Віл., Лаг., Бярэз. (АЛА, СПЗБ, Шатэрнік, Варлыга), *цалі́к* м. – Гродз., Лаг., Віл., Докш. (СПЗБ, Мат. Гродз., Варлыга), *цальні́к* м. – Астр. (СПЗБ), *цаля́к* м. – Іўеў. (СПЗБ), *цальня́к* м. – Воран., Вілен. р. (СПЗБ), *цал* м. – Бярэз. (СПЗБ), *цалязна́* ж. – Ашм. (СРЛГ), *ноў* ж. – Слаўг., Калінк. (ЛАБНГ, АЛА), *но́ўка* ж. – Краснап. (Бялькевіч), *навіна́* ж. – спарадычна паўдн.-усх. з., зах.-пал. г., спарадычна сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ, АЛА, ДСБ, СПЗБ, ЛП, Шаталава), *я́лавіна, ялаві́на* ж. – Гродз., Бяроз. (АЛА, Цыхун), *я́лавічына* ж. – Бяроз. (Леванцэвіч), *ялаві́зна* ж. – Бяроз. (Леванцэвіч), *пусты́р* м. – Брасл. (СПЗБ), *пу́стка* ж. – Лях., Шчуч., Паст., Бяроз. (СПЗБ, Леванцэвіч), *пусты́ня* ж. – Карэл. (АЛА), *першына́* ж. – Воран., Астр. (АЛА, Мат. Гродз.), *вы́дзірак* м. – Гродз., Петр., Брасл., Маст. (АЛА,

Цыхун, Шаталава), *вўдрань* ж. – Стол. (ТС), *выдзёр* м. – Стол. (ЛП), *прыдзі́рак* м. – Драг. (ЛП), *папа́р* м. – Бяроз. (Леванцэвіч), *па́сека* ж. – Навагр., Маладз. (АЛА), *па́рубка* ж. – Мёр. (АЛА), *абло́г* м. – Калінк. (АЛА), *абло́га* ж. – Шкл. (АЛА), *дзярно́* н. – Зэльв., Лельч. (Сцяцко, Кучук, ЛП), *дзербіна́* ж. – Стол. (ТС), *дрэ́ніна* ж. – Драг. (ЛП), *дзёрн* м. – Лаг. (Варлыга), *дзярня́к* м. – Ганц. (СНМ), *дзярні́на, дзярніна́* ж. – Чэрв., Лід. (Шатэрнік, Мат. Гродз.), *дзерць* ж. – Гродз., Лаг. (Сл. Гродз., Варлыга), *дзярно́ўе* н. – Лаг. (Варлыга), *дзірва́н* м. – Гродз., Лаг., Расон. (АЛА, Мат. Гродз., Варлыга), *драцён* м. – Шчуч. (Сл. Гродз.), *за́леж* ж. – Бяроз., Смарг., Лельч. (АЛА, Леванцэвіч, Кучук), *пары́ніна* ж. – Бяроз. (Леванцэвіч), *дзічо́віна* ж. – Стол. (ЛП), *паляжы́на* ж. – Гродз. (Мат. Гродз.), *паля́дак* м. – Сен. р. (Каспяровіч), *здў́ха* ж. – Шчуч. (Сл. Гродз.), *пяле́ка* ж. – Дзятл. (Сл. Гродз.), *пя́ла* ж. – Дзятл. (Сл. Гродз.), *перапо́лы* мн. – Лоеў. (Янкова), *дрэ́ні* мн. – Кам. (Шаталава), *па́хаць* ж. – Докш. (АЛА), *перало́м* м. – Паст. (АЛА), *му́рова* ж. – Стол. (ЛП), *но́вае по́ле* – Пол., Шчуч., Лельч. (АЛА), *вы́дранае по́ле* – Ганц. (АЛА), *памёт* м. – Стаўб., Пол., Івац., Рас. (НЛ, ЖС, СНМ, Шаталава), *прэнт* м. – Стол. (ЛП), *ло́гма* ж. – Навагр. (СНМ).

# 2. НАЗВЫ ТРАДЫЦЫЙНЫХ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ ПРЫЛАД ПРАЦЫ, ІХ ЧАСТАК, ПРЫСТАСАВАННЯЎ, СПАДАРОЖНАГА НАЧЫННЯ

## 2.1. АГУЛЬНЫЯ НАЗВЫ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫХ ПРЫЛАД І ІХ ЧАСТАК

*начы́нне* н. – Лаг. (Варлыга), *снасць* ж. – Лаг. (Варлыга), *прычында́ліі* мн. іран. – Маз. (ЛМПП); *або́йкі* мн. 'састарэлыя ад выкарыстання прылады' – Слаўг. (Мат. Маг.).

**Назвы дзяржання (ручкі) у розных прыладах працы**: *дзяржа́льна* н. – Жытк. (Н. сл-сць), *чэ́ран* м., *чарано́к* м. – Зэльв. (Сцяцко), *чарано́* н., *чаранё* н., *чарано́к* м. памянш. – Гродз. р., Чэрв., Кам., Вілен. р., Беластоц. р. (СПЗБ), *чарашо́к* м., *чарашкі́* мн. памянш. – Смарг., Слон., Вілен. р., Латгал. р. (СПЗБ), *кача́н* м. – Паст., Вілен. р. (СПЗБ).

**Назвы вала з ручкай**: *ко́рба* ж. – Астр., Шчуч., Бар., Пух., Вілен. р. (СПЗБ).

**Назвы кальца для змацавання частак у прыладзе працы**: *рэ́хва* ж., *рэ́хвачка* ж. памянш. – Ашм., Гродз., Дзятл., Навагр., Пух., Беластоц. р. (СПЗБ); *аку́цце* н. 'металічныя дэталі, неабходныя для акоўкі драўляных землеробчых прылад: плуга, бараны і г. д.' – Гродз. р. (Цыхун).

### Акучнік

Плуг з дзвюма паліцамі для акучвання бульбы ці агародных раслін.

*со́шка* ж. – зах. з., пал. р., Беластоц. р. (СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., ЛП, ЛМПП, НСГТ, Сцяцко), *су́шка* ж. – Маз. (ЛМПП), *саха́* ж. – Вілен. р., Латгал. р. (СПЗБ), *со́шнік* м. – Маз. (ЛМПП), *распа́шнік* м. – Краснап., Кругл., Мсцісл., Чач. (Мат. Маг., Бялькевіч, Мат. апыт.), *распа́шка* ж. – Краснап. (Бялькевіч),

*абсыпальнік* м. – Воран. (СПЗБ), *асыпальнік* м. – Іўеў. (СПЗБ), *абсыпнік* м. – Мёр. (ЖНС), *разгонка* ж. – Жытк., Стол. (ТС, ЛМПП, Кучук), *разганячка* ж. – Жытк. (ЛМПП), *разгон* м. – Гор. (Мат. Маг.), *абгонка* ж. – Калінк. (ЛМПП), *абганялка* ж. – Лоеў. (Янкова), *абгорнік* м. – Астр. (Сл. Гродз.), *аборнік* м. – Паст. (СПЗБ), *рыхлік* м. – Мёр. (НС), *ралік* м. – зах.-пал. г. (ЛП), *радло* н. – Карэл., Навагр. (Сл. Гродз., Мат. Гродз.), *акучнік* (*акушнік*) м. – Верхнядзв., Калінк., Латгал. р. (СПЗБ, ЛМПП), *плужок* м. – Стаўб., Воран. (Мат. Гродз., СНМ).

### Апалушкі

Невялікія начоўкі для ачысткі зерня ў хатніх умовах.

*апалушкі* мн. – гродз.-бар. г. (пераважна паўн.-зах. частка), Бяроз., Кобр. (ЛАБНГ, ДСБ, Мат. Гродз.), *апалушкі* мн. – зах.-пал. г., Слуцк. р., усх. і паўдн. часткі гродз.-бар. г., Асіп., Пух. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, ЖНС), *палушкі* мн. – Івац., Ганц. (ЛАБНГ), *паланкі* мн. – пераважна цэнтр. з., спарадычна паўн. р., Петр. (ЛАБНГ, НС, Шаталава), *апаланкі* мн. – Ашм., Іўеў., Гл. (ЛАБНГ), *паланачкі* мн. – спарадычна Бярэз. р., усх.-маг. р., Чэрв. р., Глыб., Смарг., Астр., Мядз., Леп., Барыс., Докш., Віл. (ЛАБНГ, Сл. Гродз., НС), *апалачкі* мн. – Пін., Стол. (ЛАБНГ), *апаланачкі* мн. – Асіп., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *паланічкі* мн. – Лаг. (Шаталава), *паланнікі* мн. – Круп., Клім. (ЛАБНГ), *палайнікі* мн. – Мін. (ЛАБНГ), *апалайкі* мн. – Шчуч., Слон. (Сл. Гродз.), *апалайнікі* мн., *апаланікі* мн. – Маладз. (ЛАБНГ, СПЗБ), *апалінкі* мн. – Дзярж. (ЛАБНГ), *апалкі* мн. – Пін. (НЛ), *гапалкі* мн. – Іван. (ЖНС), *паланка* ж. – Смарг., Астр. (Сл. Гродз.), *начовачкі* мн. – паўн. р., усх.-маг. р., спарадычна паўдн.-усх. з., Зэльв. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *начоўкі* мн. – усх.-пал. р. (ЛАБНГ).

### Азярод

Прыстасаванне са слупоў і жэрдак для дасушвання збажыны, травы і да т. п.

*азярóд* м. – цэнтр. з., спарадычна віц.-маг. г., Жытк., Маз. (ДАБМ, ЛП, Мат. Гродз., Шаталава, Шатэрнік, Янкоўскі), *зярóд* м. – спарадычна цэнтр. з. (ДАБМ), *зірóд* м. – Калінк. (ЛМПП), *азярэ́да* ж. – Лаг. (ЖС), *азярáда* ж. – Шчуч. (Сл. Гродз.), *азярэ́ц* м. – Бых. (Н. сл-сць), *пераплóт* м. – пол.-мін. г., Шкл. (ДАБМ), *пярэ́плат* м., *пярэ́платы* мн. – Мёр., Паст., Смарг., Астр., Віл., Пол., Докш., Барыс. (СПЗБ, НЛ, НС), *пярэ́клад* м. – Леп., Астр. (ДАБМ), *пярэ́клады* мн. – Беш. (ДАБМ), *пярэ́клаці* мн. – Паст. (ДАБМ), *драбíны* мн. – Навагр. (Мат. Гродз.), *дрáбы* мн. – Ваўк. (Мат. Гродз.), *жэ́гіні* мн., *жэ́гі* мн, *іжэ́гіні* мн., *жагíні* мн. – крайняя паўн.-зах. частка паўн.-зах. з., Вілен. р., Латгал. р. (ДАБМ, СПЗБ), *жэ́геры* мн. – Астр. (Сл. Гродз.), *жáглі* мн. – Ваўк. (СПЗБ), *жагінéі* мн. – Гродз. (Сл. Гродз.), *казлы́* мн., *казéлцы* мн. – Добр. (ДАБМ), *кóзлы* мн. – Лоеў. (ДАБМ), *кóзла* мн. – Касц. (ДАБМ), *астрóўкі* мн. – паўн. р. (ДАБМ, НЛ, НС, Каспяровіч, Мат. апыт.), *астраўé* н. – Верхнядзв., Рас. (ДАБМ, НС), *астравíны* мн. – Віц. р. (ДАБМ, Каспяровіч), *астрагí* мн. – Смал. (ДАБМ), *дрýкі* мн., *друкí* мн., *davruчкí* мн. – спрадычна пол.-мін. г., спрадычна паўн.-зах. з. (ДАБМ, СПЗБ, НЛ, НС, Шаталава), *цапкí* мн. – Сен., Бярэз., Докш., Лаг., Чэрв., Раг. (СПЗБ, Каспяровіч), *цапы́* мн. – Верхнядзв., Глыб. (СПЗБ), *жарды́* мн. – Воран., Вілен. р. (СПЗБ), *байрáк* м. – спарадычна паўдн.-усх. з. і Гродз. р., Свісл., Пруж. (ДАБМ), *вéшалка* ж. – Стол. (ТС), *вішалá* ж. – Верхнядзв., Латгал. р. (СПЗБ), *стажáры* мн. – Рас. (ДАБМ), *стражы́на* ж. – Уздз. (ДАБМ), *расахéт* м., *расахéта* ж. – Ашм. (СПЗБ), *расахáткі* мн. – Вілен. р. (СПЗБ), *сцяг* м. – Барыс., Круп. (ДАБМ, Шаталава), *вы́шкі* мн. – Воран. (ДАБМ), *дрóнгі* мн. – Шарк. (ДАБМ), *под* м. – Стол. (ДАБМ), *пóдкі* мн. – Ганц. (СПЗБ), *гумнó* н. – Стол. (ДАБМ), *маяк* м.– Воран. (Мат. Гродз.), *ракéта* ж. – Іўеў. (СПЗБ), *рáма* ж. – Верхнядзв. (СПЗБ), *рэй* м. – Латгал. р. (СПЗБ), *нéрат* м. – мясц. (НСГТ); *зáраць* ж. ‘прыстасаванне для сушкі бобу’ – Шчуч. (СПЗБ);

**слуп або вертыкальная планка ў азяродзе**: *рашацéнь* м. – Віл., Лаг. (ЖС), *рашэ́ціна* ж. – Пух., Люб., Ганц. (СПЗБ).

## Апоўзіны

Звязаныя канцамі бярозавыя ці іншыя дубцы, якія ўскладаюцца на стог для ўмацавання сена.

*апоўзіны* мн., *апоўзліны* мн. – Іўеў., Пух., Раг., Лоеў., Вілен. р. (СПЗБ, ЖС, Янкова), *апоўзіна* ж., *апоўзень* м. – Лоеў. (Янкова), *апоўзнік* м. – Маз. (ГЧ), *апўзіны* мн. – Бяроз. (Шаталава), *апўзнік* м., *пізанне* н., *поўзень* м. – Пін. (ЛП, ЖС, НЛ), *поўзе* н. – Стол. (ЛП), *прыўды* мн., *прыўзы* мн., *прызва* ж. – Малар. (ДСБ, ЛП), *прыўза* ж. – Маз. (ЛП), *рэзкі* мн. – Драг. (ЖС), *рэдзгіні* мн. – Шчуч. (З нар. сл.), *розвіны* мн. – Ушацк. (НС), *прытыка* ж. – Жытк. (ТС), *крэст* м. – Лаг. (Шаталава), *крыжаванне* (*крыжаваня*) н. – Шчуч. (СПЗБ), *повяскі* мн. – Навагр. (Н. сл-сць), *паметнік* м. – Лельч. (Кучук), *пучок* м. – Маз. (Шаталава).

## Барана

Земляробчая прылада ў выглядзе рамы з вертыкальнымі зубамі або дыскамі для рыхлення (баранавання) глебы.

*барана* ж. – агульн. (СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., СНМ, ЛМПП, Сцяцко, Юрчанка), *валока* ж. – Нар. (ЛМПП), *драпач* м. – агульн. (НСГТ);

**прылада, якой рыхляць глебу**: *драпчык* м. – Слаўг. (Мат. Маг.), *сякач* м. – Стол. (ТС), *пружынка* ‘ручная прылада для рыхлення’ ж. – Кругл. (Мат. Маг.), *зігзаг* м. ‘від бараны’ – Гродз. (Мат. Гродз.).

## Часткі бараны:

**аснова**: *асада* ж. – Зэльв. (Сцяцко);

**зуб**: *зуб* м., *зубы* мн. – Зэльв. (Сцяцко), *зуб'е* н. зб. – усх.-пал. р., Чач. (ЛП, Мат. апыт.), *кляц* м. – Круп., Клім., Чач. (НС, Шаталава, Мат. апыт.), *клёц* м. – Сен., Бых. (ЖНС, Каспяровіч), *кліц* м. – Раг. (СПЗБ), *дзірбак* м. – Івац. (ЖС); *дзёбак* м. ‘вастрыё зуба’ – усх.-пал. р. (ЛП);

**аглобля** ‘бакавая планка, за якую чапляецца гуж’: *вóбжа* ж. – Мёр. (ЖНС);

**кальцо ці кручок для прымацавання ворчыка да бараны**: *цяглó* н. – спарадычна гродз.-бар. г., пал. р., Маг. р., Ушацк., Барыс., Жлоб. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз.), *цягí* мн. – Барыс., Лун. (ЛАБНГ), *кальцó* н. – Лун. (ДСБ, Шаталава), *бягýн* м. – Стол. (СПЗБ), *валачыдла* н. – Ганц. (СПЗБ); *бáнка* ж. ‘жалезнае кальцо на ворчыку’ – Рас. (Шаталава).

## Драўляная плеценая барана

*самадзíлак* м. – Стол. (ТС, ДСБ, ЛП), *драпáч* м. – усх.-пал. р. (ЛП), *бíтая баранá* – мясц. (НСГТ).

## Часткі драўлянай плеценай бараны:

**дугападобная частка асновы**: *лук* м. – усх.-маг. р., усх.-пал. р., Іўеў., Шчуч., Бар., Вілен. р. (СПЗБ, ЛП, НСГТ, Юрчанка), *лукá* ж. – зах. з., Стол. (ТС, НСГТ), *самалýк* м. – усх. з. (СПЗБ, ТС, ДСБ, ЛП, НСГТ), *самайлýк* м. – усх. з. (СПЗБ, НСГТ), *аблýк* м., *аблýка* ж. – усх.-пал. р. (ТС, ЛП, ЛМПП), *óблук* м. – зах. з. (НСГТ), *каблýк* м. – спарадычна зах. з., усх.-пал. р., Малар. (СПЗБ, ДСБ, ЛП, НСГТ, Сцяцко, Цыхун), *камлýк* м. – Зэльв. (Сцяцко), *закаблýк* м. – зах. з. (НСГТ), *абарóніч* м. – Івац. (НС), *абарóлец* м. – зах. з. (НСГТ);

**рашотчаты каркас**: *гужвы́* мн. – Зэльв. (Сцяцко);

**віткі-кольцы**: *верч* м. – Раг. (СПЗБ), *вíткі* мн. – Гродз. р. (НСГТ), *абарáнка* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *абарáнкі* мн., *абарáначкі* мн., *абарáнчыкі* мн. – паўн.-усх. д. (НСГТ), *каладóўка* ж., *калáч* м., *калáчык* м. – усх.-пал. р. (ТС, ДСБ, ЛП, ЛМПП), *калачы́* мн. – Гродз. р. (НСГТ), *грывенькі* мн. – Гродз. р. (НСГТ), *вýжвы* мн., *вужóўкі* мн., *гýжвы* мн., *гужóўкі* мн. – зах. з. (НСГТ), *гальвы* мн., *галёўкі* мн., *гальвіткі* мн. – пал. р. (НСГТ);

**зубы**: *цапóк* м. – Стол. (ТС), *кляцы́* мн. – усх. з. (НСГТ).

## Часткі рамнай драўлянай бараны:

**аснова**: *ставóк* м. – усх.-пал. р. (ЛП);

**брусок-перакладзіна**: *ра́ма* ж. – Латгал. р. (СПЗБ), *рамчу́к* м. – Вілен. р. (СПЗБ), *пруто́к* м. – Лях. (СПЗБ), *ля́ска* ж. – Вілен. р. (СПЗБ);

**брусок, у які ўбіваліся зубы**: *пяла́* н. – усх.-пал. р. (ЛМПП, Шаталава);

**планка, у якую ўбіваліся цвікі**: *біты* мн. – усх.-пал. р. (ЛМПП);

**гняздо для зуба**: *суто́к* м. – Кобр. (СНМ), *ві́лкавіца* ж. – Беластоц. р. (СПЗБ).

## Веялка (ручная)

Драўляны шуфлік для ручнога веяння збожжа пасля малацьбы.

*ве́ялка* ж., *ве́ялачка* ж. памянш. – паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г., пол.-мін. г., спарадычна зах.-пал. г., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЛП, ЛМПП), *ві́ялка* ж. – Докш., Віл., Навагр., Драг., Вілен. р. (СПЗБ), *ве́янка* ж. – Лун. (Шаталава), *ве́інка* ж. – Навагр. (Сл. Гродз.), *аве́янка* ж. – Слон. (СПЗБ), *вея́нка* ж. – Карэл., Слон., Лун., Маз., Лельч. (ЛАБНГ), *ве́яшка* ж. – Лях. (ЛАБНГ), *ве́нька* ж. – Навагр. (СРЛГ), *лапа́тка* ж. – віц.-маг. г., спарадычна паўдн.-усх. з. (ЛАБНГ, ТС, Мат. Маг., Юрчанка, Мат. апыт.), *лапа́та* ж. – Жлоб. (ЛАБНГ), *шу́фаль* м. – спарадычна паўн.-зах. з., Леп. (ЛАБНГ), *шу́хля* ж. – Беш. (ЛАБНГ), *шу́пля* ж. – Гродз. (ЛАБНГ), *шо́пля* ж. – заходняя частка зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *шо́фля* ж. – Кам. (ЛАБНГ), *шупэ́лька* ж. – Жытк., Малар. (ЛП), *саво́к* м. – Гом. р., спарадычна усх.-маг. г., Валож., Іўеў. (ЛАБНГ), *лато́к* м. – Івац. (ЛАБНГ), *варша́лка* ж. устар. – Круг., Бял., Бых. (Мат. Маг., Н. сл-сць), *ва́рха* ж. устар. – Круг., Бых. (Мат. Маг.), *ву́ка* ж. – Маз. (ЛП).

## Вілы

Ручная прылада з доўгім дзяржаннем з рагулінай або зубамі на канцы для падняцця і пераносу сена, саломы і да т. п.

*вілы* мн. – спарадычна зах. з., пал. р., Вілен. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., ЛП, ЛМПП), *відлы* мн. – Воран., Вілен. р. (СПЗБ, Шаталава), *вілкі* мн. – паўдн.-усх. з., Круп., Докш., Нясв., Віл., Бар., Ганц., Пін. (СПЗБ, ТС, ГЧ, ЛМПП, Кучук), *сахары* мн. – Слон. (ЖНС), *сахавілы* мн. – Пін. (СПЗБ), *драпкі* мн. – Бар. (СПЗБ), *двойні* мн. – Пол. (НЛ), *почап* м. – Бяроз. (ДСБ), *брызгачы* мн. – Бераст. (СРЛГ), *казлы* (*кузлы*) мн. – Драг. (ЖНСл), *куські* мн. – Кобр. (ДСБ), *кручкі* мн. – Шчуч. (Сл. Гродз.); *двузубнік* м. 'вілы з двума зубамі' – Віц. р. (Каспяровіч); вілы з трыма зубамі: *трайчакі* мн. – Маст. (Сл. Гродз.), *сахавілы* мн. – Пін. (Шаталава), *сашыла* н. – Верхнядзв. (СПЗБ), *дронг* м. – Смарг. (Шаталава), *сахор* м. 'вілы на тры-чатыры зубы' – Ганц., Старадарож. (СНМ), *траёву* прым., *трайны* прым. 'трохзубыя вілкі' – Жытк. (ТС, ЛМПП), *чацвярыкі* мн., *чацвярнікі* мн. 'вілы з чатырма зубамі' – Шчуч. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *габлі* мн. 'вілы з густа пастаўленымі зубамі' – Дзятл. (Мат. Гродз.), *габлі* мн. 'вілы з тупымі канцамі' – Гродз. (Сл. Гродз.); 'вілы з загнутымі зубамі': *драпачы* мн. – Слон. (ЖНС), *драпач* м. – Маз. (ЛМПП); 'вілы з доўгім чаранком': *падач* м. – Ганц. (СНМ), *навільнік* м. – Лоеў. (Янкова); *вілкі пачынальныя* 'вілы з кароткім дзяржаннем, якімі пачынаюць стог' – Жытк. (ТС, ЛМПП), *вілкі падстожныя* 'вілы з дзяржаннем сярэдняга памеру, якімі падаюць на стог' – Жытк. (ТС, ЛМПП), *вілкі верхавыя* 'вілы з доўгім дзяржаннем, якімі завяршаюць стог' – Жытк. (ТС, ЛМПП), *зубы* мн. 'вострыя канцы вілаў' – Лід. (Мат. Гродз.);

**драўляныя вілы**: *сахор* м. – паўдн.-усх. з., Мін. р. (ЛАБНГ), *сахар* м. – Карм., Акц., Ганц. (ЛАБНГ), *сахары* мн. – Навагр., Бераст. (ЛАБНГ), *сахавілы* мн. – Навагр. (ЛАБНГ), *сахавіла* н. – Івац. (ЛАБНГ), *вілы* мн. – асн. мас. г. (ЛАБНГ), *вілкі* мн. – спарадычна агульн., за выключэннем Гродз. р. (ЛАБНГ), *двойні* мн. – Сен., Чашн. (ЛАБНГ), *двойня* ж. – Ушацк. (ЛАБНГ), *двайчакі* мн. – Іўеў., Кам., Драг., Кобр., Іван. (ЛАБНГ), *рагач* м. – Лаг., Рэч., Нараўл. (ЛАБНГ), *рагулі* мн. – Шум. (ЛАБНГ), *патрасанкі* мн., *потрасні* мн. – Бых. (ЛАБНГ), *падавальніцы* мн. – Касц. (ЛАБНГ), *мач*

ацэн. 'дрэнна апрацоўваць зямлю' – Калінк. (СПЗБ), *закідаць* зак. 'ускапаць і засадзіць грады' – Калінк. (ЛМПП), *запусціць* зак. 'доўга не апрацоўваць зямлю' – Мсцісл. (Юрчанка), *супражыць* незак. 'апрацоўваць зямлю суполкай' – Гродз. (Цыхун).

**Араць**

Апрацоўваць зямлю плугам (першы раз).

*араць* незак. – агульн., Вілен. р. (ДАБМ, СПЗБ, ТС, ЛП, ГЧ, Каспяровіч, Сцяцко, Янкова, Шатэрнік), *гараць* незак. – гродз.-бар. г., зах.-пал. г., Беластоц. р. (ДАБМ, СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., Цыхун, Сцяцко), *вараць* незак. – усх.-пал. р. (ДАБМ), *раць* незак. – Калінк. (СПЗБ), *адгорваць* незак. – Гродз. (СПЗБ), *гараццa* незак. – Вілен. р. (СПЗБ), *узараць* зак. – Віл., Докш., Чэрв. (СПЗБ, Шатэрнік), *узораць* зак. – Лоеў. (Янкова), *узгараць* зак., *згараць* зак. – Гродз. (Сл. Гродз, Мат. Гродз.), *загорваць* незак., *пазагорваць* зак. – Дзятл., Лід. (СПЗБ), *выгараць* зак. – Астр., Воран., Шчуч., (СПЗБ, Цыхун), *выараць* зак. – Стол., Жытк. (ТС), *заараць* зак., *загараць* зак. – Верхнядзв., Іўеў., Маст., Смарг., Жытк. (СПЗБ, ТС, Мат. мін.-мал.), *наорваць* незак. – Астр. (СПЗБ), *паараць* зак. – Чэрв., Беластоц. р. (СПЗБ, Шатэрнік), *пагараць* зак. – Смарг., Іўеў., Вілен. р. (СПЗБ), *падараць* зак. – Круп. (СПЗБ), *перагараць* зак. – Гродз. (Цыхун), *прааpаць* зак. – Паст. (СПЗБ), *прыгорваць* незак. – Бяроз. (СПЗБ, ЛП), *прыгараць* зак. – Гродз., Шчуч., Валож. (СПЗБ, Мат. Гродз., Цыхун), *паўворваць* зак. – Лях. (СПЗБ), *разворваць* незак. – Навагр. (Мат. Гродз.), *увараць* зак. – Докш., Смарг., Віл. (СПЗБ), *уворуваццa* незак. – Раг. (СПЗБ), *аднавор* прысл., *аднавор'ю* прысл. – Пол. (НЛ), *пахаць* незак. – усх. з. (пераважна Гом. р. і ўсх.-маг. р.), Івац., Пін., Дзятл., Слон., Лід., Навагр., Верхнядзв., Віл., Брасл., Беластоц. р., Вілен. р. (ДАБМ, ЛАБНГ, СПЗБ, НС, ЛП, Мат. апыт.), *пахаццa* незак. – Мсцісл., Ганц., Віл. (СПЗБ, Юрчанка), *запахваць* незак., *запахаць* зак. – Докш., Маладз., Вілен. р. (СПЗБ), *успахаць*

зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *упахáць* зак. – Пол. (НЛ), *абмéшваць* незак. – Іўеў., Лаг. (Сл. Гродз., Варлыга), *узмяшáць* зак. – Чэрв. (Шатэрнік), *вярнýць* незак. – Брасл. (СПЗБ), *дзёрць* незак. – Паст. (СПЗБ), *паднімáць* незак. – Гродз., Шчуч. (Сл. Гродз., Мат. Гродз.), *плужыць* незак. – Чэрв. (Шатэрнік), *заплýжваць* незак. – Навагр. (Сл. Гродз.), *крóіць* незак. – Дзярж. (СПЗБ), *пасóраваць* зак. – Віл. (СПЗБ), *ралíць* незак. – Гродз. (Сл. Гродз.), *хадзíць* незак. – Лід. (СПЗБ), *цягнýць* незак. – Гродз. (СПЗБ), *дзіскавáць* незак. 'араць пад яравыя' – Лід. (Сл. Гродз.);

**араць цаліну** 'апрацоўваць плугам зямлю, якая ніколі не аралася': *дзéрці* незак., *падзéрці* зак. – Стол. (ТС), *садрáць* зак. – Петр., Ганц. (СПЗБ, Шаталава), *вы́драць* зак. – Іўеў. (СПЗБ), *падрáць* зак. – Жытк. (ТС), *разадрáць* зак. – Асіп. (СПЗБ), *узадрáць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *ламáць* незак. – Беластоц. р. (СПЗБ), *лýшчыць* незак. – Уздз. (СПЗБ), *падабрáць* зак. – Паст. (СПЗБ), *перавярнáць* незак. – Калінк. (СПЗБ), *усшарушáць* незак. – Мсцісл. (Юрчанка);

**узараць абы-як**: *пакрэ́мсаць* зак., *пакрэ́мзаць* зак. – Брасл. (СПЗБ), *узбарыляць* зак., *разбарыляць* зак., *пакавяркаць* зак., *памаздáчыць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка);

**аранне** (як працэс): *арáнне* н. – паўдн.-усх. з., цэнтр. з., спарадычна паўн. р., Жаб., Кам., Малар., Кругл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *араннé* н. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *араннё* н. – Гродз. (Сцяцко), *гарáнне* н. – гродз.-бар. г., Пруж., Брэсц., Ашм. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *гараццé* н. – пал. р., пераважна цэнтральная частка (ЛАБНГ, ЛП), *вóрыва* н. – Ельск. (ЛП), *гóрыва* н. – Навагр. (Мат. Гродз.), *завóрка* ж. – Карэл. (ЖС), *арбá* ж. – паўн.-зах. з. (пераважна паўночная частка), Беш., Пол., Віц. р. (ЛАБНГ, НЛ, НС, Мат. мін.-мал., Н. сл-сць, Каспяровіч), *аральбá* ж. – Лёзн. (ЛАБНГ), *арацьбá* ж. – Віц. р. (Каспяровіч), *пах* м. – Калінк. (ЛМПП), *пáхата* ж. – Хоц., Мсцісл., Хойн. (Бялькевіч, ЛМПП), *пáхань* ж. – Чав. (НС), *пашня́* ж. – Чэрв. (Шатэрнік), *пахáнне* н. – Мсцісл. (Юрчанка), *запáшка* ж. – Ваўк. (Мат. Гродз.), *ралля́* ж., *раллё* н. – Іван., Малар., Лёзн., Сен. (ЛП, Каспяровіч), *ральбá* ж. – Ма-

лар. (ЛП), *вясніна́* ж. 'вясновае ворыва' – Стол. (ЛП), *зябле́нне* н. 'зяблівае ворыва' – Зэльв. (Сцяцко), *маздáчанне* н. 'няўмелае ворыва' – Мсцісл. (Юрчанка), *ме́шань* ж. 'апошняе ворыва' – Лаг. (Варлыга), *падтрáіванне* н. 'ворыва другі раз' – Мсцісл. (Юрчанка), *плы́чыць* незак. 'рэгуляваць глыбіню ворыва' – Карэл. (Шаталава), *павярну́ць ду́ба* 'дрэннае ворыва, пры якім пласт зямлі перавернуты не цалкам, а часткова' – Драг. (Н. сл-сць), *папярэ́чка* ж. 'папярэчнае ворыва' – Лун. (ЛП), *падламáць* зак. 'араць упоперак поля' – Пін. (ЛП), *падго́н* м. 'прадольнае ворыва' – Стол. (ЛП);

**узараць зямлю вакол чаго-н.**: *абарáць* зак., *абво́рваць* незак. *або́раваць* незак. – Віл., Пруж. (СПЗБ), *апáхваць* незак. – Вілен. р. (СПЗБ), *ганя́ць* незак. – Докш., Глыб. (СПЗБ), *гані́ць* незак. – Ганц., Драг. (СПЗБ), *грані́ць* незак. – Шум. (СПЗБ).

### Араць уроскідку

Спосаб ворыва ад краёў да сярэдзіны загона, пры якім зямля адвальваецца ў супрацьлеглыя бакі.

*уро́скід* прысл. – гродз.-бар. г., Шарк., Астр., Лаг., Ушацк., Лёзн., Мін., Дзярж., Мсцісл., Слуцк., Лун., Стол., Лельч., Ельск. (ЛАБНГ, Леванцэвіч), *уро́скідзь* прысл. – усх.-маг. р., спарадычна зах.-пал. г., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Маг.), *уро́скідку* прысл. – сярэд.-бел. г., слуцк.-маз. г., Лях., Слон., Бяроз., Навагр., Стаўб., Тал., Паст., Ушацк., Лаг., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. апыт.), *ро́скід* м. – Зэльв., Мёр. (Сцяцко, Шаталава), *ро́скідзь* ж. – Кам., Бых. (ЛАБНГ), *ро́скідка* ж. – Лаг., Уздз., Карэл., Чэрв., Акц., Петр., Лельч., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС, Варлыга, Кучук, Шаталава, Шатэрнік), *ураскі́д* прысл. – Гродз., Рас., Шум. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ураскі́дку* прысл. – паўн. р., Воран., Лід., Бераст., Мсцісл., Клім., Івац., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Маг., Леванцэвіч, Юрчанка), *ураскі́дную* прысл. – Бяроз. (Леванцэвіч), *раскі́д* м. – Пол., Сен. (ЛАБНГ, НЛ), *раскі́дка* ж. – Мсцісл., Маст. (Сл. Гродз., Юрчанка), *раскі́даць*

зак. – Малар., Маз. (ЛП), *нарóскід* прысл. – Карэл., Брэсц., Стол., Лельч. (ЛАБНГ, ДСБ), *нарóскідзь* прысл. – Кобр. (ЛАБНГ, СНМ), *нараскíд* прысл. – Чашн. (ЛАБНГ), *нарóскідку* прысл. – Верхнядзв., Валож., Жытк., Лельч. (ЛАБНГ, Шаталава), *уразóр* прысл. – Рас., Гарад., Беш., Леп., Круп., Барыс., Гор., Касц., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *наразóру* прысл. – Нараўл. (ЛАБНГ), *уразóру* прысл. – спарадычна ўсх.-маг. р., Докш., Паст., Мядз., Пол., Верхнядзв., Ушацк. (СПЗБ), *уразвáл* прысл. – Хоц., Пол., Бяроз. (ЛАБНГ, Леванцэвіч), *наразвáл* прысл. – Жаб. (ЛАБНГ), *уразвóр* прысл. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *нарóзміт* прысл. – Малар. (ЛАБНГ), *уразгóн* прысл. – Бяроз. (Леванцэвіч), *уразгóнь* прысл. – Слаўг. (ЛАБНГ), *узагóн* прысл. – Гарад., Ганц., Воран., Вілен. р., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *уразнамёт* прысл. – Касц. (ЛАБНГ), *уразувóр* прысл. – Клім. (Мат. Маг.), *капíж* м. ‘правільнае ворыва ўроскід, калі дно баразны выбіраецца плугам не ў форме вострага вугла, а такім чынам, што адна палавіна баразны становіцца вышэй за другую’ – Драг. (Н. сл-сць).

## Араць усклад

Спосаб ворыва ад сярэдзіны да краёў загона, пры якім барозны адвальваюцца адна насустрач другой.

*усклáд* прысл. – асн. мас. г., спарадычна зах.-пал. г., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Леванцэвіч, Мат. апыт.), *насклáд* прысл. – Кам., Кобр., Драг., Жытк., Лельч., Ельск., Нараўл. (ЛАБНГ, СНМ, ГЧ), *наўсклáд* прысл. – Жытк., Маз., Лельч., Касц. (ЛАБНГ), *склад* м. – Жаб., Уздз., Жытк., Карэл., Смарг., Калінк., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС, ТС), *ускíд* прысл. – Рас., Шум., Сен. (ЛАБНГ), *наўскíд* прысл. – Беш., Лёзн., Сен., Чашн. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ускíдку* прысл. – Верхнядзв., Леп., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *скíд* м. – Пол. (НЛ), *наскíд* прысл. – Леп. (ЛАБНГ), *нáўскід* прысл. – Беш., Лёзн. (ЛАБНГ), *празагрэ́х* прысл. – Віл. (СПЗБ), *узрэ́х* прысл. – Бяроз. (Леванцэвіч), *узагóн* прысл. – Гродз., Бераст., Слон.,

Ваўк., Пруж., Бяроз., Ганц., Кам., Малар., Пух., Салігг. (ЛАБНГ, Леванцэвіч), *узвáл* прысл. – Гарад., Пол., Бяроз. (ЛАБНГ, Леванцэвіч), *улíшку* прысл. – Пін. (ЛАБНГ), *умéста* прысл. – Віц., Рас. (ЛАБНГ), *улáву* прысл. – Воран., Бяроз. (ЛАБНГ, Леванцэвіч), *укýчу* прысл. – Клім. (ЛАБНГ), *уралю́х* прысл. – Малар., Пін. (ЛАБНГ, НЛ);

***пачатак ворыва ўсклад:*** *злажы́ць загóн* – Навагр. (Мат. Гродз.), *злажы́ць склад* – Зэльв. (Мат. Гродз.).

## Баразніць

Рабіць барозны па засеяным полі плугам ці іншымі сельскагаспадарчымі прыладамі.

*ганя́ць* незак. – спарадычна агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ), *абагнáць* зак. – Бабр., Карэл. (ЛАБНГ), *абганя́ць* незак. – Лід., Шчуч., Слон., Лун., Жлоб., Калінк., Хойн., Нараўл. (ЛАБНГ), *атагнáць* зак. – Паст. (СПЗБ), *выганя́ць* незак. – Малар. (ЛАБНГ), *наганя́ць* незак. – Смарг. (СПЗБ), *паганя́ць* зак. – Віл., Смарг., Чэрв. (СПЗБ), *прагнáць* зак. – Пін., Ельск. (ЛАБНГ), *праганя́ць* незак. – Чэрв., Пін., Драг. (ЛАБНГ), *разганя́ць* незак. – Шарк., Рэч., Маз. (ЛАБНГ), *разагнáць* зак. – Саліг., Добр., Лельч. (ЛАБНГ), *ля́шыць* незак. – пол.-мін. г., Зэльв., Маладз. (ЛАБНГ), *ляшы́ць* незак. – Лаг. (Варлыга), *гранíць* незак. – Верхнядзв., Паст., Рас., Пол., Леп., Гарад., Пух., Асіп., Бых., Кір., Бял., Чэрв. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шаталава), *граня́ць* незак., *паграня́ць* зак. – Паст., Брасл. (СПЗБ), *баразнíць* незак. – зах.-пал. г., Слон., Іўеў., Валож., Клецк., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *пабаразнíць* зак. – Іўеў., Воран., Лід. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *вагáць* незак. – Бераст., Навагр., Ашм., Лях., Паст., Бял. (ЛАБНГ, СПЗБ, Н. слсць), *вáгаць* незак. – Кругл. (Мат. Маг.), *вагавáць* незак. – Вілен. р. (СПЗБ), *вагáціць* незак. – Дзятл. (Мат. Гродз.), *павагáць* зак., *павагавáць* зак. – Лях., Ганц., Вілен. р. (СПЗБ), *арáць* незак., *гарáць* незак. – Кам., Кобр., Ганц., Стол. (ЛАБНГ), *выгóрваць* незак. – Бяроз., Вілен. р. (СПЗБ), *адкрывáць* незак., *адкры́ць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *бараздже́нне* н.

‘паглыбленне баразён пасля сяўбы для сцёку вады’ – Маст. (Мат. Гродз.), *адара́ць* зак. ‘аддзяліць баразной частку загона для папярочных баразён’ – Віл. (СПЗБ), *абайсці́* зак. ‘абысці вакол загона з плугам, бараной’ – Вілен. р. (СПЗБ).

**Баранаваць**

Разрыхляць глебу бараной.

*баранава́ць* незак., *пабаранава́ць* зак. – асн. мас. г., спарадычна зах.-пал. г. (ДАБМ, ТС, ЛП, СНМ, Мат. Гродз., ГЧ, Каспяровіч, Шатэрнік), *барані́ць* незак. – Гом. р., Маг. р., Беш., Пух., Лід., Слон., Пін., Калінк., Вілен. р. (ДАБМ, СПЗБ), *баразні́ць* незак. – Маст. (СПЗБ), *забаро́ньваць* незак. – Лід. (СПЗБ), *баранава́нне* н. – Воран., Зэльв., Навагр. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *барано́ўка* ж. – Карэл. (Сл. Гродз.), *скарадзі́ць* незак. – цэнтр. з., віц.-маг. г., спарадычна пал. р. (ДАБМ, СПЗБ, Мат. Маг., Каспяровіч, Юрчанка), *скарадзьбі́ць* незак. – Мсцісл. (Юрчанка), *скаро́дзіць* незак. – Мсцісл., Лаг. (Варлыга, Мат. апыт.), *скварадзі́ць* незак. – Ашм. (СРЛГ), *скаваро́дзіць* незак. – Навагр. (Сл. Гродз.), *заскаро́дзіць* зак. – Клім. (Бялькевіч, Каспяровіч), *паскаро́дзіць* зак. – Бярэз., Чач. (СПЗБ, Мат. апыт.), *праскарадзі́ць* зак. ‘пабаранаваць пэўны час’ – Мсцісл. (Юрчанка), *скарадзьба́* ж., *скарадзьбе́нне* н., *скаральба́* ж., *скараджэ́нне* н. – Віц. р., Мсцісл., Чав., Чач. (Мат. Маг., Каспяровіч, Юрчанка, Мат. апыт.), *скаро́джанне* н. – Хойн. (ЛМПП), *валачы́ць* незак. – пал. р., усх.-маг. р., Кліч., Круп., Лід. (ДАБМ, ЛП, СНМ, ЖС), *павалачы́ць* зак. – Лоеў. (Янкова), *вало́чыць* незак. – Хойн., Петр. (ЛМПП), *звало́чка* ж. – Кам. (ДСБ), *паха́ць* незак. – паўн.-усх. д., спарадычна сярэд.-бел. г. (ДАБМ, Мат. Маг.), *запа́хваць* незак. – Арш. (ДАБМ), *прыбіва́ць* незак. – Астр., Ашм., Мядз., Мёр., Ушацк., Уздз., Асіп., Старадарож. (ДАБМ), *пабіва́ць* незак. – Карэл., Бар. (ДАБМ), *прыбіва́нне* н. – Ваўк. (Мат. Гродз.), *драпу́зіць* незак. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *падме́шваць* незак. – Тал. (ДАБМ), *раўня́ць* незак. – Чэрв.,

Светлагор. (ДАБМ), *ламáць* незак. – Крыч. (ДАБМ), *пераламáць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *заламáць* зак. – Ашм. (ДАБМ), *разавáць* незак. – Кам. (ДАБМ), *надаўжавáць* зак. – Кобр., Драг. (ДАБМ), *надóўжваць* незак. – Ганц., Іван., Петр. (ДАБМ), *парýхаць* зак. – Вілен. р. (СПЗБ), *пахрысцíць* зак. – Жытк. (ТС);

**баранаваць поле**: *баранавáць* незак. – паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г., паўн.-зах. з., спарадычна зах.-пал. г., Пол., Віц., Клім., Паст., Брасл., Мёр. (ЛАБНГ, СПЗБ), *барнавáць* незак. – Ганц., Астр., Віл. (СПЗБ), *скарадзíць* незак. – спарадычна віц.-маг. г. і слуцк.-маз. г. (ЛАБНГ), *скарóдзіць* незак., *паскарóдзіць* зак., *заскарóдзіць* зак. – Чэрв., Пух. (Шатэрнік), *скарадзьбá* ж. – Чэрв. (Шатэрнік), *валачы́ць* незак. – паўдн. р., Мсцісл. (ЛАБНГ, Шаталава, Юрчанка), *валачэ́нне* н. – Мсцісл. (Юрчанка), *навалóчаваць* незак. – Драг. (ЛП), *пахáць* незак. – паўн.-усх. д., Уздз., Чэрв., Лаг., Буда-Каш., Карм. (ЛАБНГ, НЛ, Шаталава), *прыбівáць* незак. – Смарг., Іўеў. (ЛАБНГ), *пахадзíць* незак. – Іван. (ЛАБНГ), *пабрайсáць* зак. – Іўеў. (Мат. мін.-мал.), *пахрысцíць* зак. ‘пабаранаваць уздоўж і ўпоперак’ – Жытк. (ТС), *удлíн* прысл. ‘уздоўж’ – Мёр. (НС), *кóўзацца* незак. ‘баранаваць мокрую раллю’ – Пух. (СПЗБ), *ты́ллем* прысл. ‘баранаваць перавернутай уверх бараной’ – Пол. (СНМ);

**баранаваць смыкам**: *смыкавáць* незак. – Рас. (Шаталава), *засмы́каць* зак. – Віл. (ЖС);

**баранаваць спружыноўкай**: *спружынавáць* незак. – Навагр. (Мат. Гродз.), *паспранжынавáць* зак. – Бар., Бераст. (Сл. Гродз.), *тарпáчыць* незак. – Мёр., Рас. (ЖНС, Шаталава), *дзярбáчыць* незак. – Сен. (Каспяровіч);

**баранаваць перад сяўбой**: *прыбíць* зак., *прыбівáць* незак. – Астр., Воран., Пол. (Мат. Гродз., НЛ), *перабівáць* незак. – Ельск. (ЛП), *параўнóўваць* незак. – Кругл. (Мат. Маг.), *параўнíць* зак. – Чэрв. (Шатэрнік), *падóўжыць* зак., *надóўжыць* зак. – Стол. (ТС), *развалóчываць* незак. – Малар., Нараўл. (ЛП), *падтрóйка* ж. ‘баранаванне папару перад ворывам’ – Докш. (Мат. мін.-мал.);

**баранаваць пасля першага ворыва**: *баранава́ць* незак. – агульн. (акрамя Віц. р.), спарадычна ўсх.-маг. р. (ЛАБНГ), *барнава́ць* незак. – спарадычна паўн. р., Чэрв. (ЛАБНГ), *скарадзі́ць* незак. – віц.-маг. г., сярэд.-бел. г., Слуцк., Лях. (ЛАБНГ), *валачы́ць* незак. – зах.-пал. г., усх.-пал. р. (ЛАБНГ), *паха́ць* незак. – Бых., Касц. (ЛАБНГ), *падлама́ць* зак. – Арш., Гарад., Тал., Дубр., Раг. (ЛАБНГ), *падло́мваць* незак. – Дзятл. (СПЗБ), *ламанне* н. – Мсцісл. (Юрчанка), *прыбіва́ць* незак. – Гродз., Смарг. (ЛАБНГ), *раўні́ць* незак. – Чэрв. (ЛАБНГ), *разава́ць* незак. – Кам. (ЛАБНГ), *наддо́ўжыць* зак. – Стол. (ЛАБНГ), *задлужава́ць* незак. – Гродз. (Сл. Гродз.);

**баранаваць пасля другога ворыва**: *баранава́ць* незак. – паўдн.-зах. д., спарадычна паўн.-усх. д., зах.-пал. г. і сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ), *барнава́ць* незак. – спарадычна паўн. р. (ЛАБНГ), *скарадзі́ць* незак. – сярэд.-бел. г., віц.-маг. г., Гом., Добр., Лельч., Слуцк., Уздз. (ЛАБНГ), *валачы́ць* незак. – паўдн. р., Мсцісл. (ЛАБНГ), *паха́ць* незак. – Лёзн., Круп., Кругл., Бых., Касц. (ЛАБНГ), *залама́ць* зак. – Віл. (ЛАБНГ), *падлама́ць* зак. – Тал., Арш. (ЛАБНГ), *паралама́ць* зак. – Слаўг. (ЛАБНГ), *прыбіва́ць* незак. – Ашм., Лаг., Валож. (ЛАБНГ); *раўнава́ць* незак. – Віл., Асіп. (ЛАБНГ);

**пабаранаваць абы-як**: *пабэ́хаць* зак. – Пух. (СПЗБ), *паёдзгаць* зак. – Смарг. (СПЗБ), *скарадну́ць* зак. (пра бульбу) – Мсцісл. (Юрчанка), *паскра́баць* зак. 'злёгку пабаранаваць' – Мсцісл. (Юрчанка), *скраба́нне* н. 'неглыбокае баранаванне' – Мсцісл. (Юрчанка), *паразадра́ць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка);

## Догляд пасеваў

*дымі́ць* незак. 'апрацоўваць спецыяльным спосабам цыбулю, каб не пагнала ў стрэлкі' – Слон. (НЛ), *падыма́ць* незак. 'выпрамляць каліва расліны пасля апрацоўкі зямлі плугам' – Маст. (СПЗБ), *адкру́жваць* незак., *акружа́ць* незак. 'абразаць бацвінне' – Жытк. (ТС, Н. сл-сць), *пастаўбунава́ць* зак. 'зрэзаць цыбуры ў цыбулі' – Лід. (Сл. Гродз.), *сынкава́ць* незак. 'абразаць галінкі з табакі, памідораў' –

Карэл. (Мат. Гродз.), *сморгаць* незак. ‘абрываць бацвінне, авёс, траву’ – Верхнядзв. (Шаталава), *спяліць* незак. ‘даваць магчымасць паспець, не зрываць (не зжынаць) зялёнымі сельскагаспадарчыя культуры’– Пол. (НЛ), *абкрапіць* зак. ‘паліць гародніну’ – Жытк. (ТС), *паддабрыць* зак. ‘падкарміць (расліны)’ – Мсцісл., Верхнядзв. (Юрчанка, СПЗБ), *прахадзіць* незак. ‘абыходзіць поле пры доглядзе, уборцы’ – Мсцісл. (Юрчанка), *узвесцісь* зак. у спалучэнні: *узвесцісь на такі сорт* ‘перайсці на вырошчванне іншых агародных культур’ – Мсцісл. (Юрчанка), *маркаваць* незак. ‘намячаць радкі для пасеву’ – Зэльв. (Сл. Гродз.).

### Зябліць

Араць поле ўвосень пад веснавую сяўбу.

*араць* незак. – спарадычна паўн.-усх. д. і сярэд.-бел. г., Карэл., Кам., Кобр. (ЛАБНГ), *гараць* незак. – Шчуч., Лід., Дзятл., Брэсц., Івац., Іван., Драг., Пін. (ЛАБНГ), *загараць* зак. – Навагр. (ЛАБНГ), *разгорваць* незак. – Драг. (ЛАБНГ), *араць на зяб, араць пад зяб* – спарадычна паўн.-усх. д. і слуцк.-маз. г., Добр., Бярэз., Лаг., Гродз., Ваўк., Жлоб. (ЛАБНГ), *араць зябліва* – Верхнядзв., Смарг., Глыб., Лаг., Чашн. (ЛАБНГ), *араць на зіму* – спарадычна паўн.-усх. д. і сярэд.-бел. г., Бяроз., Рэч. (ЛАБНГ), *гараць на зіму* – Бяроз., Іўеў., Валож., Ашм. (ЛАБНГ), *араць азімак* – Віл., Мядз. (ЛАБНГ), *араць на пар* – Рэч. (ЛАБНГ), *араць узмёт* – Тал. (ЛАБНГ), *зябліць* незак., *зяміць* незак. – паўдн.-зах. д. (пераважна заходняя частка), зах.-пал. г., Чэрв., Пух., Маг., Шкл., Кір., Бярэз., Чашн., Рас., Пол., Клім., Касц. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., ЛП), *зяб* м., *зябленне* н. – Гродз., Лельч., Хойн. (ЛАБНГ, Цыхун, Сцяцко, ЛМПП), *зябліць* незак. – Беластоц. р. (СПЗБ), *пазябліць* зак. – Ганц., Драг. (СПЗБ, ЛП), *пазябіць* зак. – Гродз. (Цыхун), *адзябліць* зак. – Іўеў. (СПЗБ), *зямліць* незак., *пазямліць* зак. – Бар., Нясв. (ЛАБНГ, СПЗБ), *зябрыць* незак. – Смарг. (СПЗБ), *падымаць* незак. – Бяроз. (ЛАБНГ), *падымаць зяб, падымаць на зяб, падымаць пад зяб* – Круп.,

Кругл., Бял., Слаўг., Краснап., Бераст., Рэч., Верхнядзв. (ЛАБНГ), *пахáць* незак. – Ветк., Мсцісл. (ЛАБНГ), *пахáць зяблíва* – Мсцісл. (ЛАБНГ), *пáрыць* незак. – Лельч., Люб., Асіп. (ЛАБНГ), *падпáрваць* незак., *папáрыць* зак. – Драг., Малар., Нараўл. (ЛП), *запáрваць* незак. – Бярэз., Стол. (ЛП), *мяшáць* незак. – Мсцісл., Чэрв. (ЛАБНГ), *пакідáць* незак., *раскідáць* незак. – Пруж., Беластоц. р. (ЛАБНГ, ЖНС, СПЗБ), *падкідáць* незак. – Нараўл. (СПЗБ), *параламáць* зак. – Кобр. (СНМ), *распускáць* незак. – Малар. (ЛП), *траíць* незак. – Валож., Іван., Стол. (ЛАБНГ), *гарáць узагóн* прысл. – Гродз. (Цыхун).

## Культываваць

Апрацоўваць пасевы культыватарам (драпаком).

*драпачавáць* незак. – Гродз., Маст. (Мат. Гродз., Сл. Гродз., Шаталава), *драпкавáць* незак. – Навагр. (Мат. Гродз.), *спружынавáць* незак., *спрунжынáваць* незак. – Ашм., Маст., Навагр., Кобр., Беластоц. р. (СПЗБ, ЖС, Сл. Гродз., СНМ), *пружынавáць* незак. – Беластоц. р. (СПЗБ), *перадрáць* зак. – Зэльв. (Сцяцко);

**апрацоўваць зямлю рыдлёўкай**: *капáць* незак., *рыдлавáць* незак. – Навагр. (СРЛГ), *лапаткавáць* незак. – Кам. (ЖНС);

**падраўноўваць рыдлёўкай грады**: *аплескавáць* незак., *аплéскаць* зак. – Бар., Лях. (СПЗБ), *парыць* незак. – Мсцісл. (Бялькевіч), *паўскáпуць* зак. – Раг. (СПЗБ), *паравашавáць* зак. – Вілен. р. (СПЗБ);

**падкопваць бульбу, не вырываючы каліва**: *падкáпаваць* незак. – Пол. (НЛ), *пóркаць* незак. – Верхнядзв. (СПЗБ);

**апрацоўваць граблямі зямлю**: *падрэ́паць* зак. – Чэрв. (Шатэрнік), *чóхрыць* незак. – Стол. (ТС).

## Ляшыць

Разбіваць (дзяліць) участак зямлі на палосы.

*ляшыць* незак., *ляшыць* незак., *паляшыць* зак., *ляшэ́нне* н. – Сен., Пол., Шкл., Мсцісл., Дзятл., Зэльв., Беластоц. р.,

Вілен. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., Н. сл-сць, Мат. Маг., НЛ, Каспяровіч, Юрчанка), *парцэлявáць* зак. – Вілен. р. (СПЗБ), *парцэлінавáць* зак. – Астр. (СПЗБ), *парцыля́цыя* ж. ‘выдзяленне зямельных участкаў у час хутарской сістэмы’ – Смарг. (СПЗБ), *адысці́* зак. – Пол. (НЛ), *адхадзі́ць* зак. – Іўеў. (СПЗБ), *адбі́ць* зак., *атвадзі́ць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *парэ́заць* зак. – Вілен. р. (СПЗБ), *пазагу́ншчына* ж. ‘падзел зямлі на загоны’ – Стол. (НЛ, ДСБ).

## Матычыць

Апрацоўваць пасевы сельскагаспадарчых раслін матыкай.

*мaты́чыць* незак. – спарадычна сярэд.-бел. г. і ўсх.-маг. р., Пол., Ушацк., Лях., Пруж., Кобр., Беластоц. р. (ЛАБНГ, ЖНС, Юрчанка), *маты́жсыць* незак. – Гродз. (Цыхун), *падматы́жсыць* зак. – Тал. (ЛАБНГ), *узматы́чыць* зак. – Круп. (ЖС), *маты́каваць* незак. – Віл., Чэрв., Гродз., Паст., Смарг., Дзятл., Люб., Саліг., Кам., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., СНМ), *паматыкавáць* зак. – Нясв., Гарад. (СПЗБ), *гáкаць* незак. – Ашм., Астр., Навагр., Смарг. (СПЗБ, З нар. сл., Н. сл-сць, Сл. Гродз.), *гакавáць* незак. – Ашм., Астр., Смарг. (Сл. Гродз.), *гачкавáць* незак. – Навагр., Ашм., Валож., Смарг., Іўеў. (ЛАБНГ, СПЗБ, Н. сл-сць, Сл. Гродз.), *гáчыць* незак. – Маст. (СПЗБ), *агáпаць* зак. – Дзятл. (СПЗБ), *грасавáць* незак. – Гродз., Бераст., Пін., Жаб., Браг., Стаўб. (ДСБ, З нар. сл., ЖС, Сл. Гродз., Цыхун, Шаталава), *грасáць* незак., *паграсáць* зак. – Маст. (СПЗБ), *аграсавáць* зак. – Маладз. (ЛАБНГ, СПЗБ), *капані́чыць* незак. – Бабр., Карм., Жлоб., Рэч., Ветк., Гор., Лоеў., Жытк., Чач., Бярэз., Шчуч., Стаўб., Бых., Уздз., Гродз. (ЛАБНГ, Мат. Маг., НС, ЖНС, Мат. мін.-мал., Сл. Гродз., ЛМПП, Янкова, Мат. апыт.), *акапані́чваць* незак., *абкапані́чыць* зак. – Дзятл., Свісл., Гл., Рэч., Слаўг., Круп., Маг., Бых. (ЛАБНГ, СРЛГ, Сл. Гродз., Янкоўскі), *ускапані́чыць* зак. – Бял. (Мат. Маг.), *абабівáць* незак., *абабі́ць* зак. – Астр. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *абівáць*

незак., *аббіва́ць* незак., *падбіва́ць* незак. – усх.-маг. р. (ЛАБНГ), *агрэ́бваць* незак., *агрэ́баць* зак. – Петр., Лельч., Стол., Ганц., Лун., Малар., Люб. (ЛАБНГ, Кучук, Шаталава), *абго́ртваць* незак., *падго́ртваць* незак., *абго́ртаць* зак. – Уздз., Асіп., Кам., Брэсц., Пін., Малар. (ЛАБНГ), *ако́пваць* незак., *абко́пваць* незак. – спарадычна паўдн.-усх. з., Глыб., Астр., Шчуч., Дзятл. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз.), *ака́паваць* незак. – спарадычна паўдн.-усх. з. і паўн. р., Гор., Бял., Гродз., Малар. (ЛАБНГ), *аку́чваць* незак. – спарадычна ўсх. з. і гродз.-бар. г., Жаб., Малар. (ЛАБНГ, ЛП), *кучкава́ць* незак. – Маст. (Шаталава), *ку́чыць* незак. – Карэл. (СПЗБ), *асыпа́ць* незак., *абсыпа́ць* незак. – зах. з. (пераважна гродз.-бар. г. і зах.-пал. г.), Арш., Бых., Раг., Слуцк. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНС), *даганя́ць* незак. 'заканчваць абсыпаць бульбу' – Чэрв. (Шатэрнік), *вярну́ць* незак. – Шчуч. (СПЗБ), *драба́чыць* незак. – Пол. (НЛ), *вы́драпачаваць* зак. – Бяроз. (ЖНС), *драпакава́ць* незак. – Гл., Астр. (Янкоўскі, СНМ), *драпа́чыць* незак. – Стол. (ДСБ), *капы́ліць* незак. – Рас., Пол., Сен., Лёзн. (ЛАБНГ, Шаталава), *крукава́ць* незак. – Чэрв. (СПЗБ, НЛ), *падаўба́ць* зак., *падзяба́ць* зак. – Дзятл. (СПЗБ, Сл. Гродз.), *пакльва́ць* зак. – Воран. (СПЗБ), *падме́шваць* незак. – Бярэз. (ЖНС), *падпушы́ць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *перасяка́ць* незак. – Стол., Свісл., Люб. (СПЗБ, ТС, ЛМПП, Шаталава), *перацá́паць* зак. – Лоеў. (Янкова), *пертраяніць* зак. – Бярэз. (СПЗБ), *пляска́ць* незак. – Маст. (Сл. Гродз.), *радлава́ць* незак., *ры́сліць* незак., *со́ўкаць* незак. – Навагр. (ЛАБНГ, З нар. сл., Сл. Гродз.), *ру́шыць* незак.– Дзятл. (Мат. Гродз.), *углава́ць* незак. – Карэл. (Сл. Гродз.), *пасава́ць* незак. – Слон. (Сл. Гродз.), *са́паць* незак., *сапава́ць* незак., *сапкава́ць* незак., *цапкава́ць* незак., *сапну́ць* зак. – Жытк., Стол. (ТС), *тасава́ць* незак. – Лід., Карэл. (Сл. Гродз.), *цапка́ць* незак. – Вілен. р. (СПЗБ), *спу́льхніць* зак. – Беластоц. р. (СПЗБ), *цёпкаць* незак. – Лях. (СПЗБ), *ця́паць* незак. – Калінк. (ЛМПП); *шарава́ць* незак. – Лід. (СПЗБ), *шарушы́ць* незак. – Мсцісл. (Юрчанка).

## Мяшаць

Пераворваць паўторна.

*мяшáць* незак. – паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г., слуцк.-маз. г., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, НЛ, Шатэрнік), *перамяшáць* зак., *перамéшваць* незак. – спарадычна паўн.-усх. д., Чэрв., Драг., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП), *абмéшваць* незак., *абмяшáць* зак., *узмéшваць* незак., *узмяшáць* зак. – спарадычна паўн.-усх. д. (ЛАБНГ, НЛ, НС), *арáць* незак., *пераарáць* зак. – спарадычна паўд.-зах. д., Мядз., Смарг. (ЛАБНГ), *перавóрваць* незак. – Чэрв., Бяроз., Стол., Жытк., Малар. (ТС, ЛП, СПЗБ, Шатэрнік), *гарáць* незак., *перагарáць* зак. – гродз.-бар. г., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *адóрваць* незак., *адарáць* зак. – Астр., Смарг. (СПЗБ), *пахáць* незак. – Віл., Шчуч., Саліг., Петр., Буда-Каш., Ветк., Гом., Клім. (ЛАБНГ), *перапахáць* зак. – Мін., Стаўб., Саліг., Петр., Нараўл., Пол., Мсцісл. (ЛАБНГ, СПЗБ, Юрчанка), *падымáць* незак., *падняць* зак. – Іўеў., Воран., Віл., Бяроз., Браг. (ЛАБНГ), *ламíць* незак. – Кобр. (ЛАБНГ, СНМ), *пераламíць* зак. – Стол. (НЛ), *ралíць* незак. – Малар. (ЛАБНГ), *перадзéлываць* незак. – Крыч. (Мат. Маг.), *перапáлюваццa* незак. – Раг. (СПЗБ), *картáць* незак. – Вілен. р. (СПЗБ), *дваíць* незак. – Чэрв. (Шатэрнік), *падтрáіваць* незак., *падтраíць* зак.– Лоеў., Мсцісл. (Янкова, Юрчанка).

## Палоць

Ачышчаць пасевы ад пустазелля.

*палóць* незак., *апалóць* зак. – агульн. (СПЗБ, Мат. Гродз., ТС, Бялькевіч, Варлыга, Каспяровіч, Юрчанка, Мат. апыт.), *апóлаць* незак. – Навагр. (Шаталава), *пéляць* незак. – Астр., Вілен. р. (СПЗБ), *плець* незак. – Вілен. р. (СПЗБ), *спалáць* зак. – Круп. (НС), *вываш*аваць зак. – Бярэз. (СПЗБ), *гáкаць* незак. – Навагр., Зэльв. (Н. сл-сць, Мат. апыт.), *драць* незак. – Уздз. (Мат. мін.-мал.), *падкóрпліваць* незак. – Пух. (СПЗБ); *шаравáць* незак. – Хойн. (ЛМПП);

***поліва:*** *по́ліва* н. – Чэрв., Астр., Іўеў., Мёр., Пол. (ЖНС, НЛ, Мат. Гродз., Шатэрнік), *палацце́* н., *палацё* н. – Гродз., Шчуч., Зэльв. (СПЗБ, Мат. Гродз., Сцяцко), *паланнё* н. – Зэльв. (Сцяцко), *пало́цце* н. – Кобр., Мсцісл. (ЛП, Юрчанка), *пало́сце* н. – Вілен. р. (СПЗБ), *по́лацце* н. – Верхнядзв. (СПЗБ), *прапо́лка* ж. – Дзятл. (Мат. Гродз.), *по́лка* ж. – Лоеў. (Янкова).

**Прарошчваць (пра насенне)**

Чакаць паяўлення растка.

*праро́шчваць* незак. – агульн., спарадычна гродз.-бар. г., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, СПЗБ), *расці́ць* незак. – спарадычна агульн. (ЛАБНГ), *храсці́ць* незак. – гродз.-бар. г., Касц., Гл., Воран., Іўеў. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., Сцяцко).

**Прарэджваць**

Рабіць радзейшым.

*прарыва́ць* незак., *прарва́ць* зак. – Паст., Навагр., Свісл., Верхнядзв., Ваўк. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *прара́джываць* незак., *празра́джываць* незак. – Мсцісл. (Юрчанка), *прасвірэ́джваць* незак. – Навагр. (Сл. Гродз.).

**Садзіць**

Закопваць каліва расліны ў зямлю для вырошчвання.

*садзі́ць* незак., *пасадзі́ць* зак. – агульн. (СПЗБ, Мат. Гродз., Бялькевіч, Сцяцко, Янкова), *саджа́ць* незак. – Мін., Лях., Калінк. (СПЗБ), *рассадзі́ць* зак. – Лаг. (Варлыга), *садаві́ць* незак. – Ваўк., Свісл. (Мат. Гродз., СПЗБ), *пікава́ць* незак. – Бераст. (Сл. Гродз.), *тыркаць* незак., *уто́рнуць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *пато́ркаць* зак., *пату́ркаць* зак. – Верхнядзв., Брасл., Вілен. р. (СПЗБ), *патурыць* зак. ‘пасадзіць’ – Мсцісл. (Юрчанка), *паўстрыга́ць* зак. – Зэльв. (Сцяцко),

*насáджваць* незак. ‘садзіць у тым месцы, дзе не ўзышло’ – Навагр. (Мат. Гродз.), *натáскванне* н. ‘заграбанне радкоў і лунак зямлёй пасля пасадкі гародніны’ – Навагр. (Сл. Гродз.);

**садзіць бульбу**: *садзíць* незак. – агульн., спарадычна зах.-пал. г. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *сéяць* незак. – усх. з., Драг., Іван. (ЛАБНГ, СПЗБ, ГЧ, Юрчанка), *кíдаць* незак., *кідáць* незак. – спарадычна пал. р., Стаўб., Чэрв. (ЛАБНГ, Шатэрнік), *клáсці* незак. – Браг. (ЛАБНГ), *упáшкі* мн. – Астр. (Сл. Гродз.), *узнáкі* прысл. – Пін. (СНМ); *садзíць наўзрэ́х* ‘садзіць бульбу ў нізкім месцы’ – Навагр. (Мат. Гродз.),

**заканчэнне пасадкі бульбы**: *дасáдзіны* мн., *усéдкі* мн. – Свісл. (Сл. Гродз.).

## Сеяць

Раскідваць насенне на апрацаваную глебу.

*сéяць* незак., *засéяць* зак., *пасéяць* зак. – агульн. (СПЗБ, ГЧ, ЛП, ТС, НЛ, Мат. Гродз., Сцяцко, Юрчанка, Варлыга, Бялькевіч, Янкова, Шатэрнік), *асявáць* незак., *асéяць* зак. ‘займаць пад пасевы’ – Мсцісл. (Юрчанка), *насявáць* незак. ‘сеяць у вялікай колькасці’ – Навагр. (СПЗБ), *укідáць* зак. – Пух. (Мат. мін.-мал.), *падчыня́ць* ‘падсяваць’ незак. – Драг., Малар., Стол. (ЛП), *азярня́ць* незак., *азярня́ціць* зак. ‘засеяць зернем’ – Свісл. (Сл. Гродз.), *бры́гаць* незак. ‘рэдка сеяць’ – Пол. (НЛ), *залажы́ць* зак. ‘прыгатаваць для пасеву зямлю і пачаць сеяць’ – Беластоц. р. (СПЗБ);

**перасейванне ўчастка зямлі**: *адсéў* м. – Гродз. (Мат. Гродз.), *вóдсеў* м. – Слуцк., Мсцісл. (ЖНС, Юрчанка).

## Сяўба

Час, калі сеюць.

*сяўбá* ж. – агульн., Беластоц. р. (СПЗБ, ДСБ, ЛП, Шатэрнік), *сéева* н. – Карэл. (Сл. Гродз.), *сéўна* ж. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *сяйвó* н. – Дзятл. (Сл. Гродз.), *сéяне* н. – Ваўк.

(СПЗБ), *пасяўна́я* прым. – Люб. (СПЗБ), *па́шня* ж. – Паст. (ЛАБНГ);

**пачатак сяўбы**: *засе́ўкі* мн. – Шчуч., Віл., Лаг., Зэльв., Ганц. (СПЗБ, Мат. Гродз., Варлыга), *засе́ялкі* мн. – Навагр. (ЖС);

**заканчэнне сяўбы**: *дасе́ўкі* мн. – Ганц., Іўеў., Чэрв. (СПЗБ, Мат. Гродз., Шатэрнік), *до́сеўкі* мн. – Ваўк. (Сл. Гродз.), *усе́ўкі* мн. – Лаг., Віл. (СПЗБ, Варлыга), *упа́шкі* мн. – Пол. (НЛ), *упазні́ць* зак. ‘пасеяць са спазненнем’ – Чэрв. (Шатэрнік), *ме́шанка* ж. ‘змешаны пасеў кармавых раслін’ – Бар. (СПЗБ), *радабо́ць* ж. ‘рэдкі пасеў’ – Мядз. (Н. сл-сць), *аднаво́р* м. ‘сяўба ў адну руку’ – Шчуч. (Мат. Гродз.).

## Траіць

Араць зямлю трэці раз пасля баранавання.

*траі́ць* незак. – спарадычна асн. мас. г., паслядоўна віц.-маг. г., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., ЛП, Шатэрнік), *падтраі́ць* зак. – Докш., Смарг. (СПЗБ, Сл. Гродз.), *трайлі́ць* незак. – Шчуч. (СПЗБ), *ара́ць* незак. – Гродз., Смарг., Карэл., Мін., Кам., Лун., Маз., Ветк. (ЛАБНГ), *гара́ць* незак. – Маст., Ваўк., Лід., Брэсц., Бяроз., Івац., Ганц., Лун., Пін. (ЛАБНГ), *ара́ць у заго́ны* – Бяроз., Кобр., Іван. (ЛАБНГ), *мяша́ць* незак. – Брасл., Іўеў., Арш., Хоц., Уздз., Ветк., Браг. (ЛАБНГ), *абме́шваць* незак. – Мёр., Ушацк., Рас., Пол., Леп., Дзярж., Гл., Бых. (ЛАБНГ), *падме́шваць* незак. – Барыс., Круп., Карэл. (ЛАБНГ).

## Угнойваць

Уносіць угнаенне для павышэння ўрадлівасці глебы.

*угно́йваць* незак., *угнаі́ць* зак. – Навагр., Дзятл., Ваўк., Воран., Чэрв., Стол. (ТС, ЛП, Мат. Гродз., Шатэрнік), *гнаі́ць* незак. – Воран., Ельск., Стол., Пін., Кобр., Сен., Мсцісл. (ЛП, Мат. Гродз., Каспяровіч, Юрчанка), *падгно́йваць* незак. –

Карэл. (Мат. Гродз.), *прыгнаіць* зак. – Чэрв. (Шатэрнік), *спагнáіваць* незак., *спагнóіць* зак. – Мсціcл. (Юрчанка), *падкармíць* зак. – Валож. (СПЗБ), *падпачкавáць* зак. – Слон. (Сл. Гродз.), *пасявáць* незак. – Лоеў. (Янкова), *удабрáць* незак. – Верхнядзв., Чач., Слон. (Сл. Гродз., Шаталава, Мат. апыт.), *паддабрыіць* зак. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *ужырáць* незак. – Ваўк. (Мат. Гродз.), *укáчываць* незак., *укацíць* зак., *укрáтываць* незак., *украmáць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *улагóдзіць* зак. – Карэл. (Мат. Гродз.).

## Растрасаць (гной)

Раскідваць гной па полі.

*растрасáць* незак. – паўн.-зах. з., спарадычна віц.-маг. г., заходняя частка зах.-пал. г., Лельч., Асіп., Бярэз. (ЛАБНГ, ЛП, Мат. Гродз.), *трэ́сці* незак. – Верхнядзв. (Шаталава), *растрýшываць* незак. – Ветк. (ЛАБНГ), *разбівáць* незак. – паўдн.-зах. д. (акрамя ўсходняй часткі), зах.-пал. г., цэнтральная частка сярэд.-бел. г., спарадычна віц.-маг. г. (ЛАБНГ, ЛП, Мат. Гродз.), *біць* незак. – Гродз. (Мат. Гродз.), *разбíўка* ж. – Навагр., Ельск. (Мат. Гродз., ЛП), *раскідáць* зак., *раскíдваць* незак. – паўдн.-усх. з. (акрамя заходняй часткі), Гродз. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., Мат. Маг., Мат. апыт.), *калацíць* незак. – Віл., Леп., Бярэз. (ЛАБНГ), *раскалáчываць* незак. – Віц., Лёзн., Чэрв., Бых. (ЛАБНГ).

# 4. ЗБОР І АПРАЦОЎКА ЎРАДЖАЮ

### Абіваць (лён)

Выбіваць семя з галовак ільну.

*абівáць* незак. – Гродз., Навагр., Стол., Маз. (ГЧ, ЖНС, Мат. Гродз.), *бы́ты* незак. – Кобр. (СНМ).

### Адыходы пры ачыстцы бабовых і сланечніка

*шалупáйкі* мн. – паўдн.-усх. з., Мядз., Лаг., Барыс., Бял., Чэрв. (ЛАБНГ), *лупі́ны* мн. – гродз.-бар. г., зах.-пал. г., Смарг., Віл. (ЛАБНГ), *лупáйкі* мн. – зах.-пал. г., Драг., Калінк., Маз. (ЛАБНГ, ЛП), *лупаві́ны* мн. – Зэльв., Бар., Лях., Івац. (ЛАБНГ, Сцяцко ДС), *лупóўка* ж. зб. – Пін. (Шаталава), *лупі́нне* н. зб. – Драг., Кобр. (ЛАБНГ), *лупякí* мн. – Драг. (ЛАБНГ), *улупáхі* мн. – Краснап. (ЛАБНГ), *лушпáйкі* мн. – пал. р., усх.-маг. р., Слуцк. (ЛАБНГ), *лушпі́ны* мн. – Валож., Карэл., Мін., Бярэз. (ЛАБНГ), *лушчаві́ны* мн. – Дубр., Зэльв., Слон., Чэрык., Бяроз. (ЛАБНГ), *лушпаві́ны* мн. – Стаўб., Нясв., Івац. (ЛАБНГ), *лушчы́ны* мн. – Бераст., Шчуч. (ЛАБНГ), *шалу́пкі* мн. – Віц., Віл., Докш., Леп., Бярэз., Бых., Касц., Гом. (ЛАБНГ), *шалупі́ны* мн. – Глыб., Астр., Лаг., Дубр., Дзярж. (ЛАБНГ), *шалу́па* ж. зб. – Капыл. (ЛАБНГ), *скарлупá* ж. зб. – Саліг. (ЛАБНГ), *шкарлупá* ж. зб. – Кобр. (ЛАБНГ), *шулупáшкі* мн. – Мсцісл. (ЛАБНГ), *шкарлу́пкі* мн. – Чав. (ЛАБНГ), *шалу́п'е* н. зб. – Паст., Шарк., Барыс., Чашн., Тал. (ЛАБНГ), *шалухá* ж. зб. – віц.-маг. г., Паст., Слуцк., Кам. (ЛАБНГ), *шкалушы́на* ж. зб. – Рас. (ЛАБНГ), *стру́ча* н. зб. – Ушацк.,

Тал., Чэрв., Асіп., Слаўг., Кам. (ЛАБНГ), *стру́кі* мн. – Верхнядзв., Беш., Пух., Слаўг. (ЛАБНГ), *стручкі́* мн. – Паст., Арш., Кам. (ЛАБНГ), *стручо́к* м. зб. – Ельск. (ЛАБНГ), *шалу́шкі* мн. – Верхнядзв., Рас., Слаўг. (ЛАБНГ), *шарлу́пкі* мн. – Мёр., Гарад., Беш. (ЛАБНГ), *шалупа́і* мн. – Лаг., Чэрв. (ЛАБНГ), *лу́ска* ж. зб. – Паст., Воран., Бярэз., Чач., Лельч. (ЛАБНГ), *бабаві́нне* н. зб. – Кам. (ЛАБНГ), *бабо́ўнік* м. зб. – Петр. (ЛАБНГ), *буцве́нне* н. зб. – Драг. (ЛАБНГ), *гало́вы* мн. – Пол. (ЛАБНГ), *гарашо́ўнік* м. зб. – Петр. (ЛАБНГ), *лу́скі* мн. – Брасл. (ЛАБНГ), *пе́нкі* мн. – Хоц. (ЛАБНГ);

**адходы пры ачыстцы зерня і перапрацоўцы яго на крупы**: *буза́* ж. зб. – Рэч. (НС), *лузга́* ж. зб. – Верхнядзв. (Шаталава), *падкру́п'е* н. зб. – Лун. (Шаталава);

**адходы пры веянні**: *зе́лле* н. зб. – паўн.-зах. з., паўн.-усх. д. (ЛАБНГ), *шушпі́ца* ж. зб. – Паст., Ашм., Мядз., Віл., Краснап., Клецк., Буда-Каш., Лоеў. (ЛАБНГ, СПЗБ), *адве́йкі* мн. – Івац., Малар. (ДСБ, ЛП), *паза́дак* (*поза́док)* м. зб. – Жытк., Стол. (ТС), *по́заддзе* н. зб. – Стол., Ельск. (ТС), *фрус* м. зб. – Паст., Шчуч. (СПЗБ), *шалуха́* ж. зб. – Лід., Вілен. р. (СПЗБ), *аза́дзі* мн. – Вілен. р. (СПЗБ), *ашаке́* мн. – Гродз. (Цыхун), *ко́сці* мн. – Чач. (ЛАБНГ), *па́расткі* мн. – Карэл. (Шаталава), *пло́ўшачкі* мн. памянш. – Воран. (СПЗБ), *смяту́ха* ж. зб. – Гродз. (СПЗБ), *су́барніца* ж. зб. – Глыб. (СПЗБ), *хабо́цце* н. зб. – Гарад. (НЛ), *шума́* ж. зб. – Круп. (ЛАБНГ), *чума́* ж. зб. – Паст. (СПЗБ), *шу́мна* ж. зб. – Віл. (СПЗБ), *шу́шамець* ж. зб. – Пух. (ЛАБНГ), *шу́шмацце* н. зб. – Драг. (ЛАБНГ), *шчы́нкі* мн. – Бярэз. (СПЗБ);

**адходы пры веянні з дапамогай апалушак (маленькіх начовак)**: *пало́ва* ж. зб. – паўдн.-усх. з., зах.-пал. г. (пераважна іх заходняя частка), Маг. р., Бераст., Лях., Старадарож. (ЛАБНГ), *пала́нкі* мн. – усх.-маг. р., Маг. р., Барыс., Навагр., Валож., Нясв., Слуцк., Асіп., Слон., Старадарож. (ЛАБНГ), *апа́ліны* мн. – Астр., Навагр., Валож., Нясв., Слон., Асіп., Івац., Слуцк., Пін., Стол., Люб., Старадарож. (ЛАБНГ, Н. сл-сць, Шаталава), *апо́ліны* мн. – Шум., Круп., Гор., Дзятл., Малар. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, Мат. Гродз.), *апо́лкі* мн. – Пол.,

Ушацк., Тал. (ЛАБНГ), *палавінне* н. зб. – Дубр., Гор., Бераст. (ЛАБНГ), *ашакі́* мн. – паўн. р. (ЛАБНГ), *шако́лы* мн. – паўн. р. (ЛАБНГ), *пух* м. зб. – усх.-пал. г., Слуцк. (ЛАБНГ), *масе́і* мн. – Іўеў., Гор., Шкл., Навагр., Бярэз., Віл., Лаг., Докш., Тал., Бял. (ЛАБНГ), *пасе́йкі* мн. – Ушацк., Смарг., Барыс., Круп., Кругл., Дубр., Асіп., Бял., Бых. (ЛАБНГ), *асе́ўкі* мн. – Лёзн., Слуцк. (ЛАБНГ), *шалуха́* ж. зб. – Віл., Лід., Пух., Бярэз., Слон., Лельч. (ЛАБНГ, Шаталава), *луска́* ж. зб. – Ашм., Драг., Івац. (ЛАБНГ), *адхо́ды* мн. – Пруж. (ЛАБНГ), *лупа́* ж. зб. – Стол. (ЛАБНГ), *тоўч* м. зб. – Стол. (ЛАБНГ), *каструкі́* мн. – Паст. (ЛАБНГ), *пле́вы* мн. – Смарг. (ЛАБНГ), *пыл* м. зб. – Бых., Раг., Астр. (Мат. Гродз.), *сме́цце* н. зб. – Добр. (ЛАБНГ), *шалупа́* ж. зб. – Лельч. (ЛАБНГ), *шара́ткі* мн. – Мсцісл. (ЛАБНГ), *шума́* ж. зб. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *шу́ства* ж. зб. – Лун. (ЛАБНГ, Шаталава).

**адходы пры прасейванні рэшатам**: *высеўкі* мн. – Іўеў., Мін., Слуцк., Шум. (ЛАБНГ), *асе́ўкі* мн. – Мсцісл. (Бялькевіч), *асе́і* (*осе́і*) мн. – Стол. (ТС), *пасе́йкі* мн. – Ушацк. (НС), *скру́жыны* мн. – Дзятл. (Сл. Гродз.), *спру́жыны* мн. – Маст., Навагр. (СПЗБ), *падкру́жніца* ж. зб. – Пух. (СПЗБ), *аўсюкі́* мн. – Петр. (Шаталава), *во́трубы* мн. – Ваўк. (Мат. Гродз.), *луска́* ж. зб. – Маз. (Кучук), *лушта́* ж. зб. – Навагр. (ЖС), *пле́ўкі* мн. – Смарг. (СПЗБ), *пло́ўшы* мн. – Воран. (СПЗБ), *хвост* м. зб. – Жытк. (ТС);

**нявеянае збожжа**: *бя́рла* н. зб. – Паст., Смарг., Воран. (СПЗБ).

## Азяродзіць

Сушыць снапы на азяродзе (прыстасаванне, якое складаецца з доўгіх жэрдак, замацаваных на слупах).

*азяро́дзіць* незак. – цэнтр. з., Петр., Лельч. (ЛАБНГ, ЖС), *ве́шаць* незак. – Брасл., Іўеў., Сен., Валож., Маг., Саліг., Лельч. (ЛАБНГ), *кла́сці* незак. – Верхнядзв., Рас., Пол., Астр., Хоц., Нараўл. (ЛАБНГ), *надзява́ць* незак. – Шарк., Глыб., Пол. (ЛАБНГ), *насадзі́ць* зак. – Ушацк., Чэрык.

(ЛАБНГ), *ставіць* незак. – Смарг., Ельск. (ЛАБНГ), *астравіць* незак. – Бял. (ЛАБНГ), *затыкаць* незак. – Светлагор. (ЛАБНГ), *нізаць* незак. – Шчуч. (ЛАБНГ), *астромніць* незак. – Тал. (ЛАБНГ), *ураць* незак. – Круп. (ЛАБНГ), *чапляць* незак. – Кругл. (ЛАБНГ).

### Ачышчаць (зерне)

Знімаць лупіну.

*лушчыць* незак. – гродз.-бар. г., пал. р., паўн. р., Дзярж., Кір., Чэрык. (ЛАБНГ), *вылушчваць* незак. – Верхнядзв., Паст., Віл., Лаг., Кам., Бяроз., Кобр., Краснап., Драг. (ЛАБНГ), *лускаць* незак. – усх.-маг. р. (ЛАБНГ), *вылузваць* незак. – Барыс., Круп., Асіп., Краснап., Клецк., Слуцк., Калінк., Добр. (ЛАБНГ), *лузаць* незак. – Чэрв., Бых., Слаўг., Карм. (ЛАБНГ), *лузгаць* незак. – Люб. (ЛАБНГ), *лужыць* незак. – Гор., Капыл. (ЛАБНГ), *лупіць* незак. – пал. р., Кругл., Маг. (ЛАБНГ), *шчалукаць* незак. – Мядз., Віл., Лаг., Гор. (ЛАБНГ), *абганяць* незак. – Віл., Шчуч., Воран. (СПЗБ), *церабіць* незак. – Малар., Стол. (ЛАБНГ), *абдзяраць* незак. – Мсцісл. (Юрчанка), *рызаваць* незак. – Свісл. (СРЛГ);

**ачышчаць зерне ад смецця і саломы**: *пойсаваць* незак. – заходняя частка паўн.-зах. з. (СПЗБ), *вытрасаць* незак. – Навагр., Вілен. р. (СПЗБ), *абмесці* зак. – Віл. (СПЗБ), *апіхаць* незак. – Бял. (НС), *выганяць* незак. – Верхнядзв. (СПЗБ), *вычыняты* незак. – Брэсц. (ДСБ), *каласаваць* (*колосоваты*) незак. – Кобр. (СНМ);

**ачышчаць зерне ўручную**: *вархаваць* незак. – Бял., Бых., Кругл., Слаўг. (Мат. Маг., Н. сл-сць), *абцяраць* незак. – Паст. (СПЗБ), *кружыць* незак. – Шчуч. (Сл. Гродз.);

**ачышчаць зерне спецыяльным прыстасаваннем – драчам**: *націраць* незак. – Чач. (Мат. апыт.).

### Валакно (ільну)

*валакно* н. зб. – спарадычна паўн.-зах. з. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *кужаль* м. зб. – Глыб., Рас., Гарад., Віл., Лаг., Гродз.,

Шчуч., Дзятл., Уздз., Чэрв., Раг., Нараўл., Вілен. р. (СПЗБ), *касá* ж. зб. – Брасл., Іўеў., Чэрв., Вілен. р. (СПЗБ), *кóскі* мн. – Вілен. р. (СПЗБ), *каўтýн* м. зб. перан. – Пух. (СПЗБ), *лён* м. зб. – Віл. (СПЗБ), *сплóшніна* ж. зб. – Паст. (СПЗБ), *чалó* н. зб. – Петр. (Шаталава);

**валакно з ніжняй часткі трасты льну**: *камлí* мн. – Брасл., Астр., Гродз., Шчуч., Лід., Вілен. р. (СПЗБ), *канцы́* мн. – Астр. (СПЗБ);

**валакно з верхняй часткі трасты льну**: *вярхóўе* н. зб. – Шум. (СПЗБ), *галаўкí* мн. – Навагр. (З нар. сл.);

**валакно пасля часання**: *кары́нкі* (*кoры́нкі*) мн. – Бяроз. (ДСБ), *падýзрапкі* мн. – Гродз. (З нар. сл.);

**лепшы сорт ільну**: *сярóдкі* мн. – Чач. (Мат. апыт), *пярэ́дзеркі* мн. – Чэрв. (Шатэрнік);

**канаплянае валакно**: *пянькá* ж. – Віл., Раг. (СПЗБ);

**грубае валакно, якое атрымліваецца пры апрацоўцы льну, канапель і пад.**: *пакýла* ж. зб. – спарадычна паўн.-зах. з. (СПЗБ, НС, СНМ, Шаталава), *пáкулле* н. зб. – Смарг., Бар., Гродз., Шчуч., Раг. (СПЗБ), *пáкулі* мн. – Брасл., Іўеў., Воран. (СПЗБ), *пáкуль* м. зб. – Лоеў. (Янкова), *пакýліна* н. зб. – Мсцісл. (Юрчанка), *пáтрап'е* н. зб. – Чач. (Мат. апыт).

## Веяць

Ачышчаць збожжа ад мякіны (адходы, якія застаюцца пасля абмалоту зерневых культур).

*вéяць* незак. – Віл., Навагр., Чэрв., Мсцісл., Драг., Житк., Стол., Лоеў., Вілен. р. (СПЗБ, ТС, ГЧ, Шатэрнік, Юрчанка), *пушы́ць* незак. – Паст., Глыб. (СПЗБ), *вýпалаць* зак. – Стол. (ТС), *апрóнаваць* (*опрóнуваты*) незак. – Малар. (ЛП), *ярхавáць* незак. – Жытк. (ЛМПП);

**веяць пры дапамозе арфы (машыны для веяння збожжа)**: *арфавáць* незак. – спарадычна зах. з. (СПЗБ, ДС, З нар. сл., Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., Каспяровіч, Сцяцко), *ярховáць* незак. – Жытк. (ТС);

**веяць уручную**: *кíдаць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка);

**веяць пры дапамозе апалушак у хатніх умовах**: *паля́ць* незак. – цэнтральная частка сярэд.-бел. г., гродз.-бар. г. (СПЗБ, ТС, НС, Шаталава, Шатэрнік), *пало́ць* незак. – паўн. р. (ЛАБНГ, НЛ), *скру́жваць* незак. – Маст., Навагр., Зэльв., Ваўк., Вілен. р. (СПЗБ, ДС, Сцяцко);

**веяць пры дапамозе рэшата**: *падсява́ць* незак. – Навагр. (СПЗБ);

**веяць на ветры**: *ве́трыць* незак. – Пол., Чэрв., Мсцісл., Чач. (НЛ, Юрчанка, Мат. апыт.), *вы́вахаць* зак. – Астр. (Мат. Гродз.), *паля́ць* незак. – Старадарож. (СНМ); *вы́петрахлы* (пра збожжа) дзеепрым. – Гродз. (Сл. Гродз.).

## Выкопваць (бульбу)

*капа́ць* незак. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ГЧ, Юрчанка, Мат. апыт.), *выбіра́ць* незак. – Глыб., Смарг., Віл., Докш., Маст., Ваўк., Мсцісл., Пруж. (СПЗБ, Юрчанка), *рыць* незак. – Клім., Краснап., Мсцісл. (ЛАБНГ, Юрчанка);

**выворваць бульбу пры дапамозе плуга**: *падбіра́ць* незак. – Верхнядзв., Валож., Вілен. р. (СПЗБ), *выво́рваць* незак. – Зэльв., Чэрв. (Мат. Гродз., Шатэрнік), *разо́рваць* незак. – Дзятл., Бераст. (Сл. Гродз., Мат. Гродз.), *ато́рваць* незак. – Навагр. (Сл. Гродз.), *падо́рваць* незак. – Маз. (ЛМПП), *пабра́ць* зак. – Іўеў. (СПЗБ), *разганя́ць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка);

**выбіраць бульбу рукамі**: *выбіра́ць* незак. – Чэрв. (Шатэрнік), *ташчы́ты* незак. – Драг. (ДСБ);

**выбіраць рукамі бульбіны з-пад карча**: *шчу́паць* незак. – Клім., Чэрык. (Мат. Маг.), *ма́цаць* незак. – Чач. (Мат. апыт.), *падгле́дзець* зак. – Лоеў. (Янкова), *падшчупыва́ць* незак. – Мсцісл. (Юрчанка);

**працэс выкопвання бульбы**: *капа́нне* н. – усх. з., Брасл., Глыб., Віл., Навагр., Дзятл., Стаўб., Клецк., Шчуч., Іўеў., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ко́пка* ж. – Хойн. (ЛМПП), *пакапа́нне* н. – Астр. (Сл. Гродз.);

**пачатак уборкі бульбы**: *зако́пкі* мн. – Гродз. (Сл. Гродз.);

**завяршэнне ўборкі бульбы**: *дакóпкі* мн. – Верхнядзв., Гарад., Лід., Навагр., Іўеў., Чэрв., Бярэз., Лоеў. (СПЗБ, НЛ, Мат. Гродз., Янкова), *акóпіны* мн. – Паст., Астр. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *абкóпкі* мн. – Хойн. (ЛМПП).

### Вымочваць (лён)

Трымаць лён у вадзе, каб адстала траста.

*мачы́ць* незак. – агульн. (СПЗБ, Мат. апыт.);

**вымачаны лён**: *бéлы лён* м. – Брасл., Астр. (СПЗБ), *пóмак* м. – Гродз. (СПЗБ).

### Жаць

Зразаць хлебныя злакі сярпамі ці жатнымі машынамі.

*жаць* незак. – агульн., Вілен. р. (СПЗБ, ТС, ГЧ, ДС, ЛП, Мат. Гродз., Сцяцко, Юрчанка, Мат. апыт.), *пажынáць* незак. – Астр., Пух., Касц. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *сажáць* зак. – Брасл., Глыб., Смарг. (СПЗБ), *пазжáць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *ужынáць* незак. – Петр. (ЛП), *паваліць* зак. – Петр. (ЛП), *пычавáць* незак. – Навагр. (СРЛГ), *урэ́заць* зак. – Шчуч., Іўеў. (СПЗБ);

**пачаць жаць**: *зажынáць* незак. – спарадычна агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз.),

**закончыць жаць**: *дажынáць* незак. – Чэрв., Жытк. (ТС, Шатэрнік), *абжáцца* зак. – Слон. (НЛ);

**зжаць пэўную колькасць**: *ужáць* зак. – Свісл., Навагр., Іўеў. (СПЗБ), *абжáцца* зак. – Зэльв. (СРЛГ), *аджынáць* незак. – Чэрв. (Шатэрнік), *нажынáць* незак. – Астр. (СПЗБ);

**зжаць збожжа і не звязваць яго ў снапы**: *(кінуць) на жмéнькі* – Навагр., Карэл. (ЖС, Мат. Гродз.);

**зажынкі (пачатак жніва і яго святкаванне)**: *зажы́нкі* толькі мн. – Паст., Смарг., Астр., Сен., Гродз., Бераст., Саліг. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Каспяровіч), *зажы́нак* м. – Бых., Акц., Калінк., Лельч. (ЛАБНГ), *зажы́н* м. – Верхнядзв., Рас. (ЛАБНГ), *зажéла* толькі мн. – Малар. (НЛ);

**першы нажаты ў час зажынак сноп**: *зажын* м. – Верхнядзв., Рас., Барыс. (СПЗБ), *зажынак* н. – Брасл., Асіп., Вілен. р. (СПЗБ, Шаталава), *зажа́так* м. – Маст. (Сл. Гродз.), *дзед* м. – Паст., Глыб., Смарг., Іўеў. (СПЗБ, Сл. Гродз.), *гаспада́р* м. – Клім., Люб. (Шаталава), *хазя́ін* м. – Вілен. р. (СПЗБ);

**першая жменька зжатага жыта**: *дзед* м. – паўн.-зах. з., Хоц., Брэсц., Бабр., Лельч., Нараўл. (ЛАБНГ), *сто́раж* м. – Жытк. (ТС);

**дажынкі (заканчэнне ўборкі ўраджаю і яго святкаванне)**: *абжы́нкі* мн. – Паст., Віл., Докш., Вілен. р. (СПЗБ), *дажы́нкі* мн. – Астр., Чэрв. (Мат. Гродз., Шатэрнік), *канча́ткі* мн. – Смарг. (Сл. Гродз.);

**няжатыя каласы, пакінутыя на полі**: *барада́* ж. – Рас., Ашм., Круп., Воран., Бар., Іўеў., Стаўб., Пух., Чэрв., Раг., Клім., Жытк., Лельч. (СПЗБ, ТС, ЖС, З нар. сл., Кучук, Шаталава), *каза́* ж. – Гродз., Зэльв., Кобр., Драг. (ДС, ЛП, НЛ, Сцяцко, Цыхун), *дзед* м. – Глыб. (СПЗБ), *дзяды́* мн. – Бяроз. (Шаталава), *кавалі́* мн. – Драг. (Н. сл-сць), *прыганя́тыя* мн. – Рас. (Шаталава), *валакі́* (*волокы́*) мн. – Драг. (З нар. сл.), *драмакі́* мн. – Браг. (Шаталава), *за́круцень* м. – Бяроз. (Шаталава), *стая́н* м. – Пін. (Шаталава), *касло́* н. – Бераст. (Сл. Гродз.), *ку́дзерка* ж. – Стаўб. (З нар. сл.);

**пучок няжатых каласоў, пакінутых пасля жніва (абрадавае)**: *каладу́н* м. – Верхнядзв., Глыб. (СПЗБ), *закру́тка* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *кве́тка* ж. – Бяроз. (Шаталава), *ку́зла* н. – Паст. (СПЗБ), *ку́кла* ж. – Іўеў. (СПЗБ), *ку́клачка* ж. – Ашм. (СПЗБ), *раёк* м. – Вілен. р. (СПЗБ);

**каласы, якія падбіраюцца пасля жніва**: *пагрэ́бкі* мн. – Гродз. (Мат. Гродз.).

## Буртаваць

Закладваць бульбу, агародніну, сілас і да т. п. на захоўванне ў бурты (капцы).

*буртава́ць* незак. – Паст., Лід., Вілен. р. (СПЗБ), *загарну́ць* незак. – Шчуч. (Мат. Гродз.), *згарну́ць* зак. – Чэрв.

(Шатэрнік), *кагáніць* незак. – Свісл. (Сл. Гродз.), *капíць* незак. – Хойн. (ЛМПП), *задалавáці* (*задоловáці*) зак. – Беластоц. р. (СПЗБ);

**яма для захоўвання бульбы**: *скапéц* (*скопéц*) м. – Брэсц., Пруж., Пін. (ДСБ), *акóпец* м. – Маз., Хойн. (ЛМПП), *капéц* м. – Маз., Хойн. (ЛМПП), *кап'я́к* (*коп'я́к*) м. – Жытк. (ТС), *я́рус* м. – Бяроз., Ганц. (ДСБ), *бурт* м. – Маз. (ЛМПП), *мíта* ж. – Маз. (ЛМПП).

### Збіраць (ураджай)

*збірáць* незак. – Гродз., Мсцісл. (Мат. Гродз., Юрчанка), *ватрáць* зак. – Лоеў. (Янкова), *зняць* зак. – Вілен. р. (СПЗБ), *напахáць* зак. – Лоеў. (Янкова);

**сабраць вялікі ўраджай**: *накропíті* зак. экспр. – Беластоц. р. (СПЗБ);

**збор ураджаю**: *убóрка* ж. – агульн. (Мат. апыт., Юрчанка);

**звесці збожжа з поля ў гумно**: *увабрáць* зак. – Верхнядзв., Мёр., Чач., Лоеў. (Шаталава, Янкова, Мат. апыт.);

**убіраць гародніну**: *кашчы́ць* незак. – Дзятл. (Сл. Гродз.).

### Звязваць (сноп)

*вязáць* незак. – Кам., Вілен. р. (СПЗБ), *пабірáць* незак. – Вілен. р. (СПЗБ);

**звязваць сноп пры дапамозе спецыяльнай прылады**: *уцуркавáць* зак. – Лях. (СПЗБ), *скныпля́ць* зак. – Зэльв. (ДС, Сцяцко);

**звязваць невялікія снапы для сушкі (канюшыну, бульбоўнік і інш.)**: *чупкавáць* незак. – Астр. (СРЛГ);

**звязваць салому ў кулі**: *крэмпавáць* незак. – Слон. (Сл. Гродз.).

### Жніво

Уборка збожжавых культур сярпамі або ўборачнай тэхнікай.

*жні́ва* н. – паўночная частка паўн.-зах. з., спарадычна сярэд.-бел. г., пал. р. (АЛА, ДАБМ, ЛАБНГ, ГЧ, Янкова), *жніво́* н. – Маг. р., Смарг., Валож., Барыс., Круп., Зэльв., Воран., Навагр., Іўеў., Чэрв., Івац., Іван., Ганц., Петр., Малар., Лоеў. (АЛА, ДАБМ, ЛП, Мат. Гродз., Сцяцко, Шатэрнік, Юрчанка), *пі́льніца* ж. – Верхнядзв., Ушацк., Докш., Іўеў. (ЛАБНГ), *пі́льная рабо́та* – Пол., Астр. (ЛАБНГ), *жа́тва* ж. – Лоеў. (ЛАБНГ), *жніўня́ны* мн. – Лельч. (Кучук), *убо́рашная* ж. – Краснап. (ЛАБНГ), *убо́рка* ж. – Краснап. (ЛАБНГ), *пія́тніца* ж. – Паст. (ЛАБНГ);

**час жніва**: *жні́ва* н. – спарадычна паўн.-зах. з., Чэрв., Кам., Пруж., Бяроз., Івац., Нараўл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *жніво́* н. – спарадычна сярэд.-бел. г., Лёзн., Арш., Хоц., Брэсц., Жытк., Маз. (ЛАБНГ, ТС, Бялькевіч), *жніва́* ж. – Кобр., Драг., Хойн., Нараўл. (ЛАБНГ), *жніва́ гара́ча* – Слуцк., Пін. (ЛАБНГ), *пара́* ж. – спарадычна паўн. р., Іўеў. (ЛАБНГ), *ця́жка пара́* – Кам. (ЛАБНГ), *пры́пар* м. – паўн. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *пі́льніца* ж. – Верхнядзв., Ушацк., Смарг., Докш., Іўеў. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз.), *гара́чка* ж. – Мёр. (ЛАБНГ), *гара́чка вялі́ка* – Нясв. (ЛАБНГ), *гара́чы* прым. – Свісл., Навагр., Іўеў., Чэрв. (СПЗБ), *убо́рачная* ж. – Краснап. (ЛАБНГ), *убо́рка* ж. – Краснап. (ЛАБНГ), *шалёнка* ж. – Мёр. (ЛАБНГ), *сязо́н* м. – Мядз. (СПЗБ).

## Малаціць

Выбіваць зерне з каласоў.

*малаці́ць* незак. – пераважна агульн., за выключэннем крайніх зах.-пал. г. (АЛА, ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ГЧ, ЖНС, Мат. Гродз., Шатэрнік, Юрчанка), *біць* незак. – Астр., Ашм., Віл., Воран., Драг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *абіва́ць* незак. – паўн.-зах. з., спарадычна цэнтральная частка усх. з., гродз.-бар. г. (ЛАБНГ), *абабіва́ць* незак. – Брасл., Мін., Пруж. (ЛАБНГ, СПЗБ), *адбіва́ць* незак. – Клім. (ЛАБНГ), *калаці́ць* незак. – зах.-пал. г., спарадычна гродз.-бар. г., Гом. р., Мін. р., Пол., Астр., Стол., Старадарож., Браг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *акало́чваць*

незак. – Бяроз., Стол., Браг. (ЛАБНГ), *абкало́чваць* незак. – Бераст., Іўеў. (ЛАБНГ, СПЗБ), *каласава́ць* незак. – Чэрв., Драг., Пін., Лельч. (ЛАБНГ, ЛП, Шатэрнік), *бічава́ць* незак. – Брасл., Раг. (СПЗБ), *по́йсаваць* незак. – Верхнядзв., Паст. (СПЗБ), *абіго́ўваць* незак. – Ваўк. (СРЛГ), *абсцёбваць* незак. – Шум. (ЛАБНГ), *бло́шкаць* незак. – Паст. (ЛАБНГ), *ву́згаць* незак. – Паст. (СПЗБ), *выхва́стываць* незак. – Чэрв. (Шатэрнік), *дуць* незак. – Смарг. (СПЗБ), *пу́каць* незак. – Мсцісл. (Юрчанка), *пытле́ць* незак. – Лід. (Сл. Гродз.), *хварастава́ць* незак. – Рас. (Шаталава);

**абмалочваць ячмень**: *каласава́ць* незак. – паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г., зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *по́йсаваць* незак. – паўн.-зах. з. (ЛАБНГ), *пу́каць* незак. – віц.-маг. г. (ЛАБНГ), *апіха́ць* незак. – Маг. р., Круп., Капыл. (ЛАБНГ), *піха́ць* незак. – Мсцісл. (ЛАБНГ), *адбіва́ць* незак. – Віц. (ЛАБНГ), *пухава́ць* незак. – Бярэз. (ЛАБНГ);

**малаціць цапамі**: *га́паць* незак. – Навагр. (СРЛГ), *пу́каць* незак. – Шум. (СПЗБ), *пульсава́ць* незак. – Гродз. (СПЗБ), *рандэ́ліць* незак. – Карэл. (Сл. Гродз.);

**працэс абмалоту цапамі:** *прастамало́т* м. – Мсцісл. (Юрчанка);

**малаціць уручную для атрымання кулявой саломы**: *аббіва́ць* незак. – Бял., Слаўг., Мсцісл., Чач., Хойн., Вілен. р. (СПЗБ, Мат. Маг., ЛМПП, Юрчанка), *абіва́ць* незак. – Навагр. (ЖНС), *калаці́ць* незак. – Воран., Навагр., Слон. (Мат. Гродз.), *бло́шкаць* незак. – Вілен. р. (СПЗБ), *каласі́ць* (*колосэ́тэ*) незак. – Драг. (ЖНС);

**малаціць другі раз**: *каласава́ць* незак. – Гродз., Зэльв., Ваўк., Бар., Іўеў., Карэл., Мін. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *по́йсаваць* незак. – Верхнядзв., Лід., Навагр. (Мат. Гродз., Шаталава), *по́йсаць* незак. – Воран. (Мат. Гродз.), *перабі́ць* зак. – Жытк., Воран. (ТС, Мат. Гродз.);

**малацьба**: *малацьба́* ж. – Верхнядзв., Мсцісл., Чач. (СПЗБ, Юрчанка, Мат. апыт.), *малаце́нне* н. – Зэльв. (ДС, Мат. Гродз., Сцяцко), *малачэ́нне* н. – Мсцісл. (Юрчанка);

**адыходы пры малацьбе**: *мякі́на* ж. зб. – агульн. (ЛАБНГ), *зе́лле* н. зб. – паўн.-усх. д., спарадычна паўн.-зах. з., зах.-пал. г., усх.-пал. р. (ЛАБНГ), *зяло́* н. зб. – Гом. р., Мін. р., Чэрв., Бярэз. (ЛАБНГ), *пустазе́лле* н. зб. – усх.-маг. р., Гом. р., Маг. р., Смарг., Лаг., Барыс., Круп., Івац., Капыл., Гл., Лельч. (ЛАБНГ), *во́трыны* мн. – паўн.-усх. д., акрамя ўсх.-маг. р. (ЛАБНГ, НС, Шаталава), *пало́ва* ж. зб. – паўдн.-усх. з., зах.-пал. г., Зэльв., Беластоц. р. (ЛАБНГ, ЖНшС, НС, Мат. Гродз.), *зго́ніны* мн. – зах.-пал. г., цэнтральная частка пал. р., Слон., Чэрв. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС, Шаталава, Шатэрнік), *зго́нін* м. зб. – Лун., Стол., Малар. (ЛП), *аме́ці* мн. – Мін. р., Гродз., Шчуч., Зэльв., Свісл., Навагр., Стаўб., Чэрв., Слуцк., Драг., Капыл., Гл. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС, З нар. сл., Мат. Гродз., Янкоўскі), *аме́ціны* мн. – Пол. (НЛ), *аме́цё* н. зб. – Лях. (СПЗБ), *абме́ці* мн. – Астр., Гродз., Шчуч., Карэл., Пін. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *аме́цья* н. зб. – Ганц. (Кучук), *скру́жыны* мн. – Рас., Карэл. (Шаталава), *скру́жкі* мн. – Тал. (Шаталава), *абу́рыны* мн. – усх.-пал. г. (ЛАБНГ, НС, Янкова), *аці́ра* ж. зб. – Гом. р., Раг., Чач., Слаўг., Бяроз. (ЛАБНГ, СПЗБ, Н. сл-сць, Мат. апыт.), *ато́ра* ж. зб. – усх.-маг. р. (ЛАБНГ), *ако́т* м. зб. – Мёр., Чэрв. (ЖНС, Шатэрнік), *ако́цце* н. зб. – Стаўб. (Мат. мін.-мал.), *ацяро́шкі* мн. – Воран. (ЛАБНГ), *цеpуха́* ж. зб. – Бераст. (Сл. Гродз.), *паза́дкі* мн. – усх.-пал. г., Валож., Навагр., Іўеў., Ганц., Лун., Жытк., Старадарож. (ЛАБНГ, ТС, Мат. Гродз.), *аза́дкі* мн. – усх.-пал. г., Паст., Брасл., Іўеў. (ЛАБНГ, ТС, ЛП), *паза́ддзе* н. зб. – спарадычна паўн. р., Бял., Чэрв. (ЛАБНГ, НЛ, НС, Касляровіч, Шатэрнік), *аза́ддзе* н. зб. – Верхнядзв., Пол., Чэрык., Драг. (ЛАБНГ, Мат. Маг.), *азадо́к* м. зб. – Стол. (ТС), *паза́дзее* н. зб. – Калінк. (ЛМПП), *пасле́д* м. зб. – гродз.-бар. г., Дзятл., Стаўб., Петр. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., ЛМПП, Цыхун), *пасля́ды* мн. – гродз.-бар. г., Паст., Вілен. р. (СПЗБ), *пасле́дкі* мн. – Петр. (Шаталава), *апасле́д* м. зб. – Кам. (ЛАБНГ), *буза́* ж. зб. – слуцк.-маз. г., Клецк. (ЛАБНГ), *су́бар* ж. зб. – усх.-маг. р., Гом. р., Маг. р., Чач., Лоеў. (ЛАБНГ, Мат. Маг., Юрчанка, Янкова, Мат. апыт.), *сме́цце* н. зб. – Пруж. (ЛАБНГ), *шме́ц-*

*це* н. зб. – Леп. (ЛАБНГ), *шмяццё* н. зб. – Круп. (НС), *со́рнасць* ж. зб. – Івац. (ЛАБНГ), *суспі́ца* ж. зб. – Слуцк., Калінк. (ЛАБНГ), *шу́ма* ж. зб. – Глыб., Віл. (ЛАБНГ), *ко́лас* м. зб. – усх.-пал. г., Віл., Воран. (ЛАБНГ), *каласі́ны* мн. – Паст., Ашм., Іўеў. (ЛАБНГ, СПЗБ), *каласаві́ны* мн. – Пол. (НЛ), *каласні́к* м. зб. – Паст. (ЛАБНГ), *асцю́к* м. зб. – Чэрв. (Шатэрнік), *асцё́нь* м. зб. – Мсцісл. (Бялькевіч), *асціна́* ж. зб. – Пол. (НЛ), *касцю́лька* ж. зб. – Круп. (НС), *кашчары́* мн. – Дзярж. (НС), *хлуст* м. зб. – Брэсц., Малар. (ДСБ, ЛП), *ахво́сці* мн. – Іўеў. (СПЗБ), *адхо́ды* мн. – Старадарож., Лоеў. (ЛАБНГ), *адско́кі* мн. – Ваўк. (Мат. Гродз.), *перабіва́нне* (*перэбіва́ньe*) н. зб. – Жытк. (ТС), *скі́дзіны* мн. – Пін. (Шаталава), *аме́ліны* мн. – Лід. (Сл. Гродз.), *замо́рак* м. зб. – Браг. (Шаталава), *палаві́нне* н. зб. – Стаўб. (Цыхун), *пало́ўка* ж. зб. – Пол. (НЛ), *шу́маць* ж. зб. – Старадарож. (НС), *бэ́рла* н. зб. – Воран. (ЛАБНГ), *во́лаць* ж. зб. – Верхнядзв. (НС), *кало́сетка* ж. зб. – Стол. (ЛАБНГ);

**вымалачанае зерне**: *па́шня* ж. – Бял., Уздз., Старадарож. (НС, Мат. мін.-мал.), *акало́т* м. – Астр., Жытк. (ТС, Мат. Гродз.), *акало́ціна* ж. – Лоеў. (Янкова), *умало́т* м. – Ваўк., Чэрв. (Мат. Гродз., Шатэрнік), *вы́малат* м. – Слаўг. (Мат. Маг.), *абмало́т* м. – Лід. (Мат. Гродз.), *абі́ўка* ж. – Драг. (ЛП), *го́нка* ж. – Лаг. (Варлыга), *драбні́ца* ж. – Віл. (Шаталава), *сі́ла* ж. – Мядз. (СПЗБ), *аза́длівае зерня́* – Ваўк. (ЛАБНГ);

**нявымалачаныя каласы**: *каласо́к* (*кулісо́к*) м. – Драг. (ДСБ), *пы́сы* мн. – Чэрв. (НЛ), *скружаві́ны* мн. – Барыс. (Мат. мін.-мал.);

**раскладка снапоў для малацьбы**: *паса́д* м. – спарадычна агульн. (ДАБМ, ТС, Каспяровіч, Шатэрнік), *сад* м. – Жытк. (ДАБМ), *пасце́ль* ж. – спарадычна паўдн.-усх. з., гродз.-бар. г., зах.-пал. г., Мін. р., паўн. р., Бярэз. (ДАБМ, Мат. мін.-мал., Варлыга, Шаталава), *пасце́лька* ж. – Асіп. (Шаталава), *сцель* ж. – Браг. (ДАБМ), *пакла́д* м. – Гродз., Маст., Ваўк. (ДАБМ), *бі́тка* ж. – Шчуч., Маст., Зэльв., Свісл. (ДАБМ, ДС, Сцяцко), *клад* м. – Пол., Гарад. (ДАБМ), *кладня́*

ж. – Глыб. (ДАБМ), *раскла́дка* ж. – Стол., Браг. (ДАБМ), *раскла́д* м. – Жытк. (ДАБМ), *по́стаць* ж. – Верхнядзв. (ДАБМ), *ста́ўка* ж. – Петр. (ДАБМ), *акало́ткі* мн. – Крыч. (Н. сл-сць), *падцэ́пак* м. – зах.-пал. г. (ДАБМ, Шаталава), *под* м. – спарадычна зах.-пал. г. (ДАБМ), *стара́на* ж. – Леп., Барыс., Іўеў., Карэл., Пруж., Драг., Іван. (ДАБМ), *застаро́нак* м. – Кам. (ДАБМ), *пamо́ст* м. – Пін. (ДАБМ), *во́сець* ж. – Светлагор. (ДАБМ), *пра́віца* ж. – Стол. (ДАБМ), *рад* м. – Барыс., Сен., Драг., Пін., Саліг., Петр., Светлагор. (ДАБМ), *радо́к* м. – Ганц., Пін. (ДАБМ, Шаталава), *круг* м. – Сен. (ДАБМ), *крэ́сцікі* мн. – Клім. (ДАБМ), *сцяг* м. – Пол. (НЛ), *шар* м. – Пол. (НЛ), *прут* м. – Пол. (ДАБМ), *плі́та* ж. – Раг. (ДАБМ), *ку́чкі* мн. – Гродз. (Цыхун), *паса́ць* ж. – Капыл. (ДАБМ), *прост* м. – Нараўл. (ДАБМ), *стру́пці* мн. – Пін. (ДАБМ);

**складваць снапы ў ёўню для сушкі перад малацьбой**: *насадзі́ць* зак. – паўдн.-усх. з., сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ), *наста́віць* зак. – цэнтр. з. (ЛАБНГ), *злажы́ць* зак. – Кобр. (ЛАБНГ), *накла́сці* зак. – Кобр. (ЛАБНГ), *паве́сіць* зак. – Лун. (ЛАБНГ), *сцялі́ць* незак. – Лях. (ЛАБНГ);

**вымятаць мятлой дробную салому і калоссе з абмалочанага жыта**: *змята́ць* незак. – паўн.-зах. з., Гом. р., спарадычна паўн. р., Круп., Слуцк., Асіп., Бых., Лях., Івац., Капыл., Ганц. (ЛАБНГ), *абмята́ць* незак. – Воран., Бар., Іўеў., Бярэз., Саліг., Люб. (ЛАБНГ), *вымята́ць* незак. – Шарк., Астр., Лаг., Слон. (ЛАБНГ), *падмята́ць* незак. – Пух. (ЛАБНГ), *сціра́ць* незак. – усх. з. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ), *вычыня́ць* незак. – зах.-пал. г., Гродз. р., Ушацк., Гарад., Карэл., Чэрв., Клім., Гл., Петр. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Шаталава), *счыня́ць* незак. – спарадычна гродз.-бар. г., пал. р., Гарад. (ЛАБНГ), *зганя́ць* незак. – спарадычна паўн. р., Шчуч., Бярэз., Бых., Чав., Пруж., Кобр., Жлоб., Акц., Лельч., Лоеў. (АЛА, Шаталава), *згоніва́ць* незак. – Свісл., Карэл. (Шаталава), *абганя́ць* незак. – Хойн. (ЛАБНГ), *збіва́ць* незак. – Маз., Нараўл. (ЛАБНГ), *націра́ць* незак. – Барыс., Тал. (СПЗБ, Шаталава), *спуска́ць* незак. – Глыб., Пол. (ЛАБНГ, СПЗБ), *счышча́ць* незак. – Мсцісл., Лун. (Шаталава, Юрчанка), *аддзя-*

*ляць* незак. – Хоц. (ЛАБНГ), *выбіра́ць* незак. – Гор. (ЛАБНГ), *ша́стаць* незак. – Шчуч. (Сл. Гродз.);

**каласы, дробная салома, што змятаюцца з абмалочанага збожжа**: *згрэ́біны* мн. – паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *згрэ́бкі* мн. – паўн.-зах. з. (ЛАБНГ), *сугрэ́бкі* мн. – Паст., Вілен. р. (СПЗБ), *абмётк*і мн. – Мсцісл. (Юрчанка), *зашкро́бачкі* мн. – Мсцісл. (Юрчанка), *падгро́бкі* мн. – Мсцісл. (Юрчанка), *перабіва́нне* (*перэбіва́нне*) н. зб. – Жытк. (ТС);

**заканчэнне малацьбы:** *дамало́ткі* мн. – Гарад., Шчуч., Іўеў., Чэрв., Нараўл., Вілен. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., Каспяровіч, Шатэрнік), *абмало́ткі* мн. – Лаг., Сен., Навагр. (Мат. Гродз., Варлыга, Каспяровіч).

## Мяць (лён)

Пераломваць у многіх месцах сцяблы льну з мэтай аддзялення ад іх трасты, з якой атрымліваюць валакно для пражы.

*мяць* незак. – агульн. (Мат. Гродз., Мат. апыт.), *мя́дліць* незак. – Вілен. р. (СПЗБ);

**мяты лён**: *валакні́на* ж. зб. – Лаг. (Варлыга), *суздро́мны* прым. – Лоеў. (Янкова);

**адыходы пры мянні льну**: *мя́ленне* н. зб. – спарадычна паўн. р. (СПЗБ), *амя́лле* н. зб. – Стаўб. (Мат. мін.-мал.), *абмя́лкі* мн. – Мёр. (НС), *абмя́ліны* мн. – Верхнядзв. (СПЗБ), *падмя́лкі* толькі мн. – Паст. (СПЗБ), *аця́жкі* мн. – Мядз., Смал. (СПЗБ, НС), *адця́жкі* мн. – Верхнядзв. (СПЗБ), *асмо́ржыны* мн. – Дзятл. (Мат. Гродз.), *трэ́нне* н. зб. – Чэрв. (СПЗБ), *сува́лка* ж. зб. – Мсцісл. (Мат. апыт.).

## Неўраджай

Дрэнны, нізкі ўраджай.

*не́радзь* ж. – Зэльв., Жытк., Стол. (ТС, ДС, Сцяцко), *няўро́да* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *няўро́дзіца* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *няго́д* (*неróд*) м. – Жытк. (ТС);

**не ўрадзіць, даць дрэнны ўраджай або не даць увогуле**: *зхі́біць* зак. – Чэрв. (Шатэрнік), *з'ярэ́ць* зак. – Чэрв. (Шатэрнік);

**неўрадлівы:** *неўрадлі́ву* (*неўродлі́ву*) прым. – Стол. (ТС), *няўда́лы* (пра лён) прым. – Чэрв. (Шатэрнік).

## Палеглая збажына

*палёгліца* ж. – Ушацк. (НС), *по́лежань* ж. – Касц. (Мат. Маг.).

## Прасейваць пры дапамозе рэшата (зерне)

*скру́жваць* незак. – Верхнядзв., Пол., Гродз., Ганц. (НЛ, Мат. Гродз., Цыхун, Шаталава), *выкру́жваць* незак. – Дзятл. (СПЗБ), *скру́жываццa* незак. – Мсцісл. (Юрчанка), *падсява́ць* незак. – Навагр. (ЖНС).

## Рассцілаць для прасушвання (лён)

*слаць* незак. – Віл., Лаг., Вілен. р. (СПЗБ, Варлыга), *рассціла́ць* незак. – Гродз., Бяроз. (СПЗБ), *распушча́ць* незак. – Гродз. (СПЗБ);

**рассціланне льну:** *насці́лкі* мн. – Ашм. (Сл. Гродз.), *сла́нне* н. – Зэльв. (Мат. Гродз.);

**разасланы лён:** *пасце́ль* ж. – Тал., Карэл. (Шаталава), *цяплі́ца* ж. – Вілен. р. (СПЗБ);

**вылежацца (пра разасланы лён):** *адле́жыцца* зак. – Воран., Лід. (СПЗБ), *ву́лежацца* зак. – Браг. (НС), *падле́жаць* зак. – Гродз. (СПЗБ);

**вылежаны лён:** *сла́нец* м. – спарадычна паўн. р. (СПЗБ, СНМ), *ле́жаны* прым. – Навагр. (З нар. сл.);

**месца, дзе рассцілаюць лён:** *слі́шча* н. – Дзятл., Мсцісл. (Мат. Гродз., Юрчанка), *сце́лішча* н. – Гродз. (Мат. Гродз.), *сце́ліска* н. – Бераст. (Сл. Гродз.), *пасланнё* н. – Навагр. (Мат. Гродз.), *льніск* н. – Ваўк. (СПЗБ);

**падымаць разасланы лён:** *падбіра́ць* незак. – паўднёвая частка паўн.-зах. з., Малар., Драг., Вілен. р. (СПЗБ, ДСБ, Мат. Гродз., Шаталава), *падыма́ць* незак. – Астр., Валож., Чач., Лоеў. (СПЗБ, Янкова, Мат. апыт.).

## Рваць (лён)

*рваць* незак. – агульн. (ДАБМ, СПЗБ, Мат. Гродз.), *браць* незак. – Мсцісл., Жытк., Калінк. (СПЗБ, ТС, Юрчанка), *выбіра́ць* незак. – Барыс., Воран. (СПЗБ, Мат. мін.-маг.), *пабіра́ць* незак. – Чач., Лоеў. (Янкова, Мат. апыт.), *сабіра́ць* незак. – Астр., Лоеў. (Мат. Гродз., Янкова), *збіра́ць* незак. – Зэльв. (Мат. Гродз.), *скуба́ць* незак. – Пол., Гарад. (ДАБМ), *смо́ргаць* незак. – Лід. (Мат. Гродз.), *ту́рзаць* незак. – Дзятл. (Сл. Гродз.);

**зразаць лён**: *здзёргіваць* незак. – Вілен. р. (СПЗБ);

**пачатак уборкі льну**: *зарва́лкі* мн., *зары́ўкі* мн. – Воран., Іўеў. (Сл. Гродз.);

**заканчэнне ўборкі льну**: *дары́ўкі* мн. – Навагр., Дзятл. (ЖС, Мат. Гродз.), *дакало́ткі* мн. – Свісл. (Сл. Гродз.), *до́біркі* мн. – Стол. (ТС), *ляны выхад* м. – Карэл. (СПЗБ).

## Сартаваць (гародніну)

Размяркоўваць, раскладваць (гародніну) па групах у залежнасці ад якасці.

*перабіра́ць* незак. – Навагр., Дзятл., Слон., Кобр., Драг., Чач., Лоеў., Вілен. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., Янкова, Мат. апыт.), *ну́рыць* незак. – Маст. (СРЛГ).

## Салома

Сухія сцёблы злакавых раслін, што застаюцца пасля абмалоту.

**жытняя салома**: *жытняя сало́ма* – спарадычна паўн.-зах. з., паўдн.-зах. д. за выключэннем крайніх усходніх

раёнаў, Віц., Лёзн. (АЛА), *(а)ржаная салóма* – пераважна паўн.-усх. д., цэнтральная частка сярэд.-бел. г. (АЛА), *жытніца* ж. зб. – Чэрв., Люб. (Н. сл-сць, Шатэрнік);

**пшанічная салома**: *пшанíчная салóма* – агульн. (АЛА), *пшóнка* ж. зб. – Валож., Свісл., Лід. (АЛА, Сл. Гродз.), *пшóнная салóма* – Маладз., Навагр. (АЛА), *пшанíчны пóшар* – Воран. (АЛА);

**ячменная салома**: *ячмéнная салóма* – паўдн.-зах. д., усходняя частка сярэд.-бел. г., паўн. р. (АЛА), *ячмéнка* ж. зб. – спарадычна паўн.-зах. з., Жлоб., Рэч., Ветк. (АЛА, НС, Сл. Гродз.), *ячмéніская салóма* – Карэл. (АЛА), *ячмéнны пóшар* – Воран. (АЛА), *я́чная салóма* – усх.-пал. г., Гарад., Віл., Маладз., Лёзн., Шкл., Крыч., Пух., Маг., Слаўг., Ветк. (АЛА), *я́чніца* ж. зб. – Пух., Чэрв., Іван. (АЛА, Шатэрнік), *ячнóвая салóма* – Смал. (АЛА), *ячóвая салóма* – Капыл. (АЛА);

**аўсяная салома**: *аўся́на(я) салóма* – спарадычна агульн. (АЛА, Мат. апыт.), *аўся́нка* ж. зб. – спарадычна паўн.-зах. з., спарадычна паўдн.-усх. з., Лёзн, Чэрв. (АЛА, Н. сл-сць, Шатэрнік), *аўся́ніца* ж. зб. – Віл., Маладз., Пух., Івац., Маз. (АЛА), *пóшар* м. зб. – Воран. (АЛА);

**грэчкавая салома**: *грацкóўе* н. зб. – Карэл. (З нар. сл.), *грача́нішча* н. зб. – Мёр. (ЖНС);

**гарохавая салома**: *гарахавя́нне* н. зб. – Стаўб. (ЖС, НС), *гарóхавіна* ж. зб. – Мёр. (Н. сл-сць), *гарóхавіны* мн. – Мядз. (НС);

**цёртая салома на корм жывёле**: *цéрніца* ж. зб. – Пол. (НЛ);

**салома, якую падсцілаюць жывёле:** *падсцíл* м. зб. – Стаўб. (СНМ), *падсцíлка* ж. зб. – Стаўб. (СНМ);

**кулявая салома**: *правíца* ж. зб. – Навагр., Івац., Жытк. (ТС, НС), *кулявáя* прым. – Воран., Чэрв. (Мат. Гродз., Шатэрнік), *прóстая* прым. – Свісл. (Шаталава);

**дробная салома:** *трахня́* ж. зб. – Астр. (Мат. Гродз.), *атрýскі* мн. – Мсцісл. (Бялькевіч);

**дробная салома, якая застаецца пасля малацьбы**: *атóра* ж. зб. – усх.-маг. р. (Н. сл-сць, Бялькевіч), *вы́малат* м. зб. – Гродз., Ваўк. (Мат. Гродз.), *абкалóт* м. зб. – Стаўб. (СНМ), *згóніны* мн. – Дзятл. (Мат. Гродз.), *сугрóбкі* мн. – Мядз. (НС);

**сухія сцёблы травяністых раслін**: *гіч* м. зб. – Лельч. (Кучук), *дуддзё* н. зб. – Пол. (НЛ), *ду́тка* ж. зб. – Пол. (НЛ);

**салома з проса**: *плусянні́ца* ж. зб. – Стол. (НЛ), *прасяні́ца* (*просяні́ца*) ж. зб. – Драг. (НЛ).

## Трапаць (лён)

Ачышчаць валакно, выбіваючы кастрыцу (адходы, якія атрымліваюцца ў выніку пераціранне адзеравянелых частак сцябла) спецыяльнай прыладай – трапачкай.

*трапáць* незак. – пераважна паўн.-зах. з., Чэрв., Мсцісл., Пін., Чач., Малар., Лоеў. (СПЗБ, ДСБ, Мат. Гродз., Юрчанка, Янкова, Мат. апыт.), *вылу́кшчываць* незак. – Вілен. р. (СПЗБ), *тапáшыць* незак. – Дзятл. (Мат. Гродз.), *трасці́* незак. – Вілен. р. (СПЗБ);

**трапанне льну**: *трапáнне* ж. – Брасл., Глыб., Шчуч., Воран. (СПЗБ), *трэ́пля* ж. – Слаўг. (Н. сл-сць);

**вытрапаны лён**: *трапáны* дзеепрым. – Лід., Бар. (СПЗБ);

**адходы пры трапанні льну**: *кастры́ца* ж. зб. – паўднёвая частка паўн.-зах. з., усх.-пал. г., Чач., Вілен. р. (СПЗБ, ТС, ГЧ, ЖНшС, Мат. Гродз., Шаталава, Янкова, Мат. апыт.), *кайстрá* ж. зб. – усх.-пал. г., спарадычна паўн. р., Шкл., Гродз., Чэрв., Чэрык., Чач., Вілен. р. (СПЗБ, ГЧ, НЛ, Шаталава, Мат. апыт.), *кайсцёр* м. зб. – Лоеў. (Янкова), *кастры́на* ж. зб. – Мёр. (Н. сл-сць), *кóстра* ж. зб. – Жытк. (ТС), *карóста* ж. зб. – Зэльв., Ваўк., Свісл., Слон., Кам. (Мат. Гродз., Шаталава), *пáтрап'е* н. зб. – спарадычна паўн. р., Навагр., Бярэз. (НС, З нар. сл., Шаталава), *патрóпкі* мн. – Верхнядзв., Лоеў., Браг. (Шаталава, Янкова), *атрэ́пы* мн. – Гродз., Воран., Лід., Уздз., Чэрв. (СПЗБ), *абця́жкі* мн. – паўночная частка паўн.-зах. з. (СПЗБ, Сл. Гродз., Шаталава), *абдзі́ркі* мн. – Пін.,

Лоеў. (Шаталава, Янкова), *цéрмяць* ж. зб. – Гродз., Маст., Калінк., Лоеў., Беластоц. р. (СПЗБ, Цыхун, Янкова), *мялле* н. зб. – Чач. (ЖНшС), *падмя́лле* н. зб. – Смарг. (СПЗБ), *амя́лле* н. зб. – Лоеў. (Янкова), *амы́чы* мн. – Навагр. (ЖС, 3 нар. сл.), *асмы́чаны* мн. – Карэл. (Шаталава), *вярхí* мн. – Паст., Шчуч., Вілен. р. (СПЗБ), *вярхóўе* н. зб. – Бярэз., Пін., Чач. (ЖНшС, Шаталава, Мат. апыт.), *галóўкі* мн. – Гродз., Пін. (3 нар. сл., Шаталава), *дýлька* ж. зб. – Воран., Навагр. (Мат. Гродз.), *зрэ́б'е* н. зб. – гродз.-бар. г., Паст., Лід. (СПЗБ), *зрэ́бніна* ж. зб. – Сен. (Каспяровіч), *кудзéльчына* ж. зб. – Тал. (Шаталава), *вал* м. зб. – Гарад., Ваўк., Свісл., Слон., Бяроз. (СПЗБ, Мат. Гродз., Шаталава), *сýвалка* ж. зб. – Ушацк. (Шаталава), *лайнó* н. зб. – Стол. (ТС), *хлóп'е* н. зб. – Лоеў. (Янкова), *пáкуль* ж. зб. – Стол. (ТС), *атóршкі* мн. – Тал. (Шаталава), *ацягіны* мн. – Шчуч. (СПЗБ), *ацягнены* мн. – Лід. (СПЗБ), *карóнкі* мн. – Калінк. (ЛМПП), *крóмля* ж. зб. – Астр. (Мат. Гродз.), *раднó* н. зб. – Чэрв. (СПЗБ), *трасýха* ж. зб. – Мёр. (СНМ);

**дробныя часткі валакна і пыл, якія ўздымаюцца ў паветра пры трапанні льну**:

*кýрава* н. і ж. – Шчуч., Люб., Старадарож., Петр., Лельч. (СПЗБ, НЛ, Шаталава), *дýлька* ж. – Навагр., Лун. (3 нар. сл., Шаталава), *дýлькі* мн. – Ганц. (Цыхун), *пыл* м. – Раг., Вілен. р. (СПЗБ).

## Ураджай

Колькасць збожжа, што ўрадзілася, вырасла.

*ураджáй* (*уражáй*) м. – агульн. (АЛА, Каспяровіч, Юрчанка), *урóд* м. – Зэльв. (Сцяцко), *урóда* ж. – Беш. (НС);

**ураджайны**: *урадлíвы* прым. – Лаг. (Варлыга), *вухóдны* прым. – Жытк., Стол. (ТС), *сíяны* прым. – Жытк., Стол. (ТС), *рáсны* прым. – Лоеў. (Янкова), *умалóтны* прым. – Мсціcл. (Юрчанка), *шчыпýчы* прым. – Стол. (ТС), *ядрóны(й)* прым. – Зэльв., Слаўг. (ДС, Мат. Маг., Сцяцко);

**урадзіць**: *урадзіць* зак. – Зэльв., Жытк., Стол., Лоеў. (ТС, ДС, Сцяцко, Янкова), *зарадзіць* зак. – Лаг., Чэрв. (Варлыга, Шатэрнік), *унáдзіць* зак. – Браг. (Шаталава);
**урадлівасць**: *сільнасць* ж. – Мсцісл. (Юрчанка).

### Церушыць (салому)

Пераціраць, здрабняць салому.

*трусіць* зак. – Карэл. (НС), *церушыць* незак. – Чэрв. (Шатэрнік);
**мелка пацёртае сена, салома (пацяруха)**: *пацярýха* ж. зб. – паўдн.-усх. з., зах.-пал. г., Мёр., Чэрв. (ЛАБНГ), *цярýха* ж. зб. – Шум., Чав. (ЛАБНГ), *патрýха* ж. зб. – паўн.-зах. з., спарадычна паўн. р., Светлагор. (ЛАБНГ, НЛ, Сцяцко, Цыхун), *патрýх* м. зб. – Віц. (ЛАБНГ), *пóтруха* ж. зб. – Леп. (ЛАБНГ), *пóтра* ж. зб. – Гродз., Бераст. (ЛАБНГ), *трухá* ж. зб. – Бял. (ЛАБНГ), *(а)ціра* ж. зб. – Чэрык., Касцюк., Краснап. (ЛАБНГ), *касцярэва* ж. зб. – Малар. (ЛАБНГ), *мацéж* м. зб. – Пруж. (ЛАБНГ), *міцюрня́* ж. зб. – Слаўг. (ЛАБНГ), *мякіна* ж. зб. – Бераст. (ЛАБНГ), *пóшур* м. зб. – Шчуч. (З нар. сл.), *шýма* ж. зб. – Светлагор. (ЛАБНГ).

### Церці лён з дапамогай церніцы

*цéрці* незак. – пераважна паўднёвая частка паўн.-зах. з., Паст., Брасл., Астр., Дзятл., Чэрв., Мсцісл., Калінк., Маз. (СПЗБ, ГЧ, Мат. Гродз., Юрчанка), *выцірáць* незак. – Вілен. р. (СПЗБ), *мяць* незак. – пераважна паўночная частка паўн.-зах. з. (СПЗБ), *ламáць* незак. – Віл. (СПЗБ), *лýжджыць* незак. – Воран. (СПЗБ), *смóргаць* незак. – Зэльв. (ДС, Сцяцко), *чáўкаць* незак. – Мёр. (СПЗБ).

### Часаць (лён)

Ачышчаць валакно льну ад рэштак кастрыцы пры дапамозе металічных шчотак, грэбеня ці часальных машын.

*часа́ць* незак. – спарадычна паўн.-зах. з., Мін., Кам., Нараўл. (СПЗБ, ГЧ), *вычэ́сuваць* незак. – Астр. (СПЗБ), *па́часаваць* незак. – Вілен. р. (СПЗБ), *драць* незак. – Рас., Чэрв. (Шаталава, Шатэрнік), *абдзіра́ць* незак. – Стол. (ТС), *смо́ргаць* незак. – Барыс., Круп. (НС, Шаталава), *абіра́ць* незак. – Драг. (СПЗБ), *азрэ́бліваць* незак. – Віл. (СПЗБ), *му́каць* незак. – Жытк. (ТС), *мы́чыць* незак. – Чэрык. (Мат. Маг.), *па́часціць* незак. – Слон. (Мат. Гродз.), *скі́дываць* незак. – Рас. (Шаталава), *скрэ́бці* незак. – Бых. (Мат. Маг.), *чо́хрыць* незак. – Стол. (ТС, ЖНшС);

**часанне льну**: *часа́нне* н. – Вілен. р. (СПЗБ);

**першы ачос ільну**: *патрэ́п'е* ж. – Чашн. (Каспяровіч);

**адыходы пры часанні льну**: *абдзі́ркі* мн. – усх.-пал. г. (ТС, ГЧ, З нар. сл.), *кло́чча* н. – Гродз. р. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *галаўкі́* мн. – Гродз., Бар., Пух. (СПЗБ), *камлі́* мн. – Паст., Воран., Вілен. р. (СПЗБ), *па́чассе* н. зб. – Мёр., Астр., Зэльв. (СНМ, ДС, Мат. Гродз., Сцяцко), *асмо́ргіны* мн. – Іўеў., Карэл. (Сл. Гродз.), *асмы́чаны* мн. – Бар., Ганц. (СПЗБ), *ачо́скі* мн. – Мёр., Лід. (СПЗБ, СНМ), *пачасы́* мн. – Гродз., Зэльв. (Мат. Гродз., Цыхун), *пачо́скі* толькі мн. – Лоеў., Браг. (Шаталава, Янкова), *абчо́скі* мн. – Тал. (Шаталава), *апра́ўкі* мн. – Паст. (СПЗБ), *ду́лькі* мн. – Карэл. (З нар. сл.), *ізрэ́б'е* н. зб. – Бешт. (Каспяровіч), *карэ́нне* ж. зб. – Гродз. (СПЗБ), *кудзе́льнік* м. зб. – Петр. (Шаталава), *ле́нкі* мн. – Бар. (СПЗБ), *падузра́нкі* мн. – Гродз. (СПЗБ), *па́клы* мн. – Вілен. р. (СПЗБ), *патрэ́п'е* н. зб. – Воран. (Сл. Гродз.), *пача́с* м. зб. – Карэл. (Мат. Гродз.), *па́часі* мн. – Слон. (НЛ), *пачо́сы* мн. – Лун. (Шаталава), *перачэ́скі* мн. – Пін. (Шаталава), *пласто́к* м. зб. – Мёр. (Шаталава), *пры́вызнына* ж. зб. – Кам. (ЖНС), *радаво́е* н. зб. – Бар. (СПЗБ), *стрэ́пкі* мн. – Карэл. (Сл. Гродз.), *хлапі́на* ж. зб. – Мсцісл. (Юрчанка);

**вычасаны лён**: *абдзёр* м. зб. – Шкл. (Мат. апыт.), *ку́шаль* м. зб. – Зэльв. (ДС, Сцяцко), *ляні́ца* ж. зб. – Пін. (Шаталава), *чэ́саны* дзеепрым. – Вілен. р. (СПЗБ).

# 5. СЕНАКОС

### Абграбаць

Абцягваць рукой ці граблямі сена вакол воза ці стога.

*абграба́ць* незак., *агра́біць* зак., *абця́гваць* незак., *абскуба́ць* незак. – Чэрв., Лаг. (Шатэрнік, Варлыга).

### Абчахнуць

Абсохнуць, абветраць (пра сена).

*абча́хнуць* зак. – Кобр. (НЛ), *абчарсцве́ць* зак. – Пол. (НЛ).

### Атавіць

Прапускаць траву пры скошванні.

*ата́віць* незак. – Стол., Лоеў. (ТС, Янкова).

### Адсырэць

Адсырэць, стаць вільготным (пра сена).

*адпусці́цца* зак. – Навагр. (ЖНС), *абпі́цца* зак. – Пол. (НЛ), *зві́льжыць* зак. – Гродз. (СПЗБ), *адвільжэ́ць* зак. – Лаг. (Варлыга), *намя́кнуць* зак., *прамя́кнуць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка);

**азначэнні сырога сена**: *сыравáты* прым., *саравáты* прым. – Брасл., Верхнядзв., Глыб., Гродз., Лях. (СПЗБ), *валкавáты* прым. – Слон., Зэльв. (Н. сл-сць, Сцяцко).

## Валкаваць

Зграбаць сена ў валкі.

*валкавáць* незак. – Глыб., Слон., Віл., Люб., Лях. (СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. апыт.), *скудлавáць* незак. – Ваўк. (Сл. Гродз.).

## Валок

Доўгая града згрэбенага сена.

*вал* м. – Паст., Смарг., Лаг., Стол., Жытк., Чач., Вілен. р. (СПЗБ, ТС, НС, Шаталава, Мат. апыт.), *валóк* м. – Паст., Гродз., Воран., Барыс., Чэрв., Слуцк., Люб., Стол., Жытк., Беластоц. р., Чэрв. р. (СПЗБ, ТС, НС, Мат. Гродз., Шатэрнік, Мат. апыт.), *вáлак* м. – Навагр., Гродз. (ЖС, Мат. Гродз.), *завáл* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *павáлак* м. – Зэльв. (Сцяцко), *скос* м. – Стол., Жытк. (ТС), *радóк* м. – Стол. (ТС), *акóпак* м. ‘валок высушанага сена’ – Навагр. (Мат. Гродз.).

## Варочаць

Паварочваць другім бокам, варушыць (сена).

*павярнýць* зак. – Брасл., Слуцк., Люб., Ганц., Вілен. р. (СПЗБ, Мат. апыт.), *вярнýць* незак. – Іўеў. (СПЗБ), *паварáчáць* зак., *паварóчаць* зак. – Паст., Смарг., Валож. (СПЗБ), *паварóчаць* зак. – Паст., Мсцісл. (СПЗБ, Юрчанка), *варóчаць* незак., *варачáць* незак. – Маст., Шчуч., Смарг., Драг., Беластоц. р., Вілен. р. (СПЗБ), *паварóчацца* зак. ‘падвярнуцца’ – Мсцісл. (Юрчанка), *варушы́ць* незак. – Бар., Слуцк., Люб., Лях. (СПЗБ, Мат. апыт.), *рýхаць* незак. – Смарг. (СПЗБ), *пагарнýць* зак. – Лід. (СПЗБ), *уставáліваць* незак., *уставó-*

*ліваць* незак., *уставяляць* незак. 'падварушваць' – Мсцісл. (Юрчанка), *перасушыць* зак. – Вілен. р. (СПЗБ), *падтрасываць* незак. 'падтрасаць' – Мсцісл. (Юрчанка), *падтрасыванне* н. 'падтрасанне сена, саломы' – Мсцісл. (Юрчанка).

## Гнаіць

Прыводзіць у стан гніення (пра сена).

*гнаіць* незак., *гнаіцца* незак. – Чэрв. (Шатэрнік).

## Грэбці

Зграбаць сена граблямі.

*грэбці* незак. – слуцк.-маз. г., Мін. р., спарадычна гродз.-бар. г., Пруж., Іван., Лун., Хоц. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шатэрнік), *грэбсці* незак. – Валож., Іўеў., Бярэз., Маг., Бяроз. (ЛАБНГ), *грэбсць* незак., *грэсці* незак., *грэсць* незак., *грэсь* незак. – віц.-маг. г. (ЛАБНГ, Юрчанка), *пагрэбці* зак. – Навагр., Іўеў., Свісл. (СПЗБ), *падгрэбліць* зак. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *грабці* незак. – гродз.-бар. г., спарадычна слуцк.-маз. г. і зах.-пал. г., Паст., Мядз., Віл., Беш., Докш. (ЛАБНГ, СПЗБ), *грабсці* незак. – зах.-пал. г., Рас., Шарк., Мёр., Гродз., Докш., Пол., Барыс., Бял. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ, Цыхун), *зграбці* зак. – Лях. (СПЗБ), *зграбаць* незак., *згрэбаць* незак. – Шчуч., Іўеў., Воран., Бар., Вілен. р. (СПЗБ), *даграбаць* незак. – Чэрв. (Шатэрнік), *грабіць* незак. – паўн.-зах. з., паўн. р., Вілен. р., Латгал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ, СНМ, З нар. сл., Варлыга, Цыхун), *грабаць* незак. – Вілен. р. (СПЗБ), *грабаць* незак. – Воран., Вілен. р. (СПЗБ), *зграбіць* зак. – Астр., Смарг. (СПЗБ), *падграбіць* зак. – Астр., Лаг. (СНМ, Варлыга), *згортваць* незак., *згортаваць* незак. – Паст. (СПЗБ), *кашчыць* незак. 'убіраць сена' – Дзятл. (Сл. Гродз.), *устроіць* зак. 'прыбраць сена' – Стол. (ТС), *падкідаваць* незак. – Воран. (Сл. Гродз.);

**грабенне:** *грабенне* н. – Зэльв. (Мат. Гродз.), *грабленне* н. – Карэл. (СПЗБ), *грабаня* н. – Вілен. р. (СПЗБ).

## Грыва

Касмык травы на скошанай сенажаці.

*грыва* ж. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, СНМ, Н. сл-сць, Мат. Гродз., Шаталава, Кучук), *грывіна* ж. – Мёр. (Н. сл-сць), *грэбень* м. – Дзятл., Гродз., Навагр., Віл., Слуцк., Дубр., Петр. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шаталава), *грабянёк* м., *грабéньчык* м. памянш. – Раг., Маз. (ЛАБНГ), *грабýшкі* мн. – Воран. (ЛАБНГ), *чуб* м., *чубóк* м. памянш. – спарадычна цэнтр. з., Брасл., Рас., Маладз., Воран., Пін., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Шаталава), *барадá* ж. – спарадычна пал. р. і гродз.-бар. г., Чэрык., Клім., Бял. (ЛАБНГ, НС, Мат. Маг., Шаталава), *клок* м. – Гарад., Бых., Карм., Мсцісл., Касц. (ЛАБНГ), *клачóк* м. – Бярэз. (ЛАБНГ), *клóчча* н. – Карм. (ЛАБНГ), *абкóс* м. – Раг., Нараўл., Ельск., Браг. (ЛАБНГ), *абкóсак* м. – Лід., Слон., Бераст., Круп., Слаўг., Ганц., Лоеў. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *недакóс* м. – Мін. (ЛАБНГ), *недакóсак* м. – Дзятл., Слаўг., Карм., Клім. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *прыкóс* м. – Чав. (ЛАБНГ), *нéкась* м. – Гл. (ЛАБНГ), *абмíнак* м. – Пруж. (ЛАБНГ), *мінýха* ж. – Рэч. (ЛАБНГ), *касмык* м. – Валож., Нясв. (ЛАБНГ), *касмóк* м. – Лаг. (ЛАБНГ), *касмýк* м. – Смарг. (ЛАБНГ), *касмылí* мн. – Віц. (ЛАБНГ), *казá* ж. – Свісл., Івац., Іван. (ЛАБНГ, Шаталава), *жмéня* ж. – Гом., Ветк. (ЛАБНГ), *узрэ́х* м. – Ашм. (ЛАБНГ), *агрэ́хі* мн. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *загрэ́хі* мн. – Чэрв. (ЛАБНГ), *хіб* м. – Карэл. (Шаталава), *пóдвалак* м. – Лельч. (НЛ), *пóстаць* ж. – Бар. (ЛАБНГ), *хімкí* мн. – Валож. (ЛАБНГ), *дзяды́* мн. – Іўеў. (ЛАБНГ), *кýпіна* ж. – Дзярж. (ЛАБНГ), *халмáк* м. – Рас. (ЛАБНГ), *пáсма* ж. – Валож. (ЛАБНГ), *хрыбéт* м. – Віл. (ЛАБНГ), *падсáда* ж. – Гор. (ЛАБНГ), *плíшчык* м. – Кобр. (ЛАБНГ), *гусакí* мн. – Бых. (ЖНС), *граблí* мн., *рубяжы́* мн. 'трава, якая застаецца паміж пракосамі' – Драг. (Н. сл-сць).

## Завішаваць

Застацца няскошаным (пра сена).

*завішава́ць* зак. – Гродз., Слуцк., Салігор., Гл. (З нар. сл., Н. сл-сць, Сл. Гродз., Янкоўскі), *завішэ́ць* зак. – Салігор. (З нар. сл.).

**Злегчыся**

Ушчыльніцца (пра сена).

*зле́гчыся* зак. – Бяроз. (ЖНС).

**Зярэдзіць**

Прасушвацца на азяродзе.

*зярэ́дзіць* незак. – Гродз. (Сл. Гродз.).

**Капніць**

Складаць сена ў копы.

*капі́ць* незак. – паўдн. р., Карэл., Свісл., Навагр., Бял., Клім. (ЛАБНГ, НС, СПЗБ, Мат. Гродз., Шаталава, Кучук), *скапі́ць* зак. – Навагр., Жытк. (ТС, Сл. Гродз.), *капні́ць* незак. – Бярэз. р., Кам., Бяроз. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, Шаталава), *капнава́ць* незак. – Гарад. (ЛАБНГ), *капі́чыць* незак. – Пін. (ЛАБНГ), *кла́сці* незак. – паўдн. р., цэнтр. з., паўн. р., Маг. р. – спарадычна Касц. (ЛАБНГ), *склада́ць* незак. – агульн., паўдн. р. – спарадычна (ЛАБНГ), *скла́дываць* незак. – Дубр., Гор., Бярэз., Мсцісл., Хоц. (ЛАБНГ), *скла́дваць* незак. – Шум. (ЛАБНГ), *лажы́ць* незак. – Паст., Пол., Арш., Дубр., Сен., Чашн., Дзятл., Маст., Дзярж., Кобр., Бар., Іван., Драг., Хоц. (ЛАБНГ), *кі́даць* незак. – Івац. (ЛАБНГ), *грэ́сць* незак. – Чэрык., Добр. (ЛАБНГ), *заграба́ць* незак. – Раг. (ЛАБНГ).

**Касіць**

Зразаць траву касой.

*касíць* незак. – агульн. (АЛА, СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., Шатэрнік, Сцяцко, Юрчанка, Мат. апыт.), *укасíць* зак. – паўн.-зах. з., Вілен. р. (СПЗБ), *укасíцца* зак. 'усё пакасіць' – Воран. (СПЗБ), *скасíць* зак. – Мсцісл., Жытк. (ТС, Юрчанка), *накасíць* зак. – Глыб., Віл., Слуцк., Люб., Жытк. (СПЗБ, ТС, Мат. апыт), *адкасíць* зак. – Сен. (Каспяровіч), *дакасíць* зак. – Стол. (ТС), *перакасíць* зак. 'скасіць лішняе' – Гродз. (СПЗБ), *дакóшваць* незак. – Чэрв. (Шатэрнік), *абкасíць* зак. 'адкасіць частку чужога сенакосу' – Чэрв. (Шатэрнік), *панакасíць* зак. 'накасіць шмат' – Мсцісл. (Юрчанка), *пакáшаваць* незак. 'касіць нейкі час' – Віл. (СПЗБ), *закасíць* зак. 'касіць за сваю мяжу' – Астр. (Мат. Гродз.), *акасíцца* зак. – Астр. (Сл. Гродз.), *апкасíціся* зак. 'выкасіць' – Кобр. (ЖС), *паскáшываць* зак., *папавыкáшываць* зак., *папавы́касціць* зак. 'скасіць шмат' – Мсцісл. (Юрчанка), *укáшуваць* незак. 'выкошваць' – Лоеў. (Янкова), *сенавáць* незак. – Іўеў., Навагр. (З нар. сл., Мат. мін.-мал.), *закóшваць* незак. 'пачынаць новы пракос' – Стол. (ТС), *гнаць пракóс* 'касіць траву ў пракос' – Воран. (Мат. Гродз.), *джóўнуць* зак. экспр. 'касануць' – Ганц. (СПЗБ), *пабры́нкаць* зак. неадабр. – Мсцісл. (Юрчанка);

**касіць бугрыстую сенажаць**: *дзя́баць* незак., *дзя́бацца* незак. экспр. – Ганц. (СПЗБ), *джóгаць* незак. экспр. – Лід., Ганц. (СПЗБ);

**скасіць да самай зямлі**: *вы́галіць* зак. – Мядз. (СПЗБ), *вы́біць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *вы́плінтаваць* зак. 'гладка выкасіць' – Ушацк. (НС);

**дрэнна касіць**: *гры́віць* незак. – Верхнядзв., Навагр. (Сл. Гродз., Шаталава), *чубáціць* незак. – Карэл. (Сл. Гродз.), *збіць* зак. – Жытк. (ТС), *пазбівáць* зак. экспр. – Старадарож. (ЖНС), *здрáпаць* зак. – Стол. (ТС), *падры́нкаць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *лапатáць* незак. – Слон. (СПЗБ);

**касіць доўгі час**: *папкасíць* зак. – Лях. (СПЗБ), *папакóшваць* зак. – Навагр. (СПЗБ), *пападжóгваць* зак. экспр. – Ганц. (СПЗБ);

**абкасіць**: *абайцí* зак. – Пін. (ЖНС), *абмантáчыць* зак. – Слон. (Сл. Гродз.).

## Касьба

Час кашэння травы на сена.

*касьба́* ж. – асн. мас. г., Драг., Іван. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Варлыга, Каспяровіч, Шатэрнік), *касаві́ца* ж. – паўдн. р., Мсцісл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *касіва́* мн. – Стол. (ТС), *касе́нне* н. неадабр. – Зэльв., Слон. (ЛАБНГ, Сл. Гродз., Сцяцко), *касля́* ж. – Шчуч. (СПЗБ), *ко́шля* н. – Свісл., Слуцк., Гл. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНСл., Янкоўскі), *сенако́с* м. – асн. мас. г., Беластоц. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, Мат. Гродз., Варлыга), *сенава́нне* н. – спарадычна гродз.-бар. г. (ЛАБНГ, НЛ, Мат. Гродз., Цыхун), *сенажа́цця* н. – Касцюк. (Бялькевіч), *пако́с* м. – Верхнядзв., Валож., Малар., Вілен. р. (СПЗБ, ДСБ), *ло́нка* ж. – Драг. (ДСБ), *луго́віца* ж. – Стаўб. (З нар. сл.), *зако́шваць* незак. 'пачынаць касьбу' – Воран. (Сл. Гродз.);

**пачатак касьбы**: *зако́скі* мн. – Шчуч., Лаг. (СПЗБ, Сл. Гродз.), *касаёўка* ж. – Воран. (Сл. Гродз.);

**заканчэнне касьбы**: *дако́скі* мн. – Лід., Карэл., Лаг., Мсцісл., Стол., Беластоц. р. (СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., Юрчанка), *ско́скі* мн. – Лаг. (Варлыга), *уко́с* м. – Чэрв., Раг. (СПЗБ), *га́ла* н. 'балотны сенакос', *пацыро́б* м. 'сенакос, ачышчаны ад кустоў' – Чэрв. (Шатэрнік), *пастаўня́* ж. – Лельч. (ЛП).

## Кульша

Абвіслае сена на возе ці стозе.

*ку́льша, кульша́* ж. – гродз.-бар. г., Мін. р., Слуцк. р., пал. р., Іўеў. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *клю́шня́* ж. – спарадычна паўдн.-усх. з. (ЛАБНГ).

## Мурог

Сена з сухадольнай сенажаці.

*муро́г* м. – цэнтр. з., пол.-мін. г., спарадычна пал. р., спарадычна Маг. р. і ўсх.-маг. р., Дубр. (ЛАБНГ, СНМ, Мат.

Гродз., Варлыга, Кучук), *мурава́* ж. – Лаг. (Варлыга), *груд* м. – спарадычна зах.-пал. г., Лід. (ЛАБНГ, ДСБ), *грудо́віна* ж. – Брэсц. (ДСБ), *луг* м. – Драг. (ЛП), *паплаві́на* ж. – Івац. (ЛАБНГ), *асе́ліца* ж. – Мядз. (ЛАБНГ), *сухасто́й* м. – Шчуч. (ЛАБНГ), *сіве́ц* м. – Бярэз. (ЛАБНГ), *свіну́х* м. – Клім. (ЛАБНГ), *пажа́р* м. – Маз. (ЛАБНГ);

**прыметнікі**: *муро́жны* прым. – усх. з., паўн.-зах. з. (ЛАБНГ), *муражны́* прым. – Глыб., Смарг., Віл., Лаг., Мядз., Дзярж., Пух. (ЛАБНГ), *мурагавы́* прым. – Бабр. (ЛАБНГ), *муро́жнае се́на* – Ашм., Астр., Навагр., Чэрв., Вілен. р. (СПЗБ, Шатэрнік), *грудавы́* прым. – гродз.-бар. г., пераважна зах.-пал. г., Слуцк. р. (ЛАБНГ), *грудаво́е се́на* – Зэльв., Навагр. (Мат. Гродз., Сцяцко), *лугавы́* прым. – спарадычна паўн. р. і ўсх.-пал. р., Бярэз., Лун. (ЛАБНГ, СПЗБ), *паплавы́* прым. – Лун. (ЛАБНГ, Шаталава), *паплаўны́* прым. – Чач., Рэч., Лун., Ельск. (ЛАБНГ), *палявы́* прым. – Ваўк. (ЛАБНГ), *сухадо́льны* прым. – Добр. (ЛАБНГ), *рачны́* прым. – Чэрв. (ЛАБНГ), *дро́бны* прым. – Клім. (ЛАБНГ), *бугравы́* прым. – Буда-Каш., Гом. (ЛАБНГ), *берагавы́* прым. – Гарад., Маг. (ЛАБНГ), *бало́тны* прым. – Гродз., Чэрв., Лун. (ЛАБНГ), *сухі́* прым. – Мёр., Бых., Хоц. (ЛАБНГ), *пажнявы́* прым. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *по́жынны* прым. – Пол. (ЛАБНГ).

## Накідаць

Накідаць сена на воз.

*накіда́ць* незак. – агульн. (ЖНС, Мат. апыт.).

## Падгрэбіны

Рэшткі, якія застаюцца пасля падграбання сена.

*пагрэ́біны* мн. – Пол., Навагр., Чэрв. (СПЗБ, Шатэрнік), *падгрэ́біны* мн – Карэл. (СПЗБ), *пагрэ́бкі* мн. – Ашм., Шчуч. (СПЗБ), *падгрэ́бкі* мн. – Ваўк. (СПЗБ), *падгро́бкі* мн. – Пол. (НЛ), *ацяро́бкі* мн. – Астр. (СРЛГ), *атру́скі* мн. ‘тое, што

патрусілася пры возцы сена' – Лаг. (Варлыга), *пакóпіска* н. 'сена ад пластаванага абярэмка, капы' – Івац. (НС).

### Падсцёл

Памост пад стажок намалочанага збожжа.

*падсцёл* м., *засцёл* м., *падóк* м., *лісцíна* ж. – Стол. (ЛП), *пасцéля* ж. – Малар. (ЛП).

### Пакоша

Скошаны луг.

*пакóша* ж. – паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г., спарадычна паўн.-усх. д. і зах.-пал. г. (ДАБМ, СПЗБ, Мат. Гродз.), *пакóс* м. – паўдн. р., спарадычна цэнтр. з. і паўн.-усх. д. (ДАБМ, ТС), *пакóсіна* м. – Клім., Іван. (ДАБМ), *пакóсішча* н. – спарадычна агульн. (ДАБМ), *пакóсся* н. – Мін., Старадарож. (ДАБМ), *скос* м. – Крыч. (ДАБМ), *скóша* ж. – Лельч. (ДАБМ), *кóша* ж. – Пруж. (ДАБМ), *кóшанка* ж. – Кам., Пруж., Кобр., Драг. (ДАБМ, НЛ), *кóшля* ж. – Бар., Івац. (ДАБМ), *пакóшля* ж. – Ганц. (ДАБМ), *кашанíца* ж. – Івац., Іван. (ДАБМ), *касавíска* н. – Бяроз. (ДАБМ), *сенажáць* ж. – спарадычна паўн.-зах. з. і паўдн. р., Тал. (ДАБМ), *сенакóс* м. – спарадычна цэнтр. з. і ўсх.-пал. р., Віц. (ДАБМ), *пóжня* ж. – паўдн. р., Слуцк. р., Гродз. р., Чэрв. р., пал. р. – спарадычна (ДАБМ);

**недакошаны луг**: *недакóс* м. – Віц. (Каспяровіч), *нéкась* ж. – Стол. (ТС), *нéкаш* ж. – Лаг. (Варлыга).

### Пацяруха

Дробныя часткі сена.

*пацярýха* ж. – Чэрв. (Шатэрнік), *пáтруха* ж. – паўн.-зах. з., Вілен. р. (СПЗБ), *патрýха* ж. – Верхнядзв., Стаўб., Брэсц., Драг. (ДСБ, З нар. сл., Шаталава), *патрухá* ж. – Воран., Ваўк. (Мат. Гродз.), *трухá* ж. – Маст. (СПЗБ), *пóтра* ж., *цярухá*

ж. – Гродз. (Цыхун), *тэруя́* ж. – паўднёвая частка Пін. (НЛ), *аме́цеўка* ж. – Навагр. (СРЛГ), *адо́нне* н. – Краснап. (Бяль-кевіч), *аб'яддзё* н. 'рэшткі недаедзенага сена, саломы' – Жлоб. (ЖС).

## Пластаваць

Накладваць пласты сена адзін на адзін.

*пластава́ць* незак. – гродз.-бар. г., Мін. р., Маг. р., спарадычна пал. р., Верхнядзв., Пол., Дубр., Бярэз., Хоц. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ, Мат. Гродз.), *спластава́ць* зак. – Ашм. (СПЗБ), *пласці́ць* незак., *пло́сціць* незак. – паўн.-усх. д., Навагр., Калінк., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, НС, Сл. Гродз., Шаталава), *спласці́ць* зак. – Лаг. (СПЗБ), *шчыня́ць* незак. – заходняя частка зах.-пал. г., спарадычна гродз.-бар. г. (ЛАБНГ, СНМ, НЛ, Сл. Гродз., Шаталава, Сцяцко), *шчы́ньваць* незак. – Стаўб. (ЛАБНГ), *пашчыня́ць* зак. – Зэльв. (Сцяцко), *перачыня́ць* незак. – Слон., Бяроз., Драг. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Шаталава), *чыні́ць* незак. – Іўеў., Карэл. (СПЗБ), *перачыні́ць* зак. – Бяроз. (Шаталава), *шчыні́ць* зак. – Іўеў. (СПЗБ), *перачынко́ўваць* незак. – Івац. (ЛАБНГ), *збіва́ць* незак. – Верхнядзв., Рас., Шум., Віл., Вілен. р., Латгал. р. (СПЗБ, Шаталава), *перабіра́ць* незак. – Бярэз. р., паўднёва-ўсходняя частка гродз.-бар. г., Слуцк. р., Чэрв. р., Мсцісл., Карм., Буда-Каш., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ), *біць* незак., *збіва́ць* незак., *падбіва́ць* незак. – спарадычна паўн. р. і паўн.-зах. з. (ЛАБНГ), *рабі́ць* незак. – Брэсц., Бяроз. (ЛАБНГ), *награба́ць* незак. – Іван. (ЛАБНГ), *ранкава́ць* незак., *наранкава́ць* зак. – Малар. (ЛАБНГ, НЛ), *адбіра́ць* незак. – Слаўг., Клім. (ЛАБНГ); *шчыпава́нне* н. 'падрыхтоўка пластоў сена' – Навагр. (Мат. Гродз.).

## Разбіваць

Растрасаць (пра сена).

*разбіва́ць* незак. – агульн. (СНМ, Мат. апыт.), *пасцягну́ць* зак. 'разбіць пракосы' – Бяроз. (Шаталава), *растраса́ць* не-

зак., *растрэ́саць* незак. і зак. – Верхнядзв., Віл., Пух., Слуцк., Люб., Лях., Вілен. р. (СПЗБ, Мат. апыт.), *раскіда́ць* незак. – Чэрв., Мсцісл. (Шатэрнік, Юрчанка), *распуска́ць* незак. – Гродз., Воран., Лях. (СПЗБ, Цыхун), *распусці́ць* зак. – Навагр. (СПЗБ), *разбіва́ць* незак. – Чэрв., Люб., Слуцк. (Мат. апыт., Шатэрнік), *развярну́ць* зак. – Воран. (СПЗБ), *расця-ру́шваць* незак. – Чэрв. (Шатэрнік).

### Сапрэць

Сатлець, сапрэць, збуцвець (пра сена).

*бу́тняць* незак., *збу́тняць* зак. – Карэл. (НС), *стыне́ць* незак. – Мсцісл. (Юрчанка), *ізгарэ́ць* зак. – Ганц. (СПЗБ), *ізгарэ́цца* зак. – Чэрв. (СПЗБ).

### Сена

Скошаная і высушаная трава, якая ідзе на корм жывёле.

*се́на* н., *сянцо́* н. памянш., *се́нка* н. памянш. – агульн. (СПЗБ, Мат. Гродз., Бялькевіч, Юрчанка, Мат. апыт.), *се́ны* мн. – Вілен. р. (СПЗБ), *сена́* мн. – Ашм. (СПЗБ), *рум* м. – Чав., Краснап., Добр. (ЛАБНГ);

**сена, скошанае на балоце**: *бало́та* н. – Кобр., Бяроз., Драг., Лельч. (ДСБ, НЛ, ЛП, Кучук), *бало́ціна* ж. – Смарг. (Сл. Гродз.), *бало́тніца* ж. – Ушацк., Лаг. (НС, Варлыга), *лабаза́* ж., *сянчы́на* ж. – Пол., Лаг. (НЛ, Варлыга), *асянчы́на* ж. – Мядз. (НС);

**розныя віды сена**: *вішуча́* ж. – Стол. (ТС), *лабаза́* ж. – Лід., Вілен. р (СПЗБ), *лабазава́ты* прым. – Віл. (СПЗБ), *асянчы́на* ж. – Ушацк. (НС), *казі́нка* ж. ‘лясное’ – Астр. (Сл. Гродз.), *асянчу́к* м. ‘скошанае ўвосень’ – Лаг. (Варлыга), *ля́нка* ж. ‘скошанае ў розных месцах’ – Іўеў. (Сл. Гродз.), *віша́р* м. ‘гнілое’ – Бяроз. (Шаталава), *муры́й* м. ‘дробнае і мяккае’ – Драг. (НЛ), *льні́ска* н. ‘з рэшткамі лёну’ – Карэл. (СПЗБ), *корж* м. ‘зляжалае’ – Раг. (СПЗБ), *прэ́даланне* н.

‘з некалькіх траў’ – Драг. (ЖС), *сінцёж* м. ‘скошанае паверху льда’ – Чэрв. (Шатэрнік), *патрýсіны* мн. ‘дробнае’ – Іўеў. (Сл. Гродз.), *пагóня* ж. ‘скошаная трава на заліўных месцах’ – Драг. (ЛП), *пóплаў* м. ‘з поплава’ – Лельч. (Кучук), *урэ́чны* прым. ‘скошанае каля ракі’ – Пін. (СНМ), *асукавáты* прым. ‘з асакой’ – Круп. (НС), *асóчны* прым. ‘асаковы’ – Лоеў. (Янкова), *асакóвае сéна* ‘з асакі’ – Ваўк. (Мат. Гродз.), *мурóгавы* прым. ‘мурожны’ – Лельч. (Кучук), *лугавы́* прым. – Жытк. (ТС), *грудавы́* прым. ‘з груда’ – Лельч. (Кучук), *такрóшні* прым. ‘леташні’ – Карэл. (ЖС), *лучны́* прым. ‘скошанае каля ракі’ – Віл. (СПЗБ), *ядкí* прым. ‘які ядуць з апетытам’ – Чэрв. (Шатэрнік), *нагóдный* прым. ‘убраны пры добрым надвор’і’ – Мсцісл. (Юрчанка), *курáвы* прым. ‘збуцвелы на пыл’ – Слон. (ЖС), *арáчы* прым. ‘сапрэлы’ – Гродз. (СПЗБ), *старпавáны* дзеепрым. ‘складзены ў торп, стог’ – Дзятл. (Сл. Гродз.);

**адно каліва сена**: *сянíна* ж. – Люб., Гл., Мсцісл., Бых. (СНМ, Мат. Маг., Юрчанка), *сенінá* ж. – Пол. (НЛ), *цурбалíна* ж. – ‘жорсткая і тоўстая сцябліна ў сене’ – Гл. (Янкоўскі).

## Сенаваць

Нарыхтоўваць сена.

*сенавáць* незак. – паўн.-зах. з. (ЛАБНГ, СПЗБ, НС, Сл. Гродз., Шаталава, Цыхун), *насенавáць* зак. – Паст., Ашм., Іўеў., Лід., Шчуч., Навагр. (СПЗБ, Сл. Гродз.), *усенавáць* зак. – Іўеў., Вілен. р. (Сл. Гродз., СПЗБ), *падсянóўваць* незак. – Навагр. (СПЗБ), *рабíць* незак. – зах.-пал. г., цэнтральная частка пал. р., цэнтр. з., Барыс., Калінк., Чач. (ЛАБНГ, СПЗБ), *зрабíць* зак., *зраблЯць* незак. – Маз. (ГЧ), *касíць* незак. – агульн., акрамя паўн.-зах. з., Слуцк. г. і ўсх.-маг. р. (ЛАБНГ), *гатóвіць* незак., *загатаўлЯць* незак. – усх. з., Паст., Віл., Мін., Гродз., Слуцк., Кам., Брэсц. (ЛАБНГ), *гатавáць* незак. – Ушацк. (ЛАБНГ), *запáсіць* незак., *назапáшваць* незак. – усх. з., Мін. р., Астр., Дзятл., Слуцк., Ганц., Лун., Лельч. (ЛАБНГ), *шчынЯць* незак. – Зэльв. (Мат. Гродз.),

*прыспасаблiваць* незак. – Клім. (ЛАБНГ), *пратаць* незак. – Карм. (ЛАБНГ), *дзелаць* незак. – Бабр., Буда-Каш. (ЛАБНГ), *убiраць* незак. – Стол. (ЛАБНГ), *убрындаць* зак. іран. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *спiжаваць* незак. – Свісл., Слаўг., Карм., Ветк. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *сенаванне* н. 'сушка сена' – Маст., Шчуч., Свісл., Карэл., Навагр. (СПЗБ, Шаталава).

### Сенажаць

Месца, дзе расце трава на сена.

**сухадольная сенажаць**: *сенажаць* ж., *сухая сенажаць* – цэнтр. з., Мсцісл., Краснап. (ЛАБНГ), *добрая сенажаць* – Ашм. (ЛАБНГ), *пожня* ж. – Брасл., Паст., Верхнядзв., Пол., Гарад., Сен., Чашн., Тал., Арш., Гор., Карм., Рэч. (ЛАБНГ, НЛ), *сухая пожня* – Глыб., Леп., Круп. (ЛАБНГ), *сухадольная пожня* – Бял. (ЛАБНГ), *пожня лясная* – Шарк. (ЛАБНГ), *груд* м, *грудок* м. памянш. – гродз.-бар. г., зах.-пал. г., Слуцк. р., спарадычна ўсх.-пал. р., Бярэз. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ), *грудавая сенажаць* – Навагр., Уздз., Клецк. (ЛАБНГ), *луг* м., *лужок* м. памянш. – агульн. (ЛАБНГ, ЛП), *сухi луг* – Докш., Маладз. (ЛАБНГ), *сухадольны луг* – Верхнядзв., Раг., Клім., Касц., Ветк. (ЛАБНГ), *мурог* м. – Паст., Чашн., Лід., Нясв., Мядз., Лаг., Дзярж., Барыс., Круп., Асіп., Слуцк., Кругл. (ЛАБНГ), *мурожная сенажаць* – Астр., Смарг., Іўеў. (ЛАБНГ), *сухадол* м. – Беш., Лаг., Мсцісл., Бабр., Добр. (ЛАБНГ), *сухадолле* н. – Чэрв., Гом. (ЛАБНГ), *сухi сенакос* – Мёр., Віл., Бярэз. (ЛАБНГ), *лучны сенакос* – Віл. (ЛАБНГ), *лог* м. – Бярэз., Мсцісл., Бял., Бых., Клім. (ЛАБНГ), *поплаў* м. – Слон., Стаўб., Люб., Лун., Драг., Акц., Чач. (ЛАБНГ, ЛП, ЖС, Шаталава, Мат. Гродз.), *балота* н. – Свісл., Гродз., Саліг., Лун., Петр., Беластоц. р. (ЛАБНГ, ЖНСл., Шаталава), *лагавiна* ж., *логавiна* ж., *лагавiнка* ж. памянш., *логавiнка* ж. памянш. – Мсцісл. (Юрчанка), *курган* м. – Бабр., Светлаг. (ЛАБНГ), *ґурган* м. – Чэрв. (ЛАБНГ), *бугор* м. – Буда-Каш., Лоеў. (ЛАБНГ), *пагўрак* м. – Ушацк. (ЛАБНГ), *пагорак* м. – Пол. (ЛАБНГ), *буй* м., *буёк* м. памянш. – Докш., Ушацк.

(ЛАБНГ), *гарбыль* м. – Віц. (ЛАБНГ), *бор* м. – Мядз. (ЛАБНГ), *аблóга* ж. – Бых. (ЛАБНГ), *нізíна* ж. – Мсцісл. (ЛАБНГ), *дубрóвы* мн. – Маз. (ЛАБНГ), *пажáр* м. '(на гарэлым месцы)' – Маз. (ЛАБНГ), *вóстраў* м. – Ганц., Петр., Ельск. (ЛАБНГ), *астравóк* м. – Люб., Калінк. (ЛАБНГ), *грыва* ж. – Чав., Рэч. (ЛАБНГ), *сухадóльная грыва* – Барыс. (ЛАБНГ), *памéжак* м. – Мядз. (Н. сл-сць), *пацярóбы* мн. – Іваң. (ЛАБНГ), *гóрка* ж. – Бабр. (ЛАБНГ), *сухмéнне* н. – Ветк. (ЛАБНГ), *пагýр* м. – Віл. (СПЗБ), *грыва* ж. – Барыс. (СПЗБ), *мурóк* м. – Гродз. (Цыхун);

**забалочаная сенажаць**: *луг* м., *лужóк* м. памянш. – усх. з., паўн.-зах. з., Слуцк. р., Гродз., Слон., Лях., Кам., Пін., Стол., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНС, СНМ, ТС, Сцяцко, Юрчанка), *заліўны луг* – спарадычна віц.-маг. г., спарадычна Гом. р., Брасл. (ЛАБНГ), *балóтны луг* – Верхнядзв., Маз. (ЛАБНГ), *лог* м. – Барыс., Кір., Бял., Мсцісл., Чав. (ЛАБНГ), *лагчына* ж. – Валож. (ЛАБНГ), *лашчына* ж. – Буда-Каш. (ЛАБНГ), *лашчынá* ж. – Докш. (ЛАБНГ), *лахцíна* ж. – Зэльв., Слон. (ЛАБНГ), *сенажáць у лагý* – Старадарож. (ЛАБНГ), *балóта* н. – агульн., за выключэннем Віц. р., спарадычна ўсх.-маг. р., Лях. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, ДСБ, Сцяцко), *балацíна* ж. – Мядз. (ЛАБНГ), *балóцістая сенажáць* – Навагр., Касц. (ЛАБНГ), *балацяная сенажáць* – Валож. (ЛАБНГ), *балóтная сенажáць* – Клецк. (ЛАБНГ), *балóтлівая сенажáць* – Смарг. (ЛАБНГ), *абалóнне* н. – Брэсц., Лельч. (ДСБ, Кучук), *мóкрая сенажáць* – Ашм., Бабр. (ЛАБНГ), *асакóвая сенажáць* – Мсцісл. (ЛАБНГ), *пóжня* ж. – Гарад., Барыс., Арш., Бярэз., Карм. (ЛАБНГ), *мóкрая пóжня* – Глыб., Леп., Тал. (ЛАБНГ), *пóйма* ж. – Раг. (ЛАБНГ), *пагóня* ж. – Іван., Стол. (ЛАБНГ, ДСБ), *куп'é* н. – Нараўл. (ЛАБНГ), *гáла* ж. – Браг. (ЛАБНГ), *алёс* м. – Верхнядзв., Шчуч., Буда-Каш. (ЛАБНГ, НЛ), *плёс* м. – Верхнядзв. (СПЗБ), *альсá* ж. – Рэч. (ЛАБНГ), *далíна* ж. – Бабр., Ельск. (ЛАБНГ), *ройст* м. – Астр., Воран. (ЛАБНГ), *рóйста* ж. – Смарг. (ЛАБНГ), *лóнка* ж. – Брэсц., Кам. (ДСБ), *латóка* ж. – Докш. (ЛАБНГ), *сахá* ж. – Круп. (ЛАБНГ), *пóплаў* м., *пóплаўчык* м. памянш. –

Лід., Стаўб., Бар., Чэрв., Пух., Ганц., Лях., Брэсц., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, Шатэрнік), *багно́* н. 'з мноствам купін' – Шчуч. (НЛ), *баго́нне* н. – Чашн. (Каспяровіч), *ні́зкае ме́сца* – Гродз. (ЛАБНГ);

**сенакосныя ўгоддзі**: *сенако́с* м. – Слуцк. р., Чэрв. р., спарадычна Бярэз. р. і Маг. р., спарадычна гродз.-бар. г., пал. р., Кам., Пол., Докш., Мядз., Віл., Валож., Мін., Лях., Пруж. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЖНС), *сенажа́ць* ж. – паўн.-зах. з., зах.-пал. г., спарадычна слуцк.-маз. г., Пол., Гарад., Чэрык., Касц., Лельч., Чашн., Мін., Чэрв., Ганц., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, АЛА, СНМ, Мат. Гродз., Бялькевіч, Варлыга, Каспяровіч, Кучук, Шатэрнік), *сено́жаць* ж. – Старадарож., Люб., Жытк., Маз. (СПЗБ, ТС, Мат. апыт), *санажа́тка* ж. – Лаг., Паст., Смарг. (СПЗБ, Варлыга), *по́жня* ж., *по́жанька* ж. памянш. – паўн.-усх. д., Гом. р., спарадычна ўсх.-пал. р., Дзярж., Лун., Латгал. р. (ЛАБНГ, АЛА, СПЗБ, НЛ), *ло́нка* ж. – паўн.-зах. з., Кам., Пруж., Брэсц., Жаб., Вілен. р., Латгал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНшС, Мат. Гродз.), *бало́та* н. – зах.-пал. г., спарадычна гродз.-бар. г., Пол., Дзярж., Саліг., Петр. (ЛАБНГ, ТС, Сцяцко, Цыхун), *по́плаў* м. – Пруж., Драг., Бяроз., Петр., Лях., Лун., Буда-Каш., Рэч. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ, ДСБ), *луг* м. – агульн. (ЛАБНГ, АЛА, Мат. Гродз.), *лугаві́на* ж. 'вузкая паласа лугу сярод ніў' – Пол. (НЛ), *не́кат* м. 'луг, поплаў' – Пін. (НЛ), *пако́с* м. – Рас., Смарг., Маз., Латгал. р., Беластоц. р. (СПЗБ), *па́сека* ж. – Жлоб. (ЛАБНГ), *рыдкі́* мн. – Малар. (ЛАБНГ), *га́ла* н. – Браг. (ЛАБНГ), *галычо́к* м. – Шчуч. (Сл. Гродз.), *асе́ліца* ж. – Мядз., Іўеў., Пруж. (ЛАБНГ), *се́нішча* н. – Шчуч. (Сл. Гродз.), *лог* м. – Лаг., Крыч., Касц., Круп., Жытк. (ЛАБНГ, АЛА, ТС, Варлыга), *груд* м. – Кобр. (ЛАБНГ), *далі́на* ж. – Кобр. (ЛАБНГ), *пале́так* м. – Кобр. (ЛАБНГ), *сухапу́ць* ж. – Верхнядзв., Брасл., Паст., Шчуч., Віл., Вілен. р. (СПЗБ), *сухапу́цце* н. – Брасл., Чэрв., Пух. (СПЗБ), *пава́лак* м., *пава́лачак* м. памянш. 'каля нівы' – Паст. (СПЗБ), *паста́ва* ж. 'месца касьбы' – Шчуч. (Сл. Гродз.), *пастальні́к* м. 'за хатай' – Іван. (ДСБ), *кі́рган* м. 'сярод палёў' – Брэсц. (НЛ), *курга́н* м. 'шма-

ток сенажаці' – Малар., Брэсц. (НЛ), *асéліца* ж. 'каля вёскі і гародаў' – Паст., Смарг., Лід., Шчуч., Віл., Лаг., Пруж. (СПЗБ), *ухлябіна* ж. 'якая акружаецца ракой' – Люб. (СПЗБ), *асёлачак* м. 'частка сенажаці за гародамі' – Смарг. (Шаталава), *луќа* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *лу́чка* ж. 'паміж рэчкай і канавай' – Паст. (ЛАБНГ), *калю́га* ж. 'каля рэчкі' – Слуцк. (СПЗБ), *сяны́* мн. – Смарг. (СПЗБ), *свёкліна* ж. 'з высокай густой травой' – Шчуч. (Сл. Гродз.), *зімня́к* м. 'пасля зімы' – Воран. (Сл. Гродз.), *жы́ла* ж. 'паласа сенажаці' – Гродз. (Сл. Гродз.), *дзірво́нка* ж. 'сенажаць пасля выпасу' – Воран. (Сл. Гродз.), *стакро́тка* ж. 'паточаная кратом сенажаць' – Гродз. (Мат. Гродз.), *бучві́ны* мн. 'сухія месцы прыбалотнай сенажаці' – Лаг. (Варлыга), *вы́касак* м. 'невялікая сенажаць сярод кустоў' – Гродз. (ЖНС), *не́кась* ж. 'сенажаць дрэннай якасці' – Жытк., Лоеў. (ТС, Янкова), *абло́жжа* н. 'край луга' – Віц. р. (Каспяровіч), *перало́г* м. 'луг сярод поля ці лесу' – Чэрв. (Шатэрнік), *бурва́лак* м. 'сухі астравок сярод балота ці на вільготнай сенажаці' – Мядз. (Н. сл-сць), *убко́сак* м. 'месца, дзе выкасілі траву' – Брэсц. (ДСБ), *узлу́жжа* м. 'месца каля луга' – Навагр., Кругл. (ЖС, ЖНС).

### Стагаваць

Складаць сена ў стог.

*стагава́ць* незак. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС), *настагава́ць* зак. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *састагава́ць* зак. – Шчуч. (Сл. Гродз.), *састаго́вываць* незак. – Мсцісл. (Юрчанка), *устагава́ць* зак. – Ваўк. (Сл. Гродз.), *кла́сці* незак. – зах.-пал. г., спарадычна гродз.-бар. г. і паўн. р. (ЛАБНГ), *склада́ць* незак. – спарадычна паўн.-зах. з., паўн.-усх. д. і зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *скла́дваць* незак. – Шарк. (ЛАБНГ), *скла́даваць* незак. – Браг. (ЛАБНГ), *кі́даць* незак., *скі́даць* зак. – паўдн.-зах. д., сярэд.-бел г. (ЛАБНГ), *кіда́ць* незак., *скіда́ць* незак. – Бар., Бераст., Навагр., Мін., Чэрык., Бяроз., Ельск., Нараўл., Браг. (ЛАБНГ), *мяша́ць* незак. – Гар. (ЛАБНГ), *зво́зіць* незак. – Смарг. (ЛАБНГ), *зла́жваць* незак. – Бераст. (ЛАБНГ),

*злажыць* зак. – Верхнядзв. (СПЗБ), *пластава́ць* незак. – Гродз. (ЛАБНГ), *ладава́ць* незак. – Ваўк. (Мат. Гродз.), *страшкава́ць* незак. – Дзятл. (Сл. Гродз.), *усэ́нтарыць* зак. ‘упарадкаваць сена’ – Іўеў., Лід. (Сл. Гродз.);

**завяршыць укладку стога**: *вяршы́ць* незак. – Люб., Мсцісл., Чач. (Юрчанка, Мат. апыт.), *завяршы́ць* зак. – Чэрв. (Шатэрнік), *прыве́ршваць* незак. – Стол. (ТС), *вільчы́ць* незак. – Гор. (Мат. Маг.), *замулі́ць* зак. – Лельч. (НЛ), *падшылава́ць* зак. – Віл. (СПЗБ), *залама́ць* зак. – Жытк. (ТС), *зало́м* м. ‘пераход стога з цыліндрычнай асновы ў конусную’ – Лоеў. (Янкова), *даклáты* прым., *заве́ршаны* прым. ‘завершаны’ – Мсцісл. (Юрчанка);

**спосаб укладкі стога**: *кла́сці на страху́, забіва́ць сярэ́дзіну* – Чач. (Мат. апыт.).

## Стагавішча

Месца, дзе стаяў стог.

*стажа́р'е* н. – паўн.-усх. д., Мін. р., Карэл., Нясв., Капыл., Лоеў. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ), *стажа́рня* ж. – Брасл., Пол., Астр., Шчуч., Мін., Бярэз., Добр., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ), *стажа́рына, стажары́на* ж. – Слуцк. (ЛАБНГ), *стажа́р* м. – Лід. (ЛАБНГ), *стажа́ры* мн., *сцяжа́ры* мн., *сцяжа́ра* ж. – Навагр. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *стажа́рак* м., *сцяжа́рак* м. – Стол. (ЛАБНГ), *стажа́рнік* м., *сцяжа́рнік* м. – Раг. (ЛАБНГ), *стажа́рышча* н. – Чашн., Карэл., Навагр., Краснап. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *стажары́шча* н. – Стаўб., Бяроз., Слаўг. (ЛАБНГ), *стажа́рнішча* н. – Верхнядзв., Ушацк. (ЛАБНГ), *стажэ́рышча* н. – Лаг. (ЛАБНГ), *стажары́ска* н. – Добр., Кобр. (ЛАБНГ), *стажа́рыска* н. – Іўеў., Кам. (СПЗБ, Сл. Гродз.), *стажары́нне* н. – Пін. (Шаталава), *стажы́шча* н. – Глыб., Ашм., Рэч., Браг. (ЛАБНГ), *стажы́ска* н. – Ваўк. (ЛАБНГ), *стагаві́шча* н. – Гарад., Віц., Дзятл., Карэл., Стаўб., Нясв., Гор., Мсцісл., Краснап., Кругл., Шкл., Чав., Касц., Мсцісл., Краснап., Добр., Светлагор., Чач., Латгал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *staго́вішча* н. – Шум., Чашн.,

Дзятл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *стóгавішча* н. – Дзятл., Зэльв., Слон. (ЛАБНГ), *стагавíска* н. – Бераст., Кам., Драг. (ЛАБНГ), *стагарúшча* н. – Клім. (ЛАБНГ), *стажóр'е* н. – Арш. (ЛАБНГ), *стóжар'е* н. – Іван. (ЛАБНГ), *астóжжа* н. – Мсцісл. (Бялькевіч), *сцéжар* м. – Карэл., Воран., Маст., Асіп., Пруж., Лях., Іван., Драг., Ганц., Лун., Пін. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНС, ДСБ, НЛ, Мат. Гродз.), *сцéжарна* н. – Воран. (ЛАБНГ), *сцяжáр'я* н. – Лід. (Мат. Гродз.), *стóжарна* н. – Брэсц. (ЛАБНГ), *стóжар* м. – Драг. (ЛАБНГ), *загарúшча* н. – Іўеў. (ЛАБНГ), *тóклішча* н. – Бар. (ЛАБНГ, СПЗБ), *асцянжáрак* м. – Стол. (ДСБ), *пашúна* ж. – Верхнядзв. (СПЗБ);

**месца, дзе стаяла капа**: *акóпак* м. – Лаг. (Варлыга), *пакóпішча* н. – Старадарож. (СПЗБ, НС), *капнíска* н. – Бяроз., Пін. (ДСБ, Шаталава), *вóсцежарак* м. – Лельч. (Кучук), *кóпчышча* н. 'месца згружвання сена пад стог' – Навагр. (Сл. Гродз.).

## Стажар'е

Аснова стога; падсцілка, на якую ставяць стог сена, каб зберагчы яго ад сырасці.

*стажáр'е* – агульн., акрамя ўсх.-пал. р., спарадычна віц.-маг. г., Рэч. (ДАБМ, З нар. сл., Варлыга), *стажáрня* ж. – Віцебшчына, паўночная Міншчына, Гродз., Бар., Асіп. (ДАБМ), *стажáрка* ж. – Верхнядзв., Брасл., Ашм., Іўеў. (ДАБМ, Н. сл-сць, Сл. Гродз.), *стажáрнік* м. – Лёзн., Бяроз., Кір., Бабр., Пін., Стол., Чач. (ДАБМ), *стáжар* м. – Пін., Стол. (ДАБМ), *стажáра* ж. – Капыл. (ДАБМ), *стажáры* мн. – Лаг. (ДАБМ), *астажáрак* м., *астажáркі* мн. – Стол. (ДАБМ), *стажарúшча* н. – Кам., Пруж., Светлагор. (ДАБМ), *стажáрнішча* н. – Бярэз., Чав., Слаўг. (ДАБМ), *стажарúска* н. – Кам., Пруж. (ДАБМ), *стажарúнне* н. – Пін. (Шаталава), *сцянтáр* м. – Пруж., Пін. (ДАБМ), *стагáр'е* н. – Крыч. (ДАБМ), *сцéжар* м. – паўдн.-зах. д., Паст., Смал., Чэрв. (ДАБМ, СПЗБ, ЖС, ЛП, Сцяцко, Шаталава), *сцяжáр* м. – Паст., Шум., Лід., Шчуч., Зэльв., Віл., Навагр., Клецк., Ма-

лар., Кобр., Лун., Пін. (ДАБМ, 3 нар. сл., Сцяцко), *сцяжа́рак* м. – Стол., Хоц. (ДАБМ, ТС), *асцяжа́рак* м., *асцёжа* ж. – Стол. (ДАБМ, ЛП), *сцёжары* мн. – Пруж. (ДАБМ), *сцяжа́-ры* мн. – Ганц., Старадарож. (ДАБМ), *сцежары́ска* н. – Беластоц. р. (СПЗБ), *адо́нак* м. – паўдн.-усх. з., Мін. р., спарадычна гродз.-бар. і віц.-маг. г. (ДАБМ, ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНшС, ЛП, Мат. мін.-мал., Шатэрнік, Варлыга, Янкоўскі, Янкова, Кучук, Мат. апыт.), *адзёнак* м. – Старадарож. (ЖНшС), *адо́нішча* н. – Гарад., Краснап. (ЛАБНГ, Бялькевіч), *адо́нне* н. – Віл., Барыс., Докш. (ЛАБНГ), *адзе́нне* н. – Іўеў., Калінк. (ЛАБНГ), *под* м., *падо́к* м., *падэ́нак* м. – зах.-пал. г., Слон. (ДАБМ, ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЛП, НЛ, Мат. Гродз.), *пады́ска* н. – Кобр. (ЛАБНГ), *по́дыска* н. – Драг. (ЖНшС), *падо́нне* н. – Пін. (НЛ), *падо́ня* ж. – Крыч. (ДАБМ), *по́дзішча* н. – Зэльв. (Сцяцко), *мост* м. – Глыб., Зэльв., Уздз., Жытк. (ДАБМ, ТС), *масто́к* м. – Шчуч. (ДАБМ), *масцёц* м. – Лельч. (Кучук), *памо́ст* м. – Брасл., Глыб., Шчуч., Лід., Навагр., Слон., Мядз., Віл., Маладз., Докш., Мін., Пух., Лях. (ДАБМ), *по́маст* м. – Мёр., Паст., Навагр. (ДАБМ), *по́масткі* мн. – Мёр. (ДАБМ), *памо́сткі* мн. – Раг. (ДАБМ), *падмо́ст* м. – Капыл. (ДАБМ), *падмо́сткі* мн. – спарадычна асн. мас. г., *падмо́ст* м. – Мядз., Лоеў. (ДАБМ), *памо́сце* н. – Слон., Лоеў. (ДАБМ), *падмо́сце* н. – Калінк. (ДАБМ), *падло́га* ж. – Лаг. (Мат. мін.-мал.), *падсці́л* м. – спарадычна паўн.-усх. д. і гродз.-бар. г., Мін., Асіп., Брэсц., Ельск. (ДАБМ, Мат. Гродз., Сцяцко), *падсці́лка* ж. – Паст., Глыб., Гарад., Беш., Лёзн., Сен., Арш., Гор., Ваўк., Зэльв., Мсцісл., Чав., Чэр., Краснап., Касцюк. (ДАБМ, Мат. Гродз.), *пасці́лка* ж. – Брасл., Мядз., Дубр. (ДАБМ), *пасце́ль* ж. – Бар., Мін. (ДАБМ), *пасце́ля* ж. – Глыб., Шкл. (ДАБМ), *паўсці́льнік* м. – Краснап. (ДАБМ), *пасце́лішча* н. – Гродз., Маст. (ДАБМ), *насці́л* м. – Віц., Бераст., Шкл. (ДАБМ), *пасці́лка* ж. – Ушацк. (ДАБМ), *усцёл* м. – Ельск. (ДАБМ), *по́дсціл* м. – Сен., Гродз., Шчуч., Маст., Арш., Гор., Пруж. (ДАБМ, СПЗБ), *пол* м. – Івац. (ДАБМ), *пало́к* м. – Касц. (ДАБМ), *падкла́дка* ж. – Брасл., Гарад. (ДАБМ), *прыкла́дак* м. – Гарад. (ДАБМ),

*стрыё* н. – Рас. (ДАБМ), *пала́ткі* мн. – Валож. (ДАБМ), *рышт* м. – Кам. (ДАБМ), *рыштава́нне* н. – Арш., Касц., Кам. (ДАБМ), *сталы́гі* мн. – Тал., Арш. (ДАБМ), *паме́тнік* м. – Навагр. (НС), *пашы́на* ж. – паўн. р., Навагр. (ДАБМ), *хвашы́на* ж. – Свісл. (СПЗБ, Шаталава), *лоу́ж* м. – Светлагор. (ЛАБНГ), *пок* м. – Івац. (ДАБМ), *казу́лькі* мн. – Касц. (ДАБМ).

## Сціртаваць

Складваць у сціrты салому, сена.

*сціртава́ць* незак., *сцірдава́ць* незак. – Брасл., Глыб., Старадарож., Стол. (СПЗБ, ЛП), *скіртава́ць* незак., *скірдава́ць* незак. – Сен., Гродз., Ваўк., Докш., Іван. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, ДСБ), *даскірдава́ць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка).

## Трава

Расліна з аднагадовымі зялёнымі неадзервянелымі парасткамі і сцяблом.

**трава першага ўкосу**: *пе́рвіца* ж. – Гродз., Зэльв., Пух. (СПЗБ, Мат. Гродз., Цыхун), *первіна́* ж. – Шчуч., Маст., Зэльв. (Сл. Гродз., Сцяцко), *пе́рвіна* ж. – Зэльв. (Сцяцко), *першына́* ж. – Слон. (СРЛГ), *зако́сак* м. – Лельч. (НЛ), *старуха́* ж. – Кам. (ЖНшС), *стараві́на* ж. – Дзятл. (СПЗБ), *галава́* ж. перан. – Лід. (Сл. Гродз.);

**трава другога ўкосу**: *ата́ва* ж. – усх.-маг. р., Віц. р., Слуцк. р., Зэльв. (СНМ, Бялькевіч, Каспяровіч, Сцяцко), *малажа́й* м. – Драг. (ЖНС, Мат. апыт.), *віш* м. – Лельч. (Кучук);

**зазімавалая трава другога ўкосу**: *віш* м., *вішэ́ц* м. – Лун. (Шаталава), *вішэ́й* м. – Івац. (НС), *віша́р* м. – Бяроз., Драг. (СНМ, Шаталава);

**трава, скошаная на льняным полі**: *ляні́ска* н. – Карэл. (СПЗБ), *льно́выска* н. – Стол. (НЛ);

**балотная трава**: *зімо́дра* ж. – Шчуч. (НЛ), *ку́павіца* ж. ‘на купінах у балоце’ – Чэрв. (НЛ), *рэ́знік* м., *сянчу́к* м. – Чэрв. (СПЗБ, НЛ);

**надрэчная трава**: *паплаву́ха* ж., *усплáвіна* ж. – Чэрв., Кам. (НЛ, Шатэрнік), *плешынá* ж. – Слон. (ЖНС), *беражні́ца* ж. – Пол. (НЛ);

**мінулагодняя някошаная трава**: *пáсуш* ж. – Лаг., Слаўг., Бых., Гом. (Варлыга, Шаталава), *пáсушнік* м. – Слаўг., Бых. (Шаталава), *сухапасто́й* м. – Драг. (Н. сл-сць), *сухаллё* н. – Лаг. (Варлыга);

**нядаўна скошаная трава**: *ко́шань* ж. – Мядз. (Мат. мін.-мал.), *ко́шаніца* ж. – Гродз. (ЖНС);

**дрэнная трава, бадылле**: *свіне́ц* м. – Івац. (НС), *свіну́ха* ж. – Пол., Ушацк. (НЛ), *свінáрка* ж., *сіве́ц* м. – Мядз. (НС, Н. сл-сць), *ціпе́ц* м. – Лун., Петр., Маз. (Шаталава), *валашáй* м. – Гродз. (ЖНС), *шаду́ха* ж. – Рас. (Шаталава), *шчо́тка* ж. – Кобр., Пін. (НЛ, СНМ, Шаталава), *шчо́тнік* м. – Бяроз. (Шаталава), *шчы́тнік* м. – Карэл., Ганц. (СНМ, Шаталава), *казе́лец* м. – Лельч. (НЛ), *лабазá* ж., *лабаззё* н. зб. – Мёр., Бых. (НС, ЖНС), *лабудá* ж., *лабузá* ж. – Ушацк. (СНМ), *аржы́шча* н. ‘з іржышча’ – Смарг. (СПЗБ), *ві́ша* ж. ‘нherкошаная да марозаў’ – Слуцк. (Н. сл-сць), *ві́ша* ж. ‘высахлая на кара-ні’ – Слуцк. (З нар. сл.), *не́кась* ж. ‘позняя, асенняя’ – Мядз. (НС), *пáрыніна* ж. ‘на папары’ – Мсцісл. (Юрчанка), *пасу́шнік* м. – Гл. (Янкоўскі), *пасахле́* ж. – Драг. (ЖНшС), *разакá* ж. ‘асака’ – Гродз. (ЖНС), *мяку́ха* ж. ‘мяккая’ – Ушацк. (НЛ), *байдáк* м. ‘застарэлая’ – Мёр. (ЖС), *паплаву́шка* ж. ‘лісты плаваюць паверху’ – Драг. (ЖНшС), *рабáя травá* ‘шаўковая’ – Навагр. (ЖНС), *ко́ская* прым. ‘добра косіцца’ – Жлоб. (Н. сл-сць), *жáры́й* прым. ‘з чырванаватым адценнем’ – Кам. (ЖНшС), *асукавáты* прым. ‘падобны на асаку’ – Круп. (НС), *папáрні* прым. ‘папарны’ – Валож. (ЖС);

**адно каліва травы**: *траві́на* ж. – спарадычна агульн., акрамя паўн.-зах. з. (АЛА), *травінá* ж. – спарадычна агульн., акрамя зах.-пал. г. (АЛА), *траві́нка* ж. – спарадычна агульн.,

акрамя ўсходу Віцебшчыны (АЛА), *каліва травы* – Смал. (АЛА);

**тоўстыя сцябліны травы**: *лабаза́* ж. – Карэл. (З нар. сл.), *бале́ўнік* м. зб., *бале́ўе* н. зб. – Мёр. (ЖС).

### Уціскаць

Увязваць воз з сенам, саломай і інш.

*уціска́ць* незак. – Чэрв. (Шатэрнік), *абе́рваць* зак., *абе́рваваць* незак., *скніблёва́ць* зак. – Кам. (ЖНшС).

### Цюкаваць

Увязваць сена, салому ў цюкі.

*цюкава́ць* зак. – Паст., Ваўк., Пруж. (СПЗБ), *кулёваць* незак. – Жытк. (ТС).

### Чубарына

Лапіна няскошанай травы.

*чуба́рына* ж., *чуба́рынка* ж. – Мсцісл. (Юрчанка).

# 6. НАРЫХТОЎКА КАРМОЎ

## Амецi

Дробныя кавалачкі саломы, каласкоў, мякіны і да т. п., што абмятаюцца з зерня ў час малацьбы.

*амéцi* мн. – зах. з., акрамя Віцебшчыны і заходняй Брэстчыны (ЛАБНГ), *умéцце* н. – Віц., Гор., Маладз., Чэрв. (ЛАБНГ), *абмéцi* мн. – Шчуч., Пін. (ЛАБНГ), *вóтрына* ж., *вóтрыны* мн. – паўн.-зах. д., акрамя ўсх.-маг. р., *ацíра* ж., *ацíры* мн. – Бяроз., Асіп., Светлаг., Кір., Бых., Слаўг., Бабр., Раг., Карм., Жлоб., Краснап., Добр., Ветк. (ЛАБНГ), *ацярóшкi* мн. – Воран. (ЛАБНГ), *атóра* ж. – Мсціcл., Клім., Касц., Хоц., Чэрык., Чав. (ЛАБНГ), *згóнiны* мн. – зах.-пал. г., Лельч. (ЛАБНГ, ТС), *згрэ́бiны* мн. – Паст., Астр., Смарг. (ЛАБНГ), *вы́грэбкi* мн. – Іўеў. (ЛАБНГ), *пазáдкi* мн. – Валож., Гл., Акц., Калінк., Лельч. (ЛАБНГ), *пазáддзе* н. – Валож., Светлагор., Лун., Добр. (ЛАБНГ), *абýрыны* мн. – Буда-Каш., Рэч., Браг. (ЛАБНГ), *атхóды* мн. – Старадарож., Лоеў. (ЛАБНГ), *палóва* ж. – Рэч., Нараўл. (ЛАБНГ), *сýбар* м. – Асіп. (Шаталава), *кóлас* м., *каласы́* мн. – Віл., Воран., Маз., Петр., Лельч., Хойн. (ЛАБНГ), *каласíны* мн. – Ашм., Іўеў. (ЛАБНГ), *каласéтка* ж. – Стол. (ЛАБНГ), *каласавáнне* н. – Жытк. (ТС), *акалóт* м. – Ельск. (ЛАБНГ), *кóсцi* мн. – Чач. (ЛАБНГ).

## Высеўкi

Адходы зерня ў працэсе прасейвання.

*вы́сеўкі* мн. – Шум., Іўеў., Шчуч., Гродз., Дзятл., Дзярж., Уздз., Слуцк., Бар. (ЛАБНГ), *асе́ўкі* мн. – Лёзн. (ЛАБНГ), *пасе́і* мн. – Тал., Мядз., Віл., Лаг., Докш., Бярэз., Бял. (ЛАБНГ), *пасе́йкі* мн. – Ушацк., Смарг., Барыс., Круп., Асіп., Кругл., Бял., Дубр., Бых. (ЛАБНГ), *мякі́на* ж., *мякі́нка* ж. памянш. – спарадычна зах. з., Чашн., Сен., Чэрв., Кір. (ЛАБНГ), *пало́ва* ж. – усх.-пал. р., Лях., Кам., Брэсц., Кобр., Драг., Гл., Акц., Жлоб. (ЛАБНГ), *палаві́нне* н. – Бераст., Гор., Барыс., Крыч. (ЛАБНГ), *пала́нкі* мн. – Бял., Мсцісл., Гор., Маг., Краснап., Шкл., Карм., Буда-Каш. (ЛАБНГ), *апала́нкі* мн. – Бабр. (ЛАБНГ), *апо́ліны* мн. – Гарад., Шум., Круп. (ЛАБНГ), *апа́ліны* мн. – Слон., Валож., Навагр., Нясв., Слуцк., Старадарож. (ЛАБНГ), *апо́лкі* мн. – Пол., Ушацк. (ЛАБНГ), *па́лынкі* мн. – Мсцісл., Бых., Чав., Касц., Карм., Чэрык., Ветк. (ЛАБНГ), *па́лымкі* мн. – Клім., Шкл., Хоц. (ЛАБНГ), *пух* м. – Саліг., Люб., Лун., Петр., Маз., Рэч., Буда-Каш., Чач., Калінк., Добр., Лельч. (ЛАБНГ), *шалуха́* ж. – Лід., Слон., Бяроз., Пух., Лельч. (ЛАБНГ), *а́шака* ж., *а́шакі* мн. – Верхнядзв., Паст. (ЛАБНГ), *ашакі́* мн. – Глыб., Рас. (ЛАБНГ), *шако́лы* мн. – Гарад., Віц. (ЛАБНГ), *ашако́лы* мн. – Ушацк. (ЛАБНГ), *шака́ліны* мн. – Гарад. (ЛАБНГ), *луска́* ж. – Ашм., Драг., Івац. (ЛАБНГ), *шаро́йкі* мн. – Мсцісл. (ЛАБНГ), *шу́ма* ж. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *шалупа́* ж. – Лельч. (ЛАБНГ), *шуства́* ж. – Лун. (ЛАБНГ), *адхо́ды* мн. – Пруж. (ЛАБНГ), *сме́цце* н. – Добр. (ЛАБНГ), *лупа́* ж. – Стол. (ЛАБНГ), *пле́вы* мн. – Смарг. (ЛАБНГ), *каструкі́* мн. – Паст. (ЛАБНГ), *тоўч* м. – Стол. (ЛАБНГ), *пыл* м. – Бых., Раг. (ЛАБНГ).

**Жамерыны**

Шалупінне ад тоўчанага льнянога і канаплянага семя, якія ідуць на корм жывёле.

*жаме́рыны* мн. – Віц. р., Мін. р., Чэрв. р., Слуцк. р., спарадычна гродз.-бар. г., Маг. р., Бярэз. р., Гом. р., Пруж., Бяроз. (ЛАБНГ), *жаме́ры* мн. – Беш., Віл., Лаг., Докш., Бар.,

Тал., Круп., Бял., Карм., Чач. (ЛАБНГ), *жа́меры* мн. – Круп. (ЛАБНГ), *жамяра́* ж. – Пол. (ЛАБНГ), *жаме́ркі* мн. – Клім., Касц. (ЛАБНГ), *жаме́рынне* н. зб. – Сен. (ЛАБНГ), *ажаме́рыны* мн. – Ушацк. (ЛАБНГ), *жме́рыны* мн. – Бяроз. (ЛАБНГ), *ажаме́р'е* н. зб. – Ушацк. (ЛАБНГ), *жаме́рга ж.* – Валож. (ЛАБНГ), *зяме́ркі мн.* – Арш. (ЛАБНГ), *ажы́мкі* мн. – Паст., Глыб., Докш. (ЛАБНГ), *ажэ́мкі* мн. *ажэ́віны* мн. – Смарг. (ЛАБНГ), *жма́ка* ж. – Зэльв. (ЛАБНГ), *жмакі́* мн. – Дзятл., Барыс. (ЛАБНГ), *вы́жымкі* мн. – Валож., Бых., Буда-Каш. (ЛАБНГ), *ажаві́нне* н. зб. – Барыс., Маг. (ЛАБНГ), *жыві́ца* ж. – Іван. (ЛАБНГ), *жмыха́* ж. – Слуцк. р., Мін. р., спарадычна паўн.-усх. д. (ЛАБНГ, Мат. Маг.), *жмы́хі* мн. – Лёзн., Слаўг. (ЛАБНГ), *жму́ка* ж. – Стаўб. (ЛАБНГ), *жымы́ха* ж. – Слон. (ЛАБНГ), *маку́ха* ж. – паўдн.-усх. з., спарадычна паўн.-зах. з., Малар. (ЛАБНГ), *маку́х* м. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *макукі́* мн. – Астр. (ЛАБНГ), *каму́ха* ж. – Бярэз. (ЛАБНГ), *камуха́* ж. – Лун. (ЛАБНГ), *мнякýха* ж. – Малар. (ЛАБНГ), *мякі́на* ж. – спарадычна ўсх.-пал. р., Бяроз. р. (ЛАБНГ), *мякі́ны* мн., *мнякі́ны* мн. – Малар. (ЛАБНГ), *мнякі́на* ж. – Бяроз. (ЛАБНГ), *лупі́ны* мн. – Маст., Пін. (ЛАБНГ), *лупа́йкі* мн. – Івац. (ЛАБНГ), *шалуха́* ж. – Віц., Іўеў., Добр., Люб. (ЛАБНГ), *шалупі́ны* мн. – Чэрык., Ельск. (ЛАБНГ), *шалупі́нне* н. – Хоц. (ЛАБНГ), *шалупа́йкі* мн. – Лоеў. (ЛАБНГ), *шалупа́шкі* мн. – Мсцісл. (ЛАБНГ), *шалу́шкі* мн., *шкарлу́пкі* мн. – Рас. (ЛАБНГ), *шаро́йкі* мн., *бараба́н* м. – Бых. (ЛАБНГ), *кліне́ц* м. – Глыб. (ЛАБНГ), *кліцы́* мн. – Глыб., Бял. (ЛАБНГ), *клінкі́* мн. – Шарк. (ЛАБНГ), *клі́нне* н. – Бял. (ЛАБНГ), *кішчы́ны* мн. – Маст. (ЛАБНГ), *кішчары́ны* мн. – Стаўб. (ЛАБНГ), *ко́луп* м. – Гродз. (ЛАБНГ), *высяўкі* мн. – Іўеў. (ЛАБНГ), *камякі́* мн. – Воран. (ЛАБНГ), *пало́ва* ж. – Краснап., Жаб., Кобр., Драг., Добр. (ЛАБНГ), *лу́ска* ж. – Люб. (ЛАБНГ), *паза́дкі* мн. – Калінк. (ЛАБНГ), *жаўма́* ж. – Лельч. (ЛАБНГ), *вы́байнік* м. – Івац. (ЛАБНГ), *жыві́ца* ж., *вы́таўчкі* мн. – Іван. (ЛАБНГ), *друз* м. – Ганц. (ЛАБНГ), *адыхо́ды* мн. – Ельск. (ЛАБНГ), *жом* м., *жа́мкі* мн. – Лоеў. (Янкова).

## Корм

Ежа жывёлы.

*корм* м., *кармы́* мн. – агульн. (СПЗБ, Мат. апыт.), *по́шар* м. – паўн.-зах. з. (СПЗБ, Цыхун, Шаталава), *па́шары* мн., *пажыве́не* н. – Вілен. р. (СПЗБ), *пажы́ва* ж. – Шчуч. (СПЗБ), *харч* м. – Ваўк., Навагр., Валож., Пух., Лях., Пруж. (СПЗБ), *хуражы́р* м. – Чэрв. (СПЗБ), *сяна́ж* м. – Ашм. (СПЗБ); *абро́к* м., *абры́к* м. 'корм для каня' – Пруж., Кам. (СПЗБ), *падно́с* м. 'корм для каровы ў час даення' – Жытк. (ТС), *аўцю́шка* ж. 'трава на корм', *зе́лліна* н. памянш. 'зелле, любая трава на корм' – Мсцісл. (Юрчанка), *мя́цьва* ж. 'пасечаная трава на корм' – Сен. (Касяровіч), *ахра́п'е* н. 'трава для свіней' – Леп. (ЖНшС), *сяло́с* м. 'сілас' – Вілен. р. (СПЗБ), *о́сыпка* ж. 'вобмешка' – Шчуч. (СПЗБ);

**сумесь аўса, вікі і іншых траў**: *ко́шанка* ж. – Шчуч., Зэльв. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *каша́нка* ж. – Шчуч., Воран. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *шушпі́ца* ж. – Лях. (СПЗБ), *бэ́рла* н. 'сумесь збожжа з рознымі адходамі' – Воран. (СПЗБ), *сушані́ца* ж. 'сумесь канюшыны, вікі і інш.' – Бар. (СПЗБ), *лы́га* ж. 'сумесь вікі, аўса і гароху' – Навагр. (Сл. Гродз.), *шушпі́ца* ж. 'сумесь аўса, ячменю і жыта' – Ашм. (СПЗБ), *пялю́шка* ж. 'сумесь гароху, аўса, вікі і інш.' – Паст., Гродз., Нясв., Вілен. р. (СПЗБ).

## Мякіна

Адходы, якія застаюцца пасля абмалоту і ачысткі зерневых, бабовых культур і лёну.

*мякі́на* ж. – агульн. (ЛАБНГ, Юрчанка, Мат. апыт.), *пало́ва* ж. – усх.-пал. р., Верхнядзв., Глыб., Кам., Пруж., Брэсц., Жаб., Драг., Кобр., Беластоц. р., Латгал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *рон* м. – Шум. (СПЗБ), *плёвы* мн. – Смарг. (СПЗБ).

## Пазаддзе

Адходы пры малацьбе або веянні.

*зе́лле* н. – паўн.-усх. д., зах.-пал. г., усх.-пал. р. (ЛАБНГ), *пустазе́лле* н. – Гарад., Смарг., Капыл., Барыс., Круп., Гор., Гл., Бял., Чав., Клім., Бых., Чэрык., Івац., Гом., Добр., Хоц., Лельч. (ЛАБНГ), *зяло́* н. – сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ), *аза́ддзе* н. – Верхнядзв., Пол., Паст., Брасл., Іўеў. (ЛАБНГ), *паза́ддзе* н. – Верхнядзв., Мядз., Бял. (ЛАБНГ), *паза́дкі* мн. – Іўеў., Ганц. (ЛАБНГ), *аза́длівае зярня́* – Ваўк. (ЛАБНГ), *пасле́д* м. – Гродзеншчына (ЛАБНГ), *апасле́д* м. – Кам. (ЛАБНГ), *буза́* ж. – Клецк., Слуцк., Старадарож., Акц., Рэч., Лоеў., Нараўл. (ЛАБНГ), *шу́ма* ж. – Глыб., Гор. (ЛАБНГ), *су́шніца* ж. – Саліг., Слуцк. (ЛАБНГ), *пало́ва* ж. – Малар. (ЛАБНГ), *гірса́* ж. – Шарк., Леп. (ЛАБНГ), *шме́цце* н. – Леп., Пруж. (ЛАБНГ), *со́рнасць* ж. – Івац. (ЛАБНГ), *бэ́рма* ж. – Воран. (ЛАБНГ), *мякі́на* ж. – Арш., Хойн. (ЛАБНГ), *шаро́йкі* мн. ‘абдзіркі з проса’ – Лоеў. (Янкова); *шаро́йкі* ‘абдзіркі са збожжа’ – Чач. (Мат. апыт.).

## Сечка

Дробна парэзаная салома, якая ідзе на корм жывёле.

*се́чка* ж., *се́чачка* ж. памянш. – агульн., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Сцяцко, Юрчанка, Мат. апыт.), *сі́чка* ж. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *се́чань* ж. – Краснап. (ЛАБНГ), *рэзь* ж. – паўн.-усх. д. (ЛАБНГ, НС, Каспяровіч), *рэ́зка* ж. – слуцк.-маз. г., Брасл., Пол., Ушацк., Гарад., Докш., Круп., Старадарож., Кір. (ЛАБНГ, СПЗБ, НС), *мя́тніца* ж. – Ельск. (ЛП), *ме́шанка* ж. ‘сечка, перамешаная з вотруб’ем, гароднінай’ – Ваўк. (Мат. Гродз.), *падме́шка* ж. ‘сечка, перамешаная з вотруб’ем і бульбай’ – Навагр. (Мат. Гродз.), *па́ранка* ж. ‘завараная кіпятком мякіна, сечка’ – Старадарож. (СПЗБ).

## Салома

Сухія сцяблы злакавых раслін, якія застаюцца пасля абмалоту.

*салóма* ж., *саломка* ж. памянш. – агульн. (АЛА, Сцяцко, Юрчанка), *саламíна* ж., *саламíнка* ж. памянш., *салóмінка* ж. памянш. – Астр., Смарг., Докш., Стол., Асіп., Брэсц., Крыч., Лельч., Хойн., Вілен. р. (АЛА, СПЗБ, Юрчанка, Сцяцко), *саламінá* ж. – Брасл., Шарк., Мёр., Паст., Свісл., Валож. (АЛА);

**саломіна**: *сцябло́* н. – Ганц. (СПЗБ); *сцяблíна* ж. – Маст. (СПЗБ);

**салома на подсціл**: *гýлта* ж. – Іўеў. (СПЗБ);

**аўсяная салома**: *аўся́нка* ж. – Ваўк., Вілен. р. (СПЗБ), *аўся́ніца* ж. – Віл., Гл. (СПЗБ, Янкоўскі);

**гарохавая салома**: *гарóхаўнік* м. – Гл. (Янкоўскі), *гарахвя́нік* м. – Гл., Лоеў. (Янкова, Янкоўскі), *гарахавéне* н., *гарахавíска* н. – Гродз. (Цыхун);

**грэцкая салома**: *грачáнка* ж. – Малар., Краснап. (ЛП, Бялькевіч), *грацкóўе* н. – Гродз., Зэльв., Уздз. (Мат. мін.-мал., Сцяцко, Цыхун), *рачыкóвіска* ж. – Шчуч. (СПЗБ);

**жытняя салома**: *жы́тня* прым. – Гродз. р., зах.-пал. г., Салігор., Старадарож., Жлоб., Лельч. (АЛА), *жы́тняя* прым. – агульн., акрамя зах.-пал. г. і ўсх.-маг. р. (АЛА), *ржанáя* прым. – Віц., Лёзн., Асіп., Бабр., Шкл., Маг., Слаўг., Бых., Хойн. (АЛА), *аржанáя* прым. – паўн.-усх. д., Ветк. (АЛА), *іржаны́* прым. – Бярэз. (АЛА), *жы́тніца* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *ржанíца* ж. – Рас. (Шаталава), *правíца* ж., *прамíца* ж. – Чашн. (Каспяровіч), *пóжня* ж. – Стол. (ТС);

**пшанічная салома**: *пшанíчанка* ж. – Беластоц. р. (СПЗБ);

**прасяная салома**: *прася́нка* ж. – зах.-пал. г., Мсцісл., Чач., Беластоц. р. (СПЗБ, ТС, ЛП, Юрчанка, Мат апыт.), *прасянíца* ж. – Драг., Маз., Гл. (ЛП, Янкоўскі), *прасянэ́чніска* н. – Кам. (СПЗБ), *прасавéнье* н., *прасавéлье* н., *прасявéнне* н. – Ганц. (СПЗБ);

**ячная салома**: *я́чніца* ж. – Лаг., Гл., Лоеў. (Варлыга, Янкоўскі, Янкова), *ячмéнка* ж., *ячмéнная салóма*, *я́чная салóма* – Чач. (Мат. апыт.), *ячмéнка* ж. – Смарг. (Шаталава), *ячмéнка* ж., *ячмя́нка* ж. – Ваўк., Вілен. р. (СПЗБ), *ячмíнніца* ж. – Малар., Лун. (ЛП);

**дробная салома**: *атóра* ж. – Мсцісл., Лоеў. (Янкова, Юрчанка), *атóр'е* н. – Чав. (Мат. Маг.), *атрýскі* мн. – Паст. (СПЗБ), *аціра* ж. – Асіп., Чав. (Шаталава, Мат. апыт.), *патрýх* м. – Зэльв. (Сцяцко), *трахня́* ж. – Паст., Глыб., Смарг. (СПЗБ), *трахніца* ж., *прусюха* ж. – Паст. (СПЗБ), *церухá* ж. – Верхнядзв., Шум. (СПЗБ), *пацярýха* ж. – Іўеў., Слон., Чэрв., Бяроз., Беластоц. р. (СПЗБ, ЛП, Мат. Гродз.), *пагрэ́бкі* мн. – Гродз. (Цыхун), *згрэ́біны* мн. – Верхнядзв., Смарг., Астр., Навагр., Лун., Вілен. р. (СПЗБ, Шаталава), *абгрóбкі* мн. – Мсцісл. (Юрчанка), *драбязá* зб. ж. – Віл., Бярэз. (СПЗБ), *драбніца* ж. – Лаг. (СПЗБ), *акалóт* м. – Кам. (СПЗБ), *абýраны* мн. – Браг. (Шаталава), *згóніны* мн. – Лун. (Шаталава), *амялле* н., *шýма* ж. – Лоеў. (Янкова), *каласавінне* н. зб. – Тал., Бял. (Шаталава), *вóтрыны* мн. – Кругл. (Мат. Маг.);

**роўная салома**: *правіца* ж. – Пін. (СПЗБ).

## Трасянка

Перамешанае сена з саломай, якое ідзе на корм жывёле.

*трася́нка* ж., *трася́нька* ж., *труся́нка* ж. – паўн.-зах. з., Пруж., Ганц., Саліг., Вілен. р., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Варлыга), *трасéнка* ж. – Беластоц. р. (СПЗБ), *трасёнка* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *трэ́сянка* ж., *трасяніца* ж. – Бяроз. р., Пін. (СНМ, ЛАБНГ), *трасýха* ж. – Мёр. (ЛАБНГ), *страся́нка* ж. – Беш., Гарад. Мядз., Леп., Чашн., Тал. (ЛАБНГ), *страсáнка* ж., *струся́нка* ж., *струшанка* ж. – Чашн. (Каспяровіч), *трухá* ж. – Чач. (Мат. апыт.), *патрýха* ж. – Верхнядзв., Круп., Бял. (НС, Мат. Маг., Шаталава), *трýшаніца* ж. – Калінк., Нараўл. (ЛАБНГ), *трýшанка* ж. – паўдн.-усх. з., Гродз., Бярэз., Чэрв. (ЛАБНГ, СПЗБ), *атрýшыны* мн. – Дзятл. (Мат. Гродз.), *стрýшанка* ж. – Маг. р., усх.-маг. р., спарадычна Віц. р., Астр., Ашм., Лаг., Віл. (ЛАБНГ, Варлыга), *стрýшванка* ж. – Лельч. (ЛАБНГ), *трушáнка* ж. – Саліг. (ЛАБНГ), *трушóнка* ж. – Петр. (ЛАБНГ), *струшóнка* ж., *струшóначка* ж. памянш. – Мсцісл. (Юрчанка), *стрýшвеніца* ж. – Лельч. (ЛАБНГ), *стрýшка* ж. – Клім. (ЛАБНГ), *стрáска* ж. – Віц.

(ЛАБНГ), *стру́сінка* ж. – Арш. (ЛАБНГ), *струся́нка* ж. – Гарад. (ЛАБНГ), *мяша́нка* ж. – зах.-пал. г., Люб. (ЛАБНГ), *ме́шаніца* ж. – Пін., Стол. (ЛАБНГ), *ме́шань* ж. – Кір., Старадарож. (ЛАБНГ), *ме́шава* н. 'корм жывёле' – Сен. (Каспяровіч), *клы́чанка* ж. – Гом. (ЛАБНГ), *перабі́ўка* ж. – Добр. (ЛАБНГ), *по́дмятка* ж. – Астр. (СПЗБ), *кало́чанка* ж. – Бабр., Жлоб., Раг. (ЛАБНГ), *скало́чанка* ж. – Слаўг. (ЛАБНГ).

# 7. НАЗВЫ МЕРЫ І ВАГІ, АБ'ЁМУ І ПЛОШЧЫ

## 7.1. ВОРНАЯ ЗЯМЛЯ, СЕНАЖАЦЬ

### Баранавішча

Паласа ворыва па шырыні бараны.

*баранаві́шча* н. – Навагр. (СРЛГ).

### Берацень

Частка ворнага поля, якая вызначалася па даўжыні (каля 10 метраў) ці па шырыні (каля 5–10 метраў).

*бе́рацень* м. – зах.-пал. г. (ДСБ, ЛП), *ве́рацень* м. – зах.-пал. г. (ЛП).

### Гоні

Мера ўчастка ворнай зямлі ў даўжыню, паводле розных крыніц – ад 50 да 150 метраў.

*го́ні* мн. – зах.-пал. г., Сен. р., Астр., Віл., Докш., Круп., Маст., Воран., Лід., Дзятл., Пух., Чэрв., Лях., Ганц., Калінк., Лоеў., Вілен. р. (СПЗБ, ЛП, Варлыга, Каспяровіч, Шатэрнік, Янкова), *го́ны* мн. – Астр., Віл., Докш., Круп., Гродз., Маст., Лід., Дзятл., Пух., Чэрв., Лях., Капыл., Ганц., Калінк., Вілен. р. (СПЗБ, З нар. сл., Мат. Гродз.), *го́нькі* мн., *го́нкі* мн. – Віл. (СПЗБ), *ганкі́* мн. – Капыл. (З нар. сл.), *го́нька* ж. – Бярэз. (СПЗБ), *га́йнік* м., *гайнікі́* мн., *ганікі́* мн. – Шчуч., Лід.,

Навагр. (СПЗБ), *óны* мн. – Астр. (СПЗБ), *валóвыя гóны* мн. 'мера ўчастка ворнай зямлі ў даўжыню – каля 50 метраў' – Ваўк. (СПЗБ), *вéрацень* м. 'мера ўчастка ворнай зямлі ў даўжыню – каля 50 метраў' – Стаўб. (ЖС), *стáя* ж. 'мера ўчастка ворнай зямлі ў даўжыню – каля 100 метраў' – Воран. (Варлыга), *паўганы́* мн. 'палова гоней' – Гродз. (Мат. Гродз.), *паўгóні* мн., *паўганькé* мн. памянш. 'палова гоней' – Чэрв. (Шатэрнік),

### Дзесяціна

Мера плошчы зямлі – каля аднаго гектара (1 га).

*дзесяці́на* ж. – Карэл., Чэрв., Мсціcл. (Шаталава, Шатэрнік, Юрчанка).

### Загон

Выцягнуты ўчастак ворнай зямлі шырынёй у 6–8 баразён (каля трох метраў).

*загóн* м. – паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г., спарадычна пол.-мін. г., зах.-пал. г., Вілен. р. (ЛАБНГ, ЛП, Мат. Гродз., Бялькевіч, Каспяровіч, Шатэрнік), *загýн* м., *загі́н* м. 'нешырокі ўчастак зямлі паміж разорамі' – Брэсц., Бяроз., Івац. (ДСБ), *паўзагóн* м. 'палова загона; частка ўзаранага ўроскідку поля ад мяжы да баразны' – Воран., Зэльв., Малар. (ДСБ, Мат. Гродз.), *лéшка* ж., *лéха* ж., *лéшачка* ж. 'невялікі кавалак ворнай зямлі, загон' – зах.-пал. г., Гродз., Слон., Бар. (СПЗБ, ЛП, Мат. Гродз., Цыхун), *рэз* м., *разóк* м. – Чэрв., Лун. (Шаталава), *рэ́зка* ж. – Іўеў., Раг., Люб. (СПЗБ), *рэ́зас* м. – Воран. (СПЗБ), *рэ́зы* мн. 'загоны' – Калінк. (СПЗБ), *ралю́х* м. – Брэсц., Драг., Малар., Беластоц. р. (СПЗБ, ДСБ, НЛ, СНМ), *óдкідка* ж. – зах.-пал. г. (ЛП), *пýсткі* мн. – Беластоц. р. (СПЗБ), *стáя* ж., *стáі* мн. – Воран., Іўеў., Вілен. р. (СПЗБ), *сýгані* мн. 'загон ад разоры да разоры' – Калінк. (СПЗБ), *угрэ́х* м. – Ваўк. (СПЗБ);

**кароткі загон**: *наддáткі* мн., *надáткі* мн., *нандáткі* мн. – спарадычна цэнтр. з., Докш., Бял., Бярэз., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, НС), *прыдáткі* мн. – паўн.-зах. з., Хоц., Брэсц., Бяроз., Буда-Каш. (ЛАБНГ), *прыдáтак* м. – Маладз., Бар., Пух. (СПЗБ);

**папярочны загон:** *паперачня́к* м. – Гарад., Кам., Кобр., Беластоц. р. (СПЗБ, ДСБ, НЛ), *папярэ́чка* ж. – Ганц., Шчуч., Дзятл., Асіп., Барыс., Брэсц., Вілен. р. (СПЗБ, ДСБ), *пярэ́чка* ж. ‘папярочны загон’ – Віл., Брасл. (СПЗБ), *папярэ́чнікі* мн. ‘папярочны загон’ – Брасл., Нараўл. (СПЗБ), *папярэ́чні* прым. ‘папярочны загон’ – Беластоц. р. (СПЗБ);

**шырокі загон**: *лáва* ж. ‘шырокі загон ці 2–4 загоны, узараныя ўроскідку’ – Рас., Пол., Смарг., Барыс., Шчуч., Маст., Зэльв., Свісл., Воран., Іўеў., Карэл., Пух,. Бых., Вілен. р. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., СПЗБ, Шаталава), *бля́ха* ж. – Ашм., Воран. (СПЗБ), *вáганка* ж. ‘загон у 12 баразён’ – Бар. (СПЗБ), *лагáшка* ж. – Навагр. (СРЛГ);

**іншыя назвы:** *паўганы́* мн. ‘палова загона’ – Іўеў. (Сл. Гродз.), *прыкíдак* м. ‘частка ўзаранага ўроскідку поля ад мяжы да баразны’ – Ваўк. (Мат. Гродз.), *склад* м. ‘частка загона’ – Жлоб. (НС), *атóр* м. ‘вузенькі загончык, што застаецца пры ворыве ад звычайнага загона’ – Зэльв. (Сцяцко), *атóра* ж. ‘частка загона’ – Жытк. (ТС), *атýр* м. ‘частка ўзаранага поля, меншая за загон’ – зах.-пал. г. (ЛП).

## Лешка

Града, градка – участак ворнай зямлі пад гародніну.

*лéшка* ж. – Ваўк., Астр., Ашм., Дзярж. (Мат. Гродз., Мат. мін.-мал.), *лéха* ж. – Докш. (Мат. мін.-мал.), *палéтка* ж. – Докш. (Мат. мін.-мал.), *лýначка* ж. ‘маленькі загончык зямлі, градка’ – Гродз. (Цыхун).

## Морг

Мера плошчы зямельных надзелаў у 2/3 дзесяціны ці 0,71 гектара.

*морг* м. – зах.-пал. г., Ваўк., Навагр., Чэрв. (ЛП, Мат. Гродз., Кучук, Шатэрнік), *паўмо́рга* ‘палова морга – 0,35 гектара’ – Чэрв. (Шатэрнік).

## Надзел

Участак зямлі, што належыць аднаму гаспадару і з’яўляецца дастатковым, каб самастойна весці гаспадарку; паводле розных крыніц, плошча надзелу вагаецца ад 12 да 24 гектараў (дзесяцін). На Зэльвеншчыне, напрыклад, плошча надзелу складае каля 21 гектара.

*надзе́л* м. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС), *вало́ка* ж. – Паст., Ашм., Віл., Лаг., Докш., Круп., Чэрв. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шатэрнік), *увало́ка* ж. – Круп. (ЛАБНГ), *ла́ва* ж. ‘участак зямлі аднаго гаспадара’ – Мін. р., Слуцк. р., спарадычна гродз.-баран. г. і пал. р., Асіп., Бых. (ЛАБНГ, ЛП), *пляц* м. – Валож., Баран., Слуцк., Асіп., Бых,. Слаўг., Карм., Івац., Клец., Браг. (ЛАБНГ), *уча́стак* м. – Віл., Зэльв., Іўеў., Лях., Вілен. р. (СПЗБ, Сцяцко), *часць* ж., *чась* ж. – Брасл., Гродз. (СПЗБ), *чо́тка* ж. – Клім. (Н. сл-сць), *бо́нда* ж. – Верхнядзв., Паст., Лаг., Вілен. р. (СПЗБ), *буго́нька* ж. ‘невялікі надзел зямлі’ – Чач. (ЖНС), *грунт* м. ‘цяглавы надзел дарэвалюцыйнага селяніна’ – зах.-пал. г., Карэл. (ЛП, Шаталава), *да́ча* ж. ‘надзел, частка чаго-небудзь’ – Слуцк. (ЖНС), *дзя́жка* ж. – Лід. (СПЗБ), *па́йка* ж., *пэ́йка* ж. – Калінк. (СПЗБ), *парцэ́ль* м., *парцэ́лька* ж. – Вілен. р., Іўеў. (СПЗБ), *палёткі* мн. ‘надзелы’ – Кам. (ЖНС), *ра́мка* ж. – Чач. (Мат. апыт.), *рэз* м. – Пруж. (ЖС), *рэ́нта* ж. – Гарад. (СПЗБ), *со́ха* ж. – Драг. (ДСБ, ЛП), *цягло́* н. – спарадычна Гом. р., Браг. (ЛАБНГ);

**палова надзелу:** *паўвало́ка* ж. – Докш., Воран., Чэрв., Вілен. р. (Мат. Гродз., СПЗБ), *паўвало́чча* н. – Брасл., Круп. (СПЗБ), *пало́валак* м. – Маст. (СПЗБ), *палу́валкі* мн. – Маст. (СПЗБ), *палаві́на* ж. – Карэл. (СПЗБ), *паўуча́стак* м., *паўча́стак* м. ‘каля 6 гектараў на Гродзеншчыне і каля

10,5 гектара на Зэльвеншчыне' – Гродз., Зэльв. (Сцяцко, Цыхун), *паўгрўнт* м. '6 дзесяцін зямлі' – Карэл. (Шаталава), *паўрэ́зка* ж. – Воран. (СПЗБ);

**трэцяя частка надзелу:** *трацíна* ж. – Верхнядзв., Глыб., Ашм., Смарг., Віл., Лаг., Докш., Бар., Іўеў., Пух., Чэрв., Раг., Жытк., Вілен. р. (СПЗБ, ТС, ЛП, Шатэрнік), *траццíна* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *трацяк* ж. – Віл., Шчуч., Воран., Карэл., Лях., Ганц., (СПЗБ), *трацяк* м. 'старая мера зямлі – каля 4 гектараў' – Гродз. (Цыхун); *трайцíна* ж., *трацяк* м. 'трэцяя частка ўчастка – каля 7–8 гектараў' – Зэльв. (Мат. Гродз., Сцяцко);

**чацвёртая частка надзелу**: *чацвярцíна* ж. – Глыб., Зэльв. (СПЗБ, ЛП, Сцяцко), *чацвярына* ж. – Стол., Жытк. (ТС), *чацвяртўха* ж. – Верхнядзв., Пух., Беластоц. р. (СПЗБ), *чацвяртўшка* ж. – Жытк. (ТС), *чацвяртáя* ж. – Зэльв. (Сцяцко), *чварцíна* ж. – Смарг., Вілен. р. (СПЗБ), *чвёртка* ж. – Беластоц. р., Вілен. р. (СПЗБ), *чацвяртáк* м. – Бар., Гродз., Шчуч., Лід. (СПЗБ, Цыхун), *чвартáк* м. – Астр., Воран. (СПЗБ), *чварáк* м. – Ваўк. (Мат. Гродз.), *азёмак* м. – Гродз. (Сл. Гродз.);

**пятая частка надзелу:** *пятáк* м. – Зэльв. (Мат. Гродз.), *пятўха* ж., *пятўшачка* ж. памянш. – Пух. (СПЗБ);

**шостая частка надзелу**: *шасцíна* ж. – зах.-пал. г., Глыб., Докш., Смарг., Зэльв., Карэл. (СПЗБ, ЛП, Сцяцко), *шастáя* ж. – Зэльв. (Сцяцко), *шастўха* ж., *шастўшачка* ж. памянш. – Бяроз., Лоеў. (Шаталава, Янкова), *шасцярына* ж. – Жытк. (ТС), *шастáк* м. – Паст., Смарг., Шчуч., Воран., Пух. (СПЗБ);

**сёмая частка надзелу:** *сядзьмўха* ж. – Паст. (СПЗБ), *сядмíна* ж. – Глыб. (СПЗБ), *сядмўшка* ж. памянш. – Віл. (СПЗБ);

**восьмая частка надзелу:** *асьмўха* ж. – Віл. (СПЗБ), *асьмíнка* ж. – Маст. (СПЗБ), *асьмáк* м. – Воран. (СПЗБ), *паўасьмíнак* м. 'палова восьмай часткі надзелу' – Бар. (СПЗБ);

**дзевятая частка надзелу:** *дзевятўха* ж. – Бяроз. (Шаталава).

## Пакос

Выкашаная паласа шырынёй у адзін размах касы, а таксама града скошанай травы.

*пакóс* м., *пакóсік* м. памянш. – паўдн.-усх. з., зах.-пал. г., Мін. р., Паст., Смарг., Валож., Докш., Барыс., Зэльв., Беластоц. р., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ДСБ, Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., НС, Кучук, Сцяцко, Шаталава, Шатэрнік, Юрчанка, Мат. апыт.), *пракóс* м. – паўдн. р., паўн.-зах. з., Слуцк. р., Маг. р., Дзятл., Бар., Бярэз., Чэрв., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Мат. Гродз., Шатэрнік), *пракóша* ж. – Чэрв. (СПЗБ), *закóс* м. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ, ЖНшС), *скос* м. – Жытк., Стол. (ТС), *скóсак* м. – Лельч. (Кучук), *рад* м., *радóк* м. – пал. р., Ганц. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шаталава, Мат. апыт.), *вал* м., *валóк* м. – Гарад., Ганц., Лун., Лельч. (ЛАБНГ), *градóк* м. – Івац. (ЛАБНГ), *кружóк* м. – Івац. (ЛАБНГ), *рýчка* ж. – Нараўл. (ЛАБНГ), *складýжына* ж. 'пакосы, якія кладуцца адзін на другі' – Стол. (ДСБ), *шнур* м. – Мядз., Пух. (СПЗБ).

## Постаць

Паласа, якую займае жняя ў час жніва.

*пóстаць* ж. – асн. мас. г., акрамя Віц. р. і ўсх.-маг. р., зах.-пал. г., Беластоц. р., Вілен. р., (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, ЛП, СНМ, Кучук), *пóстаць* ж. 'месца, занятае жняёй або касцом у час работы' – Ваўк., Воран., (Мат. Гродз.), *пастáць* ж. – Віц. р., усх.-маг. р., Мёр. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Маг, ЖНС), *пастýха* ж. – Гл. (ЛАБНГ), *пóстацелак* м. 'кавалак нязжатага поля, постаці' – Валож. (ЖС), *паласá* ж., *палóса* ж., *палóска* ж. – зах.-пал. г., Гродз. р., Маг. р., усх.-маг. р., Бярэз. р., Слуцк. р., Гом. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП), *загóн* м. – зах.-пал. г., Мін. р., Чэрв. р., Слуцк. р., Бярэз. р., Віл., Маст. (ЛАБНГ), *гóнкі* мн., *гóні* мн., *гóны* мн. – Докш., Ганц. (ЛАБНГ), *казá* ж. – Зэльв., Пін. (ЛАБНГ, СПЗБ), *цíтка* ж. – Стаўб., Пін. (ЛАБНГ, СНМ), *бугóна* ж. – Чэрык. (ЛАБНГ), *зажáтак* м. –

Лельч. (ЛАБНГ), *кусо́к* м. – Кам. (ЛАБНГ), *ла́нка* ж. – Івац. (ЖС), *ралю́х* м. – Кобр. (ЛАБНГ), *ста́і* мн. – Воран. (ЛАБНГ), *хвост* м. – Слаўг. (ЛАБНГ), *чацвяру́ха* ж. – Гл. (ЛАБНГ).

### Прасла

Паласа шырынёй у адзін праход камбайна.

*пра́сла* н. – Брасл. (СПЗБ).

### Рыза

Зямельны ўчастак у 5–10 сотак.

*ры́за* ж. – зах.-пал. г. (ЛП).

### Рэзка

Мера ворнай зямлі – каля 10 дзесяцін.

*рэ́зка* ж. – Шчуч. (Сл. Гродз.);
**іншыя назвы:** *чацвярту́ха* ж.’чацвёртая частка рэзкі’ – Шчуч. (Сл. Гродз.).

### Сотка

Адна сотая частка гектара.

*со́тка* ж. – агульн. (СПЗБ, Мат. Гродз., Юрчанка, Мат апыт.).

### Файтак

Паласа зямлі шырынёй у два метры, а таксама землямерны цыркуль з захопам у два метры.

*файта́к* м. – Іўеў. (Мат. Гродз.).

## 7.2. НАЗВЫ ЎЧАСТКАЎ ЗЯМЛІ НЯПЭЎНАЙ ПЛОШЧЫ

### Дзялка

Участак агульнага поля, сенажаці, выдзелены каму-небудзь для апрацоўкі.

*дзя́лка* ж. – спарадычна агульн., Беластоц. р., Вілен. р. (СПЗБ, ТС, ДСБ, Мат. Гродз., ЖС, НС, СНМ, Сцяцко, Шаталава), *дзя́лка* ж. ‘участак зямлі, адведзены для апрацоўкі і пабудовы, дзялянка’ – Гродз. р. (Цыхун), *дзя́лачка* ж. памянш. – Воран. (СПЗБ), *дзяля́нка* ж. – Верхнядзв., Чэрв. (СПЗБ, Шатэрнік), *па́йка* ж. – Хоц., Бых., Чач., Лоеў. (Мат. Маг., ЖНС, Янкова, Мат. апыт.), *уча́стак* м. – Віл., Чэрв., Верхнядзв. (СПЗБ), *ата́рыца* ж. – Карэл. (Сл. Гродз.), *да́чка* ж. – Лоеў. (Янкова), *но́рма* ж. – Слуцк. (НС).

### Засценак

Частка поля, ворнай зямлі асобна ад асноўнага масіву; звычайна аддзяляецца «сценкай» – дарожкай, граніцай.

*засцéнак* м. – зах.-пал. г., Касцюк. (ЛП, Бялькевіч), *нада́так* м. – зах.-пал. г. (ЛП), *прыда́так* м. ‘дабавачны ўчастак зямлі да асноўнага надзелу’ – Брэсц. (ДСБ), *прыдзі́р* м. ‘кусок зямлі, прыараны да старога пляца, асноўнай плошчы’ – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *прыдзі́рак* м. ‘кусок поля, узнятай цаліны, што прылягае да вялікага масіву поля’ – Драг. (ДСБ), *прырэ́з* м. ‘дабаўлены, «прырэзаны» да асноўнага надзелу ўчастак зямлі’ – Вілен. р. (СПЗБ), *прырэ́зак* м. ‘дабаўленая палоска зямлі’ – Чэрв. (Шатэрнік).

### Кусок

Участак зямлі, пэўная частка поля, сенажаці.

*кусо́к* м. – Мсцісл., Буда-Каш., Чач., Вілен. р. (СПЗБ, Юрчанка, Мат. апыт.), *ла́ва* ж. ‘паласа, участак сенакосу’ – Лід.,

Ганц. (СПЗБ), *майда́н* м. ‘кавалак поля’ – Іван., Маз. (ДСБ), *абуго́ня* ж. ‘участак поля, які намячаецца ўзараць’ – Мсцісл. (Юрчанка), *кут* м., *куто́к* м. ‘вуглавы ўчастак агарода, поля’ – Навагр., Беластоц. р. (СПЗБ), *паўро́чышча* н. ‘частка надзелу, што ўкліньваецца ў чужыя надзелы’ – зах.-пал. г. (ЛП), *шахаўні́ца* ж. – Ашм., Вілен. р. (СПЗБ), *палётак* м. – Жытк. (ТС), *пла́ха* ж., *пла́шка* ж. ‘шырокі кавалак поля’ – Жытк. (ТС),

**клінападобны ўчастак зямлі:** *клін* м. – пераважна агульн. (Мат. апыт.), *клíно́к* м. – зах.-пал. г. (ЛП), *рог* м., *ражо́к* м. – Стол., Жытк. (ТС), *ус* м. – зах.-пал. г. (ЛП), *цвы́хал* м. – зах.-пал. г. (ЛП), *шпыль* м. – Жлоб. (НС).

### Лава

Вялікі ўчастак поля, сенакосу.

*ла́ва* ж. – Мін. р., Слуцк. р., Віл., Навагр., Бар., Лях., Ганц., Пін., Стол., Барыс., Чэрв., Уздз. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. мін.-мал.), *ла́ва* ж. ‘шырокі загон зямлі, ці два-чатыры загоны, узараныя ўроскідку’ – Рас., Пол., Смарг., Барыс., Шчуч., Маст., Зэльв., Свісл., Воран., Іўеў., Пух., Карэл., Бых., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Шаталава), *ла́ва* ж. ‘участак, загон зямлі’– паўн.-зах. з., Чэрв. р., спарадычна паўдн. р., Рас., Пол., Барыс., Бых. (ЛАБНГ), *пало́вак* м. ‘участак ворнай зямлі ў 32 баразны – у 4 загоны’ – Гродз. (Сл. Гродз.), *пляц* м. ‘вялікі кавалак зямлі’ – Астр. (СНМ), *пляц* м., *плац* м. ‘участак зямлі’ – Чэрв., Брасл. (СПЗБ, Шатэрнік), *абру́б* м. ‘вялікі кавалак ворнай зямлі’ – Гродз. (Цыхун), *о́бруб* м. ‘зямля адной вёскі’ – Стол. (ТС), *крастэ́нцыя* ж. ‘вялікая плошча ворнай зямлі’ – Сен. р. (Каспяровіч), *ліма́н* м. ‘участак зямлі вялікіх памераў’ – Стол. (ТС).

### Невялікая паласа, участак зямлі

*дзюжо́к* м. – Чэрв. (СПЗБ), *ата́рыца* ж., *та́рыца* ж. – Маладз. (СПЗБ), *ата́рыца* ж. ‘участак зямлі, якую даваў пан

пад пасеў ільну ці ўчастак зямлі, які звычайна давалі ў пасаг' – Валож., Маладз., Іўеў., Клец. (ЛАБНГ), *ла́піна* ж. 'частка ворнай зямлі ці сенакосу памерам да дзесяці квадратных метраў' – Чэрв. (Шатэрнік), *лапе́ка* ж. 'невялікі ўчастак зямлі, заняты чым-небудзь ці пад што-небудзь' – Пух., Раг. (СПЗБ), *лапе́чка* ж. – Лоеў. (Янкова), *абру́бак* м. 'невялікі ўчастак сенажаці' – Чэрв. (СПЗБ), *кліно́к* м. 'невялікі ўчастак поля' – Кам., Бяроз., Стол. (СПЗБ).

## Ніва

Невялікае поле.

*ні́ва* ж. – зах.-пал. г. (ТС, ЛП), *грудо́к* м. 'участак ворнай зямлі, адведзены пад якую-небудзь культуру' – Глыб., Іўеў. (СПЗБ), *паля́нка* ж. – зах.-пал. г. (ЛП).

## Паласа

Вузкі і доўгі ўчастак ворнай зямлі, сенажаці і інш.

*паласа́* ж. – віц.-маг. г., спарадычна Гом. р., Зэльв., Лях., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз.,), *пало́ска* ж. – Мядз., Гродз., Стаўб., Мсцісл., Беластоц. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., Юрчанка), *пало́са* ж. – Старадарож., Вілен. р. (СПЗБ), *пало́сіца* ж. – Бераст. (СПЗБ), *шнур* м, *шнюр* м. – паўн.-зах. з., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *шнуро́к* м. – зах.-пал. г., Шум., Гродз. (СПЗБ, ДСБ, ЛП, СНМ), *шнуро́чак* м. памянш. – Лях., Вілен. р., (СПЗБ), *шнюро́к* м. – Гродз. (СПЗБ), *рэз* м. – Віц. р., Беш. р., Маг. р. (ЛАБНГ, Каспяровіч), *рэ́зка* ж. – Віл., Круп., Ваўк. (СПЗБ), *нарэ́зка* ж. – Годз. (СПЗБ), *шмат* м. – Пол., Гар., Віц. р. (ЛАБНГ, Каспяровіч), *ла́ва* ж. – Барыс., Чэрв. (СПЗБ), *даўжэ́й* м. – Чэрв. (Шатэрнік), *лы́нда* ж. – Шчуч. (З нар. сл.), *прара́мак* м. 'вузкая палоска лесу, зямлі' – Лоеў. (Янкова), *пра́сла* н. – Вілен. р. (СПЗБ), *сцю́шка* ж. – Смал. (СПЗБ), *шы́я* м. 'вузкая палоска лесу, зямлі' – Лоеў. (Янкова).

### Соткі

Прысядзібны ўчастак зямлі.

*со́ткі* мн. – агульн. (ЛАБНГ, СНМ, СПЗБ, Сцяцко), *пляц* м. – Віл., Нясв., Лід., Лях., Капыл., Беластоц. р., Віл. р. (ЖС, СПЗБ), *пляц* м. 'зямельны ўчастак, заняты пад гаспадарчыя пабудовы' – Глыб., Лід. (СПЗБ), *план* м. – Слон. (СРЛГ).

## 7.3. УРАДЖАЙ, ЗЕРНАВЫЯ Ў КОЛАСЕ, САЛОМА, СЕНА

### Атарыца

Частка ўраджаю, якую аддавалі дзеці састарэлым бацькам для пражыцця.

*ата́рыца* ж., *тары́ца* ж. – Пух. (СПЗБ).

### Бабка

Малая ўкладка у 10–15 снапоў.

*ба́бка* ж. – паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г., паўдн.-усх. з., спарадычна гродз.-бар. г., Кам., Малар. (ДАБМ, Шатэрнік, Юрчанка), *аба́бка* ж. – Тал., Бых., Буда-Каш. (ДАБМ), *бабу́рка* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *ба́бак* м., *аба́бак* м., *аба́бкі* мн. – Маг. р., усх.-маг. р., Гом. р., Калінк. (ДАБМ), *ля́шка* ж. – Мёр., Гарад., Ваўк., Свісл., Кам., Брэсц., Пруж., Бяроз., Кобр., Драг., Стол., Малар., Беластоц. р., (ДАБМ, СПЗБ, Мат. Гродз., Сл. Гродз., Шаталава), *ле́шка* ж. – Драг. (ЖНшС), *бля́шка* ж. – Малар. (ДАБМ), *ляшо́к* м. – Кам., Брэсц., Пруж., Драг., Іван., Малар. (ДАБМ), *ля́шкі* мн. – Ваўк., Свісл., Кам., Брэсц., Пруж., Кобр., Драг., Стол. (ДАБМ), *ку́чка* ж. – спарадычна паўдн. р., Гарад., Валож., Смал., Маст., Шчуч., Карэл., Пух., Бых., Раг., Бяроз., Лун., Лельч, Беластоц. р., Вілен. р. (ДАБМ, СПЗБ, Кучук, Шаталава), *мэ́ндаль* м. – Мядз., Віл., Зэльв., Воран., Навагр., Іўеў., Карэл., Кам., Вілен. р., (СПЗБ, Мат. Гродз., Сцяцко, Шаталава), *мэ́ндзель* м., *ме́ндзель* м. – На-

вагр. (Сл. Гродз., Н. сл-сць), *мэндаль* м. 'укладка снапоў і мера колькасці: 15 штук' – Зэльв. (Сцяцко), *мэндлік* м. – Мядз., Віл., Чэрв. (СПЗБ, Шатэрнік), *мэндля* ж., *мэндлі* мн. – Глыб., Ашм., Смарг., Докш., Навагр., Іўеў., Карэл., Пруж., Лях., Клец., Дзятл., Ганц. (ДАБМ), *мэндля* ж., *мэндла* ж. – Ашм., Смарг., Вілен. р. (СПЗБ), *мéндрык* м. – Уздз., Асіп., Жытк., Старадарож. (ДАБМ), *мыдля* ж. – Глыб., Лях., Бар., Зэльв., Пруж., (СПЗБ, Сцяцко), *мыдлячка* ж. памянш. – Лях. (СПЗБ), *мэдлік* м. – Пух. (СПЗБ), *мэтлік* м. – Лаг. (Шаталава), *мéльнік* м., *мéльня* ж. – Валож. (СПЗБ), *ставóк* м. – Віл., Малар., Петр., Ельск., Нараўл. (ДАБМ, ЖС, ЛП), *ставéц* м. – Брэсц., Малар. (ДАБМ), *стáвачкі* мн. – Віл. (СПЗБ), *стáўка* ж. – Віл., Маладз., Малар. (ДАБМ, СПЗБ), *стóўка* ж. – Лельч. (Кучук), *стаўкí* мн. – Жытк., Ельск. (ДАБМ), *стаяк* м. – Воран. (ДАБМ, СПЗБ), *стаякí* мн. – Воран. (ДАБМ), *стаячкі* мн. – Воран., Вілен. р. (ДАБМ, СПЗБ), *стаян* м. – Светлагор. (ДАБМ), *стаянка* ж. – Ваўк., Вілен. р. (Мат. Гродз., СПЗБ), *стаянкі* мн. – Верхнядзв., Рас., Пол., Лёзн., Воран. (ДАБМ), *капá* ж. – Ваўк. (СПЗБ), *капéнка* ж. – Верхнядзв., Карэл. (СПЗБ), *кóпка* ж. – Астр., Вілен. р. (ДАБМ, СПЗБ), *кóпачка* ж. памянш. – Вілен. р. (СПЗБ), *крыжсы* мн., *крыжсыкі* мн. – Сен., Валож., Віл. (СПЗБ, Касяровіч), *крыжсык* м. 'аўсяны мэндлік з пятнаццаці снапоў каласамі да цэнтру' – Лаг., Маладз. (ЖС, Шаталава), *крыжáк* м. – Тал. (Шаталава), *красты* мн. – Лях. (СПЗБ), *храсткí* мн. – Нараўл. (ЛП), *храстóчкі* мн. – Бяроз. (ЛП), *храсты* мн., *хрэчшчык* м. – Бял. (Мат. Маг.), *кладня* ж. – Мёр., Шарк., Глыб. (ДАБМ), *складня* ж. – Леп., Кругл. (ДАБМ), *склáдка* ж. – Барыс. (ДАБМ), *дзядóк* м. – Светлагор., Калінк., Хойн. (ДАБМ), *дзядкí* мн. – Саліг. (ДАБМ), *мáглі* мн. – Саліг. (ДАБМ), *мыглі* мн. – Маст. (ДАБМ);

**укладка з дзесяці снапоў**: *дзесятка* ж. – Стаўб., Лід., Воран., Шчуч., Гродз., Дзятл., Маст., Бераст., Ваўк., Свісл., Зэльв., Івац., Стол., Жытк., Слон. (ДАБМ, ТС, Мат. Гродз.), *дзесятак* м. – Лід., Шчуч., Гродз., Свісл., Івац., Іван., Пін., Бяроз., Лун., Стол. (ДАБМ, ТС, Шаталава), *дзесятóк* м. –

Гродз., Маст. (ДАБМ), *дзеся́ткі* мн. – Воран., Лід., Шчуч., Гродз., Бераст., Ваўк., Маст., Дзятл., Свісл., Зэльв., Стол., Івац., Бяроз., Драг., Іван., Лун., Лях. (ДАБМ, СПЗБ), *дзесяту́н* м., *дзесятуны́* мн. – Лун. (ДАБМ), *страпе́ц* м. – Іван., Пін., Стол., (ДАБМ, ДСБ, НЛ, ЛП), *мар'я́нка* ж. – Жытк., Петр., Нараўл. (ДАБМ, ТС), *страпцы́* мн. – Стол., Пін. (ДАБМ), *стры́пчык* м. – Драг., Кобр. (ДАБМ), *шайпа́к* м. – Драг. (ДСБ, ЛП);

**адзінкавыя назвы**: *дзевяцярні́к* м. – Беластоц. р. (СПЗБ), *казёл* м. 'бабка ячменных снапоў без шапкі' – Пол. (ДАБМ, НЛ), *круглі́ца* ж. 'часовая ўкладка ячменю на полі' – Рас. (Шаталава), *пята́к* м., *пяцёрачка* ж. памянш. 'укладка з пяці снапоў' – Гродз. (Мат. Гродз.), *суcло́н* м. – Пін. (ДАБМ), *хахлы́* мн. – Віл. (ДАБМ), *шары́* мн. – Барыс. (ДАБМ), *шаркі́* мн. – Барыс., Круп. (ДАБМ), *шо́рстка* ж. 'укладка з шасці снапоў' – Бераст. (Сл. Гродз.), *шу́рка* ж. – Клец., Саліг. (ДАБМ);

**іншыя назвы**: *двана́стка* ж. 'укладка жыта ў бабку па дванаццаць снапоў' – Ваўк., Гродз. Беластоц. р. (СПЗБ, Мат. Гродз.,), *мэ́ндля* ж. 'укладка з трыццаці снапоў' – Кам. (Шаталава), *саратня́* ж., *саракня́* ж. 'укладка ў сорак снапоў' – Стол. (ТС), *све́нка* ж. 'малая ўкладка снапоў жыта (пшаніцы) на полі, як правіла, з дваццаці снапоў' – Кам. (СПЗБ, Шаталава), *свінкі́* (*свынкы́*) мн. 'укладка снапоў на полі, якая пакрывалася трыма снапамі' – Кам. (ЖНС), *семярэ́нька* ж. памянш. 'семдзесят снапоў' – Пух. (СПЗБ).

## Бярэмца

Колькасць чаго-небудзь, што можна несці на руках.

*бярэ́мца* н. – Вілен. р., Мсцісл. (СПЗБ, Юрчанка), *бярэ́бенне* н. 'звычайна пра салому' – Карэл. (НЛ), *хапа́к* м. 'звычайна пра салому' – Мсцісл. (Юрчанка), *нару́чча* н. – Драг., Малар. (НЛ), *жмак* м. – Пін. (СНМ).

## Бярэмя

Ахапак сена, што можна несці ў руках.

*бярэ́мя* н. – гродз.-бар. г., Слуцк. р., усх.-маг. р., Валож., Чав., Карм., Брэсц., Жаб. (ЛАБНГ), *бярэ́ма* н. – паўн.-усх. д., спарадычна сярэд.-бел. г., спарадычна гродз.-бар. г. (ЛАБНГ), *бярэ́мяне* н. – Стаўб., Кам., Пруж., Навагр., Слон. (ЛАБНГ), *бярэ́мне* н. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ), *бярэ́мнечка* н. памянш. – Іван. (ЛАБНГ), *бярмо́* н. – Карэл., Лях. (ЛАБНГ), *бярэ́мак* м. – Стол., Карм., Маз. (ЛАБНГ), *абярэ́мак* м. – Буда-Каш., Рэч. (ЛАБНГ), *аха́пак* м. – паўн.-усх. д., паўн.-зах. з., Бярэз. р., Слуцк. р., Гом. р., Краснап., Гл., Бабр., Пруж., Бяроз. (ЛАБНГ, Янкоўскі, Шатэрнік), *ха́пак* м. – Чэрык., Калінк. (ЛАБНГ), *аха́пка* ж. – Слон. (ЛАБНГ), *ахло́пак* м. – Пол. (ЛАБНГ), *нару́чча* н. – Малар., Кобр., Драг. (ЛАБНГ), *падру́чча* н. – Брэсц., Бяроз., Малар. (ЛАБНГ), *патна́шак* м. – Беластоц. р. (СПЗБ), *лано́* н., *ло́на* н. – Светлагор., Калінк. (ЛАБНГ), *ла́тка* ж. – Слуцк. р. (ЛАБНГ), *жма́чка* ж. – Пол. (ЛАБНГ);

**колькасць чаго-небудзь, што можна несці ў руках**: *бярэ́мца* н. – Мсцісл., Вілен. р. (СПЗБ, Юрчанка), *бярэ́бянне* н. 'звычайна пра салому'– Карэл. (НЛ), *жмак* ж. – Пін. (СНМ), *нару́чча* н. – Драг., Малар. (НЛ), *уло́нне* н. 'у тым ліку і пра дровы' – Докш., Чэрв., Асіп. (СПЗБ), *хапа́к* м. 'звычайна пра салому' – Мсцісл. (Юрчанка).

## Вапсяйка

Мера вагі, прыкладна 4 цэнтнеры.

*вапся́йка* ж. – Кобр. (НЛ).

## Васьмярык

Даўнейшая мера вагі і аб'ёму, роўная восьмай частцы пу́ры – каля 6 кілаграмаў.

*васьмяры́к* м. – Пол. (НЛ).

## Воз

Колькасць сена, саломы, што змяшчаецца на калёсах.

*воз* м. – агульн. (Мат. апыт.), *вазíска* м. і ж. ‘вялікі воз сена, саломы, дроў’ – Зэльв. (СРЛГ), *паўвóза* мн. ‘палова воза’ – Мсцісл., Чач., Буда-Каш. (Юрчанка, Мат. апыт.), *паўважáйка* ж. ‘мера сена: больш за палову воза’ – Астр. (Сл. Гродз.), *саннык* м. ‘колькасць сена, саломы, што змяшчаецца на санках’ – Драг. (ДСБ), *хýра* м. ‘вялікі, вагой каля адной тоны, воз сена, саломы’ – Драг. (СНЛ);

**невялікі воз сена**: *каляснíк* м., *каляснічóк* м. памянш. – Гл., Чэрв., Старадарож. (Мат. мін-мал., СНЛ, Шатэрнік, Янкоўскі), *настрáмак* м., *настрáмачак* м. – Гродз., Уздз., Чэрв., Лоеў. (Мат. мін-мал., Цыхун, Шатэрнік, Янкова), *астрáмак* м. – Слон. (ЖС).

## Вязка

Пэўная колькасць сена, саломы, травы, якую звязваюць у посцілку (дзяружку) і нясуць за плячыма.

*вязка* ж. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шатэрнік), *вязáнка* ж. – Мёр., Ушац., Гарад., Шум., Віл., Навагр., Драг., Стол., Лях., Рэч., Чэрв., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНшС, Шатэрнік), *нóшка* ж. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шатэрнік, Юрчанка), *нóша* ж. – Верхнядзв., Шчуч., Гродз., Жаб., Кобр., Іван. (ЛАБНГ), *нашóўка* ж., *нашóўкі* мн., *нашóлкі* мн. – Навагр., Іўеў. (СПЗБ), *нашýлка* ж. – Валож., Маладз., Лід., Навагр., Іўеў. (ЛАБНГ), *насíлка* ж. – Пруж. (Босак), *нóшта* ж. – Вілен. р., Брасл., Шчуч. (ЛАБНГ, СПЗБ), *пóсцілка* ж. – Стол., Нараўл., Шарк., Ашм., Браг., Мядз., Лаг., Гродз., Маст., Воран., Ваўк., Дзярж., Карм., Саліг., Буда-Каш. (ЛАБНГ), *пасцíлка* ж. – Віл. (ЛАБНГ), *прóсцілка* ж. – Лельч., Маз. (ЛАБНГ), *радзюга* ж. – Дзятл., Бяроз. (ЛАБНГ), *радзюжка* ж. – Дзятл., Слон., Ганц., Драг., Стол., Зэльв. (ЛАБНГ, Мат. апыт.), *кíтка* ж. – Гродз., Нясв., Карэл., Стаўб., Слон., Пруж.,

Вілен. р., (СПЗБ, ДСБ, Мат. Гродз., ЖНшС, ЖС), *кíта* ж. – Вілен. р., Ашм., Навагр., Шчуч. (ЛАБНГ, СПЗБ), *кітá* ж. – Астр. (Мат. Гродз.), *жýжма* ж. і н., *шýшма* ж. і н., *шушмó* н. – спарадычна зах.-пал. г., цэнтр. з., Віл., Арш., Хоц. (ЛАБНГ), *бярэ́ма* н. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *лясёнка* ж. – Чэрв., Асіп. (ЛАБНГ), *папóнка* ж. – Стол. (ЛАБНГ), *сýкратка* ж. – Пух. (СПЗБ), *чыкірдá* ж. – Іўеў. (Сл. Гродз.).

**Дашчанка**

Мера зерня роўная палове асьміны – каля 24 кг.

*дашчáнка* ж. – Чэрв. (Шатэрнік).

**Жменя**

Сена, салома, зжатыя сцяблы, што захопліваюцца далонню.

*жмéня* ж., *жмéнька* ж. – агульн. (Мат. Гродз., Мат. апыт.), *жмáчка* ж. – Мёр., Пол. (НЛ), *жмут* м. – Лоеў. (Янкова), *жмух* м. – Драг. (Н. сл-сць), *кáслаўка* ж. – Мёр., Пол. (НЛ), *кáслава* ж. – Пол. (НЛ), *кузлáк* м. ‘пасма, шматок (сена, кудзелі, травы) – Пол., Ушац. (НЛ, СНМ), *ахамóлак* м. – Мёр. (НС), *халмáк* м. – Пол. (ЖНС, НЛ), *гаршч* ж. – Воран. (Шаталава), *гóрбачка* ж. – Бяроз. (Шаталава), *клок* м. – Чав. (НС), *куўсцяк* м. – Вілен. р. (СПЗБ), *прáста* ж. ‘дзесяцьпятнаццаць жменяў зжатых сцёблаў’ – Стаўб. (СНМ).

**Залаз**

Няпэўная колькасць снапоў, якія замацоўваліся на азяродзе для сушкі; шырыня залáзу – 4–5 снапоў.

*залáз* м. – Чэрв. (Шатэрнік).

**Іспол**

Палавіна ўраджаю, якая аддавалася за арандаваную зямлю.

*іспóл* м. – Верхнядзв. (СПЗБ).

мн., *буграк* м., *буграќі* мн. – усх.-пал. р. (ЛАБНГ), *светлы бугор* – Жлоб. (ЛАБНГ), *бурган* м., *бурганы* мн. – Раг. (ЛАБНГ), *круганчык* м. – Іўеў. (СПЗБ), *гурачка* ж., *гурачкі* мн. – Калінк. (ЛАБНГ), *градка* ж. – Нясв. (ЛАБНГ), *грудан* м., *груданы* мн. – Пух. (ЛАБНГ), *каўган* м., *каўганы* мн. – Іўеў. (ЛАБНГ), *пузыр* м., *пузыры* мн. – Бял., Шчуч., Маз. (ЛАБНГ, НС, ГЧ), *пузырок* м., *пузыркі* мн. – Бял., Шчуч., Карм. (ЛАБНГ, Сл. Гродз., Мат. Гом., НС), *клачок* м., *клачкі* мн. – Тал. (ЛАБНГ), *галавач* м., *галавачы* мн. – Бяроз. (ЛАБНГ), *булава* ж., *булавы* мн. – Стол. (ЛАБНГ), *туляг* м., *тулягі* мн. – Віл. (ЛАБНГ), *навалка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *навараць* ж. – Дзятл. (Сл. Гродз.), *лунь* м. і ж., *луні* мн., *лунёк* м. – Віл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *луна* ж. – Гродз., Бяроз. (СПЗБ), *мана* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *зарубачка* ж. памянш. – Вілен. р. (СПЗБ);

**кучавыя аблокі**: *бугры* мн. – Брасл. (СПЗБ), *граны* мн. – Шчуч. (СПЗБ), *гранкі* мн. – Смарг. (СПЗБ), *груды* мн. – Ганц. (СПЗБ), *груданкі* мн., *градачкі* мн. – Пух. (СПЗБ), *гуракі* мн., *гурачкі* мн. памянш. – Калінк. (СПЗБ), *камягі* мн., *каўган* м. – Віл. (СПЗБ);

**вялікае, звычайна цёмнае воблака, якое часта прыносіць дождж, град, снег**: *хмара* ж. – агульн., Вілен. р., Смален. р., зах.-бран. р. (ДАБМ, ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЖНшС, Бялькевіч, Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Растаргуеў, Станкевіч, Шатэрнік), *хмара* ж. – Лід., Шчуч. (СПЗБ), *хмары* мн. – агульн. (паўн. р. – спарадычна) (ЛАБНГ), *хмары* мн. – зах.-пал. г., Ганц. (ЛАБНГ, СПЗБ), *хмарка* ж. памянш. – Лях. (СПЗБ), *хмарына* ж. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *хмарук* м. – Люб. (СНМ), *хмура* ж., *хмуры* мн. – Верхнядзв., Мёр., Лаг., Гродз., Стаўб., Кам., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. мін.-мал., ЖНшС, Насовіч), *хмура цяжка* – Гродз. (ЛАБНГ), *хмура* ж. – Валож., Іўеў. (СПЗБ, ЖС), *хмурка* ж. памянш. – мясц. (Насовіч), *туча* ж., *тучы* мн. – паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г., спарадычна паўдн.-зах. д. і зах.-пал. г., Вілен. р., Смален. р. (ДАБМ, ЛАБНГ, СПЗБ, Бялькевіч, Дабравольскі, Янкова), *туцы* мн. – Гарад. (ЛАБНГ), *тучка* ж. памянш. –

Мядз. (СПЗБ), *ту́чына* ж., *ту́чынка* ж. памянш. – мясц. (Насовіч), *ча́та* ж. *ча́ты* мн. – гродз.-бар. г. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз.), *ча́да* ж., *ча́ды* мн. – Іўеў. (ЛАБНГ), *паме́г* м., *паме́жак* м. памянш., *па́ма* ж. – Лун. (ЛАБНГ, Шаталава), *дзед* м. – Стаўб. (ЛАБНГ), *дзяды́* мн. – Навагр. (ЛАБНГ), *дзядо́к* м. – Глыб. (ЛАБНГ), *лунь* м., *лунёк* м. – Віл. (ЛАБНГ, ЖС), *пузы́р* м. – Уздз. (Мат. мін.-мал.), *каўга́н* м., *каўганы́* мн. – Іўеў. (ЛАБНГ), *сіню́ха* ж. – Бярэз. (ЖНшС), *абло́ка* н., *во́блакі* мн. – Шарк., Тал. (ЛАБНГ), *дзвіна́* ж. 'вялікая хмара, якая насоўваецца' – мясц. (Станкевіч), *градаві́на* ж. 'градавая хмара' – Мсцісл. (Юрчанка), *абло́жныя хма́ры* 'хмары, якія поўнасцю закрылі неба' – Стаўб. (З нар. сл.);

**навальнічная хмара**: *навальні́ца* ж. – Лаг. (Варлыга), *рука́ўчык* м., *рукаўцы́* мн. – Малар. (НЛ);

**невялікая дажджавая хмара**: *хмуро́к* м. – Ваўк. (ЛАБНГ), *пузыро́к* м. – Круп., Бял. (ЛАБНГ), *гура́к* м. – Светлагор. (ЛАБНГ).

**Месца за аблокамі**: *забо́лачча* н. – мясц. (Станкевіч).

## Вясёлка

Шматкаляровая дугападобная паласа на небе, якая ўзнікае ад праламлення сонечных праменняў у дажджавых кроплях.

*вясёлка* ж. – паўн.-усх. д. (за выключэннем усх.-маг. р.), спарадычна сярэд.-бел. г., Навагр., Слуцк., Капатк., Жытк., Петр., Маз., Ельск., Лельч. (ДАБМ, Мат. Гродз., Каспяровіч, Насовіч), *перавясёлка* ж. – Чэрв., Бярэз., Кліч., Асіп., Бабр., Акц., Нараўл., Лоеў. (ДАБМ, Янкова), *весялу́ха* ж. – слуцк.-маз. г., Рас., Валож., Гродз., Мін., Стаўб., Капыл., Дзятл., Ваўк., Свісл., Баран., Пруж., Лях., Івац., Іван., Пін., Стол. (ДАБМ, Мат. Гродз., ГЧ, Цыхун, Янкова), *мецялу́ха* ж. – Івац. (ДАБМ), *перавесялу́ха* ж. – Кліч. (ДАБМ), *весялі́ха* ж. – Лун. (ДАБМ), *кісялі́ха* ж. – Лун. (ДАБМ), *вясе́ліца* ж. – Маз. (ДАБМ), *вясе́лік* м. – Іван. (ДАБМ), *весялёк* м. – Брэсц. (ДАБМ), *асяло́к* м. – Брасл., Жытк. (ДАБМ), *асёлка* ж. –

Чашн. (Каспяровіч), *дугá* ж. – Паст., Гарад., Круп. (ДАБМ), *рáдуга* ж. – агульн. (ДАБМ, СПЗБ, Мат. Гродз., ЖНшС), *рáдуха* ж. – Маз. (ГЧ), *грáдуха* ж. – Маг. (ДАБМ), *парáдуха* ж. – Ганц. (ДАБМ), *рáдаўніца* ж. – Брасл., Асіп., Слуцк., Стол., Нараўл. (ДАБМ), *грáдаўніца* ж. – Ганц., Стол. (ДАБМ), *рáдавіца* ж. – Стол. (ДАБМ), *грáдавіца* ж. – Лун. (ДАБМ), *радзю́ха* ж. – Пін. (ДАБМ), *рáда* ж. – Мёр. (ДАБМ), *пóяс* м. – Іван., Стол. (ДАБМ), *паяс* м. – Брасл., Шарк. (ДАБМ), *бóжы* (*харóшы*) *паяс* – Брасл. (ДАБМ), *карóмыслы* мн. – Лоеў. (Янкова), *ключ* м. – Саліг. (ДАБМ), *цмок* м. – Паст., Глыб., Астр., Ашм., Саліг., Лун., Пін. (ДАБМ, СПЗБ), *смок* м. – Паст., Астр., Смарг., Мядз., Свісл. (ДАБМ, СПЗБ), *красу́ля* ж. – Чэрв., Пух., Саліг. (ДАБМ, СЦБ, Шатэрнік), *красáвіца* ж. – Баран. (ДАБМ), *сяміцвéтка* ж. – Навагр. (З нар. сл.), *даждж́анка* ж. – Лід., Бых. (ДАБМ, Сл. Гродз.), *тэ́нча* ж. – паўн.-зах. з., Ганц., Жытк., Петр. (ДАБМ, СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. Гом., Цыхун), *тэнч* м. – Брасл., Паст., Смарг., Мядз. (ДАБМ), *тэ́нза* ж. – Лях. (ДАБМ), *цéньжа* ж. – Саліг. (ДАБМ), *цéнта* ж. – Лун. (ДАБМ).

**Галалёд, галалёдзіца**

Ледзяная корка на паверхні зямлі, не пакрытай снегам; стан надвор'я, калі паверхня зямлі, дрэваў і інш. пакрыта ледзяной коркай.

*галалёд* м. – Мёр., Гарад., Ушацк., Дубр., Мядз., Смарг., Гор., Мсцісл., Чэрык., Касц., Валож., Карэл., Лід., Воран., Гродз., Маст., Дзятл., Слон., Зэльв., Ваўк., Капыл., Клецк., Люб., Саліг., Баран., Ганц., Пруж., Кам., Брэсц., Жаб., Кобр., Драг., Малар., Пін., Стол., Лун., Лельч., Маз., Раг., Ветк., Добр., Лоеў. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Станкевіч), *галялёд* м. – гродз.-бар. г., Іўеў., Слуцк. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. дыял. сл., З нар. сл., НЛ, Н. сл-сць), *алялёд* м. – Гродз. (ЛАБНГ, СПЗБ, З нар. сл.), *галалёдзіца* ж. – Верхнядзв., Ушацк., Леп., Дубр., Арш., Гор., Кругл., Маг., Чав., Бых., Чэрык., Краснап., Хоц., Асіп., Гл., Ашм., Лаг., Чэрв.,

Бярэз., Валож., Іўеў., Стаўб., Уздз., Карэл., Навагр., Лід., Шчуч., Дзятл., Слон., Капыл., Карм., Чач., Ветк., Добр., Рэч., Хойн., Браг., Маз., Лельч., Лях., Івац., Кам., Бяроз., Жаб., Кобр., Малар., Пін., Стол., Лун. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНшС), *галялёдзіца* ж. – Маладз., Дзярж., Навагр., Слуцк., Саліг. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз.), *галалéдзіца* ж. – Латгал. р. (СПЗБ), *галялéдзіца* ж. – Баран. (ЛАБНГ), *агалёдзіца* ж. – Воран. (ЛАБНГ), *галалёдзіха* ж. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *галялёдзь* ж. – Саліг. (ЛАБНГ), *галалéдзь* ж. – Ашм., Латгал. р. (СПЗБ), *галалёддзе* н. – Мсцісл. (Юрчанка), *галалёдка* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *верхалёд* м. – Драг., Іван. (ЛАБНГ), *верхалёдзіца* ж. – Івац., Драг., Іван., Стол., Лельч. (ЛАБНГ, ЖНС), *аблядзéнь* м. – Шарк. (ЛАБНГ), *лядáнка* ж. – Паст. (СПЗБ), *галашчóк* м. – Ашм., Мін., Бярэз., Пух., Асіп., Стаўб., Карэл., Дзятл., Клецк., Слуцк., Люб., Старадарож., Драг., Іван., Пін., Стол., Лун., Чач., Светлагор., Рэч., Лоеў., Нараўл. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, Мат. Гом., НС, СНМ, Мат. дыял. сл.), *галашчóка* ж. – Стаўб., Навагр., Карэл., Шчуч., Маст., Дзятл., Лях. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., НЛ, З нар. сл.), *галашчáка* ж. – Навагр. (ЛАБНГ), *галашчы́т* м. – Пін. (НЛ), *галéча* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *галýза* ж. – Шарк. (ЛАБНГ), *галýта* ж. – Гарад. (НЛ), *аблівáха* ж. – Чашн., Леп., Тал., Бых., Пух., Асіп., Кір., Бабр., Старадарож., Жлоб., Акц., Светлагор., Добр., Рэч., Івац., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, Растаргуеў), *аблівáка* ж. – Докш., Астр., Віл., Лаг., Барыс., Круп., Бярэз., Бял., Маг. (ЛАБНГ, Яўсееў), *аблівáга* ж. – Калінк. (ЛАБНГ), *аблівáх* м. – Сен. (ЛАБНГ), *аблівéнь* м. – паўн. р., Маладз., Мін. (ЛАБНГ, ЖНС), *вóблівень* м. – Гл., Чач., Ветк., Добр., Хойн., Нараўл., Браг. (ЛАБНГ, Мат. Гом.), *аблíў* м. – усх.-маг. р., Гарад. (ЛАБНГ, Бялькевіч), *вóбліў* м. – усх.-маг. р., Дубр., Карм., Чач., Ветк. (ЛАБНГ, Мат. Гом., Бялькевіч, Насовіч, Станкевіч, Юрчанка), *аблíва* ж. – Люб., Івац. (ЛАБНГ), *вóбліўка* ж. – Шкл., Клім., Касц., Слаўг. (ЛАБНГ), *вóбліўкі* мн., *вóбліўе* н. – Мсцісл. (Юрчанка), *вóблівіца* ж. – Карм. (ЛАБНГ), *аблóй* м. – Рас., Верхнядзв., Пол., Шум., Гарад. (ЛАБНГ), *палéва* ж. – Бял.

(Яўсееў), *вылівак* м. – Паст. (СПЗБ), *слізгавíца* ж. – Віл., Гродз., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., Цыхун), *слізгóта* ж. – Стаўб., Слон., Люб., Баран., Бяроз., Смален р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Дабравольскі), *слізгатá* ж., *слізгóцце* н. – Гл. (Янкоўскі), *слігóцце* н. – Віц. (ЛАБНГ), *слізкатá* ж. – мясц. (Насовіч), *слізóта* ж. – Лаг., Клім., Кобр., Вілен. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС, Варлыга, Насовіч, Растаргуеў), *слізатá* ж. – Астр., Смарг., Іўеў. (СПЗБ), *склізóта* ж. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *склізóцце* н. – Бял. (Яўсееў), *склізня́* ж. – Бял. (Яўсееў), *скальзóта* ж. – Мсцісл., зах.-бран. р. (Растаргуеў, Юрчанка), *скальзатá* ж. – Мсцісл., Шчуч. (СПЗБ, Юрчанка), *каўзóта* ж. – Хоц., Зэльв. (ЛАБНГ, ЖС), *каўзаніна* ж. – Баран. (СПЗБ), *каўзéліца* ж. – Маз., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, Растаргуеў), *каўзéль* ж. – Гродз. (ЖНС), *шарпóта* ж. – Карм. (Мат. Гом.), *храпаніна* ж. – Кобр. (СНМ), *раскáлле* н. – Лоеў. (Янкова), *галаднíца* ж. – Малар. (ДСБ), *брызкóль* м. – Люб. (СПЗБ), *крýпы* мн. – мясц. (Станкевіч), *сракапáд* м. – Івац., Драг., Пін. (ЛАБНГ), *сырáя інь* – Валож. (ЛАБНГ), *голць* ж. ‘галалёдзіца са снегам’ – мясц. (Станкевіч).

**Галашчок**

Марознае і ветранае надвор'е звычайна ў пачатку зімы да выпадзення снегу.

*галашчóк* м. – паўдн.-усх. з., зах.-пал. г., Чэрв. р., спарадычна гродз.-бар. г. і Мін. р., Смарг., Лаг., Бял. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, СЦБ, ЖС, ЖНС, НЛ, НС, Н. сл-сць, Станкевіч, Шаталава), *алашчóк* м. – Воран. (СПЗБ), *галашкóк* м. – Лід. (СПЗБ), *галашчóка* ж. – Навагр., Карэл., Дзятл., Слон., Нясв., Капыл., Клецк., Лях., Баран., Брэсц. (ЛАБНГ, СПЗБ), *галýта* ж. – Рас., Верхнядзв., Мёр., Гарад., Пол., Ушацк. (ЛАБНГ, ЖНС, НС, Шаталава), *галýтва* ж. – Гарад., Пол., Шум., Віц., Беш. (ЛАБНГ), *галýда* ж. – Верхнядзв. (СПЗБ), *галéц* м. – Докш., Леп., Тал., Круп., Віл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сухалёдзіца* ж. – Раг. (ЛАБНГ).

## Гарачыня, спёка, спякота

Высокая тэмпература паветра, нагрэтага сонцам; гарачы летні час.

*гарачыня́* ж. – Чэрв. р., Віл., Іўеў., Драг. (СПЗБ, Станкевіч, Шатэрнік), *гарачэ́ча* ж. – Карэл. (Мат. Гродз.), *го́рач* м. і ж. – Шчуч., Зэльв. (СПЗБ, Мат. Гродз., Сцяцко), *гара́ч* ж. – Пруж., Драг., Пін. (СПЗБ), *цеплаце́нь* ж., *цеплатэ́ча* ж. – Беластоц. р. (СПЗБ), *спёка* ж. – Маст., Шчуч., Лях. (СПЗБ), *спе́ка* ж. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *спяко́та* ж. – Чэрв. р., Сен., Лаг., Воран., Маст., Дзятл. (СПЗБ, Мат. Гродз., Варлыга, Каспяровіч, Шатэрнік), *спеката́* ж. – Іўеў., Гродз. (СПЗБ, Сл. Гродз.), *пяко́та* ж. – Віц. р., Верхнядзв., Докш., Віл., Лаг., Іўеў., Люб., Бяроз., Петр., Браг., Добр., Вілен. р., Смален. р., зах.-бран. р. (СПЗБ, Сл. Гродз., Мат. Гом., Мат. мін.-мал., Нар. скарбы, Варлыга, Дабравольскі, Каспяровіч, Растаргуеў), *пекані́на* ж. – Мёр. (Н. сл-сць), *жара́* ж. – усх.-маг. р., Пух., Навагр., Шчуч., Ганц., Пруж., Латгал. р. (СПЗБ, СЦБ, Бялькевіч), *жары́шча* ж. – усх.-маг. р., Мядз., Пух., Стаўб., Лоеў. (СЦБ, Бялькевіч, Янкова), *жаро́та* ж. – усх.-маг. р., Смален. р. (Бялькевіч, Дабравольскі), *жаро́цце* н. – Драг. (Н. сл-сць), *жарката́* ж. – Віц. р., Бярэз. (СПЗБ, Каспяровіч, Насовіч), *жа́ркасць* ж. – Чашн. (Каспяровіч), *сква́ра* ж. – мясц. (Насовіч), *сквар* м., *смал* м. – Лаг. (Н. сл-сць, Варлыга), *пал* м. – Віц. р. (Каспяровіч), *упа́л* м. – Стаўб., Пін., Беластоц. р. (СПЗБ, ДСБ, Мат. мін.-мал., Насовіч), *у́пал* м. – Гродз. (Цыхун), *вад* м. – усх.-маг. р., Сен. (Бялькевіч, Каспяровіч), *вар* м. – мясц. (Станкевіч), *кі́пень* ж. – Шум. (СПЗБ), *скі́пецень* м. – Брэсц. (СНМ), *зыр* м. – Лаг., Стол., Жытк. (ТС, Варлыга), *зырасць* ж., *зыркасць* ж. – Стол. (ТС), *духата́* ж. – Віц. р., Чэрв. р., Віл., Воран., Навагр., Шчуч., Калінк. (СПЗБ, Мат. Гродз., Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік), *духута́* ж. – Глыб. (СПЗБ), *заду́ха* ж. – Беш., Вілен. р. (СПЗБ, Каспяровіч), *за́духа* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *мяжэ́ніна* ж. ‘самы спякотны час у сярэдзіне лета’ – мясц. (Насовіч);

**вільготная гарачыня**: *духата́* ж. – агульн. (ЛАБНГ), *духо́та* ж. – Чашн., Клім., Навагр., Кобр., Драг., Пін., Лун., Стол., Калінк. (ЛАБНГ), *духаці́шча* ж. – Навагр. (ЛАБНГ), *духо́цце* н. – Глыб., Стол. (ЛАБНГ), *духме́нь* ж. – Дубр., Тал., Бял., Чав., Клім., Хоц., Кір., Добр. (ЛАБНГ), *дух* м. – Бяроз. (ЛАБНГ), *заду́ха* ж. – зах.-пал. г., за выключэннем крайняй заходняй часткі, Валож., Карэл., Навагр., Дзятл., Слон., Зэльв., Клецк., Слуцк., Клім., Жлоб., Лельч. (ЛАБНГ), *уду́ха* ж. – Дзятл. (ЛАБНГ), *прыду́ха* ж. – Гом. (ЛАБНГ), *душно́та* ж. – Раг. (ЛАБНГ), *па́рнасць* ж. – Смарг., Воран., Іўеў., Чэрв., Ганц. (СПЗБ), *парната́* ж. – Чач. (Мат. Гом.), *па́рніца* ж. – Смарг. (Сл. Гродз.), *па́ркасць* ж. – Гродз. (Цыхун), *па́ра* ж. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *прыпа́р* м. – усх.-маг. р., Смален. р. (Бялькевіч, Дабравольскі), *прыпа́рка* ж. – Віл., Лаг., Навагр., зах.-бран. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., Растаргуеў), *васпарэ́нне* н. – Стаўб., Лід., Вілен. р. (СПЗБ, СЦБ), *ва́рнасць* ж. – Зэльв. (СРЛГ, ЖС), *вар* м. – Карэл. (Мат. Гродз.).

## Град

Атмасферныя ападкі ў выглядзе крупінак ільду рознай велічыні.

*град* м. – агульн. (СПЗБ, ЖНшС, Станкевіч, Мат. апыт.), *градаві́на* ж. – Барыс. (СПЗБ), *гра́дзіна* ж. ‘адно зерне граду’ – агульн., Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч, Мат. апыт.).

**Гразь,** гл. **Бездараж, бездарожжа.**

## Гром

Грукат і трэск, якія суправаджаюць маланку ў час навальніцы.

*гром* м. – пераважна агульн., Смален. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., ЖС, ЖНшС, Дабравольскі, Каспяровіч, Станкевіч, Шатэрнік, Мат. апыт.), *грымо́ты* мн. – Воран. (Мат. Гродз.),

*пяру́н* м. – Брасл., Смарг., Ашм., Быx., Кобр., Вілен. р., Беластоц. р. (СПЗБ, ЖНшС, Мат. дыял. сл., Станкевіч), *пе́рун* м. – Чэрв., Быx., Браг., зах.-бран. р. (НЛ, Мат. дыял. сл., Растаргуеў, Шаталава), *пе́ран* м. – Светлагор., Рэч. (Мат. Гом.), *дунда́р* м. – Гродз. (СПЗБ), *нябе́сны ўдар* – Смален. р. (Дабравольскі), *грымо́та* ж. 'працяглы і моцны гром, які суправаджаецца маланкамі' – Віц. р., Чэрв. р., Лаг., Смален. р. (Варлыга, Дабравольскі, Касяпяровіч, Шатэрнік), *ці́хень* м. 'слабы гром' – мясц. (Станкевіч);

**ускалыхванне паветра ад удару грому**: *імпэ́т* м. – Чашн. (Касяпяровіч), *і́мпат* (*і́мпэт*) м. – Шчуч. (СПЗБ).

## Дождж

Атмасферныя ападкі ў выглядзе кропляў вады, якія падаюць з хмар.

*дождж* м. – паўдн.-усх. з., Шум., Сен., Паст., Валож., Навагр., Стаўб., Бераст., Ваўк., Бяроз., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., ГЧ, Касяпяровіч, Станкевіч, Шатэрнік), *дошч* м. – агульн. (спарадычна паўдн.-усх. з.), Смален. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНшС, Дабравольскі), *до́ждж ык* м. памянш. – Гродз. (СПЗБ,), *дажджо́к* м. памянш. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *дож* м. – сярэд-бел. г., усх.-пал. р., паўночная частка паўн.-зах. з., Віл., Старадарож., Ганц., Смален. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СНМ, Дабравольскі), *до́жжык* м. памянш., *до́ждзік* м. памянш., *до́ждзічак* м. памянш., *дажздзі́шка* м. памянш., *даззі́шка* м. памянш. – Смален. р. (Дабравольскі), *дажджаві́к* м. – Лід. (Сл. Гродз.), *залі́ў* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *маква́* ж. – Ельск. (Мат. Гом.), *калашта́н* м. – Стол. (ТС), *дан* м. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *пума́чкі* мн. – Гарад. (НЛ), *до́светнік* м. 'дождж перад раніцай' – Слон. (Сл. Гродз.), *каласаві́к* м. 'дождж, які ідзе ў час, калі каласіцца жыта' – Воран. (СРЛГ), *ту́ча* ж. 'дождж з ветрам' – пал. р. (ЛП), *во́рыўнік* м. 'цёплы дождж пад ворыва' – Карэл. (Сл. Гродз.);

**цёплы і пераважна густы дождж, які ідзе пры сонцы**: *грыбаві́к* м. – Слон., Смален. р. (Сл. Гродз., Дабравольскі),

*грыбні́к* м. – Маст. (Сл. Гродз.), *грыбасе́й* м. – Карэл. (Сл. Гродз.), *дабрасе́й* м. – Гродз. (Сл. Гродз.), *цыга́нскі дожджж* – Буда-Каш., Петр. (Мат. Гом., ГЧ), *цыга́ньскі дож* – Калінк. (СПЗБ), *сляпэ́й дождзь* – Смален. р. (Дабравольскі), *свін-не́чы дошч* – Драг. (СНМ);

**зімовы дождж, які ідзе пры тэмпературы замярзання вады і выклікае абледзяненне дрэваў і зямлі**: *абліва́ха* ж. – Беш., Бых. (Мат. дыял. сл., Каспяровіч, Станкевіч), *аблі-ва́ка* ж. – Лаг., Бял. (Мат. дыял. сл., Варлыга), *аблі́ва* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *абліве́нь* м. – Паст., Астр. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *брызко́ль* м. – Люб. (СПЗБ);

**кароткачасовы дождж**: *брызку́ль* м. – Дзятл. (СРЛГ), *пра-хо́дны дожджж* – Астр., Вілен. р. (СПЗБ), *прахадны́ дошч* – Брасл., Смарг. (СПЗБ), *прайсцёвы дошч* – Астр., Вілен. р. (СПЗБ), *налётны дошч* ‘непрацяглы і раптоўны дождж’ – Воран. (СПЗБ);

**дождж, які ідзе з перапынкамі**: *перахо́дны дожджж* (*дошч*) – Верхнядзв., Глыб., Докш., Лаг. (СПЗБ, Варлыга), *перары́ўны дошч* (*дож*) – Віл., Чэрв. (СПЗБ), *прэ́рва* ж. – Шчуч. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *перашчу́к* м. – Нараўл. (ЛАБНГ), *ча́ды* мн. – Іўеў. (ЛАБНГ), *ча́ты* мн. – Баран. (ЛАБНГ), *стучо́к* м. – Пін. (ЛАБНГ), *брызку́ль* м. ‘дождж халодны, рэдкі і з перапынкамі’ – Гл. (Янкоўскі);

**дождж, які ідзе працяглы час без перапынку**: *абло́ж-нік* м. – Лід., Раг., Ветк., Лоеў. (Сл. Гродз., Мат. Гом., Янко-ва), *аблажня́к* м. – Мсцісл. (ЛАБНГ), *абло́жны дожджж* (*дошч*) – Стаўб., Драг. (СПЗБ), *нахра́пнік* м. перан. – Лоеў. (Янкова), *улі́ва* ж. – мясц. (Насовіч);

**працяглы і моцны дождж**: *паліве́нь* м. – Лаг. (Варлы-га), *заліва́нне* н., *зале́вы* мн. – мясц. (Станкевіч);

**праліўны дождж**: *лі́вень* м. – асн. мас. г. (спарадычна паўн.-зах. з.), Кам., Бяроз. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Кас-пяровіч), *лі́вань* м. – Пух., Дзятл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *лі́ван* м. – Ганц. (ЛАБНГ), *залі́вень* м. – Віц. р., Мсцісл., Маг., Бу-да-Каш., Петр. (ЛАБНГ, Мат. Гом., Каспяровіч, Юрчанка), *залiве́нь* м. – Гарад., Шум., Дубр., Леп., Віл. (ЛАБНГ, СПЗБ),

*за́лівень* м. – Маладз., Пін. (ЛАБНГ, НЛ), *злі́вень* м. – Латгал. р. (СПЗБ), *на́лівень* м. – Стол. (ТС), *палівéнь* м. – Лёзн., Віл., Смален. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Дабравольскі), *пралі́вень* м. – Мядз. (СПЗБ), *пралівéнь* м. – Шкл. (ЛАБНГ), *пpóлівень* м. – зах.-бран. р. (Насовіч, Растаргуеў), *праліу́нік* м. – Слон. (Сл. Гродз.), *праліу́* м. – Драг. (ЛАБНГ), *праліу́ны́ дóшч* – Брасл., Карэл., Шчуч., Лях. (СПЗБ), *уліу́* м., *улі́ва* ж. – Гродз. (Сл. Гродз.), *улéу́* м. – мясц. (Насовіч), *улéва* ж. – Смарг., Стаўб. (СПЗБ, Мат. мін.-мал.), *уліу́ны дошч* – Астр., Смарг., Лаг., Гродз., Шчуч., Вілен. р. (СПЗБ), *улéу́ны дошч* – Смарг., Іўеў., Гродз., Вілен. р. (СПЗБ), *залі́ва* ж. – Карм., Лоеў., Стол. (ЛАБНГ, Янкова), *залéвы* мн. – мясц. (Насовіч), *злі́ва* ж. – Лун. (ЛАБНГ), *заліва́нне* н. – мясц. (Насовіч), *ліву́н* м. – мясц. (Станкевіч), *ілля́к* м. – Уздз. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *лéя* ж. – усх.-пал. р., Іўеў., Слуцк. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., Мат. Гом., Янкова), *улéя* ж. – Лаг., Смарг. (ЛАБНГ), *лю́ха* ж. – Гродз. (ЖНС), *улю́ха* ж. – Карэл. (Сл. Гродз.), *паралóй* м. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ, ДСБ, З нар. сл.), *прарóй* м. – Бяроз., Кам., Кобр. (ЛАБНГ, ДСБ), *палóй* м. – Пруж., Лях., Ганц., Лун. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шаталава), *апла́ва* ж. – Лун. (ЛАБНГ), *маку́н* м., *ведранéц* м. – Шчуч. (Сл. Гродз.), *навальні́ца* ж. – Паст., Воран., Лід., Шчуч., Бераст. (ЛАБНГ), *ту́ча* ж. – Стол., Жытк. (ТС), *касахвóшч* м. – Дзятл. (Сл. Гродз.), *шпа́рынне* н. – мясц. (Насовіч), *вялі́кі дошч* – Кобр. (ЖНшС);

**дробны дождж**: *пацяру́ха* ж. – Лаг., Драг. (Нар. скарбы, Варлыга), *сéйва* н., *пасéу́ны дождж* – Іўеў. (Сл. Гродз.), *макавéй* м. – Лаг. (Варлыга), *бры́зак* м. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *ку́зеўка* ж., *кравэ́шка* ж. – Малар. (ДСБ), *радзі́цель* м. ‘дробны і працяглы дождж’ – Кобр. (ЖНшС), *грыбасéй* м. ‘дробны, працяглы і густы дождж’ – Слуцк. (ЖНшС), *сявéц* м. ‘дробны веснавы дождж’ – Карэл. (Сл. Гродз.).

**Кропля дажджу**: *крóпля* ж. – гродз.-бар. г., паўн. р., Мін. р., Чэрв. р., спарадычна пал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Каспяровіч, Насовіч, Шатэрнік), *крóплінка* ж. памянш. – мясц. (Насовіч), *крóпіна* ж., *крóпінка* ж. памянш. – мясц.

(Насовіч), *крáпля* ж. – зах.-пал. г., Лёзн., Гродз., Навагр., Жытк., Хойн. (ЛАБНГ, СПЗБ), *крáпка* ж. – Бял. (Яўсееў), *кáпка* ж. – паўдн.-усх. з., Лёзн., Ушацк., Карэл., Навагр., Пух., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Мат. Гродз., СНМ, Яўсееў), *кáпачка* ж. памянш. – Бял. (Яўсееў), *кáпля* ж. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Яўсееў), *кáпелька* ж. – Бял. (Яўсееў), *брызка* ж., *брызкі* мн., *брызачка* ж. памянш. – мясц. (Насовіч), *дажджынá* ж. – Мёр. (Н. сл-сць).

**Дажджавая вада**: *дашчавíца* ж. – Кобр. (ЖНшС), *дашчáвіца* ж., *дашчýўка* ж. – Драг. (ЛП).

**Завея**, **завіруха,** гл. **Мяцеліца**

### Зазімак

Першы мароз, першы снег; пачатак зімы.

*зазíмак* м. – паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г., паўдн.-усх. з., Лід., Шчуч., Маст., Бяроз., Кобр., Смален. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гом., ЖНС, Варлыга, Дабравольскі, Насовіч, Станкевіч), *зазíмкі* мн. – Латгал. р. (СПЗБ), *зáзімак* м. – Гом. р., Шарк., Іўеў., Дзярж., Чэрв., Старадарож., Бабр., Калінк., Стол., Пін., Смален. р. (ЛАБНГ, Мат. Гом., Дабравольскі), *зазíміны* мн. – Смарг. (Сл. Гродз.), *азíмак* м. – Лельч. (ЛАБНГ), *прызíмак* м. – Астр., Нясв., Івац. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *прыземкі* мн. – Капыл. (ЛАБНГ), *падзíмак* м. – Лід. (Сл. Гродз.), *пóдмаразак* м. – Гродз. (Сл. Гродз.), *пéршы прымаразак* – Воран., Ганц. (ЛАБНГ), *пéршы снег* – Іўеў., Гродз., Карэл., Мін., Саліг., Ваўк., Лях., Ганц., Пруж., Кам., Брэсц., Драг., Жаб., Кобр., Пін., Стол., Лун., Лельч. (ЛАБНГ), *пéрвы снег* – Добр. (ЛАБНГ), *свяжáк* м. – Слон. (Сл. Гродз.), *панёва* ж. – Драг. (ДСБ), *калядні́к* м. 'зазімак у снежні' – Бераст. (Сл. Гродз.).

### Зара

Яркая афарбоўка гарызонта перад усходам і пасля заходу сонца.

*зара́* ж. – агульн. (СПЗБ, Мат. Гродз., Варлыга, Мат. апыт.), *зо́рка* ж. – зах.-бран. р. (Насовіч, Растаргуеў), *зо́рачка* ж. памянш., *зо́ранька* ж. памянш. – мясц. (Насовіч).

### Засуха

Працяглая адсутнасць дажджоў летам, якая суправаджаецца моцным перасыханнем глебы і гібеллю раслін.

*за́суха* ж. – Ашм., Лях., зах.-бран. р. (СПЗБ, Насовіч, Растаргуеў), *засу́ха* ж. – Мядз., Шчуч., зах.-бран. р. (СПЗБ, СЦБ, Растаргуеў), *за́сха* ж. – мясц. (Насовіч), *за́суш* ж. – Мёр., Ветк. (Мат. Гом., ЖНС, Насовіч, Станкевіч), *па́суха* ж. – Беластоц. р. (СПЗБ), *перасу́ха* ж. – мясц. (Н. сл-сць), *сухата́* ж. – Смарг., Мядз., Віл., Лаг. (СПЗБ, Мат. мін.-мал., Варлыга), *сухме́нь* ж. – усх.-маг. р. (Бялькевіч, Насовіч, Станкевіч), *сухме́ль* м. – Круп. (СПЗБ), *сухме́ць* ж. – мясц. (Станкевіч), *суш* ж. – Чэрв. р., Астр., Воран., Навагр., Шчуч., Лях., Стол., Вілен. р. (СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., Шатэрнік), *су́ша* ж. – Маст., Слон., Зэльв., Гл., Пін., Стол., Жытк., зах.-бран. р. (СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., ЖС, Растаргуеў, Янкоўскі), *су́шка* ж. – Верхнядзв., Лоеў. (СПЗБ, Янкова), *сушына́* ж. – Стол. (ТС), *бяздо́ждэжыца* ж. – Навагр. (Мат. Гродз.).

### Зацьменне

Астранамічная з'ява, калі адно нябеснае цела або яго цень закрывае другое нябеснае цела.

*зацьме́нне* н. – Чэрв. р., Чашн., Навагр. (Мат. Гродз., Каспяровіч, Насовіч, Шатэрнік), *за́цьма* ж. – мясц. (Насовіч).

### Золь

Сырое і пранізліва халоднае надвор'е.

*золь* ж. – Верхнядзв., Брасл., Паст., Віл., Гродз. (СПЗБ, Мат. Гродз., Станкевіч), *зала́* ж. – Пух., Ганц., Лельч., Раг.

(СПЗБ, НЛ, Станкевіч), *залiна́* ж. – Віл. (СПЗБ), *зо́ласць* ж. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *зо́лкасць* ж. – Віл. (СПЗБ), *залката́* ж. – Бял. (Мат. дыял. сл.), *залчыня́* ж. – Ашм. (СПЗБ), *сідра́ва* ж. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *ёдасць* ж. – Слаўг., Карм. (Мат. Гом., Н. сл-сць), *ёдкасць* ж – Мсцісл. (Юрчанка), *бры́дасць* ж., *брыдо́та* ж. – Лоеў. (Янкова), *бры́зкат* м. – Драг. (З нар. сл.), *зэс* м. – Паст., Мядз. (СПЗБ, СЦБ).

## Зорка

Нябеснае цела, якое можна бачыць простым вокам у форме ззяючай кропкі на начным небе.

*зо́рка* ж., *зо́рачка* ж. памянш. – Чэрв. р., Брасл., Сен., Лаг., Дзятл. (СПЗБ, Мат. Гродз., Варлыга, Каспяровіч, Шатэрнік), *зара́* ж. – Кобр. (СНМ, ЖНшС), *зо́ры* мн. – Пух. (ЖС), *зара́нка* ж. – Лёзн. (Каспяровіч), *звязда́* ж, *звёзды* мн. – Мёр. (ЖНС), *гвя́зда* ж., *гвя́зды* мн. – Астр., Смарг., Ашм., Вілен. р. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *гвёздачкі* мн. памянш. – Паст. (СПЗБ), *ве́рхачка* ж. ‘самая яркая зорка’ – Шчуч. (Сл. Гродз.);

**толькі ранняя або вячэрняя зорка**: *зо́рка* ж. – Мёр. (ЖНС), *зара́начка* ж. – Паст., Віл., Латгал. р. (СПЗБ), *зара-ні́чка* ж. – Ашм. (СПЗБ), *зара́нка* ж. – Смарг., Вілен. р. (СПЗБ);

**ранішняя зорка**: *зара́нка* ж., *зара́начка* ж. – Беш. (Каспяровіч, Насовіч), *зарані́ца* ж. – Пух. (Шатэрнік), *зарані́чка* ж. – Іўеў. (Мат. Гродз.), *зарні́чка* ж. – Навагр. (Мат. Гродз.), *зарні́ца* ж. – Ветк. (Мат. Гом.), *зо́рка* ж. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *зара́* ж. – Верхнядзв., Шчуч. (СПЗБ), *ра́нішня зара́* – Кобр. (ЖНшС), *у́траніца* ж. – Гродз. (Цыхун), *ют-шэ́нка* ж. – Воран. (Мат. Гродз.), *свято́ўка* ж., *светава́я за-ра́* – Кобр. (СНМ), *светава́я зара́нка* – Гарад. (Каспяровіч);

**вячэрняя зорка**: *вячо́рка* ж. – Кобр. (СНМ), *вячо́рніца* ж. – Воран. (Мат Гродз.), *вячэ́рніца* ж. – Сен., Круп., Добр. (СЦБ, Мат Гом., Каспяровіч), *зо́рка-вячэ́рніца* ж. – Гродз. (Цыхун), *вячэ́рня(я) зо́рка* – Смал., Лід., Гродз., Уздз., Ганц.

(СПЗБ, СЦБ, Мат. Гродз.), *вячэ́рня* (*вечаро́вая*) *зара́* – Кобр. (СНМ, ЖНшС), *зара́* ж. – Паст., Шчуч. (СПЗБ), *маладзіко́вая зо́рачка* – Паст. (СПЗБ);

**зорка, якая падае**: *зні́чка* ж. – Карэл. (Мат. Гродз., Насовіч), *апа́дка* ж. – Ашм. (СРЛГ).

## Імгла, імжа

Ападкі ў выглядзе вельмі дробных кропелек вільгаці.

*імжа́* ж. – усх.-маг. р., Віц. р., Чэрв. р., Мін. р., Гродз. р., Слуцк. р., Гом. р., Рас., Пол., Глыб., Леп., Тал., Круп., Кругл., Бял., Асіп., Навагр., Воран., Уздз., Лях., Жаб., Кобр., Смален. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Бялькевіч, Дабравольскі, Касяровіч, Растаргуеў, Станкевіч), *мжа* ж. – Гом. р., Валож., Карэл., Шчуч., Краснап., Асіп., Саліг., Акц., Лельч., Пін., Драг., Малар., Івац., Брэсц., Пруж., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, Сл. Гродз., Растаргуеў, Янкова), *лжа* ж. – Нараўл. (ЛАБНГ), *імжа́ка* ж. – Чэрв. р., Рас., Ушацк., Леп., Тал., Лаг., Барыс., Круп., Бял., Шкл., Старадарож. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. дыял. сл., СНМ, Варлыга, Станкевіч, Шаталава. Шатэрнік), *мжа́ка* ж. – Беш., Сен., Тал., Барыс., Смал., Кругл. (ЛАБНГ, СЦБ, Мат. Маг., Касяровіч, Станкевіч), *імжа́чка* ж. – Леп., Барыс., Круп., Бярэз., Кругл., Касц. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Маг.), *мжа́чка* ж. – Тал., Круп., Бярэз., Маг., Кам., Жаб., Малар., Іван. (ЛАБНГ, ДСБ, ЖС), *мжа́ўка* ж. – Ваўк., Беластоц. р. (СПЗБ, СРЛГ), *імжэ́нь* м. і ж. – Бых., Добр. (ЛАБНГ, Мат. Маг.), *мжэнь* ж. – Ветк., Добр. (ЛАБНГ, Мат. Гом.), *імжэ́ль* ж. – Слаўг., Бабр., Ветк., Добр., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, Растаргуеў, Станкевіч), *імшэ́ль* м. – Карм. (Мат. Гом.), *мжэль* ж. – Бых., Слаўг., Бабр., Добр., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, Растаргуеў, Станкевіч), *імжа́к* м. – Арш., Мін., Шкл., Кір., Бых., Кліч., Асіп., Бабр., Раг., Добр. (ЛАБНГ, Мат. Маг.), *імжачо́к* м. памянш. – Арш., Бых., Добр. (ЛАБНГ), *імкжа́к* м. – Асіп. (СПЗБ), *імша́к* м. – Бабр. (ЛАБНГ), *мжак* м. – Бабр., Добр., Лоеў. (ЛАБНГ, Мат. Гом., Янкова), *імжу́н* м., *імжу́нчык* м. памянш. – Чэрык. (ЛАБНГ), *мжун* м. – Чач. (Мат. Гом.),

*імглá* ж. – паўн.-усх. д. (віц.-маг. г. – спарадычна), гродз.-бар. г., Мін. р., Слуцк. р., Бабр., Гл., Чач., Браг., Бяроз., Пруж. (ЛАБНГ, СПЗБ, Бялькевіч), *мгла* ж. – зах.-пал. г., Верхнядзв., Леп., Лаг., Астр., Воран., Іўеў., Валож., Навагр., Карэл., Стаўб., Клецк., Капыл., Слон., Свісл., Баран., Лях., Пруж., Івац., Жытк., Маз., Крыч. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Мат. Гродз., Нар. скарбы), *імлá* ж. – Докш., Пух., Гродз., Шчуч., Маст., Дзятл., Зэльв. (ЛАБНГ, СПЗБ), *мла* ж. – Шчуч., Брэсц., Бяроз., Драг., Пін., Лун. (ЛАБНГ, ДСБ), *млі́сты дошч* – Гродз. (ЛАБНГ), *міглá* ж. – Брасл., Паст., Глыб., Астр., Воран., Клецк., Старадарож., Саліг., Ганц., Стол., Лун., Лельч., Петр., Маз., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ, Шаталава), *мыглá* ж. – паўн.-зах. з., Віц., Лёзн., Ганц., Лельч. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Мат. Гродз., Станкевіч), *муглá* ж. – Пруж., Лях., Ельск. (ЛАБНГ), *маглá* ж. – Іўеў. (ЛАБНГ, СПЗБ), *імглýха* ж., *імглýшка* ж. – Мёр. (ЛАБНГ), *мглі́ца* ж. – Івац. (ЛАБНГ), *міглі́ца* ж. – Клецк. (НС), *мыглю́к* м. – Валож. (ЛАБНГ), *міглáвы дошч* – Воран. (ЛАБНГ), *імгá* ж. – Дубр., Дзярж., Асіп., Чач., Акц., Смален. р. (ЛАБНГ, Дабравольскі), *мга* ж. – Уздз., Карм. (ЛАБНГ, СЦБ, Станкевіч), *мгóчка* ж. – Жаб. (ЛАБНГ), *мгоч* м. – Кобр. (ЛАБНГ), *мігá* ж., *мігóтка* ж. – Карм. (ЛАБНГ), *мігýч* м. – Жлоб. (ЛАБНГ), *мігýчык* м. – Жлоб., Рэч. (ЛАБНГ), *мрáка* ж. – Драг., Лельч., Хойн., Рэч., Лоеў. (ЛАБНГ, Янкова), *марáка* ж., *мрак* м. – Лоеў. (Янкова), *мрач* ж. – Рэч. (ЛАБНГ), *пáмарач* ж. – Бяроз. (ЛАБНГ), *рось* ж. – усх.-маг. р., Шкл., Раг., Смален. р. (ЛАБНГ, Мат. Маг., Мат. Гом., Бялькевіч, Дабравольскі, Насовіч, Станкевіч, Юрчанка), *ёлкая рось* – Чав. (ЛАБНГ), *і́мрась* ж. – Кір. (Мат. Маг.), *мóрась* ж. – усх.-маг. р., Пол., Арш., Дубр., Тал., Віл., Навагр., Ваўк., Светлагор., Лельч. (ЛАБНГ, СЦБ, Сл. Гродз., НС, Бялькевіч, Юрчанка), *марасá* ж. – Жытк. (ТС), *марасéчка* ж. – Драг. (СНМ), *матрасá* ж. – Шум. (ЛАБНГ), *марóша* ж. – Дзятл. (Сл. Гродз.), *марасяшчы дошч* – Пол. (ЛАБНГ), *пáрась* ж. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *парóшка* ж. – мясц. (Насовіч), *кýрашка* ж. – Драг. (ЛАБНГ), *курэ́ц* м. – Лаг. (Варлыга), *мóсійка* ж. – Кобр. (ЛАБНГ), *кýзеўка* ж. –

Малар. (ЛАБНГ), *хляпа* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *пульга́* ж. – Лун. (ЛАБНГ), *зыза́р* м. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *зэс* м. – Навагр. (Сл. Гродз.), *смыза́* ж. – Ашм. (СПЗБ), *сло́та* ж. – Беластоц. р. (СПЗБ), *слата́* ж. – Смарг. (СПЗБ), *по́геладзь* ж. – Воран. (Сл. Гродз.), *дро́бны дож* – Тал. (ЛАБНГ), *дро́бны до́ждж* – Буда-Каш., Добр., Лельч. (ЛАБНГ), *дро́бны до́шчык* – Браг. (ЛАБНГ), *дро́бненькі дождж* – Дубр., Шчуч. (ЛАБНГ), *ме́лкі дождж* – Арш. (ЛАБНГ), *спо́рны дождж* – Івац., Лоеў. (ЛАБНГ), *малы́ до́жджык* – Бераст. (ЛАБНГ), *лёганькі до́жджык* – Стол. (ЛАБНГ).

### Іней, шэрань

Від атмасферных ападкаў: ледзяныя крышталікі, якія ўтвараюцца ў выніку ахаладжэння ў марозныя ночы вадзяной пары і асядаюць тонкім слоем на глебе, дрэвах і інш.

*і́ней* м. – агульн. (за выключэннем паўн.-зах. з.), Навагр., Маст., Свісл., Латгал. р., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., НЛ, ЖНшС, Шатэрнік), *гі́ней* м. – Крыч., Чэрык., Брэсц., Драг., Іван., Пін., Стол. (ЛАБНГ, Мат. Маг., ДСБ, ЖНС, Н. сл-сць), *ві́ней* м. – Іўеў., Навагр., Карэл., Нясв., Баран., Лях. (ЛАБНГ, СПЗБ, З нар. сл.), *лі́ней* м. – Петр. (ЛАБНГ), *інь* м. і ж. – Брасл., Сен., Чашн., Круп., Барыс., Лаг., Ашм., Маладз., Валож., Бярэз., Бял., Бых., Чач. (ЛАБНГ, СЦБ, Мат. мін.-мал.), *гінь* ж. – Астр., Ашм., Бял. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *вінь* м. і ж. – Шчуч. (ЛАБНГ, Сл. Гродз., СРЛГ), *і́ня* ж. – Бял., Асіп., Гродз., Шчуч., Івац. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *гі́ня* ж. – Бярэз., Шчуч. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *ві́ня* ж. – Навагр., Лід. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *і́нея* (*і́нія, і́няя*) ж. – паўн.-зах. з., паўн. р., Барыс., Бярэз., Клецк., Лях., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНС, Варлыга), *гі́нея* ж. – Смарг. (ЛАБНГ), *і́нела* ж. – Валож. (ЛАБНГ), *і́вень* ж. – Маз. (ЛАБНГ), *івя́нь* м. і ж., *ві́янь* м. і ж., *ве́янь* м. і ж. – Дзятл. (ЛАБНГ, ЖС), *шэ́рань* м. і ж. – Віц. р., усх.-маг. р., Ушацк., Лаг., Круп., Бял. (ЛАБНГ, Мат. дыял. сл., Бялькевіч, Каспяровіч, Станкевіч), *шарэ́нь* м. – Ганц. (СПЗБ), *шаро́н* м. – Іўеў. (ЛАБНГ), *шрон*

м. – Ваўк. (СПЗБ), *шару́н* м. – Чэрв. (ЛАБНГ, СПЗБ), *шарэ́шань* м. і ж. – Круп., Бярэз. (ЛАБНГ), *шарэ́шанне* н. – Бярэз. (СПЗБ), *шарэ́ш* м. і ж. – Чэрв., Смал., Чач. (ЛАБНГ, Мат. Гом., НЛ), *шэ́раш* м. і ж. – Кругл., Маг. (ЛАБНГ), *шэ́рашч* м. і ж. – Докш. (ЛАБНГ, СПЗБ), *шэ́рась* ж. – Віц. р., Леп., Тал., Бял. (ЛАБНГ, Каспяровіч, Станкевіч), *шаро́ша* ж. – Ветк. (Мат. Гом.), *на́вісь* (*на́весь*) ж. – Клім., Лаг., Смал., Пух., Старадарож., Жлоб., Буда-Каш., Лельч., Жытк., Лун., Стол. (ЛАБНГ, ТС, СЦБ, СРЛГ, НС, Варлыга, Шаталава), *на́віслa* ж. – Жытк. (ЛАБНГ), *на́вісля* ж. – Стол. (ТС), *навісля́к* м. – Лельч. (ЛАБНГ), *на́ліп* м. – Жытк. (ТС), *на́маражня* ж. – Стол. (ТС), *на́маразь* ж., *і́змаразь* ж. – Добр. (ЛАБНГ), *шаць* ж. – Астр., Іўеў., Воран. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Шаталава), *віша́р* м. – Рэч. (ЛАБНГ), *абло́й* м. – Віц. р., Смален. р. (Дабравольскі, Каспяровіч, Станкевіч), *імжа́* ж. – Люб. (ЛАБНГ), *хля́па* ж. – мясц. (Станкевіч), *бяля́к* м. – Бераст. (ЛАБНГ), *сі́верка* ж. – Лоеў. (Янкова), *шална́* ж. – Воран. (СПЗБ, Сл. Гродз.), *абжо́ра* ж. ‘шэрань на лёдзе’ – Брасл. (СПЗБ), *ла́сіцы* мн. ‘узорыстая намаразь на шыбах’ – Драг., Пін., Малар. (НЛ, ЖНшС, 3 нар. сл.), *імжа́* ж. ‘ападанне інею’ – Пол. (ЛАБНГ).

## Камета

Нябеснае цела, якое ўдалечыні ад Сонца мае выгляд абкружанай туманнай абалонкай яркай светлай плямы з вузкай паласой святла ў форме хваста.

*куме́та* ж. – Віл. (СЦБ).

## Капеж

Кроплі дажджу або талага снегу, якія падаюць са стрэх.

*капе́ж* м. – Шчуч., Старадарож., Ганц. (СПЗБ), *капа́ж* м. – Лельч. (ЛАБНГ), *капе́ль* ж. – Віл. (СПЗБ), *страха́* ж. – Гарад. (НЛ), *стрэх* м., *сцёк* м. – Лаг. (Варлыга).

## Лёд

Вада (у рацэ, у лужынах і інш.), якая замерзла і перайшла ў цвёрды стан.

*лёд* м. – агульн. (СПЗБ, Мат. Гродз., ЖНшС, Каспяровіч, Насовіч, Мат. апыт.), *ляды́* мн. – Смарг. (СПЗБ), *лядо́к* м. памянш. – Латгал. р. (СПЗБ), *ледаві́ны* мн., *ледакі́* мн. ‘участкі зямлі, пакрытыя лёдам’ – Паст. (СПЗБ), *гале́ц* м. ‘незаснежаны чысты лёд’ – Стол. (ТС), *гу́ргаль* м., *гургалі́* мн. ‘лёд, намерзлы на шыбах’ – Гродз. (СПЗБ, Цыхун), *пры́беражні* мн. ‘намерзлы прыбярэжны лёд’ – Гродз. (Цыхун);

**ільдзінка**: *лядзі́нка* ж. – Беластоц. р. (СПЗБ), *ледзячо́к* м., *ледзячкі́* мн. – Маладз. (СПЗБ);

**кавалак ільду**: *ляды́ш* м. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *лядзя́шка* ж. – Рэч. (Мат. Гом.), *лядзя́нка* ж. – Добр. (Мат. Гом.), *ле́дзень* м. – Чач., Раг. (Мат. Гом.), *кры́жка* ж. – Гом. р. (Мат. Гом.), *глы́жка* ж. – Карэл. (Сл. Гродз.);

**тонкая ледзяная скарынка на вадзе**: *суто́н* м. – Пух, Стол., Жытк. (ЛАБНГ, ТС), *сыто́н* м., *суто́нь* м. – Стол., Жытк. (ТС), *сцін* м. – Драг. (НЛ), *сцюн* м. – Бяроз. (ЛАБНГ), *шаро́ш* м. – Валож., Іўеў. (ЛАБНГ), *шарашо́к* м. – Касц. (ЛАБНГ), *шары́ш* м. – Брэсц. (НЛ), *шаро́сік* м. – Маст. (ЛАБНГ), *шэ́рах* м. – Кобр. (СНМ), *зы́ба* ж. ‘тонкі пласт ільду, які прагінаецца пад нагамі, але не правальваецца’ – Гродз. (Цыхун).

**Заледзянелая ў час сцёку вада, лядзяш**: *лядзя́ш* м., *ледзяшы́* мн. – Чэрв. (СПЗБ), *лядзя́шка* ж., *лядзя́шкі* мн. – Шум. (ЛАБНГ), *лядзя́к* м., *ледзякі́* мн. – Мёр. (ЛАБНГ), *ляда́к* м., *ледакі́* мн. – Паст., Астр. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз.), *лядні́к* м., *леднікі́* мн. – Смарг. (СПЗБ), *ляду́нка* ж. – Кругл. (ЖНС), *кры́гі* мн. – Мсцісл. (ЛАБНГ), *мярзля́к* м., *мерзлякі́* мн. – Смарг., Стаўб., Дзятл. (СПЗБ, СЦБ, Мат. Гродз.), *цяпля́к* м., *цеплякі́* мн. – Уздз. (ЛАБНГ), *сасу́лька* ж., *сасу́лькі* мн. – паўн.-усх. д., Слуцк. р., Гом. р., Мін., Кір., Бабр., Гродз., Навагр., Карэл., Слон., Бяроз., Кам., Стол., Латгал. р., Бела-

стоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сасылька* ж., *сасылькі* мн. – Гарад. (ЛАБНГ), *сасолька* ж., *сасолькі* мн. – Арш. (ЛАБНГ), *пасысулька* ж., *пасысулькі* мн. – Бераст. (ЛАБНГ), *сусулка* ж., *сусулкі* мн. – Касц., Рэч. (ЛАБНГ), *сусолка* ж., *сусолкі* мн. – Маг. р., усх.-маг. р., Гом. р. (ЛАБНГ, З нар. сл., Насовіч), *сусалка* ж., *сусалкі* мн. – Петр. (ЛАБНГ), *сусойка* ж., *сусойкі* мн. – Гарад. (ЛАБНГ), *сойка* ж., *сойкі* мн. – Беш. (НС), *соска* ж., *соскі* мн. – Беш., Докш. (ЛАБНГ), *сослі* мн. – Беш. (НС), *сусла* ж., *суслы* мн. – Бых., Клім., Жытк. (ЛАБНГ, ТС), *суслік* м., *суслікі* мн. – Круп., Дзятл., Люб., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз.), *сусляк* м., *суслякі* мн. – Віл., Дзятл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сіслюк* м., *сіслюкі* мн. – Чашн. (ЛАБНГ), *сопель* (*супель*) м. – Бяроз. (ЛАБНГ), *сапель* (*супель*) м. – Івац., Кобр., Драг., Стол. (ЛАБНГ, НС, ЛП, СНМ), *соплі* мн. – зах. з., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., СНМ), *саплі* мн. – зах.-пал. г. (за выключэннем заходняй часткі), Верхнядзв., Мёр., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНС), *сэпель* м. – Навагр. (ЖС), *сэпаль* м. – Гродз. (ЖНС), *сэплі* мн. – Смарг., Карэл. (СПЗБ), *сапляк* м., *саплякі* мн. – зах. з., Асіп., Старадарож., Лельч., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖС, НЛ, СНМ), *шапляк* м., *шаплякі* мн. – Пух. (ЛАБНГ), *салапейка* ж., *салапейкі* мн. – Лун. (ЛАБНГ), *смаркач* м., *смаркачы* мн. – Дзятл., Бяроз. (ЛАБНГ), *сакрак* м., *сакракі* мн. – Люб. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сукрак* м., *сукракі* мн. – Люб., Рэч. (ЛАБНГ, СПЗБ), *слізак* м., *слізакі* мн. – Мядз. (СПЗБ), *сікяры* мн. – Лід. (Сл. Гродз.), *цурка* ж., *цуркі* мн. – Бярэз., Чэрв., Кір., Нараўл., Малар. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ), *цурак* м., *цуракі* мн. – Раг. (СПЗБ), *цурыкі* мн. – Раг. (ЛАБНГ), *цырбуль* м., *цырбулі* мн. – Лаг. (Варлыга), *цырубалка* ж., *цырубалкі* мн. – Віл., Чэрв., Асіп., Ельск. (ЛАБНГ, СПЗБ), *цурубалка* ж., *цурубалкі* мн. – Нараўл. (ЛАБНГ), *царубалка* ж., *царубалкі* мн. – Глыб. (ЛАБНГ), *брызгуль* м., *брызгулі* мн. – Шчуч. (Сл. Гродз., З нар. сл.), *бурбалка* ж., *бурбалкі* мн. – Мёр. (ЛАБНГ), *капяжы* мн. – Люб., Лун., Петр., Нараўл. (ЛАБНГ), *краплі* мн. – Мядз., Дубр. (ЛАБНГ), *зызалка* ж., *зызалкі* мн. – Карм. (Мат. Гом.), *стрэлка* ж., *стрэлкі* мн. – Чэрв. р., Іўеў., Нясв.,

Слон., Слуцк., Саліг., Лях., Бабр., Гл., Жлоб., Светлагор., Калінк. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., Шатэрнік), *дýдка* ж., *дýдкі* мн. – Глыб. (ЛАБНГ), *свéчка* ж., *свéчкі* мн. – Кобр. (ЛАБНГ, ЖНшС), *пíкі* мн., *пíгі* мн. – Карэл. (ЛАБНГ), *пýцік* м., *пýцікі* мн. – Верхнядзв., Ушацк. (ЛАБНГ, НЛ), *цы́цка* ж., *цы́цкі* мн. – Воран., Навагр. (ЛАБНГ, З нар. сл.), *цы́плік* м., *цы́плікі* мн. – Лід., Маст. (ЛАБНГ, СПЗБ), *цапля́к* м., *цапля́кí* мн. – Уздз. (СПЗБ), *стрэ́хі* мн. – Рэч., Малар. (ЛАБНГ, НЛ), *страпéннік* м., *страпéннікі* мн. – Акц. (ЛАБНГ).

**Ільдзіна на рацэ, на возеры**: *кры́га* ж. – паўдн.-зах. д., сярэд.-бел. г., зах.-пал. г., Маг. р., Беластоц. р., спарадычна паўн. р. і ўсх.-маг. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. Гом., ЖНшС, Каспяровіч, Насовіч, Шатэрнік), *скры́га* ж. – Мёр., Леп., Барыс., Лаг., Віл., Валож., Асіп. (ЛАБНГ, СПЗБ, Варлыга), *крáга* ж. – Гарад. (ЛАБНГ), *крыжнíца* ж. – Пол., Беш. (ЛАБНГ, Каспяровіч, Станкевіч), *ільдзíна* ж. – Рас., Беш., Дубр., Круп., Барыс. (ЛАБНГ), *льдзíна* ж. – Брасл., Пол., Лёзн., Дубр., Гор., Маг., Лаг., Бярэз., Кам., Пін. (ЛАБНГ), *лядзíна* ж. – Паст., Карэл., Пух., Крыч., Старадарож., Акц., Капатк., Лельч., Бяроз., Івац. (ЛАБНГ), *лядзя́нка* ж. – Леп. (ЛАБНГ), *лядáк* м. – Паст. (ЛАБНГ), *глы́за* ж. – Карэл. (Сл. Гродз.), *глы́ба* ж. – Барыс. (ЛАБНГ), *плясні́ца* ж. – Віц. (ЛАБНГ), *пля́сніца* ж. – Гом. (Мат. Гом.), *ікрá* ж. – Гродз. (ЛАБНГ), *бры́ла* ж. ‘ільдзіны на рацэ перад яе замярзаннем’ – Гродз. (Сл. Гродз.);

**вялікая крыга**: *плітá* ж. – Лёзн. (ЛАБНГ), *бурлáшкі* мн. – Гродз. (Сл. Гродз.), *забóі* мн. – Навагр. (СПЗБ).

**Рух лёду па цячэнню ракі вясной (у час раставання) ці ўвосень (перад ледаставам)**: *ледахóд* м. – усх.-маг. р. (Бялькевіч).

**Дробны крохкі лёд ў выглядзе кашападобнай масы, які ідзе перад ледаставам або ў час вясновага крыгаходу**: *шарóш* м. – Валож., Іўеў., Навагр., Стаўб., Уздз., Капыл., Буда-Каш., Пін. (ЛАБНГ, СПЗБ), *шóраш* м. – Смален. р.

(Дабравольскі), *шара́ш* м. – Чач. (ЛАБНГ), *шары́ш* м. – Гл. (ЛАБНГ), *шарэ́ш* м. – Іўеў., Чэрык., Касц., Асіп., Саліг., Жлоб., Ветк., Лельч., Лун., Стол. (ЛАБНГ, ТС, Сл. Гродз.), *шэ́раш* м. – Верхнядзв., Шарк., Валож, Клім., Слаўг., Ветк., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС), *шарашэ́й* м. – Бяроз., Іван., Стол. (ЛАБНГ, НЛ), *шарашо́р* м. – Нясв., Баран. (ЛАБНГ, СПЗБ), *шаро́с* м. – Гродз., Лід., Маст., Дзятл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *шару́с* м. – Маст. (СПЗБ), *шэ́рах* м. – Карм., Пін., Кобр. (ЛАБНГ), *зашэ́рхлы лёд* – Драг. (ЛАБНГ), *шо́рах* м. – Беластоц. р. (СПЗБ), *шо́рань* ж. – Паст. (СПЗБ), *шарэ́нь* м. і ж. – Петр. (ЛАБНГ), *шэ́рань* м. і ж. – Рэч. (ЛАБНГ), *шэ́рхань* м. і ж. – Чав. (ЛАБНГ), *шро́ні* мн. – Гродз. (Сл. Гродз.), *шэ́расць* ж. – Глыб., Віл., Бял. (ЛАБНГ, СПЗБ), *шэ́рась* ж. – Віл., Тал., Бых. (ЛАБНГ), *шу́га́* ж. – Дубр., Арш., Мсцісл., Навагр., Кір., Лельч. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *шурга́* ж. – Астр. (ЛАБНГ), *ільдзі́нкі* мн. – Ушацк., Пух., Касц., Хоц., Светлагор. (ЛАБНГ), *ільдзі́начкі* мн. – Пол. (ЛАБНГ), *ільдзі́на* ж. – Сен. (ЛАБНГ), *льдзі́нкі* мн. – Гарад., Краснап. (ЛАБНГ), *лядзі́нкі* мн. – Ушацк., Чашн., Лаг., Барыс., Асіп., Лях., Івац., Нараўл. (ЛАБНГ), *лядзі́нка* ж. – Рас., Дзятл. (ЛАБНГ), *лядзя́нкі* мн., *лядзя́начкі* мн. – Слуцк. (ЛАБНГ), *лядзя́нка* ж. – Дзятл. (ЛАБНГ), *ляды́шкі* мн., *ледышы́* мн. – Асіп. (ЛАБНГ), *ледзяшы́* мн. – Мін., Чэрв. (ЛАБНГ), *лядзя́ш* м. – Чэрв. (ЛАБНГ), *ледзякі́* мн. – Лаг. (ЛАБНГ), *ледзячкі́* мн. – Маладз. (ЛАБНГ), *леднячкі́* мн. – Паст. (ЛАБНГ), *лядо́к* м. – Ушацк., Бабр. (ЛАБНГ), *лёд* м. – Гарад., Барыс., Круп., Бярэз., Кругл., Шкл., Ашм., Воран., Карэл., Дзярж., Гродз., Бераст., Зэльв., Слон., Ваўк., Люб ., Старадарож., Пруж., Кам., Малар., Лельч., Светлагор., Хойн., Рэч. (ЛАБНГ), *па́ледзь* ж. – Івац. (ЛАБНГ), *верхалёдзіца* ж. – Кобр. (ЛАБНГ), *кры́гі* мн. – Бяроз., Добр., Лоеў. (ЛАБНГ), *кры́га* ж. – Раг., Рэч. (ЛАБНГ), *кры́жкі* мн. – Чэрык. (ЛАБНГ), *крыжні́цы* мн. – Беш. (ЛАБНГ), *скры́жніцы* мн., *скрыжа́льніцы* мн. – Верхнядзв. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сняжні́ца* ж. – Віц., Паст., Докш., Бял. (ЛАБНГ, СПЗБ), *бры́ла* ж. – Гродз., Шчуч. (ЛАБНГ), *шатва́* ж. – Жытк. (ЖС), *сцён* м. – Бяроз., Кобр., Драг.

(ЛАБНГ), *сутóн* м. – Маз. (ЛАБНГ), *сытóн* м. – Люб. (ЛАБНГ), *сцяклéц* м. – Слуцк. (ЛАБНГ), *крыстáльчыкі* мн. – Клім. (ЛАБНГ), *драбкí* мн. – Нараўл. (ЛАБНГ), *місурня́* ж. – Маг. (ЛАБНГ), *шыпа* ж. – Акц. (ЛАБНГ), *íскра* ж. – Рэч. (ЛАБНГ), *кра* ж. – Гродз. (СПЗБ), *бугаркí* мн. – Шум. (ЛАБНГ), *бугры́* мн. – Ганц. (ЛАБНГ), *бугры́сты лёд* – Шум. (ЛАБНГ), *лáсіцы* мн. – Лун. (ЛАБНГ, Шаталава), *палóйчык* м. – Ельск. (ЛАБНГ).

## Лужына

Запоўненае дажджавой ці талай вадой паглыбленне на паверхні зямлі.

*лу́жына* ж. – Віц. р., Брасл., Глыб., Віл., Смарг., Воран., Чэрв., Вілен. р., Латгал. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., Каспяровіч, Станкевіч), *лу́жынка* ж. памянш. – Воран. (СПЗБ), *лу́жана* ж. – Зэльв. (СПЗБ), *лу́жа* ж. – Паст., Глыб., Лід., Навагр., Драг., Калінк., Вілен. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., Станкевіч), *лу́жка* ж. памянш. – Калінк. (СПЗБ), *калу́жа* ж. – Іўеў., Гродз. (СПЗБ), *калю́га* ж. – Віц. р., Мядз., Бял., Карэл., Свісл., Карм., Чач., Ветк., Лоеў., Маз., Петр., Жытк., Стол., зах.-бран. р. (СПЗБ, СЦБ, Мат. Гом., Н. сл-сць, Нар. скарбы, Каспяровіч, Растаргуеў, Яўсееў), *калю́жа* ж. – Браг., Петр., Хойн., Лоеў., зах.-бран. р. (Мат. Гом., Растаргуеў), *калю́жка* ж. памянш. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *калюжына* ж. – Віц. р., Смарг., Баран., Рэч. (СПЗБ, Мат. Гом., Каспяровіч), *калу́жына* ж. – Браг. (Мат. Гом.), *лу́міна* ж. – Сен. (Каспяровіч, Станкевіч), *вымавіна* ж. – Шчуч. (Сл. Гродз.), *мачу́ла* ж. – Стаўб. (СЦБ), *ду́ла* ж. – Сен. (Каспяровіч), *зажóр* м. – Жлоб., Лоеў. (Мат. Гом.), *баю́ра* ж. – Свісл. (Мат. Гродз.), *растáўка* ж. ‘лужына з расталага снегу’ – Кобр. (СНМ).

## Макрата, макрэча

Сырасць; пераважна дажджлівае надвор’е.

*макрата́* ж. – Астр., Смарг., Лаг. (СПЗБ, Мат. Гродз., Варлыга), *макро́та* ж. – Жытк. (Мат. Гом.), *макраціна́* ж. – Гродз. (ЖНС), *макрэ́ча* ж. – Ваўк., Лях., Ганц. (СПЗБ), *макратэ́ча* ж. – Кобр. (ЖС), *макрачэ́ча* ж. – Дзятл. (СПЗБ), *мо́краць* ж. – Паст., Ашм. (СПЗБ), *макра́дзь* ж. – Чач. (Мат. Гом.), *макрая́ць* ж. – Паст. (СПЗБ), *макрыя́ць* ж. – Мядз. (Н. сл-сць), *макрадзіна́* ж. – Беластоц. р. (СПЗБ), *макраддзё* н. – Ветк. (Мат. Гом.), *макрыня́* ж. – Ашм. (СПЗБ), *макрына́* ж. – Віл. (СПЗБ), *макрэ́нь* ж. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *мо́крае надво́р'е* – мясц. (Станкевіч), *моч* ж. – Ганц., Жытк. (СПЗБ, ТС), *мо́ча* ж. – усх.-маг. р., Зэльв. (СРЛГ, ЖС, Н. сл-сць, Бялькевіч), *мача́* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *мачу́ля* ж. – Дзятл. (СРЛГ), *ві́льгаць* ж. – Беш., Воран., Шчуч., Вілен. р. (СПЗБ, Каспяровіч, Насовіч), *вільго́ць* ж. – Пруж. (СПЗБ), *во́лкасць* ж., *валкава́тасць* ж. – мясц. (Насовіч), *сы́расць* ж. – Брасл., Паст., Пруж., Жытк. (СПЗБ, ТС), *сырня́г* м. – Слон. (Сл. Гродз.), *дажджэ́віца* ж. – Зэльв. (Сл. Гродз.), *дажджо́віца* ж. – Слуцк. (ЖНшС), *хля́ба* ж. – мясц. (Насовіч), *пля́га* ж. – Карэл. (ЖС), *пры́ляга* ж. – Люб. (Нар. скарбы), *шлепані́на* ж. – Мёр. (Н. сл-сць), *кі́слая пaго́да* – пал. р. (ЛП), *гная́нка* ж. ‘працяглы перыяд дажджоў і макрэчы’ – Кобр. (ЖНшС), *вялі́кі до́ждж* ‘працяглы летні перыяд дажджоў і макрэчы’ – Астр. (Мат. Гродз.), *перамо́чка* ж. ‘дажджлівы, мокры перыяд, які надышоў услед за засухай’ – Смален. р. (Дабравольскі), *мо́крае ле́та* ‘лета даждлівае’ – Лаг. (Варлыга), *мо́кры год* ‘год, калі выпадае многа дажджоў’ – Мядз. (Мат. мін.-мал.).

## Маланка

Разрад атмасфернай электрычнасці ў паветры, звычайна ў выглядзе яркай звілістай лініі.

*мала́нка* ж. – асн. мас. г., Кам., Драг., Пін., Лун. (ДАБМ, СПЗБ, Мат. Гродз., ЖС, Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік), *ма́ланка* ж. – Бых., Рэч. (ДАБМ), *маланка́* ж. – Люб., Саліг., Жытк. (ДАБМ), *маля́нка* ж. – Ганц. (СПЗБ), *мало́нка* ж. –

Светлагор. (ДАБМ), *мóлан* ж. – Гарад. (ДАБМ), *мóлань* ж. – Верхнядзв. (СПЗБ), *мóлна* ж. – Дзярж., Дзятл., Пін. (ДАБМ), *малáння* ж. – спарадычна паўн. р., Бярэз., Карм. (ДАБМ, Мат. Гом., ЖНшС, Станкевіч), *мальі́ння* ж. – Хоц. (ДАБМ), *маланн́я* ж. – паўн.-усх. д. (пераважна ў межах паўн. р.), Віл., Бярэз., Стаўб., зах.-бран. р. (ДАБМ, СПЗБ, СЦБ, ЖНС, Растаргуеў), *мáланння* ж. – Гарад., Пол., Леп. (ДАБМ), *малóння* ж. – Лоеў. (Янкова), *мóлання* ж. – Віц. р., Пол., Глыб., Гом. (ДАБМ, СПЗБ, Насовіч), *маладн́я* ж. – віц.-маг. г. (пераважна ў межах усх.-маг. р.), Барыс., Круп., Смален. р., зах.-бран. р. (ДАБМ, СПЗБ, Дабравольскі, Насовіч, Растаргуеў, Юрчанка), *малáйня* ж. – Чач. (Мат. Гом.), *мóлнія* ж. – спарадычна ўсх. з., Брасл., Смарг., Стаўб., Брэсц., Кобр., Стол., Смален. р. (ДАБМ, ЖНшС, Дабравольскі, Янкова), *бліскаві́ца* ж. – паўн.-зах. з., паўдн. р., спарадычна гродз.-бар. г. і Бярэз. р., Віц., Сен., Чашн., Арш., Гор., Мсцісл., Клім., Быx., Чач., Беластоц. р. (ДАБМ, СПЗБ, Варлыга, Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч), *вліскаві́ца* ж. – Брасл. (ДАБМ), *блыскаві́ца* ж. – Брасл., Глыб., Астр., Ашм., Лід., Гродз., Шчуч., Ваўк. (ДАБМ), *блі́скавіца* ж. – паўдн. р., Гродз. р., Смарг., Воран., Чэрв., Пух. (ДАБМ, Мат. Гродз., ЛП, Шатэрнік), *блы́скавіца* ж. – Воран., Лід. (ДАБМ, Мат. Гродз.), *бліскáвіца* ж. – Стол., Лельч. (ДАБМ), *блі́скаўка* ж. – Пух., Пруж., Кобр., Ветк., Рэч., Смален. р. (ДАБМ, СПЗБ, Дабравольскі, Станкевіч), *бліскáўка* ж. – мясц. (Насовіч), *блі́скала* ж. – Слуцк. (ДАБМ), *бліскóты* мн. – Пін., Лун. (ДАБМ), *бліскáнне* н. – Кам., Кобр. (ДАБМ), *бліскóцце* н. – Брэсц., Кобр. (ДАБМ), *бліщчу́к* м. – Воран. (СПЗБ), *блімянне́* н. – Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч), *скалá* ж. – Капатк. (ДАБМ), *зі́хавіца* ж. – Нараўл., Браг., Хойн. (ДАБМ, Мат. Гом.), *сіхатн́я* ж. – Кам. (ДСБ), *мі́гáвіца* ж. – Стол. (ДАБМ), *мі́гаўка* ж. – Драг. (ДАБМ), *маргаві́ца* ж. – Лоеў. (ДАБМ, Янкова), *зарні́ца* ж. – Віц. р., Лаг., Пух., Рэч., Смален. р. (СПЗБ, СЦБ, Мат. Гом., Дабравольскі, Каспяровіч), *рдза* ж. – Брасл. (ДАБМ), *пяру́н* м. – Брасл., Паст., Беш., Смарг., Ашм., Астр., Чэрв., Пух., Астр., Воран.,

Навагр., Гродз., Вілен. р., Беластоц. р., Смален. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., Дабравольскі, Каспяровіч, Шатэрнік), *пéрун* м. – Воран., Чэрв., Пух., Старадарож. (СПЗБ), *гром* м. – Пух. (СПЗБ), *пýга* ж. – Браг. (Мат. Гом.), *сухавéя* ж. ‘летняя начная маланка без грому’ – Хоц. (Мат. Маг.), *сухáя малáння* ‘маланка без дажджу’ – Верхнядзв. (СПЗБ).

## Мароз, сцюжа

Надзвычай халоднае надвор’е з тэмпературай паветра ніжэй за нуль.

*марóз* м. – усх.-маг. р., Чэрв. р., Глыб., Мсцісл., Ашм., Стаўб., Гродз., Навагр., Зэльв., Ваўк., Смален. р., зах.-бран. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., Бялькевіч, Дабравольскі, Растаргуеў, Станкевіч, Шатэрнік, Юрчанка), *марóзчык* м. памянш. – Рэч. (НС), *марóзы* мн. – Кобр. (ЖНшС), *марóзанькі* мн. памянш. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *сцюжа* ж. – Пол., Паст., Чашн., Лоеў. (ДАБМ, СПЗБ, Каспяровіч, Станкевіч, Янкова), *стýжа* ж. – усх.-маг. р., Чэрв. р., Мядз., Віл., Стол. (СПЗБ, ТС, Бялькевіч, Насовіч, Шатэрнік), *сціжа* ж. – Паст. (СПЗБ), *сцюдзіна* ж. – Смарг. (Сл. Гродз.), *сцюдзёнае надвóр’е* – Пол. (ДАБМ), *стыдзь* ж., *стыль* ж. – Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч), *зімнік* м. – Карэл. (Сл. Гродз.), *халадэ́ча* ж. – Лаг., Бял. (Варлыга, Яўсееў), *халаднéча* ж. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *халадніца* ж. – Лоеў. (Янкова), *пякéльніца* ж. – Мядз. (ЖС), *кіпень* м. – Пін. (ДСБ), *трыскýць* ж. – Свісл. (Сл. Гродз.), *зюзька* м. дзіц., *зюзюк* м. дзіц. – усх.-маг. р. (Бялькевіч, Станкевіч), *адзімак* м. ‘мароз, які здараецца пасля цёплых дзён на пачатку вясны’ – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *вярбіч* м. ‘мароз, які здараецца напярэдадні вербнай нядзелі’ – мясц. (Насовіч), *рáнішнік* м. ‘майскі мароз’ – Лід. (Сл. Гродз.), *злóсная зімá* ‘надвор’е зімой з няспыннымі маразамі і мяцеліцамі’ – Лаг. (Варлыга);

**мароз з туманам**: *шэ́ран* м. – Люб. (ЖНшС), *шэ́раш* м. – Мёр. (ЖНС);

**моцны мароз**: *маразíшча* м. – спарадычна асн. мас. г., Жаб., Івац. (ЛАБНГ, СПЗБ), *марóзішча* м. – Ушацк., Паст., Докш., Арш., Тал., Барыс., Чэрв., Чач., Нараўл., Стол. (ЛАБНГ), *маразíска* м. і н. – паўн.-зах. з., зах.-пал. г. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *марóзіска* м. і н. – Зэльв., Бяроз., Іван. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *маразíна* м. – Лаг. (ЛАБНГ), *маразінá* м. – Навагр. (ЛАБНГ), *маразю́га* м. – Глыб. (ЛАБНГ, СПЗБ), *маразюгáн* м. – Мсцісл. (ЛАБНГ, Юрчанка), *маразя́ка* м. – Мсцісл., Хоц., Пух. (СЦБ, Мат. Маг., Юрчанка), *маразя́нка* ж. – Карэл. (Сл. Гродз.), *пякýн* м. – Мсцісл., Клім., Лід., Жлоб., Смален. р. (ЛАБНГ, Сл. Гродз., ЖС, Дабравольскі, Юрчанка), *крапýн* м., *кіпýн* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *кíпецень* м., *íскацень* м. – Стол. (ТС), *скалю́к* м. – Мёр. (ЛАБНГ), *склюд* м. – Верхнядзв. (Шаталава), *траскýн* м. – Мёр., Люб. (ЛАБНГ, ЖНС), *зыр* м. – Дзярж. (ЛАБНГ), *галашчóк* м. – Бял., Пух. (Мат. дыял. сл., Шатэрнік), *халадзéчына* ж. – Лід. (ЛАБНГ);

**лёгкія марозы, звычайна ранішнія, увосень і вясной**: *зáмаразкі* мн. – Лаг. (Варлыга, Станкевіч), *зáмаразак* м. – Стол. (ТС), *зáмаразка* ж. – Брасл. (СПЗБ), *замарóзкі* мн. – Мёр. (ЖНС), *зáмараз* м. – Пух. (Мат. мін.-мал.), *пры́маразкі* мн. – Брасл., Стаўб., Навагр., Ваўк., Жытк., зах.-бран. р. (СПЗБ, ТС, З нар. сл., Н. сл-сць, Растаргуеў), *пры́маразак* м. – Чэрв. р., зах.-бран. р. (Растаргуеў, Шатэрнік), *пшымаразя́чак* м. – Астр. (Н. сл-сць), *прызíмкі* мн. – Іўеў. (СПЗБ), *цяплíк* м., *цяпля́к* м. – мясц. (Насовіч), *бéлы марóз* ‘замаразкі, пры якіх паверхня зямлі, раслін, прадметаў пакрываецца інеем’ – Драг. (З нар. сл.), *цяпля́к* (*ціпля́к*) м. ‘замаразкі на глебе’ – Быx. (Мат. дыял. сл.).

## Месяц

Нябеснае цела, якое з’яўляецца спадарожнікам Зямлі і свеціць адбітым сонечным святлом.

*мéсяц* м. – агульн., Вілен. р., Смален. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Мат. Гродз., Каспяровіч, Растаргуеў, Шатэрнік), *мéсячык* м. памянш. – Чэрв. р., Віл., Маг., Лід.,

Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шатэрнік), *месячак* м. памянш. – Бярэз. (ЛАБНГ), *месяц* м. – мясц. (Станкевіч), *месік* м., *месічак* м. памянш.– усх.-маг. р. (ЛАБНГ, Насовіч, Станкевіч), *месячка* м. і ж. – паўдн.-усх. з., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, Мат. Гом., Нар. сл.-сць, Растаргуеў), *луна* ж. – паўн. р., Віл., Барыс., Круп., Бярэз., Гор., Бых., Калінк., Браг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *лунія* ж. – Мёр. (ЛАБНГ), *туляч* м. – Смарг. (Сл. Гродз.), *вятох* м. – Рас. (Шаталава);

**маладзік**: *маладзік* м., *маладзічок* м. памянш. – агульн., Вілен. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., ЖНшС, Нар. сл., Каспяровіч, Растаргуеў, Станкевіч, Шатэрнік), *маладзенец* м. – Латгал. р. (СПЗБ), *малады месяц* – зах.-пал. г., Карэл., Слон., Ваўк., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНшС), *малады месячак* – Ваўк. (ЛАБНГ), *новы месячык* – Гродз., Бераст. (ЛАБНГ), *новенькі месяц* – Маз. (ЛАБНГ), *ветах* м. – Бял. (Яўсееў), *вятох* м. – Шкл. (Н. сл-сць), *веташок* м. памянш. – Мсцісл., Шкл., Бял. (НС, Н. сл-сць, Юрчанка), *сярпок* м. – Вілен. р. (СПЗБ), *ражок* м. – Раг. (Мат. Гом.);

**месяц у пачатку другой чвэрці**: *падпоўня* ж. – Ашм., Валож., Гродз., Дзятл., Стаўб., Чэрв., Акц., Рэч., Нараўл., Лоеў. (ЛАБНГ, СПЗБ), *падпоўна* ж. – Мядз., Віл., Лаг., Чашн., Валож., Іўеў., Капыл., Карм., Калінк., Добр. (ЛАБНГ, СПЗБ), *падпоўная* ж. – Маладз., Барыс., Дзярж., Бых., Буда-Каш. (ЛАБНГ), *падпоўнае* н. – Барыс., Валож., Люб., Гл., Петр., Ельск. (ЛАБНГ, Насовіч), *падпоўняе* н. – Дзятл. (СПЗБ), *падпоўныя* мн. – Леп., Клім. (ЛАБНГ), *падпоўнік* м. – Пух., Асіп., Слуцк. (ЛАБНГ, СЦБ), *падпоўнічак* м. – Старадарож. (ЛАБНГ), *перадпоўнік* м. – Пух. (СЦБ), *поўнік* м., *поўня* ж. – Пух., Чэрв. (Шатэрнік), *палова* ж. – Лаг., Воран., Маст., Клім., Бабр., Рэч., Гом. (ЛАБНГ), *палавіна* ж. – Ушацк., Віц., Лаг., Тал., Бярэз., Маг., Мсцісл., Слаўг., Касц., Хоц., Жлоб., Стаўб., Нясв., Слуцк., Баран., Лях., Стол. (ЛАБНГ), *палавінка* ж. – Бярэз., Воран. (ЛАБНГ), *палавіна месяца* – зах.-пал. г., Маз., Навагр., Зэльв., Слон. (ЛАБНГ, ЖНшС), *палавіна маладзіка* – Верхнядзв., Бял., Краснап., Лід., Лун. (ЛАБНГ), *паў-*

*ме́сяца* н. – Нясв., Пруж. (ЛАБНГ), *паўме́сячыка* н. – Гродз. (ЛАБНГ), *нягóдлівы ме́сяц* – Драг. (СНМ);

**поўня**: *по́ўня* ж. і н. – цэнтр. з., зах.-пал. г., Шум., Касц., Лельч., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., ЛП, Нар. скарбы, ЖНшС, Станкевіч), *упо́ўня* ж. і н. – Стаўб. (ЛАБНГ), *пэ́льня* (*пэ́лня*) ж. – Ашм., Іўеў., Воран., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз.), *по́ўна* ж. і н. – Лаг., Круп., Тал., Мсцісл., Маг., Бярэз., Валож., Стаўб., Капыл., Лях., Стол., Калінк., Рэч., Чач. (ЛАБНГ, СПЗБ), *упо́ўна* ж. і н. – Стаўб. (ЛАБНГ), *по́ўне* н. – Баран. (ЛАБНГ, СПЗБ), *падпо́ўне* н. – Лоеў. (Янкова), *падпэ́ўне* н. – Гродз. (Мат. Гродз.), *пэ́льне* н. – Бераст. (ЛАБНГ), *по́ўняе* н. – Лоеў. (Янкова), *по́ўнае* н. – Валож., Барыс., Бых., Раг. (ЛАБНГ, Насовіч, Станкевіч), *по́ўная* ж. – Смарг., Віл. (СПЗБ), *по́ўныя* мн. – Беш., Докш., Сен., Чашн., Дубр., Леп., Барыс., Бярэз., Бял., Бых., Слаўг., Чэрык., Бабр., Смарг., Люб. (ЛАБНГ), *по́ўната* ж. – паўн. р., Мсцісл., Латгал. р., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНС, Н. сл-сць, Каспяровіч, Станкевіч), *паўната́* (*ме́сяца*) ж. – Лоеў., Смален. р. (Дабравольскі, Янкова), *по́ўнатка* ж. – Шум. (СПЗБ), *по́ўнік* м. – Пух., Асіп., Слуцк., Саліг., Добр., Буда-Каш., Раг. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гом., Станкевіч), *по́ўнічак* м. – Старадарож. (ЛАБНГ), *по́ўны ме́сяц* – Докш., Віл., Воран., Іўеў., Карэл., Маст., Гродз., Стаўб., Мін., Саліг., Ганц., Пруж., Драг., Бяроз., Лун., Лельч., Маз., Лоеў., Клім., Чав., Мсцісл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *цэ́лы ме́сяц* – Слон., Брэсц. (ЛАБНГ), *кру́глы ме́сяц* – Гродз., Зэльв. (ЛАБНГ), *стары́к* м. – Бяроз., Лун., Лоеў. (ДСБ, Шаталава, Янкова), *гніле́ц* м. – Пін. (НЛ), *планэ́та* ж. – Вілен. р. (СПЗБ);

**месяц у пачатку апошняй чвэрці**: *вято́х* м. – Верхнедзв., Глыб., Беш., Сен., Віц., Шум., Леп., Дубр., Гор., Віл., Смарг., Ашм., Валож., Смален. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч), *вято́к* м. – Слаўг. (ЛАБНГ), *віта́х* м. – Віл. (СПЗБ), *ве́тах* м. – Віц. р., Лаг., Маладз., Іўеў. (СПЗБ, Варлыга, Каспяровіч, Станкевіч), *вё́тах* м. – Віц. р., Іўеў., Лід. (ЛАБНГ, СПЗБ, Каспяровіч), *веташо́к* м. – паўн.-усх. д., спарадычна сярэд.-бел. г., Сма-

лен. р. (ЛАБНГ, НС, Варлыга, Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч), *стары́к* м. – паўдн.-усх. з., Чэрв., Латгал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, НЛ), *старычо́к* м. – Чэрв., Добр., Лоеў. (ЛАБНГ), *стары́* м. – Стол., Лельч., Нараўл. (ЛАБНГ), *стары́ ме́сяц* – Смарг., Гродз., Дзятл., Капыл., Ганц., Брэсц., Бяроз., Стол., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *стары́ ме́сячык* – Гродз. (ЛАБНГ), *стары́ маладзі́к* – Івац. (ЛАБНГ), *чарне́ц* м. – Івац. (ЛАБНГ, НС), *гніле́ц* м. – Асіп. (ЛАБНГ), *сярпо́к* м. – Ашм., Воран. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *схадо́к* м. – Шкл., Чав., Быx., Слаўг. (ЛАБНГ), *спо́ўната* ж. – Латгал. р. (СПЗБ).

**Чвэрць месячнага перыяду**: *ква́дра* ж. – Віц. р., Чэрв. р., Смарг., Іўеў., Кобр., Стол., Жытк. (СПЗБ, ТС, СНМ, Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік), *ква́тарга* ж. – Гарад. (НЛ), *зме́на* ж. – Віл. (СПЗБ, Насовіч, Станкевіч), *змя́ны* мн. – Іўеў., Гродз. (СПЗБ, Цыхун);

**першая фаза Месяца**: *малады́я дні* – Пруж. (СПЗБ), *настацце́* н. – Зэльв., Баран., зах.-бран. р. (СПЗБ, ЖС, Растаргуеў), *пача́так* м. – Шчуч. (ЛАБНГ), *пе́ршая ква́дра* – Мядз., Бераст., Пруж. (ЛАБНГ), *пе́рвая ква́дра* – Шкл., Добр., Хойн. (ЛАБНГ), *пе́рвый ква́дра* – Арш. (ЛАБНГ);

**другая фаза Месяца**: *перакро́й* (*малады́*) – Капыл. (ЛАБНГ), *перакро́й* (*маладзіка́*) – Лоеў. (ЛАБНГ), *сяро́дзіна* ж. – Шчуч. (ЛАБНГ), *друга́я зме́на* – Віл. (ЛАБНГ), *друга́я ква́дра* – Паст., Ашм., Смарг., Мядз., Іўеў., Ваўк., Уздз., Мін., Пух., Чэрв., Бярэз., Мсцісл., Слаўг., Чач., Добр., Светлагор., Хойн., Лун. (ЛАБНГ), *друга́ ква́дра* – Івац. (ЛАБНГ), *утара́я* (*втара́я*) *ква́дра* – Беш., Сен., Шкл. (ЛАБНГ), *друга́ чэ́цверць* – Ушацк. (ЛАБНГ);

**трэцяя фаза Месяца**: *трэ́цяя нядзе́ля* – Пух. (ЖС), *трэ́йцяя нядзе́ля* – Стаўб. (3 нар. сл.), *лу́ннае цячэ́нне* – Смален. р. (Дабравольскі), *сход* м. – Сен. (Каспяровіч);

**пачатак трэцяй фазы Месяца**: *ру́шанне* н. – Чэрв., Ганц., Лоеў. (СПЗБ, Янкова), *рушэ́нне* н. – Лун. (Шаталава);

**апошняя фаза Месяца**: *сход* м. – Маг. р., усх.-маг. р., Гом. р., зах.-бран. р., спарадычна паўн. р., Ашм., Смарг.,

Віл., Лаг., Барыс., Круп., Карэл., Ваўк., Івац., Жытк., Гл. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Сл. Гродз., Варлыга, Растаргуеў, Юрчанка), *ісхóд* м. – Шум., Акц. (ЛАБНГ), *схóда* ж. – Сен., Карэл., Ганц., Драг., Лельч. (ЛАБНГ, ЖС), *схóды* мн. – Кругл., Арш., Дубр., Гор., Рэч. (ЛАБНГ), *схóднія дні* – слуцк.-маз. г., Бярэз., Пух., Стаўб., Уздз., Ганц., Драг. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, СНМ, Н. сл-сць), *схóдныя дні* – Тал., Стаўб. (ЛАБНГ), *схóдны дні* – Кобр. (ЛАБНГ), *стары́я дні* – Іўеў., Шчуч., Бераст., Пруж., Бяроз., Іван., Драг., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, СНМ), *паслéнны* (*паслéнні*) *дні* – Пін. (ЛАБНГ), *пусты́я дні* – Брасл., Астр., Іўеў. (ЛАБНГ СПЗБ), *адбы́тачныя* (*адбы́тныя*) *дні* – Брасл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *збы́тныя* (*збы́тнія*) *дні* – Паст. (ЛАБНГ, СПЗБ), *збы́та* ж. – Мін. (ЛАБНГ), *спóўні* мн. – Кобр. (ЖНшС), *змéны* мн. – Пруж., Брэсц. (ЛАБНГ), *змя́ны* мн. – Свісл. (Н. сл-сць), *гнілáя нядзéля* – Ветк. (ЛАБНГ), *астáтня*(*я*) *квáдра* – Паст., Бераст., Івац. (ЛАБНГ), *паслéдняя квáдра* – Гарад. (ЛАБНГ), *чацвёртая квáдра* – Кобр., Рэч. (ЛАБНГ).

## Млечны Шлях

Скопішча зорак, якое светлавой паласой перакрывае небасхіл.

*Дарóга* ж. – Кобр. (СНМ, ЖНшС), *Малóчна Дарóга* – Гродз. (Цыхун), *Пóяс* м. – Раг., Буда-Каш., Жытк. (Мат. Гом.).

## Мяцеліца

Моцны вецер са снегам, снежная бура.

*мяцéліца* ж. – агульн., Вілен. р., Смален. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Растаргуеў, Станкевіч, Шатэрнік, Юрчанка), *мацéліца* ж. – Ганц., Лельч., Ельск. (ЛАБНГ), *мяцéль* ж. – усх.-маг. р., Рас., Гарад., Паст., Лаг., Круп., Бых., Кір., Стаўб., На-

вагр., Карэл., Зэльв., Ваўк., Жытк., Стол., Маз., Смален. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Дабравольскі, Юрчанка), *мяцéля* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *мяцéлія* ж. – Маз. (ЛАБНГ), *мецялýха* ж. – Брэсц., Малар. (ЛАБНГ, НЛ), *мятлю́га* ж. – Карэл. (Сл. Гродз.), *мяцельгá* ж. – Барыс. (ЛАБНГ), *мяцéж* ж. – Стол. (ТС), *зáмець* ж. – Бял., Крыч., Быx., Раг., Чач., Ветк., Добр., Гом., Лун., Кам., Слон., Навагр., Смален. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. дыял. сл., Дабравольскі, Растаргуеў, Станкевіч), *замéціна* ж. – Стаўб., Лях. (СЦБ, Мат. дыял. сл.), *замéціца* ж. – Карэл. (ЖНС), *замятýха* ж. – мясц. (Станкевіч), *зáмецель* ж. – Беш., Лёзн. (ЛАБНГ, НС), *сýмець* ж., *сумя́ціца* ж. – мясц. (Насовіч), *сумéціца* ж. – Беш. (Каспяровіч), *пера-мётка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *завірýха* ж. – Рас., Гарад., Мёр., Ушацк., Паст., Лёзн., Дубр., Шкл., Бярэз., Касц., Асіп., Карэл., Лід., Шчуч., Свісл., Бяроз., Кам., Жаб., Кобр., Раг., Смален. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., ЖНшС, Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Растаргуеў, Станкевіч), *заварýха* ж. – Стаўб. (СЦБ), *завірýх* (*завярýх*) м. – Воран. (Мат. Гродз.), *завéя* ж. – усх.-маг. р., Чэрв. р., Пол., Ушацк., Сен., Мядз., Ашм., Лаг., Круп., Воран., Бераст., Слон., Люб., Бяроз., Драг., Іван., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Бялькевіч, Каспяровіч, Станкевіч, Шатэрнік), *зáвея* ж. – Мёр., Паст., Беш., Віл. (ЛАБНГ, СЦБ), *завéйка* ж. – Шчуч., Ваўк., Пруж. (ЛАБНГ, СПЗБ), *завяю́ха* (*завію́ха*) ж. – Валож., Іван. (ЛАБНГ), *вéя* ж. – Ушацк., Сен., Паст., Докш., Мядз. (ЛАБНГ, Н. сл-сць, Каспяровіч, Мат. дыял. сл., Насовіч), *вéйка* ж. – Навагр. (Сл. Гродз., З нар. сл.), *вія́чка* ж. – Зэльв. (Сл. Гродз.), *сувéй* м. – Чэрв. (НЛ), *крутавéя* ж. – Маст., Зэльв. (СРЛГ, Сцяцко), *крутóвіна* ж. – Гродз. (Сл. Гродз.), *крутýха* ж. – Валож. (ЛАБНГ, СПЗБ, Станкевіч), *крýча* ж. – Карэл., Бяроз., Драг., Іван., Малар., Маз. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, ЛП, НЛ), *кручанíна* ж. – Кам. (ДСБ, ЖНС), *кручáльніца* ж. – Воран. (Мат. Гродз.), *кругавéрць* ж. – мясц. (Станкевіч), *кýдаса* ж. – гродз.-бар. г., Мядз., Маладз., Іўеў., Ганц., Івац., Пруж., Бяроз., Драг., Пін. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, ДСБ, Мат. Гродз., Мат. дыял. сл., Н. сл-сць, ЛП, ЖС, Сцяцко, Цыхун),

*кудáса* ж. – гродз.-бар. г., Беш., Вілен. р. (Каспяровіч, Насовіч), *кудасá* ж. – Стаўб. (ЛАБНГ, Станкевіч), *кудóса* ж. – Ганц., Бяроз., Драг. (ЛАБНГ), *кýтаса* ж. – Пруж. (ЛАБНГ), *хýдаса* ж. – Воран. (ЛАБНГ), *кýдаха* ж. – Ганц. (СНМ), *хвíля* ж. – Віц., Беш., Гл., Акц., Добр., Рэч., Калінк., Лельч., Лун., Стол., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Мат. дыял. сл., НС, Каспяровіч, Растаргуеў), *фíля* ж. – Стол. (ТС), *няхвíля* ж. – Капыл. (СПЗБ), *хвíлія* ж. – Віц., Беш. (Каспяровіч), *хвілéпіца* ж. – Ветк., Рэч., Лоеў. (ЛАБНГ, Янкова), *хурá* ж. – Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч), *хýрта* ж. – зах.-бран. р. (Растаргуеў, Станкевіч), *хýртавіна* ж. – Дубр., Кругл., Светлагор. (ЛАБНГ, Мат. дыял. сл., Н. сл-сць), *хляба* ж. – Гор., Чав. (ЛАБНГ, НС), *хáлепа* ж. – Люб. (СНМ), *дýя* ж. – Беш. (Каспяровіч), *дýйка* ж. – Беш., Дубр., Круп., Бял. (ЛАБНГ, СЦБ, Н. сл-сць, Каспяровіч), *дýйма* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *дýла* ж. – Сен. (Каспяровіч), *курáва* ж. – Маст. (СРЛГ), *пульгá* ж. – усх.-маг. р., Лід., Нясв., Іван., Буда-Каш., Смален. р. (ЛАБНГ, Сл. Гродз., Бялькевіч, Дабравольскі, Станкевіч), *пýльга* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *пýрга* ж. – усх.-маг. р., Смален. р. (Бялькевіч, Дабравольскі), *шáрга* ж. – Кобр., Драг., Іван. (ДСБ), *зáперха* ж. – Чач. (ЛАБНГ, ЖС), *папаўзýха* ж. – зах.-бран. р. (Растаргуеў, Станкевіч), *бутарыíсіца* ж. – Беш. (Каспяровіч, Станкевіч), *сінýга* ж. – Ваўк., Івац. (СПЗБ, Мат. Гродз., НС), *сінéц* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *старýн* м. – Лоеў. (Янкова), *сняжыíца* ж. – Беластоц. р. (СПЗБ), *снягí* мн. – Смален. р. (Дабравольскі), *уюíга* ж. – Верхнядзв., Тал., Маг., Клім., Карэл., Чэрв., Слуцк., Добр. (ЛАБНГ, СПЗБ), *в'юíга* ж. – Вілен. р., Беластоц. р. (СПЗБ), *вьюíга* ж. – Шум. (ЛАБНГ), *вургáн* м. – Стаўб. (ЛАБНГ), *ліха* н. – Смален. р. (Дабравольскі), *дýйка* ж. рэдк. ‘мяцеліца з пранізлівым ветрам’ – Мсцісл. (Юрчанка), *сінýга* ж. ‘мяцеліца з жорсткім ветрам’ – Клім., Івац. (ЛАБНГ);

**мяцеліца з мокрым снегам**: *хáліпа* ж. – Чав., Смален. р. (НС, Дабравольскі, Станкевіч), *шляпа* ж. – Беш. (НС);

**невялікая мяцеліца, калі вецер гоніць снег па зямлі**: *пазёмка* ж. – Докш. (Мат. дыял. сл.), *пазéмка* ж. – Бял. (Мат.

дыял. сл.), *падзе́мельніца* ж., *папаўзу́ха* ж. – Смален. р. (Дабравольскі);

**моцная мяцеліца**: *пурга́* ж. – усх.-маг. р., Слуцк. р., Гом. р., Верхнядзв., Брасл., Пол., Гарад., Сен., Леп., Тал., Чэрв., Бял., Шкл., Бых., Гл., Астр., Карэл., Лід., Дзятл., Ваўк. (ЛАБНГ, Юрчанка), *бурга́* ж. – Івац. (ЛАБНГ), *фурга́* ж. – Іўеў. (ЛАБНГ), *пу́льга́* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *хві́ля* ж. – Бял., Кір., Слаўг., Акц., Калінк., Рэч., Добр., Стол. (ЛАБНГ, НС), *фі́ля* ж. – Лун. (ЛАБНГ), *хвіле́ніца* ж. – Рэч., Ветк., Лоеў. (ЛАБНГ), *завіру́ха* ж. – Чэрв. р., Мсцісл. (Шатэрнік, Юрчанка), *заве́я* ж., *ве́я* ж. рэдк. – Мсцісл. (Юрчанка), *ду́йка* ж. – Бял. (НС), *круце́ліца* ж – Чэрв. р. (Шатэрнік), *кру́ча* ж. – Карэл. (Мат. дыял. сл.), *ку́даса* ж. рэдк., *ую́га* ж. – Мсцісл. (Юрчанка).

## Навальніца

Атмасферная з’ява – непагода з маланкай, громам, дажджом або градам і моцным ветрам.

*навальні́ца* ж. – гродз.-бар. г., Віц. р., Мін. р., Слуцк. р., Кам., Бяроз., Чач., Браг., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Каспяровіч, Станкевіч), *граза́* ж. – паўн.-усх. д., паўдн.-усх. з., Лях., Смален. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Бялькевіч, Дабравольскі), *бу́ра* ж. – зах.-пал. г., спарадычна ўсх.-пал. р., Пол., Лаг., Віл., Гродз., Стаўб., Маг., Бабр. (ЛАБНГ), *ша́рга* ж. – Лун. (ЛАБНГ), *пяру́н* м. – Смал. (ЛАБНГ), *гром* м. – Брасл., Смарг., Пух., Пруж. (СПЗБ), *грымо́ты* мн. – Паст., Іўеў., Стаўб., Чэрв. (СПЗБ, СЦБ), *стра́шная грымо́та* – Паст. (ЛАБНГ), *грымо́та з бу́раю* – Драг. (ЛАБНГ).

## Надвор’е

Стан атмасферы ў пэўны час у адпаведным месцы.

*надвор’е* н. – Віц. р., усх.-маг. р., Чэрв. р., Гродз., Воран., Смален. р. (СПЗБ, Бялькевіч, Дабравольскі, Каспяровіч,

Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік, Юрчанка), *надвóр'я* ж. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *надвóр'іка* н. памянш. – Мсцісл. (Юрчанка), *надвóрка* ж. – Воран. (СПЗБ), *пагóда* ж. – усх.-маг. р., Пух., Гродз., Бераст., Зэльв., Ваўк., Баран., Драг., Вілен. р., Латгал. р., Беластоц. р. (СПЗБ, СЦБ, Мат. Гродз., ЛП, ЖНшС, Бялькевіч), *пагóдка* ж. – Беш. (Каспяровіч), *пагóдзь* ж. – Стол. (ТС), *гадзíна* ж. – зах.-пал. г. (ЛП, НЛ), *урэ́мя* н. – Стол., Жытк. (ТС), *клíмат* м. – Паст., Смален. р. (СПЗБ, Дабравольскі), *рабáя пагóда* 'надвор'е, калі то свеціць сонца, то ідзе дождж' – Беш. (НС), *перамéна* ж. 'змена надвор'я' – Брасл. (СПЗБ);

**добрае надвор'е**: *пагóда* ж. – агульн., Вілен. р., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЛП, Станкевіч, Шатэрнік), *дóбра(я) пагóда* – агульн. (спарадычна віц.-маг. г.) (ЛАБНГ), *харóша(я) пагóда* – паўдн.-усх. з., зах.-пал. г., паўн. р., Астр., Маладз., Пух, Уздз., Капыл., Шчуч., Зэльв., Ганц., Івац., Пруж. (ЛАБНГ), *фáйна пагóда* – Гродз. (ЛАБНГ), *хвáйна пагóда* – Пін. (ЛАБНГ), *лáдна(я) пагóда* – Воран., Гродз., Бераст. (ЛАБНГ), *я́драна(я) пагóда* – Бярэз., Карэл., Іўеў., Маз. (ЛАБНГ), *здарóва пагóда* – Лун. (ЛАБНГ), *вышывáная пагóда* – Ветк. (ЛАБНГ), *трывáла пагóда* – Свісл. (ЛАБНГ), *бы́стра пагóда* – Драг. (ЛП), *я́сная пагóда* – Валож., Воран., Іўеў. (ЛАБНГ), *сóнічная пагóда* – Люб. (ЛАБНГ), *сóначна пагóда* – Хойн. (ЛАБНГ), *зóркая пагóда* – Капат. (ЛАБНГ), *пагóдлівы дзень* – Касц., Шчуч. (ЛАБНГ), *пагóджы дзень* – Бяроз. (ЛАБНГ), *дóбры дзень* – Браг. (ЛАБНГ), *дóбрае надвóр'е* – Брасл., Мёр., Пол., Чашн., Касц. (ЛАБНГ), *харóшае надвóр'е* – Маг., Касц. (ЛАБНГ), *ляпóта* (*ліпóта*) ж. – Навагр. (Сл. Гродз.), *гадзíна* ж. – зах.-пал. г. (ЛП), *санцагрэ́й* м. – Навагр. (Сл. Гродз.);

**добрае і цёплае надвор'е**: *цеплыня́* ж. – Віц. р., Драг. (СНМ, Каспяровіч, Насовіч), *цепліня́* ж. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *цяплы́нь* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *цеплатá* ж. – Смарг., Вілен. р. (СПЗБ), *цеплацéнь* ж., *цеплатэ́ча* ж. – Беластоц. р. (СПЗБ), *сугрэ́ў* м. – Карэл. (Сл. Гродз.), *вýграі* (*ýгрэі*) мн. 'цёплыя веснавыя дні, калі сонца пачынае добра грэць' – Сма-

лен. р. (Дабравольскі), *ранняя вясна* 'заўчасна цёплае надвор'е пасля зімы' – Лаг. (Варлыга), *рушанне* н. 'цёплае восеньскае надвор'е' – Смарг. (Сл. Гродз.);

**дрэннае надвор'е, непагадзь**: *непагадзь* ж. – паўн.-усх. д. (Віц. р. – спарадычна), Гом. р., Смарг., Дзярж., Стаўб., Навагр., Бераст., Бых., Кір., Раг., Лоеў., Жаб., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Каспяровіч, Растаргуеў, Станкевіч), *непагодзь* ж. – Браг. (Мат. Гом.), *непагодзіца* ж. – Карэл. (ЛАБНГ), *непагода* ж. – Чэрв. р., Пол., Ушацк., Глыб., Дубр., Круп., Маладз., Лаг., Бял., Стаўб., Шчуч., Слон. (ЛАБНГ, Шатэрнік), *беспагоддзе* н. – Гродз. (Сл. Гродз.), *дрэнная пагода* – Верхнядзв., Шарк., Докш., Віл., Лаг., Круп., Бярэз., Бял., Асіп., Воран. (ЛАБНГ), *благая пагода* – Брасл., Глыб., Ашм., Валож. (ЛАБНГ), *кепска(я) пагода* – Іўеў., Гродз., Шчуч., Пруж. (ЛАБНГ), *плахая пагода* – Віц. р., Верхнядзв., Арш., Гор., Шкл., Бял., Чэрык. (ЛАБНГ), *нядобра пагода* – Гродз., Лід. (ЛАБНГ), *нехароша(я) пагода* – Астр., Бярэз. (ЛАБНГ), *ліхая пагода* – Старадарож., Бяроз. (ЛАБНГ), *погана(я) пагода* – Стол., Маз., Калінк., Лоеў. (ЛАБНГ), *гідкая пагода* – Кобр. (ЛАБНГ), *нінасная пагода* – Верхнядзв., Маг. (ЛАБНГ), *дрэннае надвор'е* – Леп., Клім. (ЛАБНГ), *дрэннае надворка* – Воран. (ЛАБНГ), *благое надвор'е* – Брасл. Віл. (ЛАБНГ), *кепскае надвор'е* – Леп., Навагр., Добр. (ЛАБНГ), *плахое надвор'е* – Арш., Шчуч. (ЛАБНГ), *нягоднае надвор'е* – Тал. (ЛАБНГ), *нягода* ж. – паўдн. р., Леп., Пух., Асіп., Бых., Слаўг., Раг., Нясв., Маст., Дзятл., Слон., Зэльв., Ваўк., Баран., Лях., Раг., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ДСБ, Мат. Гродз., ГЧ, Растаргуеў, Станкевіч, Шаталава), *негадзь* ж. – паўдн.-усх. з. (ЛАБНГ, Мат. Гом., НС, Янкоўскі, Яўсееў), *нягодзька* ж. – Барыс., Круп., Чэрв., Акц. (ЛАБНГ, СЦБ, Станкевіч, Шатэрнік), *нягоддзе* н. – Уздз. (ЛАБНГ), *нягодзіна* ж. – Пін. (ДСБ), *негадзіна* ж. – Пін. (ЛАБНГ), *нічога гадзіна* – Бяроз. (ЛАБНГ), *гадзіна* ж. – Драг. (ЛП), *бязгода* ж., *бязгодзіца* ж., *бязгоддзе* н. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *бязгодушка* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *няўзгодзіца* ж. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *нянасце* (*нінасце*) н. – Віц. р., усх.-маг. р., Пол.,

Маг., Лоеў. (ЛАБНГ, Бялькевіч, Янкова), *ліхалéцце* н. – Мёр., Сен. (ЛАБНГ, Каспяровіч), *ліхалéціна* ж. – Мёр. (ЛАБНГ), *мрáка* ж. – Браг. (Шаталава), *мразь* ж. – Хойн. (Шаталава), *безгалóўе* н. – Лаг. (СЦБ), *бяспýціца* ж. – мясц. (Насовіч), *лядáяк* м. – Шчуч. (СПЗБ), *перадрáга* ж. – Кам. (ЖНС), *гíбель* ж., *праваляёная* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *азы́ра* ж. – Лід. (Сл. Гродз.), *кíжаль* ж. – Гарад. (Каспяровіч), *залóта* ж. – Гом. (Мат. Гом.), *плю́та* ж. – Гродз. (Цыхун), *плéха* ж. – Драг. (Н. сл-сць), *хуртавíна* ж. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *пáмжа* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *хвíшча* ж. – Лоеў. (Янкова), *вéдзьмінае вясéлле* – Гл. (Янкоўскі), *няхвíля* ж. ‘дрэннае надвор’е з ветрам’ – Слуцк. (ЛАБНГ);

**дрэннае надвор’е з ветрам і дажджом**: *хвíля* ж. – Гл. (Мат. дыял. сл.), *кýдаха* ж. – Ганц. (СНМ);

**ветранае надвор’е**: *ветранíца* ж. – Зэльв. (Сцяцко);

**ветранае надвор’е без дажджу**: *сухавéй* м. – Астр., Смарг., Вілен. р. (СПЗБ), *сухавéіца* ж. – Смален. р. (Дабравольскі);

**бязветранае надвор’е**: *зáціш* ж., *ціхмéнь* м. і ж. – мясц. (Насовіч, Станкевіч).

## Неба

Уся бачная над зямлёй прастора.

*нéба* н. – агульн. (Мат. Гом., Нар. скарбы, Мат. апыт.), *нябёсы* мн. – Жытк., Светлагор., Добр. (Мат. Гом.), *нёба* ж. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *бязмéсячнае нéба* ‘неба, на якім не бачна Месяца’, *бяззóрнае нéба* ‘неба, на якім не бачна зорак’ – мясц. (Станкевіч);

**неба, усеянае зоркамі**: *зóрнае нéба* – асн. мас. г. (спарадычна паўн.-зах. з., усх.-маг. р. і ўсх.-пал. р.), Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *зóркае нéба* – Пін., Стол., Лун., Петр., Калінк. (ЛАБНГ), *зóрачнае нéба* – Валож., Навагр., Дзятл., Бых. (ЛАБНГ), *зóрашнае нéба* – Мсцісл., Рэч. (ЛАБНГ), *зóрыстае нéба* – Стаўб., Лід. (ЛАБНГ), *зары́стае нéба* – Асіп., Слуцк. (ЛАБНГ), *зóраватае нéба* – Навагр. (СПЗБ),

*звёзнае неба* – паўн.-усх. д. (пераважна – віц.-маг. г.), Кір., Бабр., Гл., Саліг., Чач., Гом., Лоеў. (ЛАБНГ), *звёздачнае неба*, *гвяздзістае неба* – Іўеў. (ЛАБНГ, СПЗБ), *яранае неба* – Старадарож. (ЛАБНГ), *яснае неба* – Астр., Бял., Пух., Слаўг., Краснап., Карм., Раг., Гом., Добр., Браг., Нараўл. (ЛАБНГ), *ясна неба* – Воран. (ЛАБНГ), *чыстае неба* – Паст. (ЛАБНГ).

## Паветра

Сумесь газаў, галоўным чынам азоту і кіслароду, якія акружаюць зямлю і складаюць яе атмасферу; свабодная прастора над зямлёй.

*паве́тра* н. – Круп. (СПЗБ), *дух* м. – Паст., Докш., Астр., Ашм., Воран., Навагр., Шчуч., Пух., Люб. (СПЗБ, СЦБ, Мат. Гродз.), *во́здух* м. – Верхнядзв., Астр., Валож., Іўеў., Пух., Зэльв., Ваўк., Лях., Лоеў., Вілен. р. (СПЗБ, СЦБ, Мат. Гродз., Янкова), *дух* м. 'цёплае паветра' – Ельск. (Мат. Гом.).

## Паводка

Часовае падняцце вады ў вадаёмах у выніку раставання снегу або пасля вялікіх дажджоў.

**Вясновая паводка, разводдзе**: *паво́дка* ж. – цэнтр. з. (за выключэннем Гом. р.), Пол., Лях., Баран., Нараўл. (ЛАБНГ, СПЗБ, Варлыга, Шатэрнік), *па́вадка* ж. – Клім. (ЛАБНГ, Станкевіч), *паво́дак* м. – Віл., Пух., Уздз. (ЛАБНГ, СЦБ), *па́вадак* м. – Дубр., Гор., Клім., Краснап., Ветк. (ЛАБНГ), *паво́дкі* мн. – усх.-маг. р., Бярэз., Бабр. (ЛАБНГ, Бялькевіч), *па́вадкі* мн. – усх.-маг. р., Лёзн., Чашн., Сен., Арш., Тал., Маг., Быx. (ЛАБНГ, НС, Бялькевіч, Каспяровіч, Станкевіч), *паво́дзіца* ж. – Ваўк. (ЛАБНГ), *паво́дзь* ж. – Ашм. (СПЗБ), *паво́дзя* ж. – Гродз. (СПЗБ), *паво́ддзе* н. – Шчуч., Кам., Бяроз., Кобр., Ельск. (ЛАБНГ, Сл. Гродз., НЛ, ЖНшС), *палуво́ддзе* н. – Бабр. (ЛАБНГ), *паўнаво́ддзе* н. – Быx. (ЛАБНГ), *по́вань* ж. – Віл., Воран. (ЛАБНГ, СПЗБ), *развоо́ддзе* н. –

паўн.-усх. д., паўн.-зах. з., Чэрв. р., Слуцк. р., Латгал. р., Смален. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Бялькевіч, Варлыга, Дабравольскі, Касяровіч, Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік), *раздзівóддзе* н. – Смален. р. (Дабравольскі), *развóдзі* мн. – Брасл. (СПЗБ), *развóдзіца* ж. – Гродз. (ЛАБНГ), *развóдніца* ж. – Маст., Зэльв. (ЛАБНГ, СПЗБ, Н. сл-сць), *вадапóль* м., *падпóльная вадá* – Смален. р. (Дабравольскі), *вялíкая вадá* – Гл. (Янкоўскі), *наваднéнне* н. – Астр., Рэч. (ЛАБНГ, СПЗБ), *вадатóпа* ж. – Лоеў. (Янкова), *затóпа* ж. – Мсцісл., Буда-Каш., Светлагор. (ЛАБНГ, Станкевіч, Юрчанка), *падтóпа* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *ператóпка* ж. – Віл. (СПЗБ), *патóпа* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *патóп* м. – Жытк. (ЖНшС), *растóп* м. – Ганц. (ЛАБНГ), *растóка* ж. – Бераст. (Сл. Гродз.), *расцёка* ж. – Драг. (ЛАБНГ), *расцёкі* мн. – Пруж. (ЛАБНГ), *разлíва* ж. – Буда-Каш., Маз. (ЛАБНГ), *разлíў* м. – Брасл., Пол., Барыс., Клім., Хоц., Касц., Кір., Раг., Старадарож., Чач., Жлоб., Гом., Добр., Рэч., Петр., Лельч., Стол., Іван., Кобр., Малар., Брэсц., Кам. (ЛАБНГ, СПЗБ), *залíў* м. – Лельч. (ЛАБНГ), *залéўка* ж. – Ашм. (СПЗБ), *палóй* м. – Быx., Слон. (ЛАБНГ, СПЗБ), *растарóп* м. і ж. – Пол., Шарк., Лёзн., Леп., Тал., Круп., Мсцісл., Клім., Чэрык., Карэл., Навагр., Люб., Хойн., Браг., Нараўл. (ЛАБНГ, Мат. Маг., Юрчанка), *растарóпа* ж. – Верхнядзв., Мсцісл. (Шаталава, Юрчанка), *растарóпіца* ж. – Беш., Нясв., Калінк. (ЛАБНГ), *растарóпска* ж. – Мёр. (ЛАБНГ), *рáстарапень* м. і ж. – Петр. (ЛАБНГ), *растапýцце* н. – Мсцісл. (Юрчанка), *распýцце* н. – Добр. (ЛАБНГ), *распýціца* ж. – Мсцісл., Карм., Добр., Рэч. (ЛАБНГ, Юрчанка), *распýсціца* ж. – Карм. (ЛАБНГ), *распýста* ж. – Мядз. (СПЗБ), *распýсця* ж. – Раг. (СПЗБ), *нéпуць* ж. – Стол. (ЛАБНГ), *раскáлле* н. – Івац., Кам., Кобр., Драг., Пін. (ЛАБНГ), *расквáлле* н. – Жаб. (ЛАБНГ), *раскáлы* мн. – Івац. (ЛАБНГ), *растварэ́нне* н. – Буда-Каш. (ЛАБНГ), *хáлепа* ж. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *шлюпóта* ж. – Лун. (ЛАБНГ), *шлякаць* ж. – Стол. (ЛАБНГ), *навалнíца* ж. – Бяроз. (ЛАБНГ), *лімáн* м. – Чач. (ЖС), *сплаў* м. ‘разліў у паводку верхаводкі з гноем’ – Лаг. (Варлыга);

**паводка пасля вялікага дажджу**: *паво́дка* ж. – гродз.-бар. г. (за выключэннем Гродз. р.), Мін. р., Чэрв. р., Слуцк. р., Ушацк., Віл., Круп. (ЛАБНГ, СПЗБ, Варлыга), *па́вадка* ж. – усх.-маг. р. (ЛАБНГ), *паво́дак* м. – Докш., Віл., Пух. (ЛАБНГ, СПЗБ), *па́вадак* м. – Мядз., Бабр., Ветк., Лоеў. (ЛАБНГ), *паво́дкі* мн. – Бял., Пух. (ЛАБНГ), *па́вадкі* мн. – Маг. р., Лёзн., Чашн., Арш., Тал. (ЛАБНГ), *по́вадзь* ж. – Астр., Валож. (ЛАБНГ), *паво́ддзе* н. – Валож., Ваўк., Кам. (ЛАБНГ), *развод́дзе* н. – Верхнядзв., Брасл., Гарад., Шарк., Шум., Мсцісл. (ЛАБНГ), *ро́звадзь* ж. – Воран. (ЛАБНГ), *разво́дка* ж. – Беласт. (ЛАБНГ), *наво́ддзе* н. – Саліг. (ЛАБНГ), *на́вадка* ж. – Краснап. (ЛАБНГ), *навадне́нне* н. – Шчуч., Рэч. (ЛАБНГ), *нава́льна вада́* – Бераст. (ЛАБНГ), *разлі́ў* м. – зах.-пал. г., Бярэз. р., Маг. р., Слуцк. р., Гом. р., Мёр., Пол., Гарад., Ушацк., Сен., Леп., Смарг., Іўеў., Стаўб., Уздз., Навагр., Гродз., Шчуч., Гл., Ельск., Хойн., Нараўл. (ЛАБНГ), *разлі́ва* ж. – Бярэз., Буда-Каш., Рэч., Маз., Лельч. (ЛАБНГ), *разліве́нь* м. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *залі́ў* м. – Віц., Леп., Хоц., Гродз., Навагр., Шчуч., Жаб., Драг., Малар., Стол., Лельч., Добр., Чач. (ЛАБНГ), *залі́ва* ж. – Бабр., Карм., Светлагор., Рэч., Петр., Лун., Пін., Івац., Кобр. (ЛАБНГ), *зале́ў* м., *зале́ва* ж. – Ашм. (ЛАБНГ), *залі́вы* мн. – Глыб. (ЛАБНГ), *за́лівень* м. і ж. – Рас. (ЛАБНГ), *прылі́ў* м. – Гом. (ЛАБНГ), *ле́я* ж. – Лельч., Хойн., Браг. (ЛАБНГ), *расцёка* ж. – Драг. (ЛАБНГ), *палайні́ча* ж. – Воран. (ЛАБНГ), *пало́й* м. – Бых. (ЛАБНГ), *апла́ва* ж. – Ганц. (СПЗБ), *по́вань* ж. – Віл. (ЛАБНГ), *мула́* ж. – Паст. (ЛАБНГ), *бурчакі́* мн. – Ганц. (ЛАБНГ), *вална́* ж. – Мсцісл. (ЛАБНГ).

### Палой

Вада, якая збіраецца пад снегам.

*пало́й* м. – пал. р. (ЛП), *на́стлыш* м. – Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч), *нажо́р* м. ‘месца, дзе вясной збіраеца пад снегам вада’ – Мсцісл. (Юрчанка).

## Рабінавая ноч

Летняя ці восеньская ноч з громам, маланкай, праліўным дажджом або толькі з бесперапыннымі зарніцамі.

*рабі́навая ноч* – усх.-маг. р., Чэрв. р., Лаг., Смален. р. (Бялькевіч, Варлыга, Дабравольскі, Шатэрнік), *рабі́нава ноч* – мясц. (Станкевіч), *рабі́нная ноч* – Лельч. (Мат. Гом.).

## Раса

Вадзяныя кроплі, якія збіраюцца на паверхні раслін і розных наземных прадметаў вечарам, ноччу і раніцай пры паніжэнні тэмпературы ў цёплую пару года.

*раса́* ж. – агульн., Латгал. р., Смален. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., ЖНшС, Дабравольскі, Юрчанка, Мат. апыт.);
**кропля расы**: *расі́на* ж., *расі́нка* ж. памянш. – Віц. р. (Каспяровіч, Насовіч), *расі́начка* ж. памянш., *расі́ца* ж. памянш., *парасі́нка* ж. – мясц. (Насовіч).

## Слата, слота

Вільготнае надвор'е з дажджом і мокрым снегам.

*сло́та* ж., *слата́* ж. – зах. з., Чэрв. р., спарадычна паўдн.-усх. з., Тал., Круп., Вілен. р., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., ЖНС, Варлыга, Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік), *слёта* ж. – Мядз., Віл., Маладз., Лаг., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ), *слюта́* ж. – Гом. р., Люб., Стол., Жлоб. (ЛАБНГ, НС, Н. слсць), *слю́та* ж. – Паст., Стол., Жлоб., Раг., Карм. (ЛАБНГ, СПЗБ, Насовіч), *шлю́та* ж. – Карм. (Мат. Гом.), *слоць* ж. – Астр., Смарг., Валож., Стаўб., Нясв., Клецк., Дзятл., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз.), *шлоць* ж. – Лях. (ЛАБНГ), *слёць* ж. – Нясв. (ЛАБНГ), *слець* ж. – Клецк. (ЛАБНГ), *шляць* ж. – Верхнядзв., Пол., Мёр. (ЛАБНГ, СПЗБ), *слюго́та* ж. – Лаг. (Варлыга), *шліго́та* ж. – Брасл. (Мат. апыт.), *шлюхо́та* ж. – Стол., Жытк. (ТС), *сліхо́та* ж., *шліхо́та* ж. – Пух.

(Шатэрнік), *сляко́та* ж. – Карэл., Бяроз. (ЛАБНГ, ЖНС), *слакі́та* ж. – Івац. (ЛАБНГ, ДСБ, НС), *сля́каць* ж. – пал. р., Ушацк., Барыс., Чэрв., Клім., Чэрык., Карэл., Стаўб. (ЛАБНГ), *сля́хаць* ж. – Лельч. (ЛАБНГ), *хля́каць* ж. – Брэсц., Стол., Гом., Добр. (ЛАБНГ, ТС), *кля́каць* ж. – Слон. (ЛАБНГ), *шля́каць* ж. – Верхнядзв., Рас., Гарад., Шум., Лёзн., Лаг., Івац., Брэсц., Стол., Лун., Жытк., Карм. (ЛАБНГ, ТС, Каспяровіч), *шля́хаць* ж., *шля́кіць* ж. – Стол., Жытк. (ТС), *сля́касць* ж. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *хля́касць* ж. – Акц., Маз. (ЛАБНГ), *хля́ка* ж. – Слуцк., Рэч. (ЛАБНГ), *шля́ка* ж. – Гарад. (ЛАБНГ), *хля́па* ж. – Паст., Глыб., Ушацк., Мёр., Чашн., Леп., Арш., Мядз., Лаг., Смарг., Іўеў., Валож., Стаўб., Дзярж., Навагр., Уздз., Клецк., Бял., Касц., Асіп., Бабр., Жлоб., Добр., Рэч., Лельч., Стол., Лун., Драг., Лях. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., Мат. Гом., НС, Варлыга, Станкевіч, Шаталава), *хля́ба* ж. – Маг. р., усх.-маг. р., Гом. р., спарадычна Бярэз. р., Верхнядзв., Арш., Кір., Старадарож. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гом., НС, Бялькевіч, Шаталава, Юрчанка), *хлёба* ж. – Свісл. (Сл. Гродз.), *хлёпанка* ж. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *хлі́па* ж. – Ганц. (ЛАБНГ), *хліпані́на* (*хлепані́на*) ж. – Мёр., Глыб., Віл., Драг., Малар. (СПЗБ, ДСБ, НЛ, ЛП, Н. сл-сць), *хля́паніна* ж. – Глыб., Віл., Лаг., Чэрв., Драг., Кобр., Жаб., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ), *хля́піна* ж. – Навагр. (ЛАБНГ), *хля́паніца* ж. – Віл., Баран. (ЛАБНГ, СПЗБ), *хляпо́та* ж. – Івац., Раг. (ЛАБНГ, Мат. Гом.), *хлепата́* ж. – Мёр., Шчуч. (ЛАБНГ), *хлепатня́* ж. – Іван. (ЛАБНГ), *хліпаце́нь* ж. – Брасл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *хляпо́цце* н. – Гор., Раг. (ЛАБНГ, Мат. Гом.), *хля́паць* ж. – Докш., Тал., Іван. (ЛАБНГ, СПЗБ), *хля́баць* ж. – Бых. (ЖНС), *хлебаці́нне* н. – Барыс. (Мат. мін.-мал.), *хля́пасць* ж. – Бярэз., Гл. (ЛАБНГ), *хля́паўка* ж. – Смарг. (СПЗБ), *хля́пска*(*я*) *паго́да* – Мёр., Маладз., Валож., Пін. (ЛАБНГ), *хлёбска* ж. – Петр. (Мат. Гом.), *хля́стка* ж. – Верхнядзв. (СПЗБ), *хлю́па* ж. – усх.-маг. р., Лаг., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ, Бялькевіч, Насовіч, Станкевіч), *хлюпо́та* ж. – Карэл., Люб., Лельч., Акц. (ЛАБНГ, СНМ, Мат. Гом.), *хлю́паўка* ж. – Пін., Малар. (ЛАБНГ, НЛ), *хлю́шча* ж. – Ветк. (ЛАБНГ), *хлюць*

ж. – Акц. (Мат. Гом.), *пляха* ж. – Драг. (ЛП), *пляга* ж. – Гродз., Пруж., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, З нар. сл.), *хляга* ж. – Гом., Лоеў., Нараўл. (ЛАБНГ, Янкова), *фляга* ж. – Стол., Вілен. р. (СПЗБ, ТС), *плягóта* ж. – Пруж. (ЛАБНГ), *пляхóта* ж., *пляханíна* ж. – Бяроз. (ЛАБНГ), *плюхóта* ж. – Лаг., Стол. (ЛАБНГ, Варлыга), *плюхатá* ж. – Навагр., Шчуч. (НЛ, Н. сл-сць), *плюта* ж. – Маст., Дзятл., Слон., Зэльв., Драг., Кобр., Малар. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, НЛ, СНМ), *плюгóцька* ж. – Віл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *плюжсыла* н. – мясц. (Станкевіч), *шляпа* ж. – Беш., Сен., Тал., Кам. (ЛАБНГ), *шляпóта* ж. – Смарг., Мсцісл., Карм., Лун. (ЛАБНГ, З нар. сл., Шаталава), *шляпаць* ж. – Гарад. (ЛАБНГ), *шляпóцце* н. – Віц., Сен., Мёр. (ЛАБНГ), *шляпанíна* ж. – Брасл., Пол., Кам., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ), *шляпаўка* ж. – Смарг., Астр. (ЛАБНГ, СПЗБ), *шляпанка* ж. – Шарк. (ЛАБНГ), *шлёпанка* ж. – Мёр. (ЖНС), *шлюпа* ж. – Раг. (ЛАБНГ), *шалíпа* ж. – Лёзн. (Каспяровіч), *шáліпа* ж. – мясц. (Станкевіч), *халíпа* ж. – Латгал. р. (СПЗБ), *халéпа* ж. – Маз., Светлагор., Акц., Калінк., Ветк. (Мат. Гом.), *хáліпа* (*хáлепа*) ж. – Слуцк. р., спарадычна ўсх. з. (пераважна Маг. р. і Гом. р.), Шарк., Мін., Навагр., Капыл., Ганц., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, НС, Н. сл-сць, Бялькевіч, Варлыга, Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч, Шаталава, Шатэрнік, Юрчанка), *халіпá* ж. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *хáлеба* ж. – Асіп., Ветк. (ЛАБНГ), *хáлепаць* ж. – Добр. (ЛАБНГ), *лéпа* ж., *лёпа* ж. – Лід. (ЛАБНГ, СРЛГ), *ляпа* ж., *ляпушка* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *ляпаўка* ж. – Смарг. (СПЗБ), *ляпóта* ж. – Стол. (ТС), *ляплёнка* ж. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *лепанíна* ж. – Ганц. (СПЗБ), *слéпаць* ж., *слéпяць* ж. – Дзятл. (ЛАБНГ, ЖС), *хвілéпіца* ж. – Акц. (Мат. Гом.), *хвальбá* ж. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *брызгóта* ж. – Гродз., Дзятл. (ЛАБНГ, ЖС, Цыхун), *брызкóта* ж. – Капыл. (СПЗБ), *пляскóта* ж. – Івац. (ЛАБНГ), *растарóпа* ж. – Паст. (СПЗБ), *растарóпіца* ж. – Калінк. (СПЗБ), *рóскалле* н. – Кам., Драг. (ДСБ, ЛП), *абліваха* ж. – Чэрв. р., Гом. (ЛАБНГ, Шатэрнік), (*в*)*óкідзь* ж. – Ваўк. (ЛАБНГ, СПЗБ), *кіжаль* м. – Шум. (ЛАБНГ, СПЗБ), *золь* ж. – Беш., Лаг., Круп. (ЛАБНГ, Варлыга, Каспяровіч),

*зала́* ж. – Сен. (Каспяровіч), *ша́рга* ж., *ша́ргавіца* ж. – Драг. (ЛП), *чарга́* ж. – Малар. (ЛАБНГ), *мязга́* ж., *мязка́* ж. – Жытк (ТС), *мя́ча* ж. – Хоц. (ЛАБНГ), *макратэ́ча* ж. – Бяроз., Драг. (ЛАБНГ, ЛП), *мо́крацъ* ж. – Гродз. (Цыхун), *мо́кра паго́да* – Бераст., Пін. (ЛАБНГ), *сыра́я паго́да* – Лоеў. (ЛАБНГ), *гніла́я паго́да* – Шчуч. (ЛАБНГ).

## Снег

Атмасферныя ападкі ў выглядзе белых камячкоў, якія складаюцца з зорачкападобных крышталікаў; суцэльная маса такіх ападкаў, што пакрывае пэўную прастору.

*снег* м., *сняжо́к* м. памянш. – агульн., Смален. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., ЖНшС, Дабравольскі, Шатэрнік, Мат. апыт.), *снягі́* мн. – Смален. р. (Дабравольскі), *сняжы́нка* ж. ‘адзін снежны крышталік’ – Ваўк. (Мат. Гродз.), *паро́ша* ж. ‘снег, які толькі што выпаў’ – Калінк., Раг. (СПЗБ), *на́вісь* (*на́вясь*) ж. ‘снег, які ляжыць на дрэвах’ – Дзятл. (ЖС), *по́дліп* ж. ‘снег, які прыліп да галінак дрэў і інш. у час адлігі’ – Смален. р. (Дабравольскі), *набо́й* ‘снег на дарозе, утрамбаваны конскімі капытамі’ – Гродз. (Цыхун), *труса́* ж. ‘густы сняжок’ – Бераст. (Сл. Гродз.), *во́кідзь* ж. ‘густы снег, які падае камякамі’ – Гл. (Янкоўскі), *снегаві́ца* ‘густое снежнае покрыва’ – Стаўб. (Мат. мін.-мал.), *паро́шка* ж. ‘вельмі дробны сняжок’, *на́рап* м. ‘дробны, пухкі снег, які храбусціць пад палазамі саней’ – мясц. (Насовіч), *веснаві́к* м. ‘веснавы снег з марозам’ – Бераст. (Сл. Гродз.);

**дробны цвёрды сухі снег**: *кру́пы* мн. – Беш. (Каспяровіч, Станкевіч), *крупа́* ж. – Кобр. (ЖНшС), *сыпу́н* м. – Чэрв. (СПЗБ, НЛ), *брызго́ль* м. – Гродз., Старадарож. (СПЗБ, НС), *брызгу́ль* м. – Гродз. (СПЗБ), *се́ран* м. – Беш. (Каспяровіч), *галадзі́ца* ж. – Кобр. (ЖНшС), *се́нечнік* м. – Карэл. (Сл. Гродз.);

**вязкі, падталы снег**: *шалёпа* ж. – Лід. (Сл. Гродз.), *растаро́па* ж. – Лаг. (Варлыга);

**снег (веснавы або восеньскі), які ляжыць нядоўга (некалькі дзён), а потым растае**: *зазі́мак* м. – Пух., Бял. (ЖС, Мат. дыял. сл.), (*в*)*о́кід* м. – пал. р. (ЛП);

**апошні снег**: *падскро́бак* м. – Лаг., Круп. (СЦБ), *падме́цце* н. – Бярэз., Навагр., Раг. (Мат. Гом., СЦБ, СРЛГ), *змё-так* м. – Чач. (Мат. Гом.), *апо́шні снег* – Воран. (Мат. Гродз.);

**гурба снегу**: *гу́рба* ж. – паўн.-зах. з., Чэрв. р., спарадычна зах.-пал. г. (пераважна заходняя частка), Верхнядзв., Чашн., Бял., Бых., Асіп., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНшС, Каспяровіч, Станкевіч, Шатэрнік), *гу́рбачка* ж. памянш. – мясц. (Станкевіч), *гурба́* ж. – Бял., Бых., Добр., Стол. (ЛАБНГ, Станкевіч), *гу́рма* ж. – Жаб. (ЛАБНГ), *гу́рбіна* ж. – Мёр. (ЛАБНГ), *гурба́н* м., *гурбаны́* мн. – Маст. (ЛАБНГ, СПЗБ), *го́рба* ж. – Гродз., Маст. (СПЗБ, Цыхун), *гарбя́к* м. – Бял. (НС), *гу́ра* ж. – паўдн.-усх. з., Чэрв. р., зах.-пал. г., за выключэннем заходняй часткі, Уздз., Навагр., Капыл., Зэльв., Слон., Свісл., Баран., Лях., Ганц., Пруж. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Сцяцко, Шатэрнік, Янкоўскі), *гуро́віца* ж. – Стол. (ЛАБНГ), *сумёт* м. – Віц. р., Рас., Тал., Гор., Шкл., Мсцісл., Чав., Клім., Чэрык., Краснап., Стаўб., Карм., Добр., Браг. (ЛАБНГ, СПЗБ, Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч), *замёт* м. – Драг., Беластоц. р. (СПЗБ, ЛП), *заме́цце* н. – Драг. (ЛП), *намёт* м., *намёцік* м. памянш. – Мсцісл. (Юрчанка), *на́мець* ж. – Стол. (ТС), *суве́й* м. – Лаг., Барыс., Чэрв. (ЛАБНГ, СПЗБ, Варлыга, Шаталава), *суме́й* м. – Лаг. (Варлыга), *снегаве́й* м. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *сугро́б* м. – віц.-маг. г., Гом. р., Мёр., Навагр., Карэл., Івац. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сагро́б* м. – Касц. (ЛАБНГ), *курга́н* м. – Брасл., Навагр., Карэл., Гродз., Дзятл., Ваўк., Бераст., Бял., Асіп., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *гру́д* м. – Слаўг. (ЛАБНГ), *угру́д* м. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *варахі́* мн. – Петр. (ЛАБНГ), *курпялі́* мн. – Навагр. (СРЛГ), *сяро́н* м. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *і́верань* м. – Мсцісл. (Юрчанка), *падды́мка* ж. 'снежны занос' – Віц. р. (Каспяровіч), *кутры́жка* ж. 'ком снегу' – Чэрв. р. (Шатэрнік).

**Снегапад**: *сняго́віца* ж. – Стаўб. (Мат. мін.-мал.), *сняжні́ца* ж. – Лаг. (Варлыга), *плю́та* ж. – Драг. (З нар. сл.), *сляпы́ снег* 'снегапад пры яркім сонцы' – Бераст. (Сл. Гродз.).

**Праталіна**: *праталіна* ж. – Лаг. (Варлыга, Насовіч), *прыта́лка* ж. – Лаг. (Варлыга), *таліна́* ж. – Слон., Малар. (Сл. Гродз., НЛ), *раста́лле* н. – Стол. (НЛ), *смуга́* ж. ‘асадак смецця на месцы талага снегу’ – Іўеў. (Сл. Гродз.).

## Сонца

Нябеснае свяціла ў выглядзе вогненнага шара, вакол якога круціцца Зямля і іншыя планеты нашай Галактыкі; святло, цяпло, якое вылучаецца гэтым свяцілам.

*со́нца* (*со́ўнца*) н. – агульн., Смален. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., СНМ, Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Растаргуеў, Шатэрнік, Мат апыт.), *со́нейка* н. памянш. – паўдн.-зах. д. (за выключэннем Гродз. р.), спарадычна паўн. р., Бял., Кліч., Віл. (ЛАБНГ, СПЗБ, Каспяровіч, Насовіч), *со́ннейка* н. памянш. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *со́ўнейка* (*со́лнейка*) н. памянш. – сярэд.-бел. г., Маг. р., Шарк., Беш., Докш., Дубр. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. мін.-мал., Шатэрнік), *со́ўйка* н. памянш. – Барыс. (ЛАБНГ), *со́ўненька* н. памянш. – Пол., Ушацк., Чашн., Маладз., Крыч. (ЛАБНГ, ЖС, Каспяровіч), *со́ўнека* н. памянш. – Слаўг., Маз., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, Растаргуеў), *со́нека* н. памянш. – Драг., Жытк. (ЛАБНГ), *со́ненька* н памянш. – Свісл., Бяроз. (ЛАБНГ, Насовіч), *со́нечка* н. памянш. – зах.-пал. г., Акц. (ЛАБНГ), *со́нчака* н. памянш. – Чэрык. (ЛАБНГ), *со́нцайка* н. памянш. – Бых. (ЛАБНГ), *со́ннушка* н. памянш. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *со́ўнушка* (*со́лнушка*) н. памянш., *со́ўнышка* (*со́лнышка*) н. памянш. – спарадычна ўсх. з., Мёр. (ЛАБНГ), *сло́нца* (*сло́ньца*) н. – паўн.-зах. з., Лях., Латгал. р., Вілен. р., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, Мат. Гродз., ЖС, З нар. сл., Н. сл-сць, Цыхун), *сло́нейка* н. памянш. – Паст., Смарг., Ашм., Валож., Шчуч., Стаўб., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сло́ўнейка* н. памянш. – Валож. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сло́ненька* н. памянш. – Брасл. (ЛАБНГ), *сло́нечка* н. памянш. – Воран., Маст. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сло́начка* н. памянш. – Гродз. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сло́нка* н. памянш. – Гродз., Беластоц. р.

(ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Цыхун), *каро́на* ж. – Віц. р. (Каспяровіч), *быстра со́нца* 'вельмі яркае сонца' – Драг. (ЛП), *прысо́нне* н. 'кола вакол сонца' – Драг. (ЛП), *прысло́нне* н. 'чырвоны слуп над сонцам на заходзе' – Кобр. (НЛ).

**Сонечны прамень**: *про́мень* м. – Воран., Слон. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *прэ́мень* м. – Саліг. (Н. сл.-сць), *каса́* ж. – Чэрв. р., Лаг. (СПЗБ, Варлыга, Шатэрнік), *мятла́* ж. – Брэсц. (НЛ), *луч* м. – Кобр., Беластоц. р. (СПЗБ, СНМ), *пага́ра* ж. 'пукі сонечных праменняў над воблакамі' – Валож. (СЦБ), *мётлы* толькі мн. 'сонечныя палосы-праменні паміж хмарамі' – Брэсц. (НЛ).

**Спёка**, **спякота**, гл. **Гарачыня**

## Сузор'е

Участак неба з групай зорак, аб'яднанай агульнай назвай.

**Вялікая Мядзведзіца**: *Мядзве́дзіца* ж. – цэнтр. з., Пол., Ушацк., Ганц., Івац., Кобр., Маз., Лельч. (ЛАБНГ, ЖНшС, Мат. апыт.), *Вялі́кая Мядзве́дзіца* – Верхнядзв., Ушацк., Віл., Карэл., Чэрв., Раг., Чэрык., Касц., Слуцк., Люб., Добр., Хойн., Нараўл., Кобр. (ЛАБНГ), *Бальша́я Мядзве́дзіца* – Маг. р., усх.-маг. р., Ушацк., Барыс., Баран., Карм., Лельч. (ЛАБНГ), *Вядзьме́дзіца* ж. – Іўеў., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ), (*Вялі́кі*) *Воз* м. – зах. з., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., ЖНшС, Цыхун), *Іллёў Воз* – Чашн. (Каспяровіч), *Папуля́рны Воз* – Іўеў. (ЛАБНГ), *Во́зік* м. – Пін., Стол. (ЛАБНГ), *Віза́к* м. – Лід. (ЛАБНГ), *Аліяшо́ва Паво́зачка* – Смарг. (СПЗБ), *Калёсы* мн. – Брасл. (ЛАБНГ), *Бальшы́я Калёсы* – Карм. (ЛАБНГ), *Калясні́ца* ж. – Глыб., Хоц., Іван., Малар. (ЛАБНГ, СПЗБ), *Каля́ска* ж. – Беластоц. р. (СПЗБ), *Гражуля́ Ко́лы* – Астр. (ЛАБНГ, СПЗБ), *Конь* м. – Верхнядзв. (ЛАБНГ, СПЗБ), *Конь з Вазо́м* – Мёр. (ЖНС), *Воз з Канём* – Гродз. (ЛАБНГ), *Воз і Конь* – Бяроз. (ЛАБНГ), *Конь і Калёсы* – Леп. (ЛАБНГ), *Пасажы́ркі* мн. – Чач. (ЛАБНГ, ЖС), *Кош* м. – Драг. (ЛАБНГ,

НЛ), *Коўш* м. – Паст., Мёр., Гарад., Віц., Барыс., Бераст., Зэльв., Чэрв., Слуцк., Бых., Чач., Лельч. (ЛАБНГ), *Коўшык* м. – Пух., Уздз., Капыл., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ), *Чаша* ж. – Бял. (ЛАБНГ, НС), *Палойнік* м. – Гарад. (ЛАБНГ, НЛ), *Сіта* н. – Баран. (СПЗБ), *Сітка* н. – Смарг., Гродз., Шчуч., Зэльв., Баран., Мін. (ЛАБНГ, СПЗБ), *Сітца* н. – Рас., Пол., Ушацк., Лаг., Докш., Віл., Паст., Астр., Смарг., Маст., Стаўб., Дзярж., Капыл. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз.), *Сітцо* н. – Астр. (Мат. Гродз.), *Сіточка* н. – Воран., Ваўк. (ЛАБНГ, СПЗБ), *Рэшата* н. – Вілен. р. (СПЗБ), *Рашотка* ж. – Кір. (ЛАБНГ), *Рандэлечак* м. – Валож. (ЛАБНГ), *Папрыца* ж. – Акц. (ЛАБНГ), *Стажар* м. – Бых., Лун. (ЛАБНГ), *Стажары* мн. – Карэл., Стаўб., Бярэз., Гл. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *Стажар'е* н. – Гродз. (Сл. Гродз.), *Сажор* м. – Бял. (ЛАБНГ), *Вісажор* м. – Слаўг., Чэрык., Краснап., Карм. (ЛАБНГ), *Вісажар* м. – Маг. р., усх.-маг. р., Гом. р., Арш., Дубр., Круп., Шчуч. (ЛАБНГ), *Валасажар* м. – усх.-пал. р. (ЛАБНГ), *Валасазар* м. – Стол. (ЛАБНГ), *Валасажор* м. – Ветк. (ЛАБНГ), *Валосы* мн. – Шум. (ЛАБНГ), *Валосны* мн. – Гарад. (ЛАБНГ), *Касцы* мн. – Валож., Нясв., Пруж., Кам. (ЛАБНГ), *Касары* мн. – Івац., Кобр., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СНМ), *Шасцёрка* ж. – Круп. (ЛАБНГ), *Семярычкі* мн. – Асіп. (ЛАБНГ), *Семізвездзіца* ж. – Барыс., Жлоб. (ЛАБНГ, СПЗБ), *Майсаш* м., *Піясаш* м. – Тал. (ЛАБНГ).

**Малая Мядзведзіца**: *Каромісла* н. – Мёр., Гродз. (СПЗБ, ЖНС), *Коўшык* м. – Буда-Каш., Добр. (Мат. Гом.), *Вышазар* м., *Стожар'е* н. – Смален. р. (Дабравольскі).

**Плеяды**: *Сіцечка* н. – Гродз., Шчуч. (НЛ, Цыхун), *Сіцяцка* н. – Гродз. (СПЗБ), *Сітца* н. – Мёр., Докш., Мядз. (СПЗБ, ЖНС), *Сітцо* н. – Чэрв. р., Паст., Уздз., Клецк., Лях., Вілен. р. (СПЗБ, Шатэрнік, Мат. апыт.), *Стажар* м. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *Валасажар* м. – Раг., зах.-бран. р. (СПЗБ, Растаргуеў), *Вісажар* м. – Бял. (НС, Н. сл-сць), *Велісазар* м. – Сен. (Каспяровіч), *Купка* ж. – Драг. (ЛП),

*Ку́рачка* ж. – Кам. (ЖНшС), *Ку́рачкі* толькі мн. – Беластоц. р. (СПЗБ).

**Пояс Арыёна**: *Гра́блі* мн. – Віц. р. (Каспяровіч), *Каро́місел* м., *Каро́місла* н. – Сен. (Каспяровіч), *Касцы́* мн. – Віц. р., Астр., Іўеў., Воран., Лід., Шчуч., Клецк., Латгал. р., Беластоц. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., Каспяровіч, Мат. апыт.), *Касары́* мн. – Кобр., Лельч. (НЛ, ЖНшС).

**Назвы асобных сузор'яў**: *Каза́* ж. – Гарад. (НЛ), *Крыж* м. – Жлоб. (Мат. Гом.).

**Сцюжа**, гл. **Мароз**

## Туман

Згушчэнне вельмі дробных кропелек вады або ледзяных крышталікаў у прыземных пластах атмасферы, што робіць паветра непразрыстым.

*тума́н* м. – усх.-маг. р., Смарг., Чэрв., Кобр., Жытк., Вілен. р. (СПЗБ, ТС, ЖНшС, Бялькевіч), *тума́нь* ж. – Стол. (ДСБ, НЛ), *тма* ж. – мясц. (Насовіч), *смуга́* ж. – Лаг., Смарг., Воран. (СПЗБ, Варлыга), *сму́га* ж. – Драг. (СНМ), *імгла́* ж. – усх.-маг. р., Маст. (СПЗБ, Бялькевіч), *мыгла́* ж. – Мядз., Маладз. (ЛАБНГ, СЦБ), *мла* ж. – Брэсц., Бяроз. (ДСБ, Шаталава), *імга́* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *на́вісь* ж. – Хойн. (Шаталава), *рось* ж. – мясц. (Станкевіч), *шумо́чак* м. памянш. – Воран. (СПЗБ), *курэ́ц* м. – Лаг. (Варлыга), *зыза́р* м. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *зэс* м. – Навагр. (Сл. Гродз.), *сма́га* ж. 'імгла на гарызонце ўлетку ў спякотны час' – мясц. (Станкевіч);

**густы туман, туманнасць**: *тума́нішча* ж. – Акц. (Мат. Гом.), *цямра́васць* ж. – Іўеў. (Сл. Гродз.);

**туманнае акружэнне Месяца**: *ко́ла* н. – Вілен. р. (СПЗБ), *круг* м. – Слон. (Мат. Гродз.).

## Хмарнасць

Стан надвор'я, які характарызуецца згушчэннем хмар, воблачнасцю.

*хма́рнасць* ж. – мясц. (Станкевіч), *хмарната́* ж. – Паст. (ЛАБНГ, СПЗБ), *хма́ра* ж. – Пол. (ЛАБНГ), *хму́рны дзень* – Кобр. (ЖНшС), *па́смурная паго́да* – Хойн. (ЛАБНГ), *цьмя́ная паго́да* – Іўеў. (ЛАБНГ), *це́мнач* ж. – Дзятл. (СПЗБ), *па́мжа* ж. – мясц. (Станкевіч), *мяшо́к* м. – Кам. (ЖНшС), *кула́жанне* н. – Мсцісл. (Юрчанка), *ціхі́нь* ж. 'пахмурнае, але ціхае надвор'е' – мясц. (Насовіч), *цень* ж. 'пахмурнае і дажджлівае надвор'е' – Мёр. (СПЗБ).

## Холад

Адносна нізкая тэмпература навакольнага асяроддзя (паветра, вады і пад.); халоднае надвор'е.

*хо́лад* м. – усх.-маг. р., Брасл., Смарг., Мядз., Мін., Пух., Стол., Жытк., Вілен. р., Латгал. р. (СПЗБ, ТС, Бялькевіч, Станкевіч), *зімната́* ж. – Брасл., Іўеў., Вілен. р. (СПЗБ, Мат. мін.-мал.), *зі́мнасць* ж. – мясц. (Насовіч), *зімно́* н. – Смарг., Ашм., Іўеў., Беластоц. р. (СПЗБ), *стынь* ж. – Мсцісл., Чав., Бых. (Мат. Маг., Юрчанка), *стыль* ж. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *сты́ліца* ж. – Чав., Бых. (Мат. Маг.), *асту́да* ж. – Астр. (СРЛГ), *зяб* м. – Жытк. (ТС), *ду́бар* м. экспр. – Зэльв., Ваўк., Люб. (СРЛГ, ЖС), *лі́ха* н. – Смален. р. (Дабравольскі), *зю́зя* ж. дзіц. – Чэрв. р., Мсцісл., Астр., Гродз., Клецк., Стол., Гл., зах.-бран. р. (ТС, Мат. Гродз., НЛ, Нар. скарбы, Насовіч, Растаргуеў, Цыхун, Шатэрнік, Юрчанка, Янкоўскі), *зю́зька* ж., *зю́зечка* ж. памянш. – Чэрв. р. (Насовіч, Шатэрнік), *склём* м. – Круп. (Мат. мін.-мал.), *бры́зклая паго́да* – Лоеў. (Янкова), *халады́* мн. 'халодны час, перыяд' – Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч); *ся́драва* ж. 'халаднаватае надвор'е' – мясц. (Насовіч), *халадо́к* м. 'неспякотны час' – мясц. (Станкевіч), *адхла́н* м., *адхла́нь* ж. 'прахалода ў спёку' – мясц. (Насовіч);

**моцны холад**: *халадэ́ча* ж. – Чэрв. р., Лаг., Драг. (СПЗБ, ЛП, Шатэрнік), *халадзе́ча* ж. – Стол. (ТС), *халадне́ча* ж. – Драг., Жытк., Лоеў., Браг. (ТС, Мат. Гом., СНМ, Янкова), *халадзі́на* ж. – Мёр., Брасл., Паст., Баран., Акц., Ветк., Ельск., Жытк. (СПЗБ, ТС, Мат. Гом., НС), *халадзі́ла* ж. – Пух. (Мат. мін.-мал.), *халадзі́шча* н. – Зэльв., Жытк. (ТС, Мат. Гродз.), *халадні́шча* н. – Жытк. (ТС), *хало́да* ж. – Добр. (Мат. Гом.), *хало́дніца* ж. – Зэльв. (СРЛГ, Н. сл-сць), *бальшы́ хо́лад* – Пол., Стаўб. (ДАБМ), *зі́мнасць* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *зімната́* ж. – Іўеў. (СЦБ), *сцю́дзіна* ж. – Паст. (ЛАБНГ), *сты́ліца* ж. – Бял. (Яўсееў), *сты́нішча* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *дубарэ́ча* ж. – Гродз. (СРЛГ), *сі́вер* м. – Мёр., Беш., Докш., Леп., Лаг., Мядз., Мін., Пух., Бярэз., Стаўб., Уздз., Карэл., Бабр., Слуцк., Саліг., Жытк. (ДАБМ), *сі́верная паго́да* – Асіп. (ДАБМ), *залко́та* ж. – Бял. (ЛАБНГ), *кальжэ́нне* н. неадабр. – Мсцісл. (Юрчанка), *бры́на* ж. – Лід. (СРЛГ), *зе́мзя* ж. дзіц. – Стол. (ТС), *буй* м. ‘халадэча з ветрам’ – Мсцісл. (Юрчанка).

## Шарон, шарпак

Абледзянелая скарынка на паверхні снегу.

*шаро́н* м. – Ашм., Воран., Іўеў., Валож., Ваўк., Асіп., Люб., Старадарож., Жытк., Петр. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гом., НС), *шрон* м. – Паст. (ЛАБНГ), *чаро́н* м. – Гом., Лоеў. (ЛАБНГ, Янкова), *шарано́к* м. – Мядз., Віл., Ашм., Валож. (ЛАБНГ, СПЗБ), *шаро́нь* м. і ж. – Лаг. (СПЗБ), *шары́н* м. – Слуцк. (ЛАБНГ), *шару́н* м. – Чэрв. р., Бярэз. р., Чашн., Бял., Бых., Раг. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. дыял. сл., Станкевіч, Шатэрнік), *шаруно́к* м. памянш. – Бял. (Мат. дыял. сл.), *шарэ́н* м. – усх.-пал. р., Слуцк. р., Чэрык. (ЛАБНГ, ТС), *шарэ́нь* м. і ж. – Клецк., Саліг., Хойн., Нараўл., Браг. (ЛАБНГ), *шэ́ран* м. – Шарк., Ушацк., Мядз., Петр. (ЛАБНГ), *шэ́рана* ж. – Мядз. (ЛАБНГ), *шэ́рань* м. і ж. – Мядз., Віл., Маладз., Лаг., Барыс., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. дыял. сл., Варлыга), *шэ́рашань* м., *шарэ́шань* м. – Бял. (ЛАБНГ, НС),

мясц. (Станкевіч), *пацерушыць* зак. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *церусíць* незак. – Шчуч., Пруж., Драг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *трусíць* незак. – Іўеў., Зэльв., Смален. р. (ЛАБНГ, Н. сл-сць, Дабравольскі), *трýсіць* незак. – усх.-маг. р., Карэл., Навагр. (СПЗБ, Бялькевіч), *рýсіць* незак. – Клім. (ЛАБНГ), *парашыць* незак. – мясц. (Насовіч), *сíціць* незак. – Мсцісл. (Юрчанка), *курыць* незак. – Іван., Драг., Стол. (ЛАБНГ, НЛ, Станкевіч), *кýрыць* незак. – мясц. (Станкевіч), *курыцца* незак. – Пол. (ЛАБНГ), *закурыцца* зак. – Шчуч. (СПЗБ), *пылíць* незак. – Шчуч. (СПЗБ), *дылéць* незак. – Уздз. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *пырхаць* незак. – Ашм. (СПЗБ), *пыршчыць* незак. – Чэрв. (СПЗБ), *пырскаць* незак. – Брасл. (СПЗБ), *пярсклíць* незак. – Смален. р. (Дабравольскі), *брыскаць* незак. – Беластоц. р. (СПЗБ), *брысаць* незак. – Вілен. р. (СПЗБ), *брыняць* незак. – Паст. (СПЗБ), *блюзнíць* незак., *блюзнéць* незак. – Брэсц. (ЛАБНГ), *кýзявіць* незак. – Малар. (ЛАБНГ), *сіпéць* незак. – Гродз., Лун., Маз. (ЛАБНГ), *сыпаць* незак. – Валож., Гродз., Пруж. (ЛАБНГ), *íліць* незак. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *ісцí* незак. – Гор., Віл., Іўеў., Воран., Стол., Браг., Раг. (ЛАБНГ).

## Ісці, падаць (пра дождж, град, снег)

Кáпаць, цячы; ляцець.

**Ісці (пра дождж)**: *ісцí* незак. – агульн., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Станкевіч), *хадзíць* незак. – Пух. (СПЗБ), *пáдаць* незак. – Гродз. р., Брасл., Лаг., Дзятл., Старадарож., Ганц., Брэсц., Кам., Малар., Пін., Стол., Ельск. (ЛАБНГ, СПЗБ), *курыцца* незак. – Беш. (Каспяровіч), *сыпаць* незак. – Віл., Гродз. (СПЗБ), *слóціць* незак. – Воран. (СПЗБ), *сабанíць* незак. – Лід. (СРЛГ), *лапатáць* незак. ‘ідучы, натыкацца на розныя прадметы’ – Лаг. (Варлыга);

**пайсці, пачацца**: *пайцíць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *упáсці* незак. – Стол., Жытк. (ТС), *закурыцца* зак. – Беш. (Каспяровіч), *зашавалíць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *прысыпаць* зак., *прышпáрыць* зак. – зах.-бран. р. (Растаргуеў),

*сыпанýць* зак., *сыпнýць* зак. 'пачацца нечакана і на кароткі час' – Мсцісл. (Юрчанка);

**пырскаць, крапаць (пра дробны дождж)**: *пы́рскаць* незак., *папы́рскаць* зак. – Чэрв. р., Брасл., Смален. р. (СПЗБ, Дабравольскі, Насовіч, Шатэрнік), *пры́скаць* незак., *папры́скаць* зак. – Смален. р. (Дабравольскі, Насовіч), *пы́рхаць* незак. – Ашм. (СПЗБ), *пыршчáць* незак., *пы́ршчыць* незак. – Чэрв. р. (СПЗБ, Шатэрнік), *пыршчэ́ць* незак. – мясц. (Станкевіч), *бры́скаць* незак., *пабры́скаць* зак. – Беластоц. р. (СПЗБ, Насовіч), *прабры́знуць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *бры́гаць* незак., *пабры́гаць* зак. – Пол. (НЛ), *пабрыгáць* зак. – Старадарож. (Нар. скарбы), *бы́рзаць* незак., *бы́рзгаць* незак. – Верхнядзв. (СПЗБ), *кра́паць* незак. – Ваўк., Пруж., Вілен. р. (СПЗБ), *крапáць* незак. – Драг., Стол. (СПЗБ), *крапі́ць* незак. – Гродз., Лельч. (СПЗБ, НЛ), *пакрапі́ць* зак. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *пакрóпіць* зак. – Верхнядзв., Паст. (СПЗБ), *крапацéць* незак. – Зэльв. (ЖС), *крапяня́ць* незак. – Воран. (СПЗБ), *кáпаць* незак. – Гродз. (СПЗБ), *хля́паць* незак. – Астр. (СПЗБ), *сы́паць* незак. – Пол. (ЛАБНГ), *трусі́ць* незак., *пратрусі́ць* зак., *папáрхіваць* незак. – Смален. р. (Дабравольскі), *дылéць* незак., *падылéць* зак. – Чэрв. (СПЗБ), *злі́гаць* незак. 'падаць па кроплі' – Кобр. (СНМ), *сіпéць* незак. 'ціха шамацець (пра дробны дождж) – Гродз. (СПЗБ, З нар. сл.);

**пачаць крапаць**: *пы́рснуць* зак., *пырсканýць* зак., *прысканýць* зак. *брысканýць* зак. – мясц. (Насовіч), *запы́рскаць* зак. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *заматрашы́ць* зак., *зацýрываць* незак., *зацýрыць* зак., *патрусі́ць* зак., *хлёпнуць* зак. – Смален. р. (Дабрáвольскі);

**ісці, падаць моцна ці на працягу доўгага часу**: *ліць* незак. – агульн. (спарадычна паўдн.-усх. з.), Вілен. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, ЖНшС, Насовіч, Растаргуеў), *і́лліць* незак., *лы́ліцца* зак. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *налі́цца* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *залівáць* незак. – Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч), *лéяць* незак. – Бярэз. р., Чэрв. р., Бял., Кір., Стаўб., Слуцк., Раг. (ЛАБНГ, СПЗБ, НС), *лéецца* незак. – Пух. (З нар. сл.), *лімéніць* незак. – Лоеў. (Янкова),

*люшыць* незак. – Смарг. (СПЗБ), *улюлюшыць* зак. – Кобр. (ЖНшС), *дзюжсыць* незак. – Мядз., Ашм., Смарг., Іўеў., Навагр., Шчуч., Клім., Чэрык., Бых., Карм., Буда-Каш., Ельск., Рэч., Лоеў., Браг., Нараўл., Светлагор., Лельч., Лун., Стол., Пін., Драг., Жаб., Іван., Малар., Кобр., Брэсц., Кам., Бяроз. (ЛАБНГ, СПЗБ, НС, Шаталава), *южсыць* незак. – Кобр. (ЛАБНГ), *дзяжсыць* незак. – Тал., Чэрык., Шчуч., Зэльв., Слон., Ваўк. (ЛАБНГ, СПЗБ), *дзюрыць* незак. – Чэрв. р., Уздз., Раг. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шатэрнік), *шпарыць* незак. – Буда-Каш., Петр., Жытк., Смален. р., зах.-бран. р. (Мат. Гом., Дабравольскі, Насовіч, Растаргуеў), *адшпарыць* зак. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *прашпарыць* зак., *нашпарыць* зак. – мясц. (Насовіч), *нашпарываць* незак., *нашпарыцца* зак. – Смален. р. (Дабравольскі), *варыць* незак. – Вілен. р. (СПЗБ), *жсарыць* незак. – Брасл., Вілен. р. (СПЗБ), *знаіць* незак. – Драг. (СНМ), *біць* незак. – Лоеў. (Янкова), *лупіць* незак. – Воран., Пін., зах.-бран. р. (СПЗБ, ЖНС, Растаргуеў), *адлупіць* зак. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *лупсачыць* незак. – Івац. (ЖНС), *драць* незак., *ададраць* зак. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *перыць* незак. – Уздз., Нясв., Люб., Драг., Беластоц. р. (СПЗБ, Мат. мін.-мал., Н. сл-сць, Нар. скарбы), *пароць* незак. – Смален. р., зах.-бран. р. (Дабравольскі, Растаргуеў), *адпароць* зак. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *рубіць* незак., *зубіць* незак., *дазубіць* зак. – Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч), *хлястаць* незак. – Гом. (Мат. Гом.), *паадхлястаць* зак. – Смален. р. (Дабравольскі), *хвастаць* незак. – Пух., Жытк. (СПЗБ, ТС), *трапаць* незак. – Лоеў. (Янкова), *парышчыць* незак., *кнеціць* незак., *скнеціць* зак. – Драг. (ЛП), *плюжсыць* незак. – Смарг. (СПЗБ), *пляжсыць* незак. – Воран., Кобр. (СПЗБ, ЖНшС), *плявужсыць* незак. – Драг. (ЛП), *псярыць* – Астр. (Сл. Гродз.), *бурыць* незак. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *турыць* незак. – Смален. р. (Дабравольскі), *цурыць* незак. – Паст., Віл. (СПЗБ, Станкевіч), *цурубаніць* незак. – пал. р. (ЛП, НЛ), *царабаніць* незак. – Слон. (Н. сл-сць), *цубаніць* незак. – Гродз. (Сл. Гродз., Цыхун), *цабаніць* незак. – Карэл. (Сл. Гродз., НС), *цубіць* незак. –

Дзярж. (НС), *цу́брыць* незак. – Ваўк. (Сл. Гродз.), *цубэ́сіць* незак. – Мёр. (НС), *цумбэ́рыць* незак. – Смарг. (Сл. Гродз.), *цымбо́ліць* незак. – Лід. (Сл. Гродз.), *цо́паць* незак. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *плюхчэ́ць* незак., *плюшчэ́ць* незак., *хлюпчэ́ць* незак. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *хлю́паць* незак. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *хля́рыць* незак. – Лоеў. (Янкова), *шалёстаць* незак. – Бераст. (Сл. Гродз.), *булбаце́ць* незак. – Клецк. (ЖС), *бамбе́рыць* незак. – Свісл. (Сл. Гродз.), *сагане́ць* незак. – Маст. (СРЛГ), *параго́ніць* незак. – Драг. (Н. ск.), *ука́пнуць* зак. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *пазасяка́ць* зак. ‘пра моцны і касы дождж’, *рамо́ніць* незак., *сіцечкам се́яць* ‘ісці працяглы час (пра ціхі летні дождж)’– зах.-бран. р. (Растаргуеў);

**моцна пайсці, узмацніцца**: *ліну́ць* зак. – Мсцісл. (Насовіч, Юрчанка), *ліваиу́ць* зак. – Лоеў. (Янкова), *палі́ць* зак. – Брасл., Мсцісл., Вілен. р. (СПЗБ, Станкевіч, Юрчанка), *палі́цца* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *улі́ць* зак. – Астр. (СПЗБ), *уле́яць* зак. – Чэрв., Пух. (СПЗБ), *хлы́нуць* зак., *хля́нуць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *хлю́снуць* зак. – Беластоц. р. (СПЗБ), *хлю́пнуць* зак. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *плю́хнуць* зак. – мясц. (Насовіч), *даць* зак. – Зэльв. (СРЛГ), *сыпну́ць* зак. – Жытк. (ТС), *сыпяну́ць* зак. – Стол. (ТС), *секану́ць* зак. – Лях. (СПЗБ), *рубану́ць* зак. – усх.-маг. р., Смален. р. (Бялькевіч, Дабравольскі), *лупану́ць* зак. – Смален. р. (Дабравольскі), *улупцува́ць* зак. – Віл. (СПЗБ), *лузану́ць* зак. – Лоеў. (Янкова), *запаро́ць* зак., *затуры́ць* зак. – Смален. р. (Дабравольскі), *прыўда́рыць* зак., *прыпусці́ць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *прыпа́рыць* зак. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *прыдзю́жыць* зак. – Рэч. (НС), *уцадзі́ць* зак. – Лаг. (Варлыга), *упра́віцца* зак. – Вілен. р. (СПЗБ), *распузы́рыцца* зак. – Смален. р. (Дабравольскі);

**пачацца на доўгі час, зацягнуцца**: *зарадзі́ць* зак. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *улеля́піцца* зак. – Жытк. (ТС), *ударо́жыцца* зак. – Віл. (СПЗБ), *дажджава́ць* незак. – Гродз. (СПЗБ);

**ісці з перапынкамі**: *пераходзіць* незак. – мясц. (Станкевіч), *пераліва́ць* незак. – Асіп. (ЛАБНГ), *мінтрэ́жыць* незак., *памінтрэ́жыць* зак. – Смален. р. (Дабравольскі);

**льючы, вымачыць, прамачыць, заліць**: *заліць* зак. – мясц. (Станкевіч), *зліць* зак. – Мсцісл., Стол. (ТС, Юрчанка), *паліць* зак. – Ганц. (СПЗБ), *пераліць* зак. – Вілен. р. (СПЗБ), *адтапіць* зак. – Круп. (ЖС), *абдóжджыць* зак. – Бераст. (Сл. Гродз.), *абдзюжыць* зак. – Лоеў. (Янкова), *аблюхаць* зак. – Шчуч. (Сл. Гродз.), *адпаласкáць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *ашпáрыць* зак., *абшпáрыць* зак. – Смален. р. (Дабравольскі, Насовіч), *прашпáрыць* зак. – мясц. (Насовіч), *абшарапóрыць* зак., *адшарапóрыць* зак. – Смален. р. (Дабравольскі, Насовіч), *збýрыць* зак. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *панабухтóрыць* зак. – Смален. р. (Дабравольскі), *уквáсіць* зак. 'заліць зямлю' – Пух. (СПЗБ).

**Падаць, біць аб паверхню зямлі, прадметаў і інш. (пра град)**: *пáдаць* незак. – Ганц., Кобр. (СПЗБ, ЖНшС), *пíрыць* незак. – Маст. (СПЗБ), *цубáсіць* незак. – Гродз. (Цыхун), *скляпáць* зак. 'выпаўшы, пабіць (грады, пасевы і інш.)' – Іўеў. (СПЗБ).

**Падаць (пра снег)**: *пáдаць* незак. – гродз.-бар. г. (пераважна Гродз. р.), пал. р., Гарад., Брасл., Лаг., Пух., Саліг., Бых., Кір., Чэрык., Раг. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНшС), *ісцí* незак. – агульн. (Гродз. р. – спарадычна) (ЛАБНГ, СПЗБ, ЖНшС), *ляцéць* незак. – Бых. (ЛАБНГ), *сыпаць* незак. – Верхнядзв. (СПЗБ), *крáпаць* незак. – Нараўл. (ЛАБНГ), *вéяць* незак. – Мсцісл. (ЛАБНГ), *снéжыць* незак. – Воран., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *перахóдзіць* незак. 'ісці з перапынкамі' – мясц. (Станкевіч), *ляцéць* незак. 'павольна падаць' – Брасл. (СПЗБ), *залётаваць* незак. 'пачынаць падаць, кружыць' – Мёр. (НС), *крупíцца* незак., *закрупíцца* зак. 'пра тое, калі ідуць снежныя крупы' – мясц. (Насовіч);

**парушыць (пра дробны снег)**: *парушыць* незак., *церушыць* незак. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *паршэць* незак. – Пух. (Шатэрнік), *папáрхіваць* незак. – Смален. р. (Дабравольскі), *пыркаць* незак. – Смарг. (СПЗБ), *трýсіць* незак., *затрýсіць* зак. – Гродз. (Цыхун), *сыпаць* незак. – Пол. (ЛАБНГ), *дымéць* незак. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *пылíць* незак. – Чэрв. (СПЗБ), *пыліняць* незак. – Астр. (СПЗБ), *дыліць* незак. –

Нараўл. (ЛАБНГ), *дылíць* незак., *падылíць* зак. – Чэрв. р., Лаг. (СПЗБ, Шатэрнік);

**выпадаць, напáдаць у вялікай колькасці**: *вывáліваць* незак., *вы́валіць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *навалíць* зак. – Гродз. (СПЗБ), *навалíцца* незак. – Лаг. (Варлыга);

**нападаўшы ў вялікай колькасці, пакрыць зямлю, дрэвы, будынкі і прадметы**: *замуравáць* зак. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *абснíгаваць* зак. – Вілен. р. (СПЗБ);

**падаць, напáдаць густа, вялікімі камякамі**: *ляпíць* незак., *паляпíць* незак. – Чэрв. р. (Станкевіч, Шатэрнік), *выляну́ць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка);

**пра мокры снег**: *слóціць* незак. – Воран. (СПЗБ), *хля́паць* незак. – Брасл., Паст., Валож., Іўеў., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *хля́піць* незак. – Мядз. (СПЗБ), *ля́паць* незак. – Паст., Воран., Іўеў., Стаўб., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ля́пацца* незак. – Ганц. (СПЗБ), *плявý́жыць* незак. ‘пра моцны мокры снег’ – Драг. (ЛП), *пля́жыць* незак. ‘ісці безупынна, доўга і ў вялікай колькасці (пра мокры снег)’ – Кобр. (ЖНшС), *спля́жыць* зак. ‘нападаць, абляпіць і змачыць (пра мокры снег)’ – Драг. (НЛ);

**замятаць, замесці ў час завірухі**: *замятáць* незак. – Віл., Смален. р. (СПЗБ, Дабравольскі), *засцілáць* незак. – Смален. р. (Дабравольскі), *задувáць* незак. – Стаўб., Зэльв. (СЦБ, СРЛГ), *заду́ць* зак. – Стаўб., Лоеў. (СЦБ, Янкова), *пазадувáць* зак. – Зэльв. (СРЛГ), *завéяць* зак. – Верхнядзв. (СПЗБ), *закáтываць* незак., *закацíць* зак., *закáтывацца* незак., *закацíцца* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *куры́ць* незак. – Віл. (СПЗБ), *буры́ць* незак. – Латгал р. (СПЗБ), *кудáсіць* незак. – Ваўк. (Сл. Гродз.), *плáхаць* незак. – Кобр. (ЖНшС).

### Ледзянець

Пакрывацца зверху лёдам; замярзаць.

*лядзéць* незак., *ляднéць* – Мсцісл. (Юрчанка), *злівáцца* незак., *злíцца* зак. – Астр. (Мат. Гродз.), *муравáцца* незак. – Мсцісл. (Юрчанка), *замурóвывацца* незак., *замуравáцца*

зак., *пазамуро́вывацца* незак., *пазамурава́цца* зак. – мясц. (Насовіч), *шэ́рхнуць* незак. – Барыс. (СПЗБ), *замярза́ць* незак. – Іўеў. (СПЗБ, Станкевіч), *замёрзнуць* зак. – Астр. (СПЗБ), *замаро́жвацца* незак., *замаро́зіцца* зак. – Стол. (ТС), *умéрзнуць* зак. 'пакрыцца тоўстым слоем лёду' – Свісл. (СПЗБ), *замаладзі́ць* зак. 'заледзянець, падмерзнуць на маладзіку' – Мсцісл. (Юрчанка), *абгалялёдзіць* зак. 'заледзянець пасля адлігі ці зімовага дажджу (пра паверхню зямлі)' – Дзятл. (Мат. Гродз.);

**пра вадаёмы**: *станаві́цца* незак.– Жытк. (ТС), *стаць* зак. – Брасл., Мядз., Смарг., Гродз. (СПЗБ);

**пакрывацца шарошам, утвараць дробныя кавалачкі лёду (пра ваду ў вадаёме)**: *шэ́рхнуць* незак., *зашэ́рхнуць* зак. – Бых., Драг. (ЛАБНГ), *сціна́цца* незак. – Клецк. (ЛАБНГ);

**замярзаць тонкім лядком (пра ваду ў лужынах, вадаёмах і інш.)**: *сціна́цца* незак. – паўн.-зах. з., Барыс., Круп., Бярэз., Чэрв., Клецк., Пруж., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., Варлыга), *сціня́цца* незак. – Глыб., Віл., Кобр. (ЛАБНГ), *стыня́цца* незак., *сутыня́цца* незак. – Саліг. (ЛАБНГ), *сціня́цііца* незак. – Нараўл. (ЛАБНГ), *сціняці́цца* незак. – Беш., Леп., Арш., Тал., Лаг., Бярэз., Лід., Бых. (ЛАБНГ), *сця́цца* зак. – паўн.-зах. з., Беш., Леп., Арш., Тал., Барыс., Круп., Бярэз., Чэрв., Бых., Клецк., Пруж., Кобр., Нараўл., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *сціня́цііца* зак. – Бярэз., Астр., Смарг., Лід. (СПЗБ, Сл. Гродз.), *сціняці́цца* зак. – Беш. (НС), *пасціня́цца* зак. – Малар. (ЛАБНГ), *засціна́ць* зак. – Брэсц. (ЛАБНГ), *заціня́цііца* зак. – Беш. (Каспяровіч), *заціняці́цца* зак. – Тал., Круп. (ЛАБНГ), *суто́ніцца* незак., *засуто́ніцца* зак. – Іўеў., Пух. (ЛАБНГ, СПЗБ), *засто́ніцца* зак. – Івац. (ЛАБНГ), *істані́ць* зак. – Лун. (ЛАБНГ), *сціска́ць* незак., *сці́снуцца* зак. – Смарг. (СПЗБ), *сцяпі́ніцца* незак. – Жаб. (ЛАБНГ), *шэ́рхнуць* незак. – Кобр., Драг. (ЛП, СНМ), *зашэ́рхнуць* зак. – паўн.-зах. з., паўдн. р., Чэрв. р., Мін. р., спарадычна гродз.-бар. г., Ушацк., Бял. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. Гом., ЛП, НС, Н. сл-сць), *зачэ́рхнуць* зак. – Бярэз., Гл., Лельч. (ЛАБНГ), *сшэ́рхнуць* зак. – Дзярж., Зэльв. (ЛАБНГ), *сшэ́рх-*

*нуцца* зак. – Дзярж. (СПЗБ), *ісшэрхнуць* зак. – Уздз. (ЛАБНГ, СПЗБ), *шорхнуць* незак. – Шчуч., Чач. (СПЗБ, ЖНшС), *зашорхнуць* зак. – Слаўг., Асіп., Лід., Дзятл., Капыл., Клецк., Люб., Баран. (ЛАБНГ, СПЗБ), *падшорхнуць* зак. – Маст. (ЛАБНГ), *зашархнуць* зак. – Буда-Каш., Добр., Лоеў. (ЛАБНГ, Янкова), *зашарэхнуць* зак. – Чэрв., Карм., Чач., Ветк., Добр. (ЛАБНГ, Мат. Гом.), *зачарэхнуць* зак. – Ветк., Добр. (ЛАБНГ, Мат. Гом.), *зашарохнуць* зак. – Чав., Карм. (ЛАБНГ), *зашарухнуць* зак. – Кам. (ЛАБНГ), *зашархаць* незак., *зашэркаць* незак., *зачархаць* незак., *зачэрхаць* незак. – Стол., Жытк. (ТС), *чэрхнуць* незак. – Ганц. (СПЗБ), *зачахнуць* зак. – Жлоб., Акц. (ЛАБНГ), *зашэршыць* зак. – Бых. (ЛАБНГ), *шарышыць* незак. – Брэсц. (НЛ), *зашарэшыць* зак. – Чэрв. (ЛАБНГ), *зашарашэць* зак. – Чэрв., Ветк. (ЛАБНГ, НЛ), *зашарашаць* зак. – Брасл. (ЛАБНГ), *зашаранець* зак. – Віл., Лаг. (ЛАБНГ), *зашэрануць* зак. – Нараўл. (ЛАБНГ), *зашарэць* зак. – Нясв. (ЛАБНГ), *засеранець* (*засіранець*) зак. – Мёр. (ЛАБНГ, НС), *зашкарузнуць* зак. – Стол. (ЛАБНГ), *зарабіцца* зак. – Касц. (ЛАБНГ), *зацягнуць* зак. – Верхнядзв., Гарад., Віц., Сен., Кругл., Смарг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *зацягнуцца* зак. – Карм. (ЛАБНГ), *сцягнуцца* зак. – Лельч. (ЛАБНГ), *скляпіцца* зак. – Гродз. (Цыхун), *сшыцца* зак. – Чач. (ЛАБНГ), *саснавацца* зак. – Карм., Ветк. (ЛАБНГ), *злецііцца* зак. – Клім. (ЛАБНГ), *ссядаць* незак. – Смарг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *прымерзнуць* зак. – Пін. (ЛАБНГ), *замёрзнуць* зак. – Верхнядзв., Гарад., Рас., Чэрык. (ЛАБНГ), *узяцца* (*лядком*) – Лід., Добр. (ЛАБНГ, СПЗБ), *пакрыцца* (*лядком*) – Добр. (ЛАБНГ).

## Ледзяніць

Ператвараць у лёд; замарожваць.

*замарожваць* незак. – Воран. (СПЗБ), *муравацъ* незак. – Мсцісл. (Юрчанка), *замуровываць* незак., *замураваць* зак., *пазамуровываць* незак., *пазамураваць* зак. – мясц. (Насовіч), *сцінаць* незак. – Карэл. (Сл. Гродз.).

## Марозіць

Пра халоднае, з марозам, надвор'е; моцна ахалоджваць, нішчыць холадам (пра дзеянне марозу).

*маразíць* незак. – Брасл., Смарг. (СПЗБ), *студзíць* незак. – Баран. (СПЗБ), *прахвáтываць* незак., *прыхвáтываць* незак. – Смален. р. (Дабравольскі), *прыхвацíць* зак. – Брасл. (СПЗБ), *прабірáць* незак., *прабрáць* зак. – Мядз. (СПЗБ), *сцянýць* зак. – Жытк. (ТС), *павызнабіць* зак. – Смален. р. (Дабравольскі);

**трымацца, марозіць на працягу пэўнага часу**: *тры-мáць* незак. – Беластоц. р. (СПЗБ), *крапíць* незак. – Мсцісл. (Юрчанка);

**прыхапіць марозам крыху**: *папрымарóзіць* зак. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *прыхвацíць* зак. – Чэрв. р. (Шатэрнік);

**марозіць моцна**: *пячы* незак. – Стаўб. (СПЗБ), *печ* незак., *запякáць* незак. – Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч), *папéкаць* незак. – Стол. (ЖНшС), *смалíць* незак. – Беластоц. р. (СПЗБ, Станкевіч), *насмáліваць* незак. – Смален. р. (Дабравольскі), *шмалíць* незак. – Драг. (ЛП), *палíць* незак. – Беластоц. р. (СПЗБ), *сквáрыць* незак., *сквірэ́ць* незак., *сквірчэ́ць* незак. – Чэрв. р. (Станкевіч, Шатэрнік), *зы́рыць* незак. – Віл. (СПЗБ), *ажыгáць* незак. – Смален. р. (Дабравольскі), *зябліць* незак. – Жытк. (ТС), *брэ́іць* незак. – Лоеў. (Янкова), *сядры́цца* незак. – Чач. (ЖНшС), *трашчáць* зак. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *цíснуць* незак. – Лаг. (Варлыга), *прыцíснуць* зак. – Карм., Смален. р. (Мат. Гом., Дабравольскі), *падгваздзíць* зак. – Смален. р. (Дабравольскі);

**пачацца; ударыць; узмацніцца**: *узяцца зак., ламанýць* зак., *жаманýць* зак., *прыжáць* зак., *ціскaнýць* зак., *пры-цíснуць* зак., *даўлянýць* зак., *пеканýць* зак., *жаранýць* зак., *крапанýць* зак., *краханýць* зак., *закрапíць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *вы́скрапіцца* зак. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *крапчэ́ць* незак. – мясц. (Станкевіч), *узы́рыць* зак. – Навагр. (Сл. Гродз.), *трэ́снуць* зак. – Лоеў. (Янкова), *удэ́рыць* зак. – Брасл., Мсцісл., Навагр. (СПЗБ, Юрчанка), *прыўдáрыць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *удáрыць* зак. – Воран. (СПЗБ), *уды́рыць*

зак. – Капыл. (СПЗБ), *ababpáцца* зак. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *вы́зверыцца* зак. – Чэрв. р. (Станкевіч, Шатэрнік), *вы́скачыць* зак. ‘пачацца раптоўна (пра невялікі мароз)’ – Мсцісл. (Юрчанка).

**Падаць (пра снег, град, дождж)**, гл. **Ісці**

**Парыць**

Пра вельмі гарачае вільготнае надвор’е.

*пáрыць* незак. – Гродз., Дзятл., Латгал р. (СПЗБ, Мат. Гродз., Станкевіч), *прыпáрваць* незак. – Воран., Зэльв., Лях. (СПЗБ, Мат. Гродз.), *прыпáраваць* незак. – Лаг. (Варлыга), *прыпáрыць* зак. – Чэрв. р. (Насовіч, Шатэрнік), *вары́ць* незак. – Драг., Беластоц. р. (СПЗБ, ЛП).

**Пахаладаць**, гл. **Халадаць**

**Пацяплець**, гл. **Цяплець**

**Праясніцца (пра неба)**

Стаць ясным, бясхмарным; праяснець.

*вы́ясніцца* зак. – Брасл., Лаг., Рэч. (ЛАБНГ, СПЗБ, Варлыга), *яснéцца* незак. – Мсцісл. (Юрчанка), *пад’я́сніваццa* незак. – Мядз., Навагр. (СЦБ, Мат. Гродз.), *гáліцца* незак. – мясц. (Станкевіч), *разабрáцца* зак. – Гл. (Янкоўскі), *расчы́сціцца* зак., *расчы́сціць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка, Мат. апыт.), *развéтрыцца* зак. – Смален. р. (Дабравольскі), *развéтраць* зак. – Лаг. (Мат. мін.-мал.), *вы́звездзіцца* зак. – Дубр., Глыб., Віл., Гор., Мсцісл., Светлагор., Браг. (ЛАБНГ, СПЗБ, Юрчанка), *вы́звездзіць* зак. – Гарад., Арш., Мсцісл., Іўеў., Раг., Рэч., Лоеў. (ЛАБНГ, Мат. Гом., Юрчанка), *пралы́сіцца* зак. ‘праясніцца месцамі, участкамі’ – Мядз. (НС), *тэнчавéць* незак. ‘праясняцца, пераліваючыся вясёл-

кай’ – Воран. (Сл. Гродз.), *граніʹчыць* незак. ‘праясняючыся, раздзяляцца палоскамі хмар’ – Пін. (НЛ).

## Разліцца (пра паводку вясной ці ў час вялікага дажджу або адлігі)

Заліць якую-н. прастору, паверхню чаго-н.; расцячыся.

*разліʹцца* зак. – зах.-пал. г., Смарг., Лід. (ЛАБНГ, СПЗБ), *разліва́цца* незак. – мясц. (Станкевіч), *разле́яцца* зак. – Бярэз. (СПЗБ), *вы́ліцца* зак. – Кам. (ЛАБНГ), *заліʹць* зак. – Бяроз., Драг. (ЛАБНГ), *пазаліва́ць* зак. – Кобр. (ЛАБНГ), *затапіʹць* зак. – Івац., Іван., Лун. (ЛАБНГ), *адтапіʹць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *запла́віць* зак. – Лаг., Смарг. (СПЗБ, Варлыга, Мат. апыт.), *паня́ць* зак. – Гродз., зах.-бран. р. (Растаргуеў, Цыхун); *граць* незак. ‘пра рух веснавой вады’ – мясц. (Станкевіч);

**разліваючыся, ператвараць у гразь, змешвацца з граззю**: *разбалатне́ць* зак. – Валож. (ЛАБНГ), *развясціʹ* зак. – Беш. (Каспяровіч), *расква́сіць* зак. – Маз., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, Растаргуеў), *расква́сіцца* зак. – Валож. (ЛАБНГ), *растване́ць* зак. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *раства́ніць* зак. – Жытк. (ТС), *раства́ніцца* зак. – Кір. (НС), *параздруіʹць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка).

## Разнягодзіцца

Пра наступленне непагоды.

*разняго́дзіцца* зак. – Гл., Жытк. (ТС, Янкоўскі), *заняго́дзіцца* зак. – Слон., Кам., Жытк. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., Мат. Гом., ЖНшС), *заняго́дзіць* зак. – Лях. (СПЗБ), *разняна́сціцца* зак., *разнепаго́дзіцца* зак., *занепаго́дзіць* зак., *раскула́жыцца* зак., *закула́жыцца* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *хуртава́ць* незак. – зах.-бран. р. (Растаргуеў).

## Распагоджвацца, распагодзіцца

Пра наступленне яснага, пагоднага надвор’я.

*распага́джавацца* незак. – Смарг. (СПЗБ), *распаго́дзіцца* зак. – Верхнядзв., Віл., Лаг., Навагр. (СПЗБ, Варлыга, Станкевіч), *выпаго́джвацца* незак. – Пух. (СПЗБ), *выпагадзіцца* зак. – Смарг. (СПЗБ), *апаго́джвацца* незак. – Ваўк. (СПЗБ), *паго́дзіцца* незак. – мясц. (Станкевіч), *выядрыцца* зак. – Карэл. (ЖНС), *выясніцца* зак. – Зэльв. (Мат. Гродз.), *пад'ясніваца* зак. – Паст., Мядз., Віл., Ваўк. (СПЗБ, СЦБ), *пад'ясні́цца* зак. – Валож. (СПЗБ), *павесяле́ць* зак. – Пух. (СЦБ), *маладзі́цца* незак. – Драг. (З нар. сл.);

**усталявацца на доўгі час (пра добрае надвор'е)**: *усталява́цца* зак. – Чэрв. (СПЗБ), *асто́івацца* незак., *асто́іцца* зак. – Лаг. (Варлыга, Станкевіч), *стаць на паго́дзе* – Чэрв. р., Стаўб. (ЖС, Станкевіч, Шатэрнік), *здзе́ржываць* незак., *здзяржа́ць* зак., *здзе́ржывацца* незак., *здзяржа́цца* зак., *здзе́ржыцца* зак. – усх.-маг. р. (Бялькевіч, Юрчанка), *аддзе́ржаць* зак., *аддзяржа́ць* зак., *аддзе́ржацца* зак., *аддзяржа́цца* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *пале́ціць* зак. 'калі добрае надвор'е трымаецца на працягу ўсяго лета' – Лаг. (Варлыга).

### Раставаць (пра снег, лёд, град, шэрань, паверхню зямлі і інш.)

Пераходзіць у вадкі стан пад дзеяннем сонечнага цяпла; размарозіцца.

*растава́ць* незак. – зах.-пал. г., паўн.-зах. з., сярэд.-бел. г., Маг. р., Беш., Ушацк., Леп., Жытк. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Шатэрнік), *раста́ць* зак. – Маст., Лях., Стол., Жытк. (СПЗБ, ТС), *раста́іваць* незак. – Пол., Мёр. (ЛАБНГ), *та́яць* незак. – паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г. (ЛАБНГ, Насовіч), *та́няць* незак. – Пух., Карэл., Маст., Гродз., Лун., Хойн., Ветк. (ЛАБНГ), *таць* незак. – Пух. (З нар. сл.), *прата́лівацца* незак., *прата́ліцца* зак. – мясц. (Насовіч), *тапі́цца* незак. – Свісл. (ЛАБНГ), *тапне́ць* незак., *растапля́цца* незак. – Воран. (ЛАБНГ, Шаталава), *растапле́ць* зак. – Вілен. р. (СПЗБ), *растаро́піць* зак. – Гарад. (НЛ), *развадзяне́ць* зак. – Лаг. (Варлыга), *распуска́цца* незак. – Брасл. (ЛАБНГ), *распусці́ць*

зак. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *пусціць* зак. – Вілен. р. (СПЗБ), *адлігáць* (*адлягáць*) незак. – Раг., Хойн. (ЛАБНГ, СПЗБ), *спаўзáць* незак. – Смарг. (ЛАБНГ), *гíнуць* незак., *згíнуць* зак. – Стаўб. (СЦБ, Мат. апыт.), *хляпнуць* зак., *хлюпнуць* зак. 'адтаяць (пра дарогі)' – Драг. (ЛП), *нажрáць* зак. 'пра ваду, якая збіраецца пад снегам падчас яго раставання' – Мсцісл. (Юрчанка), *драць* незак. 'раставаць (пра лёд у вадаёмах)' – Гарад. (НЛ).

**Свяціць (пра нябесныя свяцілы)**

Выпраменьваць святло ў касмічную прастору.

*свяціць* незак. – Верхнядзв., Беш., Лях., Вілен. р. (СПЗБ, Каспяровіч), *высвéчываць* незак. – мясц. (Насовіч).

**Ззяць (пра сонца)**: *ззяць* незак. – Чашн. (Каспяровіч), *сіяць* незак. – Лях. (СПЗБ), *успраменьвацца* незак. – Карэл. (Сл. Гродз.), *бляшыць* незак. – Лід. (Сл. Гродз.), *аглядáцца* незак. 'ясна свяціць на захадзе' – Драг. (Н. сл-сць), *зýбы вы́скаліць* 'свяціць падчас дажджу' – Смален. р. (Дабравольскі), *брадзíць* незак. 'свяціць, то выходзячы з-за хмар, то хаваючыся ў іх' – Іўеў., Стаўб., Навагр. (СПЗБ, СЦБ, З нар. сл.);

**выблíснуць, выглянуць**: *вы́блеснуць* зак. – Смален. р. (Дабравольскі), *вы́скаліцца* зак. – Пух., Слуцк. (СЦБ, Н. сл-сць), *звярнýцца* зак. – Смарг. (СПЗБ);

**свяціць, пераліваючыся рознымі колерамі**: *граць* незак. – Драг. (ЛП), *гуляць* незак. – Глыб., Лоеў. (СПЗБ, Янкова).

**Зіхацець, ззяць, пераліваючыся няроўным блескам (пра зоркі)**: (*з*)*зяць* незак. – Гом. р., Бярэз. р., Ушацк., Арш., Віл., Дзятл., Зэльв., Івац., Брэсц., Лельч. (ЛАБНГ), *сяць* незак. – зах.-пал. г. (за выключэннем заходняй часткі), Капыл. (ЛАБНГ), *зіяць* незак. – Чэрв. (ЛАБНГ), *сіяць* незак. – Брасл., Мін., Кам. (ЛАБНГ), *зіхацéць* незак. – Лаг., Навагр., Чач. (ЛАБНГ, Варлыга), *сіхацéць* незак. – Кам. (ЛАБНГ), *зіхцéць* незак. – Пол., Віл., Стаўб., Маз., Лоеў. (ЛАБНГ, СЦБ,

Янкова), *бліхацéць* незак. – Шчуч. (ЛАБНГ), *бліичэ́ць* незак., *бліиичáць* незак. – Брасл., Барыс., Касц., Слон., Бяроз., Пін., Светлагор. (ЛАБНГ), *свяці́ць* незак. – пал. р. (за выключэннем Гом. р.), Маг. р., Віц., Шум., Касц., Гродз., Стаўб., Нясв., Слуцк., Баран. (ЛАБНГ), *гарэ́ць* незак. – Віл., Бял., Хоц., Лельч. (ЛАБНГ), *жы́гаць* незак. – Кругл. (ЛАБНГ), *жы́хаць* незак. – Жлоб. (ЛАБНГ), *пы́хаць* незак. – Верхнядзв., Пол. (ЛАБНГ), *мігацéць* незак. – Чэрв. р., Ашм., Лаг., Віл., Іўеў., Карэл., Капыл., Слуцк., Клім., Кір., Бабр. (ЛАБНГ, СПЗБ, Варлыга, Шатэрнік), *мігóчыць* незак. – Ашм. (ЛАБНГ), *мігцéць* незак. – Чэрв. р., Верхнядзв., Пол., Ушацк., Бял., Хоц., Касц., Асіп., Валож., Мін., Карэл., Навагр., Маст., Бераст., Дзятл., Клецк., Кам., Драг., Жлоб., Ельск., Браг. (ЛАБНГ, Шатэрнік), *мігці́цца* незак. – Мядз. (ЛАБНГ), *мільгаці́ць* незак. – Бых. (ЛАБНГ), *мільгáць* незак. – Леп. (ЛАБНГ), *міргацéць* незак., *маргацéць* незак. – Шчуч. (ЛАБНГ, НЛ), *міргáць* незак. – Пол., Дубр., Паст., Маладз., Мсцісл., Асіп., Лун. (ЛАБНГ, СПЗБ), *мыргáць* незак. – Гарад. (ЛАБНГ), *мóргаць* незак. – Пол., Чав., Бяроз., Пін. (ЛАБНГ), *мігáць* незак. – Гарад., Чав., Слаўг., Светлагор., Добр. (ЛАБНГ), *мігáцца* незак. – Старадарож. (ЛАБНГ), *трымці́ць* незак. – Ваўк. (ЛАБНГ), *трамцéць* незак. – Гродз. (Цыхун), *трапаці́ць* незак. – Бяроз. (ЛАБНГ), *трапасці́ць* незак. – Пруж. (ЛАБНГ), *скакáць* незак. – Брасл., Воран. (ЛАБНГ), *плюскáць* незак. – Рас. (ЛАБНГ), *плясáць* незак. – Тал., Клім., Ветк., Добр. (ЛАБНГ), *блясáць* незак. – Івац., Драг., Стол. (ЛАБНГ), *бля́шыць* незак. – Драг. (3 нар. сл.), *перамяня́цца* незак. – Баран. (СПЗБ), *вы́трашчыцца* зак. – Тал. (ЛАБНГ).

### Спыняцца, сціхаць (пра з'явы прыроды – ападкі, вецер, спёку і пад.)

Памяншацца ў сіле, слабець.

*сціхáць* незак., *сці́хнуць* зак. – Паст., Валож., Уздз., Лях. (СПЗБ, Мат. мін.-мал.), *пераціхáць* незак., *пераці́хнуць* зак. – Лях. (СПЗБ), *надціхáць* незак., *надці́хнуць* зак. – Мсцісл.,

зах.-бран. р. (Растаргуеў, Юрчанка), *абціхáць* незак., *абціхнуць* зак. – Воран. (СПЗБ), *аціхáць* незак., *аціхнуць* зак. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *уціхамірыцца* зак., *сціхамірыцца* зак. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *цішáць* незак., *ацішáць* зак., *сцішыцца* зак. – Чэрв. р. (СПЗБ, Шатэрнік), *заспакóйвацца* незак., *заспакóіцца* зак. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *супімáцца* незак., *суняцца* зак. – Чэрв., Пух. (СПЗБ), *шчукáць* незак., *шчýкнуць* зак. – мясц. (Насовіч), *перашчукáць* незак., *перашчýкнуць* зак. – Чач., Браг., зах.-бран. р. (ЖНС, З нар. сл., Растаргуеў), *перашшукáць* незак., *перашшýкнуць* зак. – Кір. (НС), *надшчукáць* незак., *ушчýкáць* незак., *ушчýкнуць* зак., *пачáць ушчукáць* – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *ушчýкці* зак. – мясц. (Насовіч), *дабушавáць* зак., *дабушавáцца* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *набушавáць* зак., *набушáвацца* зак. 'супакоіцца, шмат пабушаваўшы' – Мсцісл. (Юрчанка), *насіпéцца* зак., *насапéцца* зак. 'супакоіцца, шмат пабушаваўшы (пра мяцеліцу)' – Смален. р. (Дабравольскі);

**у адносінах да ападкаў (пераважна дажджу)**: *адыхóдзіць* незак., *адысці* зак. – Ашм. (СПЗБ), *перахóдзіць* незак. – мясц. (Станкевіч), *пералятáць* незак., *пераляцéць* зак. – Драг. (ЛП, З нар. сл.), *пераганяць* незак., *перагнáць* зак. – Верхнядзв., Паст. (СПЗБ).

## Убываць (пра месяц)

Памяншацца ў аб'ёме.

*рýшыць* незак. і зак. – Пух., Капыл., Люб., Баран., Пін., Раг., Лоеў. (СПЗБ, СНМ, Янкова), *рýшаць* незак. – Хойн. (Мат. Гом.), *рушáць* незак. – Лоеў. (Янкова), *рýшацца* незак. – Раг. (СПЗБ), *схóджваць* незак. – Бярэз. (СПЗБ), *схóдзіць* незак. – Астр., Смарг., Лаг., Валож., Стаўб., Нясв., Слон., Маз., Калінк. (ЛАБНГ, СПЗБ), *ісхóдзіць* незак. – Стол. (ЛАБНГ), *зыхóдзіць* незак. – Бяроз., Кобр. (ЛАБНГ), *адхадзіць* незак. – Вілен. р. (СПЗБ), *адбывáць* незак. – Воран., Лід., Шчуч., Баран., Лях., Ганц., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *адбыць* зак. – Віл. (СПЗБ).

### Узыходзіць (пра сонца, месяц, зоркі)

З'яўляцца, узнімацца над гарызонтам.

*зыхóдзіць* незак., *зысці́* зак. – Зэльв. (СПЗБ), *схóдзіць* незак. – Брасл., Навагр., Лід., Шчуч., Лях., Жытк., Раг., Беластоц. р. (СПЗБ, ТС), *усхóдзіць* незак. – Віц. р. (Каспяровіч), *нахóдзіцца* незак., *нахадзі́цца* незак. – Вілен. р. (СПЗБ), *зарáць* незак. – мясц. (Насовіч), *уграváць* незак., *угрэ́ць* зак. 'узыходзіць, узысці даволі высока (пра сонца)' – мясц. (Насовіч), *вечаркавáць* незак. 'узыходзіць пазней (пра месяц)' – Іўеў., Навагр., Вілен. р. (СПЗБ, НС).

### Халадаць, пахаладаць

Рабіцца, зрабіцца халадней.

*халадáць* незак., *халóдаць* незак. – Жытк. (ТС), *захаладáць* зак. – Чэрв. р., Мёр., Шчуч., Лях., Гл. (СПЗБ, НС, Станкевіч, Шатэрнік, Янкоўскі), *захалóдуцца* зак. – Лоеў. (Янкова), *пахаладзéць* зак. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *адхаладзéць* зак. – Вілен. р. (СПЗБ), *сцюдзянéць* незак., *пасцюдзянéць* зак., *засцюдзянéць* зак., *застудзі́ць* зак. – мясц. (Насовіч), *зімнéць* незак. – мясц. (Насовіч), *пазімнéць* зак. – Астр., Смален. р. (Н. сл-сць, Дабравольскі), *зазімнéць* зак. – Брасл. (СПЗБ), *ядранéць* незак. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *паядранéць* зак – Смален. р. (Дабравольскі, Насовіч), *заядранéць* зак. – мясц. (Насовіч), *сівярэ́ць* незак. – Астр. (Сл. Гродз.), *удáрыў хóлад* – Чэрв. р. (Шатэрнік), *заня́ў хóлад* – Смален. р. (Дабравольскі);

**пахаладаць летам, як восенню**: *паасянéць* зак. – Зэльв. (ЖС), *паасéннець* зак. – Лоеў. (Янкова), *заасянéць* зак. – Слуцк. (ЖНшС).

### Хмарыцца

Зацягвацца хмарамі, станавіцца хмарным (пра неба); збірацца на непагадзь у выніку паступовага нарастання пэўных змен у атмасферы.

*хмáрыцца* незак. – усх.-маг. р., Верхнядзв., Брасл., Астр., Смарг., Шчуч., Кобр., Стол., Жытк., Смален. р., зах.-бран. р. (СПЗБ, ТС, ЖНшС, Бялькевіч, Дабравольскі, Насовіч, Растаргуеў, Станкевіч, Юрчанка), *нахмáрыцца* зак. – Чэрв. р., Мядз., Смален. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, Дабравольскі, Насовіч, Растаргуеў, Станкевіч, Шатэрнік), *захмáрыцца* зак. – Віц. р., Чэрв. р., Смален. р., зах.-бран. р. (Дабравольскі, Каспяровіч, Растаргуеў, Шатэрнік), *хмáрыць* незак. – Віц. р., усх.-маг. р., Верхнядзв., Бярэз., Ганц., Стол. (СПЗБ, ТС, Каспяровіч, Юрчанка), *нахмáрыць* зак. – Смален. р., зах.-бран. р. (Дабравольскі, Растаргуеў), *захмáрыць* зак. – мясц. (Насовіч), *прыхмáрыць* зак. – Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч), *пахмáрваць* незак. – Светлагор., Лоеў. (Мат. Гом., Янкова), *пахмя́рваць* незак. – Маз. (ГЧ), *хмýрыцца* незак. – Віц. р., Чэрв. р., Лях., Жытк. (СПЗБ, ТС, Каспяровіч, Насовіч, Шатэрнік), *нахмýрыцца* зак. – Іўеў., Лях. (СПЗБ), *захмýрыцца* зак. – мясц. (Насовіч), *хмýрацца* незак. – Лаг. (Мат. мін.-мал.), *хмýрыць* незак. – Чэрв. (СПЗБ, Насовіч), *захмýрыць* зак. – мясц. (Насовіч), *хмурнéць* незак. – Чэрв. р., Шчуч., Жытк. (СПЗБ, ТС, Шатэрнік), *захмурнéць* зак. – Шчуч. (СПЗБ), *пахмурнéць* зак. – Чэрв. р., Слон. (СПЗБ, Шатэрнік), *нахмурэ́ць* зак. – Віл. (СПЗБ, Станкевіч), *рахмáніцца* незак., *зрахмáніцца* зак., *зарахмáніцца* зак., *рахманéць* незак., *парахманéць* зак. – мясц. (Насовіч), *тýчыцца* незак. – Мсцісл., Буда-Каш., Гом. (Мат. Гом., Насовіч, Юрчанка), *затýчывацца* незак., *атýчывацца* незак., *атýчыцца* зак., *затýчываць* незак., *атýчываць* незак., *атýчыць* зак., *тýчыць* незак. – Мсцісл. (Юрчанка), *навалáківаць* незак. – Смален. р. (Дабравольскі), *навалáкываць* незак., *навалáкывацца* незак., *навалóчца* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *завалáківаць* незак. – Смален. р. (Дабравольскі), *завалакáць* зак. – мясц. (Насовіч), *наця́гывацца* незак., *нацягнýцца* зак., *абця́гывацца* незак., *абцягнýцца* зак., *абця́гываць* незак. – Мсцісл. (Юрчанка), *абцягнýць* зак. – Мсцісл., Навагр., Стол. (ЛАБНГ, СПЗБ, Юрчанка), *пацягнýць* зак. – Лоеў. (Янкова), *зацягаць* незак. – Маз. (ГЧ), *насóвывацца* незак., *насýнувацца* незак., *насóвываць* незак., *насý-*

*нуваць* незак. – Мсцісл. (Юрчанка), *насу́нуцца* зак. – Смален. р. (Дабравольскі), *насу́нуць* зак. – Чэрв. р., Мсцісл. (Шатэрнік, Юрчанка), *насурні́ць* зак. – Чав. (Мат. Маг.), *абсу́нувацца* незак., *абсу́нуцца* зак., *абсу́нуваць* незак., *абсу́нуць* зак., *абдзвіга́цца* незак., *абдзві́нуцца* зак., *абдзвіга́ць* незак., *абдзві́нуць* зак., *надзвіга́ць* незак., *надзві́нуць* зак. – Мсцісл. (Юрчанка), *наганя́ць* незак., *нагна́ць* зак. – Смален. р. (Дабравольскі), *надхо́дзіць* незак. – Віл. (СПЗБ), *заклада́ць* незак., *закла́дываць* незак. – Мсцісл. (Юрчанка), *абклада́ць* незак., *аблажы́ць* зак. – Чэрв. р., Паст., Лёзн., Дубр., Леп., Лаг., Уздз., Чав., Асіп., Гом., Стол. (ЛАБНГ, Шатэрнік), *паабклада́ць* зак. – зах.-бран. р. (Растаргуеў), *абле́гчы* зак. – Капыл. (ЛАБНГ), *кладаві́цца* незак. – Зэльв. (ЖС), *апуска́цца* незак., *апусці́цца* зак. – Маст. (СПЗБ), *кула́жыцца* незак., *кула́жыць* незак. – Мсцісл. (Юрчанка), *раскула́жывацца* незак., *раскула́жыцца* зак. – Смален. р. (Дабравольскі, Насовіч), *раскуле́шывацца* незак., *раскуле́шыцца* зак. – мясц. (Насовіч), *чума́жыціся* незак. – Пін. (НЛ), *му́рзацца* незак. – Мсцісл., Уздз., Навагр., Ганц., Гл. (СПЗБ, СЦБ, ЖНшС, Юрчанка, Янкоўскі), *заму́рзвацца* незак. – Лях. (СПЗБ), *заце́ньвацца* незак., *заце́ньваць* незак. – Стаўб. (СЦБ), *засце́ньвацца* незак. – Уздз. (СЦБ), *сце́ніцца* незак. – Дзятл. (ЛАБНГ, ЖС), *засце́ніцца* зак. – Лід. (СПЗБ), *засе́нівацца* незак. – Драг. (СНМ), *наве́шываць* незак. – Смален. р. (Дабравольскі), *замару́жвацца* незак. – Стол., Жытк. (ТС), *касму́ціцца* незак. – Смарг. (СПЗБ), *каве́зіцца* незак. – Жытк. (ТС), *брыдзі́ць* незак. – Лаг. (Варлыга), *бу́рыцца* незак. – Добр. (Мат. Гом.), *збіра́цца* незак. – Смарг., Стаўб. (СПЗБ, СЦБ), *збе́рыцца* зак. – Віл. (СПЗБ), *перабіра́цца* незак. – мясц. (Насовіч), *нашлю́піць* зак. – Леп. (ЛАБНГ), *ка́нуць* зак. ‘пра стан атмасферы непасрэдна перад дажджом’ – зах.-бран. р. (Растаргуеў).

## Цяплець, пацяплець

Станавіцца, стаць больш цёплым (пра паветра, вецер); пра наступленне цяпла, цяплейшага надвор’я.

*рахманéць* незак., *свабаднéць* незак., *памя́кчыць* зак. – Смален. р. (Дабравольскі);

**цяплець, пацяплець сярод зімы ў час адлігі, памяншэння марозу**: *атлігáць* (*атлягáць*) незак. – мясц. (Насовіч), *атлігну́ць* (*атлягну́ць*) зак. – Мсціcл., Смален. р. (Дабравольскі, Насовіч, Юрчанка), *атлі́гнуць* (*адлі́гнуць*) зак. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *атлéгчы* зак. – Смален. р. (Дабравольскі, Насовіч), *адлігці́* зак. – Беластоц. р. (СПЗБ), *злі́гці* зак. – Стол. (ТС), *сатлі́жáць* зак. – Зэльв. (СРЛГ, Н. сл-сць), *садлі́жаць* зак. – Лід. (ЛАБНГ), *садліжáць* зак. – Баран. (СПЗБ), *ліжэ́ць* незак., *паліжэ́ць* зак. – Дзярж. (НС), *адвáльваць* незак., *адвалі́ць* зак., *адвáльвацца* незак. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *адвáліваццa* незак. – мясц. (Станкевіч), *адвалі́цца* зак. – Чэрв. р., Лаг. (Варлыга, Станкевіч, Шатэрнік), *атвалі́цца* зак. – Мсціcл. (Юрчанка), *адпáсць* зак. – Мсціcл. (Юрчанка), *адхадзі́ць* незак., *атайці́* зак. – мясц. (Насовіч, Станкевіч), *пускáць* незак. – Малар. (НЛ), *адпусці́ць* зак., *змамі́цца* зак. – Смален. р. (Дабравольскі), *ло́пнуць* зак. – Стаўб. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *усцéціся* зак. – Драг. (СНМ), *вільго́тнець* незак., *вільго́ціць* незак., *вільжэ́ць* незак., *адвільжэ́ць* зак. – мясц. (Насовіч), *слізі́ць* незак. ‘пра стан надвор’я ў час адлігі, калі слота, мокра, стаіць вада’ – Драг. (ЛП), *заплáкаў маро́з* ‘пра пачатак адлігі’ – Кам. (ЖНС), *павяснéць* зак. ‘пацяплець у канцы зімы, стаць на вясну ці падобна да таго’ – Зэльв. (СРЛГ, ЖС).

# 10. НАЗВЫ ВОЗА, САНЕЙ, ІХ ЧАСТАК, ЗБРУІ

## 10.1. ВОЗ

*воз* м., *вазы́* мн. – паўдн.-зах. д., спарадычна сярэд.-бел. г., зах.-пал. г., усх.-маг. р., Ушацк., Гарад., Смален. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, ТС, Мат. Гродз., ЛП, Каспяровіч, Шатэрнік, Бялькевіч, Станкевіч, Дабравольскі, Растаргуеў), *вазáн* м. – Мёр. (НС), *вазі́ска* н. – Зэльв. (Мат. Гродз.), *калёсы* мн. – паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г., гродз.-бар. г., пал. р., Вілен. р., Смален. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, Мат. мін.-мал., Мат. Гродз., ЛП, Каспяровіч, Бялькевіч, Варлыга, Насовіч, Станкевіч, Дабравольскі, Растаргуеў), *калясá* мн. – пал. р. (ЛП), *калёскі* мн. памянш. – мясц. (Насовіч), *калёссе* н. зб. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *калясні́к* м. – Чэрв. р., Ашм., Віл., Мядз., Лаг., Пух., Старадарож., Светлагор., Пін., Жытк., Калінк., Хойн., Ветк. (ТС, СЦБ, Сл. Гродз., Мат. Гом., СНМ, НЛ, Нар. скарбы, Варлыга, Шаталава, Шатэрнік), *калеснічóк* м. памянш. – Чэрв. р. (СЦБ, Шатэрнік), *калясёнкі* мн., *калясёначкі* мн. памянш. – Мсцісл. (Юрчанка), *накалéснік* м. – Жытк. (Мат. Гом.), *кóлы* мн. – Валож., Воран., Віл., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *драбі́ны* мн. – Астр., Дзятл., Лях., Пух., Беш. (Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., Мат. дыял. сл., СНМ, Каспяровіч), *драбі́нкі* мн., *драбі́нка* ж.– Чэрв. р., Лаг., Лях., Беш. (Мат. дыял. сл., Варлыга, Каспяровіч, Шатэрнік), *дрáбы* мн., *драбы́* мн., *дрáба* ж. – Гродз., Зэльв., Маст., Ваўк., Беш., Кір. (СПЗБ, Мат. Гродз., НС, Каспяровіч, Насовіч, Сцяцко, Цыхун), *дрáбчык* м., *драбчáк* м. – Гродз. р., Ваўк. (Сл. Гродз., Цыхун), *фурмáнка* ж. – Ваўк., Астр., Лід., Навагр., Сен., Беш., Вілен. р., Беластоц. р., Смален. р. (СПЗБ,

Мат. Гродз., Каспяровіч, Дабравольскі, Насовіч), *фурманэнька* ж. – мясц. (Насовіч), *хурма́нка* ж., *хвŷрманка* ж.– Чэрв. р., усх.-маг. р., Навагр., Стол., Вілен. р. (СПЗБ, ДСБ, Мат. Гродз., Бялькевіч, Шатэрнік, Станкевіч), *курма́нка* ж. – Воран. (СПЗБ), *хŷра* ж. – Бяроз., Кам. (Шаталава), *ма́жы* мн. – Ашм., Круп., Барыс., Сен. (СРЛГ, СЦБ, НС, Шаталава, Каспяровіч, Станкевіч), *мажа́ры* мн. – Чач., Смал. (СЦБ, Мат. мін.-мал., ЖНшС), *мажа́ра* ж., *мажа́рка* ж.– усх.-маг. р. (ЛАБНГ, Мат. Маг., Бялькевіч), *ка́ры* мн. – Беш., Круп., Смарг., Карэл., Бяроз., Лун., Вілен. р. (СПЗБ, ДСБ, Мат. Гродз., Шаталава, Каспяровіч), *ка́ркі* мн. – Лаг., Стаўб. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *паўка́ры* мн. – Беш. (Каспяровіч, Станкевіч), *калыма́га* ж. – Карм., Смален. р. (Мат. Гом., Дабравольскі), *калыма́жка* ж., *калама́жка* ж. памянш.– Чэрв. р., Пух., Карэл., Смален. р. (ЛАБНГ, Мат. Гродз., Дабравольскі, Шатэрнік), *калама́шачка* ж. памянш. – мясц. (Станкевіч), *карапа́шка* ж. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *цяле́га* ж. – усх.-маг. р., Брасл., Гом., Добр., Латгал. р., Беластоц. р., Смален. р. (СПЗБ, ЛАБНГ, Бялькевіч, Дабравольскі), *паво́зка* ж. – усх.-маг. р., Саліг. (ЛАБНГ, Бялькевіч), *падво́з* м. – Верхнядзв. (СПЗБ), *падво́да* ж. – усх.-маг. р., Дзятл., Стол. (ТС, Мат. Гродз., Бялькевіч, Станкевіч), *лаго́жы* мн., *лаго́шы* мн. – Чашн., Сен. (Каспяровіч, Станкевіч), *рэ́далі* мн. – Смарг., Мёр., Гарад., Беш. (Сл. Гродз., ЖНС, НЛ, Каспяровіч, Станкевіч), *рэ́даль* м. – Мёр., Брасл. (СПЗБ), *лэ́дары* мн. – Віц. р. (Каспяровіч), *арэ́далы* мн. – Лёзн. (Каспяровіч, Станкевіч), *ра́гілі* мн. – Беш. (Каспяровіч, Станкевіч), *ла́геры* мн. – Свісл. (СРЛГ), *рэґа́лы* мн. – Брасл. (СПЗБ), *рэ́зґіны* мн. – Брасл. (СПЗБ), *тарада́йка* ж. – Драг. (НЛ), *тарадэ́йка* ж. – Сен. (Каспяровіч), *таранта́с* (*таранда́с*) м. – Верхнядзв., Рас., Сен., Паст., Брасл., Глыб., Латгал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Каспяровіч, Шаталава), *або́зня* ж. – Гродз. (Мат. Гродз.), *бато́ры* мн. – Кругл., Бял. (Мат. Маг., Н. сл.-сць), *біндзю́г* м. – усх.-маг. р., зах.-бран. р. (Бялькевіч, Растаргуеў), *бры́ка* ж. – Глыб., Петр. (ЛАБНГ, Мат. Гом.), *дро́гі* мн. – Віц., Гарад. (ЛАБНГ, Каспяровіч), *дро́нгі* мн. – Мёр. (ЖНС), *клю́шні* мн. –

Буда-Каш., Гом. (Мат. Гом.), *панарад* м. – Чэрв. р., Глыб. (ЛАБНГ, Шатэрнік), *раскаты* мн. – Беш., Арш. (ЛАБНГ, Каспяровіч), *роспускі* мн. – усх.-маг. р., Сен. (Бялькевіч, Каспяровіч), *хадок* м., *худок* м. – Краснап., Жытк. (ЛАБНГ, Мат. Гом.), *буда* ж. – Уздз. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *бухты* мн. – Бераст. (СРЛГ), *гара* ж. – Драг. (ДСБ), *гарба* ж. – Лоеў. (Янкова), *гарбіна* ж. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *галяра* ж. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *застаўкі* мн. – Маладз. (Мат. мін.-мал.), *казутка* ж. – Гарад. (Каспяровіч), *караван* м. – Глыб. (ЛАБНГ), *катулка* ж. – Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч), *кашалы* мн. – Лях. (СПЗБ), *кібітка* ж. – Іўеў. (СПЗБ), *падок* м. – Стол. (ТС), *палупышак* м. – Іван. (ДСБ), *покат* м. – мясц. (Станкевіч), *потак* м. – Маст. (Сл. Гродз.), *разваліны* мн. – Гарад. (СПЗБ), *развод* м. – мясц. (Станкевіч), *хуругон* м. – Тал. (Шаталава), *хурго* н. – Арш. (ЛАБНГ), *шарабан* м. – Стол. (ДСБ); *вязеня* ж. 'паўвоз (выключна сена)' – мясц. (Станкевіч), *вадавозка* ж. 'калёсы для падвозкі вады' – Мсцісл. (Юрчанка), *грабарка* ж. 'павозка вазіць пясок, гліну' – Смал. (СЦБ), *калупышак* м. 'гаспадарчая павозка, спецыяльна прыстасаваная для перавозкі торфу' – Маладз. (СЦБ), *абшыванка* ж. 'воз без драбін, абшыты тонкімі дошкамі' – Бар., Бял. (ДСБ, Мат. дыял. сл.), *гумак* м. 'воз на гумавых колах' – Беластоц. р. (СПЗБ), *дрогкія калёсы* 'воз, які моцна трасе' – мясц. (Станкевіч), *дышлёвы воз* 'воз з дышлем' – пал. р. (ЛП), *звінчакі* мн. 'даўнія калёсы, дзе колы былі не гнутыя, а збітыя са звенняў' – Лаг. (Варлыга), *кораб* м. 'глыбокі воз' – Лёзн. (Каспяровіч), *курачнік* м. 'зімні вазок' – Карэл. (Сл. Гродз.), *лагоша* ж. 'воз з бакавымі дошкамі замест драбін' – Чэрв. (СПЗБ), *лінейка* ж. 'прадаўгаватая павозка ў выглядзе лінейкі на шырокіх колах' – Пух. (Мат. мін.-мал.), *нарада* ж. 'павозка, у якой замест драбін пастаўлены дошкі' – Стаўб. (СЦБ), *паўтароўка* ж. 'паўтарачны воз' – Гродз. р. (Цыхун), *сараквашкі* мн. 'калёсы, неакаваныя жалезам' – усх.-маг. р. (Бялькевіч);

**вялікі воз**: *вазішча* н. – Жытк. (ТС), *вазюган* м. – Мсцісл. (Юрчанка, Станкевіч), *вазіска* н. непахв. – Зэльв.

(СРЛГ), *гáрба* ж. – Гом., зах.-бран. р. (Мат. Гом., Растаргуеў), *развóды* мн. – Лаг. (Шаталава), *фýра* ж. – Астр., Гродз., Дзятл., Вілен. р., Беластоц. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., Цыхун, Насовіч), *фíра* ж. – Акц., Беластоц. р. (СПЗБ, Мат. Гом.), *хýра* ж. – Чэрв. р., Бярэз., Круп., Слаўг., Лях., Кам., Драг. (СПЗБ, Мат. мін.-мал., Мат. Маг., ЛП, ЖС, СНМ, Станкевіч, Шатэрнік), *гýра* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *лáйба* ж. – Мядз. (СПЗБ), *мáры* мн. – Латгал. р. (СПЗБ), *рададýлі* мн. – Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч);

**невялікі воз**: *вазóк* м. памянш., *вазóчак* м. памянш. – мясц. (Насовіч), *вазэ́чак* м. – Лід. (Мат. Гродз.), *вазéнька* ж. – Смален. р. (Дабравольскі), *астрáмак* м. – Лаг., Слон. (ЖС, Варлыга), *астрóмак* м., *стрóмак* м. – мясц. (Насовіч), *настрáмак* м., *настрóмак* м., *настрáмачак* м. памянш. – Гродз. р., Чэрв. р., Уздз., Светлагор., Петр., Браг., Лоеў. (СЦБ, Мат. мін.-мал., Мат. Гом., Шатэрнік, Цыхун, Янкова), *драбíнкі* мн. – Вілен. р. (СПЗБ, Станкевіч), *калёскі* мн. – мясц. (Станкевіч), *камлáйка* ж., *камлáечка* ж. памянш. – Мсцісл. (Юрчанка), *пакцярка* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *прыцяжка* ж. – Драг. (ЛП), *прыцяжáнка* ж. – Жытк. (ТС), *тáчка* ж. – Віл. р. (СПЗБ), *шэ́ткі* мн. – Кам. (ДСБ); *бядá* ж. ‘лёгкі воз на чатыры колы’ – Лаг. (Варлыга);

**параконны воз (калёсы з дышлем, у якія запрагаюць пару коней)**: *паракóнка* ж. – Бял. (Мат. дыял. сл.), *паракóнны воз* – пал. р. (ЛП), *кáры* мн. – Лаг., Лід., Бар., Пух. (СПЗБ, СЦБ, Мат. мін.-мал., Варлыга, З нар. сл.), *біндзю́г* м. – Мсцісл. (З нар. сл.), *фýра* ж., *хýра* ж. – Пух., Чэрв. (Мат. мін.-мал.), *фургóн* м. – Беш., Маст. (СПЗБ, Каспяровіч);

**воз на жалезных восях**: *біндзю́к* м. – Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч), *жалéзны ход* – пал. р., Зэльв. (Мат. Гродз., ЛП); *гамля́чка* ж. ‘воз на жалезным хаду ў выглядзе люлькі’ – Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч);

**воз на драўляных восях**: *дзеравя́нны воз* – пал. р. (ЛП), *палéнны ход* – Круп. (СЦБ), *парцянŷ воз, пóрцяны воз, партнŷ воз, парцянŷя вазŷ* – пал. р. (ЛП), *вусáтыя калёсы* – Мядз. (ЖС);

**воз на рысорах**: *рэсо́рка* ж. – Петр. (Мат. Гом.), *чартапха́йла* ж. іран. – Мсцісл. (Юрчанка);

**выязная павозка**: *бры́чка* ж. – пал. р., Вілен. р. (СПЗБ, ЛП, Насовіч), *бры́ка* ж. – Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч), *драбі́ны* мн. – Смарг. (Мат. Гродз.), *драбня́к* м. – Астр. (Мат. Гродз.), *драпча́к* м. – Зэльв., Валож., Карэл., Гарад. (СПЗБ, СЦБ, Н. сл.-сць, Сцяцко), *дра́пчык* м. – Капыл. (ЖС), *дра́бкі* мн. – Сен. (Каспяровіч, Станкевіч), *калама́жка* ж. – пал. р., Віц. р., Віл., Лаг., Навагр. (СПЗБ, Мат. мін.-мал., З нар. сл., ЛП, Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч), *карафа́шка* ж., *карахва́шка* ж. – Віц. р., Верхнядзв., Жлоб. (СПЗБ, Мат. Гом., Каспяровіч), *вазо́к* м. – Стол., Жытк. (ТС), *ліне́йка* ж. – Брасл., Верхнядзв., Вілен. р., Латгал. р. (СПЗБ), *карэ́та* ж. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *качэ́брык* м. – Пух. (Мат. мін.-мал.), *кучо́брык* м. – мясц. (Насовіч), *мажа́рка* ж. – Чав. (Мат. Маг.), *пая́зд* м. – Дзярж. (НС), *пае́зд* м., *паяздо́к* м. памянш.– мясц. (Станкевіч), *рамі́знік* м. – Лаг. (Варлыга), *рыдва́н* м., *рыдва́нчык* м. памянш. – мясц. (Насовіч), *са́нкі* мн., *санкі́* (*санкы́*) мн., *саначкі́* мн. памянш. – пал. р. (ЛП), *тарада́йка* ж. – мясц. (Насовіч); *пая́зд* м. ‘вясельны поезд, вазы ўсіх гасцей’ – Віц. р. (Каспяровіч), *файто́н* м. ‘лёгкі экіпаж з адкідным верхам’ – Жытк. (ТС);

**воз для перавозкі лесу, бярвення**: *біндзю́г* м., *біндзю́га* ж. *біндзюгі́* мн. – Круп., Кругл., Мсцісл., Светлагор. (Мат. Гом., ЖС, Мат. Маг., Юрчанка), *біндзю́жка* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *бідзюгі́* мн. – Бял. (Н. сл-сць), *дро́гі* мн. – усх.-маг. р., Пол., зах.-бран. р. (НЛ, Бялькевіч, Растаргуеў), *дро́нджыкі* мн. – Беш. (Каспяровіч, Станкевіч), *дронґ* м. – Докш. (Мат. дыял. сл.), *ка́ры* мн. – Смарг., Докш. (СПЗБ, Станкевіч), *крыву́лі* мн. – Мёр., Ваўк., Свісл., Зэльв., Навагр., Клецк., Бярэз. (Мат. Гродз., Мат. мін.-мал., ЖНС, НЛ, Шаталава, Сцяцко), *крынджа́лы* мн. – Мсцісл. (Юрчанка), *лю́шні* мн. – Лоеў. (Мат. Гом.), *паварні́к* м. – Навагр. (СРЛГ), *развo̒д* м., *развo̒ды* мн. – Лаг., Віл., Навагр. (СПЗБ, Мат. Гродз., Варлыга), *раска́ты* мн. – Лёзн., Шкл., Мсцісл. (Мат. Маг., Каспяровіч, Юрчанка), *ро́спускі* мн. – Лоеў. (Янкова, Станкевіч),

*распускі́* мн. – Беш. (НС), *распускні́* мн. – Мёр. (ЖНС), *расшво́рка* ж. – Зэльв. (Сцяцко), *цяле́га* ж., *цялёга* ж., *цяле́жка* ж. памянш. – пал. р. (ЛП);

**воз для вывазу гною**: *гная́ўкі* мн. – Уздз., Маладз., Пух. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *гнаёўкі* мн. – Астр. (Сл. Гродз.), *гная́нкі* мн. – Зэльв. (Мат. Гродз.), *гняя́лкі* мн. – Пух. (СЦБ), *гная́ўка* ж. – Бераст. (СРЛГ), *ставо́к* м. – Шчуч., Лях. (Сл. Гродз., Мат. дыял. сл.), *нара́дка* ж. – Стаўб. (СЦБ, СНМ, Мат. мін.-мал.), *наво́знікі* мн. – Беш. (Каспяровіч);

**крытая павозка**: *бры́ка* ж. – мясц. (Насовіч), *бу́да* ж. – Чэрв. р., Віц. р., Смален. р. (Дабравольскі, Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік), *балагу́ра* ж. – зах.-бран. р. (Растаргуеў); *кура́тнік* м. ‘павозка з будкай’ – Навагр. (Сл. Гродз.), *балаго́л* м. ‘яўрэйскі дыліжанс’ – мясц. (Станкевіч), *халабу́да* ж., *галабу́да* ж. ‘калёсы з брэзентавымі буданамі ў цыганоў, анучнікаў’ – пал. р. (ТС, НС);

**воз са скрыняй**: *га́ра* ж. – Малар. (Н. сл.-сць), *карэ́та* ж. перан. – Смарг. (Сл. Гродз.), *каша́ра* ж. – Жлоб. (Мат. Гом.);

**стары воз**: *біту́шка* ж., *біту́шачка* ж. памянш. – Мсцісл. (Юрчанка), *бры́чка* м. іран. – Беластоц. р. (СПЗБ), *дры́нда* ж. – Гродз. р., Слон., Беластоц. р. (СПЗБ, ЖНшС, Цыхун), *ла́йба* ж. – Маст., Слон. (СРЛГ), *тарада́ка* ж. – Драг., Беластоц. р. (СПЗБ, СНМ), *тарата́йка* ж. – Гродз. р. (Цыхун), *недало́мак* м. экспр. – Жытк. (ТС), *воз на карася́х* – Стол. (ТС); *скрыпіда́йла* н. ‘воз, які рыпіць’ – Свісл. (СРЛГ);

**двухколка, невялікі ручны вазок**: *во́зік* м., *вазо́к* м. – пал. р. (ТС, ЛП), *бяда́* ж. – Чэрв. р., пал. р. (ТС, ЛП, Шатэрнік), *бэ́да* ж., *бэ́дачка* ж. памянш. – Малар. (Н. сл-сць), *двуко́лка* ж., *двухко́лка* ж. – Навагр., Зэльв. (Мат. Гродз.), *калама́шка* ж. – Ганц., Старадарож. (СПЗБ, ЖНС), *калма́шка* ж. – Паст. (СПЗБ), *каля́ска* ж. – Гарад. (СПЗБ), *каля́са* ж. – Дзятл. (Мат. Гродз.), *тарада́йка* ж., *тарада́ечка* ж. – Стол., Беластоц. р. (ТС, СПЗБ), *цяле́жка* ж. – пал. р., Уздз. (Мат. мін.-мал., ЛП), *чыхо́нка* ж. – Брасл. (СПЗБ).

## Часткі воза

### Аглоблі

Пара жардзін, прымацаваных канцамі да пярэдняй восі воза, у якія запрагаюць каня.

*агло́бля* ж., *агло́блі* (*вагло́блі*) мн., *аглабли́* (*аглабле́*) мн. – пал. р., Віц. р., Воран., Вілен. р., Смален. р. (СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., ЛП, Дабравольскі, Каспяровіч), *ало́блі* мн. – Воран., Астр. (СПЗБ), *аглабі́на* ж. – Гл. (Янкоўскі), *аглаблі́на* ж., *аглаблі́нка* ж. памянш., *аглабі́шча* ж. павеліч., *агло́бліна* ж., *агло́блінка* ж. памянш. – Мсцісл. (Юрчанка), *аглабліна́* ж. – Мёр., Віл. (СЦБ, Н. сл.-сць), *аглабля́* ж. – усх.-маг. р., Раг., Рэч., Латгал. р. (СПЗБ, Мат. Гом., Бялькевіч), *аглабня́* ж. – Чэрв. р., Віл., Ганц. (ДСБ, ЖС, Шатэрнік), *агло́бня* ж. – Пух. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *аглабе́лле* н. зборн. – Мсцісл. (Юрчанка), *гало́бля* ж. – Гродз. р., Воран., Вілен. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., Цыхун), *галабля́* ж. – Воран., Вілен. р. (СПЗБ), *гало́блі* мн. – Малар. (ДСБ), *бэ́млі* мн. – Іўеў. (Сл. Гродз.); *ву́шы* мн. ‘дэталь да аглоблі’ – Стаўб. (СЦБ), *каблу́к* м. ‘крук на канцы аглоблі’ – Малар. (Н. сл-сць), *лі́йка* ж. ‘круглае конусападобнае жалеза, якое насаджваецца на аглоблю’ – Драг. (ЖС);

**зазубень ‘жалезная насечка на канцы аглоблі, дзе замацоўваецца атоса’**: *за́зуб* м., *за́зубі* мн., *за́зубні* мн., *за́зубцы* мн. – пал. р. (ЛП), *за́зубень* м. – Ваўк. (Мат. Гродз.), *капту́р* м., *каптуры́* (*каптурі́*) мн. – пал. р. (ЛП), *грабёнка* (*граб’ёнка, грэб’ёнка*) ж. – пал. р., Уздз., Круп., Мсцісл. (СЦБ, ЛП, Н. сл-сць, Юрчанка), *грабі́нка* (*грэбі́нка*) ж., *граблёнка* ж., *грабю́нка* ж. – пал. р. (ЛП, Н. сл-сць, ЖС), *грабёнкі* (*грэбёнкі, грэб’ёнкі*) мн. – пал. р. (ЛП), *грабе́лькі* мн. – Гродз. р. (Цыхун).

### Атосы

Драцяныя або з жалезных прутоў, рэменю і інш. цяжы ў возе.

*ато́са* ж., *ато́ска* ж. памянш., *ато́сы* мн. – пал. р., усх.-маг. р., Брасл., Лаг., Смарг., Воран., Ваўк., Лях., Дзятл., Шчуч., Вілен. р., Латгал. р., зах.-бран. р. (СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., ЛП, Бялькевіч, Варлыга, Насовіч, Растаргуеў, Станкевіч), *ато́с* м. – Чэрв. р. (Шатэрнік, Станкевіч), *атаса́* ж. – Смарг. (СПЗБ), *ато́сіна* ж. – усх.-маг. р., Верхнядзв. (СПЗБ, Бялькевіч, Насовіч), *атасі́на* ж. – Чэрв. (СПЗБ), *ацёса* ж., *ацёсы* мн. – пал. р. (СПЗБ, ТС, ЛП, СНМ, НЛ, ЖС), *аці́сак* м. – Кам. (ЖНС), *гато́са* ж. – Воран. (СПЗБ); *акруце́нь* м. 'атоса, скручаная з вітак' – Глыб. (СПЗБ);

**атоснік 'частка атосы, драўляная або жалезная пятля на канцы атосы, якая надзяваецца на канец пярэдняй восі'**: *ато́снік* м., *ато́снікі* мн. – усх.-маг. р., пал. р. (ЛП, Бялькевіч, Насовіч), *заацёснік* м., *заацёснікі* мн., *зацёснікі* мн. – пал. р. (ЛП), *заці́снік* м. – Драг. (ЖС), *нaaцёснік* м., *прыато́снік* м., *прыацёснік* м. – пал. р. (ЛП), *прыто́сак* м. – Мёр. (ЖНС), *пры́таснік* м. – Верхнядзв. (Шаталава).

## Ворчык

Ба́рак, пры да папамозе якога запрагаюць каня ў плуг або прыпрагаюць другога каня ў парнай запрэжцы: брусок з жалезным крукам пасярэдзіне, за які зачэпліваюцца пастронкі.

*во́рчык* м. – Чэрв. р., зах.-бран. р. (Растаргуеў, Шатэрнік), *арча́к* м. – мясц. (Насовіч), *каро́мысла* н., *каро́мыслы* мн. – пал. р., Раг., Ганц. (ЛАБНГ, СНМ), *каро́мысел* м., *каро́мусель* м., *бальшо́е каро́мысла, дубэльто́вае* (*дубэльто́вэ*) *каро́мысла*, *мало́е коро́мысла* – пал. р. (ТС, ЛП), (*а*)*ба́рак* м., (*а*)*ба́ркі* мн., *баркі́* мн., *бо́ркі* мн., *ба́рчык* м., *ба́рчыкі* мн. – пал. р. (ЛП, ТС), *стальва́га* (*штальва́га*) ж., *стальва́гі* мн. – пал. р., Чэрв. р., Брасл., Ашм., Астр., Гродз., Мядз., Шчуч., Віл., Маладз., Пух., Беластоц. р., Вілен. р. (СПЗБ, ДСБ, Мат. дыял. сл., ЛП, ЖНшС, Шатэрнік), *бічава́* ж. – пал. р. (ТС, ЛП), *бічуга́* ж. – Стол. (ТС), *вало́к* м. – пал. р. (ЛП), *валёк* м. – Ветк., Гом. (Мат. апыт.), *валёчак* м. памянш. – Мсцісл. (Юр-

чанка), *стрык* м. – пал. р. (ЛП), *су́праж* ж. – мясц. (Насовіч), *цяга* ж. – пал. р. (ЛП); *цэп* м. 'дрот або цэп, з дапамогай якога барчык прывязваецца да ручкі ў запрэжцы на орчык' – пал. р. (ЛП).

### Вузгалаўе (падушка) у возе

Брус у калёсах, які служыць асновай для драбін і ляжыць на восі.

*ву́згалаўе* н. – Чэрв. р., Мін., Дзярж., Уздз., Стаўб., Нясв., Капыл., Лях., Слуцк., Пух., Бярэз., Асіп. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. дыял. сл., Шатэрнік), *ву́згалаве* н. – Лях., Дзярж. (СПЗБ), *ву́згалава* н. – Старадарож. (ЛАБНГ), *вы́згалаўе* н. – Жлоб. (ЛАБНГ), *ву́згалавень* м. – пал. р., Чэрв. р., Люб., Слуцк. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Н. сл-сць, Шаталава, Шатэрнік), *ву́згалаўні* мн. – пал. р. (ЛП), *ву́згалавак* м. – пал. р., Асіп. (ЛАБНГ, ЛП), *ву́згалаўка* ж. – Гл., Барыс. (СЦБ, Янкоўскі), *ву́завалак* м. – Лід., Шчуч., Дзятл., Гродз. (СПЗБ, Сл. Гродз.), *ву́завала* н. – Навагр. (ЛАБНГ), *ву́завальё* н. – Навагр. (ЛАБНГ), *ву́залаўё* н. – Карэл. (ЛАБНГ), *ву́залавак* м. – Лід., Свісл. (ЛАБНГ, Шаталава), *ву́залавень* м. – Стаўб. (ЛАБНГ), *ву́звалак* м. – гродз.-бар. г., Рас., Бял., Гом. (ЛАБНГ, СПЗБ, Шаталава), *галава́шка* ж. – Светлагор., Хойн., Круп. (ЛАБНГ, ЖС), *галава́шачка* ж., *галавя́ка* ж. – пал. р. (ЛП), *згало́вак* м. – зах.-пал. г. (ЛАБНГ, Н. сл.-сць), *зго́лавак* м. – Слон. (ЛАБНГ, СПЗБ), *згалава́ха* ж. – Лоеў. (ЛАБНГ), *згалава́шак* м. – Браг. (ЛАБНГ), *згалава́шка* ж. – Петр., Калінк., Рэч., Лельч., Браг. (ЛАБНГ), *згалавя́ка* ж. – пал. р. (ЛП), *ізгало́вак* м. – Беластоц. р. (СПЗБ), *азало́вак* м. – Бяроз. (ЛАБНГ), *прыгало́ўнік* м. – Вілен. р. (СПЗБ), *сугало́вак* м. – Іван., Бяроз. (ЛАБНГ, Шаталава), *сугалаво́к* м. – Кобр. (ЛАБНГ), *сугало́ўе* н.– Кір., Бабр. (ЛАБНГ), *су́галавак* м., *су́галалак* м., *су́галаўкі* мн. – пал. р. (ЛАБНГ, ЛП), *су́валак* м. *су́валавак* м. – пал. р. (ЛАБНГ, ЛП), *сугава́шка* ж. – Нараўл. (ЛАБНГ), *сугалава́шка* ж. – Нараўл. (ЛАБНГ), *сагалава́шнікі* мн. – пал. р. (ЛП), *узгало́ўе* (*узгало́ўя*) н. – Чашн., Леп., Барыс.,

Круп., Бярэз., Маг., Кругл., Бых. (ЛАБНГ), *ýзгалавень* м. – пал. р. (ЛП), *узгалавáш* м. – Барыс. (Шаталава), *узгалавáшка* ж., *узгалавáшкі* мн. – пал. р., Раг., Гл. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП), *узгалавáшча* н. – Сен., Барыс. (Мат. мін.-мал., Каспяровіч, Станкевіч), *узгалавáшша* н. – Докш. (ЛАБНГ), *узгалавáк* м. – Гродз. (ЛАБНГ), *узгалавáнка* ж. – пал. р. (ЛП), *ýзавалак* м. – Маст., Ваўк. (ЛАБНГ, Шаталава), *падýшка* ж. – віц.-маг. г. (паўн. і паўдн. часткі), паўн.-зах. з. (спарадычна), пал. р., Пух., Гл., Добр., Буда-Каш., Латгал. р., Вілен. р. (ЛАБНГ, ТС, СПЗБ, СЦБ, Мат. Гом., ЛП, Бялькевіч, Шаталава, Цыхун, Юрчанка, Станкевіч), *пóдушка* ж. – пал. р., Зэльв., Воран., Дзятл., Івац., Малар. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Н. сл-сць, Сцяцко), *падýшачка* ж. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *перадóк* м. – Маладз., Валож., Гарад., Тал., Дубр., Гор., Слаўг., Чав., Хоц., Карм., Буда-Каш., Бераст., Бяроз., Стол., Лун., Саліг., Рэч., Добр., Хойн., Лоеў. (ЛАБНГ), *парадóк* м. – Ганц. (ЛАБНГ), *пэрадóк* м. – Люб. (ЛАБНГ), *пярóд* м. – Бераст. (ЛАБНГ), *аплéнь* (*оплэ́нь, оплі́н, плень, воплéнь*) м. і ж., *аплéні* мн., *аплéна* мн., *аплéнка* ж. – пал. р. (ЛАБНГ, ТС, ЛП), *крэ́сла* н., *кшэ́сла* н. – паўн.-зах. з. (паўн. і цэнтр. часткі), Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз.), *падасёнак* м. – Добр. (ЛАБНГ), *падóснік* м., *падвóснік* м. – Малар. (Н. сл.-сць), *бáба* ж. – Лаг. (Шаталава), *панарáд* м. – Беш. (ЛАБНГ), *падклáдка* ж. – Добр. (ЛАБНГ), *прáнік* м. – Смарг. (Шаталава), *шáпка* ж. – Свісл. (Шаталава); *паддзéлак* м. ‘пракладка паміж падушкай і шворнам у калёсах’ – усх.-маг. р. (Бялькевіч).

## Драбіны ў возе

Кузаў; бакавыя часткі воза (барты, рашоткі, якія складаюць кузаў воза).

*драбі́на* ж., *драбі́ны* мн., *драбіні́* мн. – пал. р., усх.-маг. р., Астр., Шчуч., Дзятл., Валож., Вілен. р., Беластоц. р. (СПЗБ, ТС, СНМ, ЛП, Бялькевіч, Сцяцко), *драбі́нка* ж., *драбі́нкі* мн. – пал. р., Вілен. р. (СПЗБ, ЛП), *дрáбкі* мн., *дрáбка*

ж. – пал. р. (ЛП, ЖНС), *драб* м., *дрáбы* (*дрáбі*) мн. – пал. р., Лаг. (ЛП, ТС, Шаталава, Варлыга), *дрэ́бы* мн. – Слон. (ЖНС), *дрáбцы* мн., *драбцы́* мн. – пал. р. (ТС, ЛП), *драбіня́к* м. – Брасл. (СПЗБ), *аглабíна* ж., *аглабíнка* ж. памянш. – пал. р. (ЛП), *аглабéц* м. – Кір. (Мат. Маг.), *глабíна* ж., *глабíнка* ж. памянш., *глабíны* мн., *глабíнкі* мн. памянш., *глáбі* мн., *глáбцы* мн. – пал. р. (ТС, ЛП, Нар. скарбы, НЛ), *заплíшкі* мн., *зáплішкі* мн. – пал. р. (ЛП, ДСБ), *бíла* н. – Бяроз. (ДСБ), *вярхнíца* ж. – Пух. (З нар. сл.), *карахвáшка* ж. – Кір. (НС), *кашалá* ж. – Віц. р. (Каспяровіч, Станкевіч), *кáста* ж., *кáсты* мн. – Вілен. р. (СПЗБ), *курасáдкі* мн., *курсáдкі* мн. – Ашм. (Сл. Гродз., Мат. мін.-мал.), *панарáд* м. – Лаг., Беш. (Варлыга, Каспяровіч), *плíска* ж. – Лун. (ДСБ, Шаталава), *пóбачні* мн. – Раг. (СПЗБ), *пабачні́* мн. – Мёр. (ЖНС), *рабры́на* ж., *рабры́ны* мн. – пал. р. (ЛП, Н. сл-сць), *ру́чкі* мн. – Мёр. (НС), *спадáк* м. – Гродз. р. (Цыхун), *страмíна* ж., *страмíны* мн., *страмíнкі* мн. памянш., *страмíнчына* ж. – Драг. (ЛП, НЛ, Станкевіч), *кашалы́* мн. – Лях. (СПЗБ), *мáжы* мн. – Барыс. (Мат. мін.-мал.), *я́слі* мн. – Латгал. р. (СПЗБ); *халáш* м. 'будан на возе' – Лельч., Маз., Нараўл. (НС), *бу́да* ж. 'буда, пакрыцце ад дажджу над возам', 'своеасаблівая паветка на возе (у цыганоў, старцаў)' – усх.-маг. р., Гл. (Бялькевіч, Насовіч, Станкевіч, Янкоўскі), *вусы́* (*вусэ́*) мн. 'прыстасаванне з трох жэрдак у выглядзе трохвугольніка, якое кладзецца на воз' – Навагр. (НС), *зáдарашка* ж. 'спінка ў вазку' – Латгал. р. (СПЗБ), *пасцéльнік* м. 'рашотка ў павозцы' – Добр. (Мат. Гом.), *рáшты, ры́шты, рэ́шты* мн. 'прыстасаванне ў возе для пашырэння яго пагрузачнай пляцоўкі' – Малар. (Н. сл.-сць), *рыґалы* мн. 'спецыяльная рама на возе' – Пух. (ЖС);

**від кузава воза для перавозкі сыпучых рэчываў**: *бляты* мн. – пал. р. (ЛП), *гáра* (*ґáра*) ж. – Брэсц., Малар., Драг. (НЛ, Н. сл.-сць), *кáры* мн. – Астр. (СПЗБ), *скры́ня* ж. – пал. р. (ДСБ, ЛП), *я́шчык* м. – Брасл. (СПЗБ);

**вертыкальныя і гарызантальныя планкі ў драбінах воза**: *ля́ска* ж., *ля́скі* мн. – пал. р., Гродз. р., Чэрв. р., Зэльв.,

Бял., Мсціcл. (ДСБ, Мат. дыял. сл., ЛП, Сцяцко, Цыхун, Шатэрнік, Юрчанка), *лястка* ж., *лясткі* мн., *лястачкі* мн. памянш., *лёстка* ж., *лёстачка* ж. памянш., *лёсткі* мн., *лёстачкі* мн. памянш., *ляcткі* (*лёсткі*) мн., *люстачкі* мн. памянш., *лёст* м. – пал. р. (Мат. Гом., ЛП, ТС, Н. сл.-сць), *біла* н., *більца* н. памянш. – пал. р., Чэрв. р., Пух. (СПЗБ, ТС, ЛП, Шатэрнік), *біліца* ж., *біліцы* мн. – Чэрв., Бярэз. (СПЗБ, СЦБ), *білка* ж. – Дзярж., Чэрв. (СПЗБ, НС), *білы* мн., *білца* н., *білцы* мн., *набілак* м., *набілкі* мн. – пал. р. (ЛП), *більчына* ж. – Малар. (Н. сл.-сць), *аглабіна* ж., *аглабінка* ж. памянш., *аглабіны* мн. – пал. р., Стаўб. (ЛАБНГ, ЛП), *аглабéц* м. – Капыл. (З нар. сл.), *аглабінó* н. – Слуцк., Капыл. (З нар. сл.), *глабіна* ж., *глабінка* ж. памянш., *глабіны* мн., *глабінкі* мн. памянш., *глáбі* мн. – пал. р. (ЛАБНГ, ТС, ЛП), *глáбка* ж. – Лун., Лоеў. (Шаталава, Янкова), *ляжáтка* ж., *ляжáткі* мн. – Ашм., Воран., Лід., Шчуч. (СПЗБ, Сл. Гродз., Станкевіч), *ляжэйка* ж. – Астр., Віл., Лаг., Сен., Круп., Вілен. р. (СПЗБ, Сл. Гродз., ЖС, Каспяровіч, Станкевіч), *ляжáйкі* мн. – Воран., Валож., Кругл. (ЛАБНГ), *шчэ́быль* м., *шчаблы́* мн., *шчэ́блы* мн. – Іўеў., Смарг., Шчуч., Кам., Вілен. р. (СПЗБ, Сл. Гродз.), *шчэ́бры* мн. – Круп. (ЖС), *аклáдзіна* ж., *аклáдзіны* мн. – Зэльв., Ваўк. (СПЗБ, Сцяцко), *аклáдніца* ж. – Свісл. (Сл. Гродз.), *бакаўнічка* ж. – Ветк. (Мат. Гом.), *бакóўка* ж., *бакóўкі* мн. – Вілен. р. (СПЗБ), *пóбачня* ж. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *пóбацна* ж. – Лоеў. (Янкова), *грáдкі* мн., *грáдачкі* мн. памянш. – Шарк., Віц., Чач., Латгал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *жóрдкі* мн. – Лёзн., Бял., Мсцісл., Клім. (ЛАБНГ), *баляса* ж. – Стол. (ТС), *баляска* ж. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *абартóўка* ж. – Круп. (ЖС), *абéрвіца* ж. – Ваўк. (СПЗБ), *бляты* мн. – пал. р. (ЛП), *вóгарадкі* мн. – Карэл. (Сл. Гродз.), *вóсланка* ж. – Карэл. (Сл. Гродз.), *вяжáціны* мн. – Шчуч. (СПЗБ), *драбінка* ж. – Акц. (ЛАБНГ), *дрóнгі* мн. – Гродз. (СПЗБ), *дрýкі* мн. – Беластоц. р. (СПЗБ), *дрýнка* ж. – Гродз. р. (Цыхун), *дэ́кілі* мн. – Смарг. (Сл. Гродз.), *застаўнік* м. – Лаг. (Варлыга), *ігліца* ж. – Вілен. р. (СПЗБ), *курасáдкі* мн. – Ашм. (Сл. Гродз.), *літрына* ж. – Малар. (Н. сл-сць), *мáчаха* ж. –

Малар. (Н. сл.-сць), *накла́дка* ж., *накла́дкі* мн. – Латгал. р. (СПЗБ, Станкевіч), *пя́ла* (*п'я́ло*) н., *пя́лы* (*п'я́ла*) мн. – пал. р. (ЛП), *пацапо́к* м. – Карэл. (З нар. сл.), *по́перадзень* м. – Стол. (ТС), *раздýжжа* н. – Лёзн. (Каспяровіч, Станкевіч), *рэ́ечка* ж. памянш. – Латгал. р. (СПЗБ), *скрэнт* м. – Гродз. р. (Цыхун), *сні́цы* мн. – пал. р. (ЛП), *цапо́к* м., *цапкі́* мн. – пал. р. (ЛП, Н. сл-сць), *чу́чкі* мн. – Лун. (Шаталава); *вязо́к* (*в'язо́к*) м. 'driчок, які злучае верхнія жардзіны ў драбінах воза' – Драг. (ЖС);

**дошкі, якія закладваюцца ў воз пры перавозцы сена, саломы, снапоў**: *абе́рніцы* мн. – Свісл. (Шаталава), *аплавы́* мн. – Беластоц. р. (ЖНшС), *драбі́ніна* ж., *драбі́нінка* ж. памянш. – Мсцісл. (Юрчанка), *ма́ры* мн. – Віц. р. (Каспяровіч), *за́стаўкі* мн. – Гродз. (Мат. Гродз.), *лаґо́шы* мн. – Драг. (НЛ);

**дошкі, якія закладваюцца па баках калёс пры перавозцы гною**: *гнаяўка* ж., *гнаяўкі* мн. – Віл., Пух. (ЖС, Станкевіч), *гняяўка* ж. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *гнаярка* ж. – Шчуч., Гродз., Стаўб. (СЦБ, З нар. сл., Цыхун), *гнаёўка* ж. – Віл. (ЖС), *гнаёвачкі* мн. – Гродз. (Сл. Гродз.), *акла́дніца* ж., *акла́дніцы* мн. – Гродз. р., Свісл. (Цыхун, Шаталава), *во́градка* ж. – Навагр. (ЖС), *во́сланка* ж. – Стаўб. (ЖС);

**прыстасаванне да калёс вазіць бярвенне**: *крыву́лі* мн. – Іўеў., Дзятл., Навагр., Слон., Ганц., Бярэз., Бял. (СПЗБ, СЦБ, НЛ, НС), *крыва́лы* мн. – Бял., Мсцісл. (ЛАБНГ, Мат. дыял. сл.), *крынджа́лы* мн. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *дрыга́лы* мн. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *клю́шні* мн. – Ашм. (СРЛГ), *лю́шні* мн. – Гродз. р. (Цыхун), *лаго́шы* мн. – Кір. (НС), *раска́ціна* ж. – Мсцісл. (Юрчанка), *ро́звальні* мн. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *су́ка* ж. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *цялёжка* ж. памянш. – пал. р. (ЛП), *хваставі́к* м. – Барыс. (Шаталава), *шара́гі* мн. – Карэл. (З нар. сл.).

## Дышаль

Жэрдка, прымацаваная да сярэдзіны пярэдняй восі воза пры парнай запрэжцы.

*дышла* н. – пал. р., усх.-маг. р., Воран., Лоеў. (Мат. Гродз., ЛП, Бялькевіч, Янкова), *дышло́* н., *ды́шаль* м. – пал. р. (ЛП), *кукры́ш* м. – Люб. (СПЗБ), *рага́ч* м. – Лоеў. (Янкова), *раске́п* м., *раске́па* ж. – пал. р. (ЛП); *крэставі́на* ж. 'перакладзіна ў перадку воза, куды ўстаўляецца канец дышля' – пал. р. (ЛП).

### Кола

Суцэльны або са спіцамі круг, які круціцца на восі і забяспечвае рух воза.

*калясо́* н. – агульн., Вілен. р., Латгал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, ЛП, Мат. Гродз., ЖНшС, Бялькевіч, Шатэрнік, Янкова), *ко́леса* н. – пал. р., Свісл., Гродз., Ганц., Люб., Добр., Беластоц. р., зах.-бран. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЛП, Растаргуеў, Шаталава), *ка́леса* н. – Зэльв. (ЛАБНГ), *калёсы* мн., *калеса́* мн. – пал. р., Беластоц. р. (ЛП, ЖНшС), *калясцэ́* н. памянш. – Жытк. (ТС), *ко́ла* н. – паўн.-зах. з. з перыферыяй, пал. р., усх.-маг. р., Віц. р., Саліг., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., ЛП, Бялькевіч, Каспяровіч, Шатэрнік), *като́к* м., *като́чак* м. памянш. – усх. з. (цэнтр. і ўсходн. часткі) (ЛАБНГ, СПЗБ, НС, Бялькевіч, Каспяровіч, Насовіч, Яўсееў), *по́кат* м. – Верхнядзв. (СПЗБ, НС), *пакато́* н. – Верхнядзв., Рас., Старадарож. (СПЗБ, Шаталава, Нар. скарбы); *качу́лка* ж. 'драўлянае кола без спіц' – Брасл. (СПЗБ), *світа́ш* м. 'некаванае кола' – Глыб. (СПЗБ), *чатыра́нка* ж. 'адно з чатырох колаў павозкі' – Зэльв. (Н. сл.-сць);

**стан** 'поўны камплект колаў для воза (чатыры колы)': *стан* м. – Верхнядзв., Лаг. (Шаталава, Варлыга, Насовіч), *стан калёс* – Чэрв. р. (Шатэрнік), *скат* м. – Віц. р., Ваўк. (Мат. Гродз., Каспяровіч, Насовіч), *скат кол* – пал. р. (ЛП), *круг* м. – Стол., Пін. (ТС, НЛ), *круг калёс* (*круг калю́с*), *круг ко́лаў, круг кол, сад калёс (сад калю́с)* – пал. р. (ЛП), *пако́т* м. – Навагр. (Мат. Гродз.), *по́кат калёс* – Карэл. (ЖС), *з'езд* м. – Стаўб., Уздз. (СЦБ), *нара́д* м. – Уздз. (СЦБ), *разво́д* м. – Воран., Дзятл. (Мат. Гродз.).

**Часткі кола**:

**вобад** 'вонкавая частка кола, на якую нацягваецца шына': *вóбад* м. – Віц. р., Чэрв. р., Лід., Лаг. (Мат. Гродз., Варлыга, Каспяровіч, Шатэрнік), *óбад* м. – пал. р., Астр., Воран., Лях., Ганц., Вілен. р., Латгал. р., Беластоц. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., ЛП), *гóбад* м. – пал. р. (ЛП), *абóд* м. – пал. р., Мёр. (ЖНС), *абады́* мн., *óбады* мн., *абóды* мн. – пал. р. (ЛП), *абóддзе* н. зб. – Чэрв. р. (Шатэрнік), *абýддзе* н. зб. – пал. р. (ЛП), *вóбаддзе* н. зб. – Мсцісл. (Юрчанка); *гнýты óбад* 'вобад з цэлага кавалка дрэва' – пал. р. (ЛП), *някýты óбад* 'вобад, на які не нацягнута шына' – пал. р. (ЛП), *урвáн* м., *урвáнчык* м. памянш. 'жалезная скобка з вушкамі для замацавання вобада' – мясц. (Насовіч);

**вось** 'шпень або тонкі вал, на які насаджваюцца колы': *вось* ж., *вóсі* мн. – пал. р., Віц. р., Лаг., Вілен. р. (СПЗБ, ЛП, Варлыга, Каспяровіч, Насовіч), *васí* (*восé*) мн. – пал. р. (ЛП), *ось* ж., *óсі* мн. – пал. р., Воран., Ганц., Пруж., Вілен. р., Латгал. р. (СПЗБ, ЛП), *ася́* ж. – Латгал. р. (СПЗБ); *дзядкí* мн. 'выступ над задняй воссю ў возе' – Гарад. (Каспяровіч);

**загваздка** 'спецыяльны шпень, які ўстаўляецца ў дзірку калёснай восі, каб не спадалі колы': *зáгваздка* ж., *зáгваздкі* мн. – асн. мас. г. (акрамя цэнтральнай часткі віц.-маг. г. і паўднёвай часткі пол.-мін. г., а таксама заходняй часткі гродз.-бар. г.) (ЛАБНГ, ЛП, Варлыга, Насовіч), *зáгвазда* ж. – Мсцісл. (ЛАБНГ), *зáгластка* ж. – Іўеў. (ЛАБНГ), *зáўвостка* ж. – Стол. (ЛАБНГ), *зáгвазка* ж. – Дзятл., Валож., Светлагор., Чач., Браг. (ЛАБНГ), *загвóздка* ж. – Гарад., Клім., Хоц., Гл., Бабр., Гом. (ЛАБНГ), *зáтыка* ж. – Карэл., Клецк. (ЛАБНГ), *зáтычка* ж. – зах.-пал. г. (пераважна паўн.-зах. частка), Ваўк., Нясв., Добр. (ЛАБНГ), *калóчак* м. – Нараўл. (ЛАБНГ), *лёка* ж. – Бераст. (Сл. Гродз.), *лёнка* ж. – Гродз. р., Бераст. (ЛАБНГ, Цыхун), *пянóк* м. – Брэсц. (ЛАБНГ), *пярэ́тачка* ж. – Лід. (ЛАБНГ), *чакá* ж. – Бых., Чэрык. (ЛАБНГ, Мат. Маг.), *швóран* м. – Чав. (ЛАБНГ), *шваранёк* м. – Гродз. (ЛАБНГ), *шняп* м. – Бераст. (ЛАБНГ), *шплін* м. – Малар. (ЛАБНГ), *штыль* м. – Ганц. (ЛАБНГ);

**жалезная гайка (кальцо) на канцы восі ў коле**: *му́тра* ж., *му́тры* мн. – пал. р., Паст., Смарг., Гродз., Навагр., Слон., Лід., Шчуч., Драг., Вілен. р. (СПЗБ, Сл. Гродз., ЛП, ЖС, Шаталава), *мутэ́рка* ж. памянш. – пал. р. (ЛП), *ча́шка* ж. – Драг. (ЖС);

**званчак** 'частка кола з некалькімі спіцамі': *званча́к* м., *званчакі́* (*звенчакі́, звінчукі́*) мн. – зах.-пал. г. (усходняя і цэнтральная часткі), гродз.-бар. г., Мін. р., Слуцк. р., Чэрв. р., Ашм., Віл., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., ЛП, Цыхун), *зво́нчак* м. – Шчуч. (З нар. сл.), *звянча́к* м. – пал. р., Карэл. (ЛП, З нар. сл.), *званя́к* (*зване́к, звуня́к, звуне́к*) м. – зах.-пал. г. (заходняя частка) (ЛАБНГ, НЛ, СНМ), *звенякі́* (*звінякі́*) мн. – Астр., Вілен. р. (СПЗБ), *звяно́* н. – паўн.-зах. з. (цэнтральная частка), паўдн.-усх. з. (спарадычна), гродз.-бар. г., паўн. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *звон* м. – спарадычна паўн. р., Дубр., Зэльв., Бар., Пруж., Лельч. (ЛАБНГ), *зво́нік* м. – Брасл. (ЛАБНГ), *звано́* н. – Навагр. (СПЗБ), *званке́* мн. – Шчуч. (СПЗБ), *званча́тка* ж. – Іўеў. (ЛАБНГ), *вянча́к* м. – Слуцк., Лях. (ЛАБНГ, СПЗБ), *кава́лак* м. – Івац., Бабр., Рэч., Нараўл. (ЛАБНГ), *кусо́к* м. – Барыс., Тал., Пух., Асіп., Бых., Слаўг., Клім., Саліг., Івац., Лун., Стол., Лельч. (ЛАБНГ), *се́ктар* м. – Мсцісл., Рэч. (ЛАБНГ), *ча́стка* ж. – Чав., Добр. (ЛАБНГ), *часць* ж. – Магіл., Касц., Лун. (ЛАБНГ), *кляк* м. – Кам. (ЛАБНГ), *сто́чка* ж. – Пін. (ЛАБНГ);

**калодка** 'сярэдняя частка кола, у якой умацоўваюцца спіцы': *ка́ло́дка* (*куло́дка*) ж. – паўдн.-зах. д., спарадычна сярэд.-бел. г., пал. р., Сен., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Шатэрнік, Станкевіч), *калі́тка* ж. – Кобр. (ЛАБНГ), *калу́дка* (*кулу́дка*) ж., *калу́дачка* ж. памянш., *калу́дкі* мн., *калы́дка* ж. – пал. р. (ЛАБНГ, ЛП), *кало́дзіца* (*куло́дзіца*) ж., *кало́дзіцы* мн. – пал. р., Ганц. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЛП, Н. сл-сць, Шаталава), *каду́шка* ж. – Браг. (Шаталава), *сту́піца* ж. – паўн.-усх. д. (акрамя заходняй часткі пол.-мін. г.), сярэд.-бел. г. (паўднёва-ўсходняя частка), Іўеў., Брасл., Малар. (ЛАБНГ, СПЗБ, Бялькевіч), *сту́пніца* ж. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *тру́бка* ж. – паўн.-усх. д. (акрамя ўсх.-маг. г.), паўдн.-усх. з., Латгал. р.

(ЛАБНГ, СПЗБ, Насовіч, Шаталава), *тру́біца* ж. – Беш., Віц., Пін. (ЛАБНГ), *тру́бка спрыхо́вая* – Вілен. р. (СПЗБ), *каляс-на́я кало́дка* – Лаг. (Варлыга), *кацёлка* ж. – Пух. (ЛАБНГ);

**рэхва** 'жалезны абруч, які наганяецца на драўляную калодку кола': *рэ́хва* ж., *рэ́хвачка* ж. памянш. – Чэрв. р., Гродз. р., Сен., Драг. (Нар. скарбы, Каспяровіч, Насовіч, Цыхун, Шатэрнік), *ры́хва* (*рі́хва*) ж., *ры́хвы* (*рі́хвы*, *рі́хві*) мн. – пал. р., Карэл. (ЛП, Н. сл-сць), *ра́хва* ж., *ра́хвы* (*ра́хві*) мн., *ра́фы* мн. – пал. р. (ДСБ, ЛП, ЖС), *рэ́хвіна* ж. – Мёр., Ушацк. (Н. сл-сць, НЛ), *ары́хва* (*орі́хва*) ж., *арэ́хвы* (*оре́хві*) мн., *арэ́хаўкі* (*оре́хоўкі*) мн. *гарэ́хва* (*горе́хва*) ж., *гарэ́хвы* (*горе́хві*) мн. – пал. р. (ЛП), *абру́ч* м., *абручы́* мн., *абру́чык* м. памянш., *абру́чыкі* мн. памянш., *о́бруч* м., *бруч* м. – пал. р. (ТС, ЛП), *ко́птур* м., *капту́р* м., *каптуры́* мн. – пал. р. (ДСБ, ЛП), *тарады́нка* ж., *тарады́нкі* мн., *тырды́нка* ж., *трады́нкі* мн., *трады́лкі* мн., *тэрындэ́лькі* мн. – Лаг., Брэсц., Кам., Малар. (Н. сл-сць, Варлыга, Шаталава), *бу́кса* ж., *бу́ксы* мн. – пал. р., Лаг. (ЛП, Варлыга), *бруштэ́лі* мн. – Брэсц., Малар. (Н. сл-сць), *ка́псуль* (*ка́псыль*) м. – Малар. (Н. сл-сць), *завія́нка* ж. – Малар. (Н. сл-сць), *наспі́чнік* м., *наспі́чнікі* мн., *заспі́чнікі* мн. – пал. р. (ТС, ЛП);

**спіца** 'адзін з драўляных або металічных стрыжняў, які злучае калодку кола з вобадам': *спі́ца* ж., *спі́цы* мн. – гродз.-бар. г., пал. р., Чэрв. р., Вілен. р., Латгал. р., Беластоц. р. (СПЗБ, ТС, ЛП, Шатэрнік), *шпі́ца* ж., *шпі́цы* мн. – пал. р. (ЛП), *спры́ха* ж. – Гродз., Воран., Вілен. р. (СПЗБ, Сл. Гродз.);

**утулка** 'ўтулка ўнутры калодкі кола (у вазах з жалезнымі восямі)': *уту́лка* ж. – Стол., Латгал. р. (ТС, СПЗБ), *уту́лак* (*вту́лок*) м., *уты́лак* м., *уту́ла* н., *ту́лка* ж. – Латгал. р. (СПЗБ), *ма́ташна* ж. – пал. р. (ТС, ЛП), *пя́ста* ж. – Вілен. р. (СПЗБ);

**шына** 'металічны абруч, нацягнуты на вобад': *шы́на* ж., *шы́ны* мн. – пал. р., усх.-маг. р., Ваўк., Лід., Воран., Ганц., Вілен. р., Латгал. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., ЛП, Бялькевіч), *ашы́на* (*ошы́на*) ж. – пал. р. (ЛП), *шэ́ба* ж. – Брэсц. (Н. сл-сць).

### Падгерац

Жалезны прут, які злучае швoран з трайнёй калёс.

*падгéрац* м. – Лаг., Гл. (Варлыга, Янкоўскі), *падгэ́рац* м. – пал. р., Чэрв. р. (ЛП, Шатэрнік), *падгэ́йсцер* м., *падгэ́йстра* ж.– пал. р. (ЛП), *падгéрчык* м. памянш. – Гл. (Янкоўскі), *падгэ́рц* м. – Карэл., Бял. (Янкоўскі), *падгэ́рць* ж. – пал. р. (ЛП), *пíдгерць* (*пíдгірць*) ж., *пóдгерць* (*пóдгірт*) ж., *пíдгартынь* ж. – Малар. (Н. сл-сць), *падґáрла* н. – Драг. (ЖС), *пýдвязь* (*пýд'язь*) ж., *падвя́зка* ж., *кны́паль* м. – Малар. (Н. сл-сць), *цыбáнт* м., *цыбáнты* мн. – Вілен. р. (СПЗБ); *расця́жкі* мн. 'жалезныя пруты, якія злучаюць канец трайні з задком воза' – Малар. (Н. сл-сць).

### Падосак

Вузкая жалезная паласа, урэзаная пад ніз восі драўляных калёс.

*падóсак* (*пудýсак, пады́сак*) м. – пал. р., Беш., Лаг. (ТС, ЛП, ЖС, Варлыга, Каспяровіч, Станкевіч), *падóска* ж., *падóскі* мн., *падýскі* (*пудýскі*) мн. – пал. р. (ЛП, Насовіч, Станкевіч), *падóснікі* мн. – пал. р. (ЛП), *завóса* ж., *завóска* ж. памянш. – мясц. (Насовіч), *перaты́ка* ж. – Шчуч. (Сл. Гродз.), *карáсь* м., *карасí* мн., *карáсі* мн. – пал. р., Дзятл., Чашн., Круп., Гл. (Мат. Гродз., ЛП, ЖС, Каспяровіч, Янкоўскі), *крась* м. – Мсцісл. (Юрчанка).

### Ручкі ў падушцы воза

Драўляныя брускі, якія ўбіваюцца ў падушку воза і да якіх прымацоўваюцца драбіны, барты.

*рýчка* ж., *рýчкі* мн. – асн. мас. г. (акрамя віц.-маг. г.), Мсцісл. (ЛАБНГ, Мат. Гом., ЛП, Бялькевіч, Шаталава, Юрчанка), *ручкí* мн. – зах.-пал. г., Пруж., Зэльв., Слон. (ЛАБНГ, ЛП), *ручаны́* мн. – Навагр. (СРЛГ), *нарýчыцы* мн. – Добр.

(ЛАБНГ), *люшня* ж., *люшні* мн. – пал. р., Гродз. р., Зэльв., Бар. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Нар. скарбы, Сцяцко, Цыхун), *лучóк* м., *лучкí* мн., *лукí* мн., *каблýчыкі* мн. – пал. р. (ЛП), *упóркі* мн., *падпóра* ж., *падпóры* мн. – пал. р. (ЛП, ЖС), *падрýчнік* (*падрýшнік*) м., *падрýчнікі* (*падрýшнікі*) мн. – пал. р. (ТС, ЛП), *бíлы* мн. – Мін., Дзярж., Кір., Рэч., Нараўл., Браг. (ЛАБНГ), *бíлкі* мн. – Валож. (ЛАБНГ), *дрáбці* мн., *дрáпчына* ж. – Лун. (ЛАБНГ), *друк* м. – Лельч. (ЛАБНГ), *дрýкі* мн. – Ганц. (ЛАБНГ), *друкí* мн. – Арш., Дубр., Мсцісл. (ЛАБНГ), *лёсткі* мн. – Слуцк., Клецк., Лельч. (ЛАБНГ), *ляскí* мн. – Бярэз. (ЛАБНГ), *паплёсткі* мн. – Гродз. (ЛАБНГ), *пабóсні* мн. – Бабр. (ЛАБНГ), *пабóцні* мн. – Докш., Раг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *блáнка* ж. – Рэч. (ЛАБНГ), *брускí* мн. – Беш., Рэч. (ЛАБНГ), *гачкí* мн. – Малар. (Н. сл.-сць), *дзядóк* м. – Гарад., Пол. (ЛАБНГ), *кáлкі* мн. – Рас. (ЛАБНГ), *кланíца* ж. – Беластоц. р. (СПЗБ), *кляпчы́нкі* мн. – Лоеў. (ЛАБНГ), *плáнкі* мн. – віц.-маг. г. (цэнтр. частка), Браг. (ЛАБНГ), *цáпкі* ж. – Карэл. (Сл. Гродз.); *упóра* ж. 'жалезны крук, які ўмацоўвае верхнюю частку воза спераду з падушкай і ззаду – з воссю' – Мсцісл. (Юрчанка), *залюшэ́ннік* м. 'жалезная частка люшні, якая надзяваецца на вось' – Драг. (ЖС), *налюшэ́льнік* (*налюшэ́лнік*) м., *налюшэ́нік* м., *барáшак* м. 'жалезнае кальцо на канцы задняй ручкі для прымацавання люшні да драбіны воза' – Малар. (Н. сл-сць), *налюшня́нка* ж. 'жалезны абадок, які прымацоўвае навоснік да перадка воза' – Бераст. (Сл. Гродз.).

## Рысора

Пругкая частка ў возе (звычайна ў выглядзе спружыны), якая знаходзіцца паміж восямі і кузавам і служыць для змякчэння штуршкоў падчас язды.

*рысóры* мн. – Верхнядзв. (СПЗБ), *рэйсóры* мн. – Шчуч. (СПЗБ), *райсóра* ж. – Гродз. р. (Цыхун), *лісóра* ж. – Смален. р. (Дабравольскі); *дзеравя́нны ход, дзераўля́ны ход, палéнны ход, крывóе калясó* 'ніжняя хадавая драўляная частка во-

за' – Круп., Мядз. (СЦБ), *зялёзны ход* 'ніжняя хадавая металічная частка воза' – Круп. (СЦБ).

**Трайня**

Падоўжаны брус у калёсах, які злучае пярэднюю вось з задняй (у задку канец яго раздвоены).

*трайня́* ж. – асн. мас. г. (акрамя заходняй часткі гродз.-бар. г.), Вілен. р., Латгал. р., Смален. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Каспяровіч, Бялькевіч, Шатэрнік, Янкоўскі, Станкевіч, Насовіч, Дабравольскі), *тро́йня* ж. – Ганц., Лун., Стол., Чач. (ЛАБНГ, ДСБ), *трайні́ла* н. – гродз.-бар. г., Бяроз., Чав., Клім., Ветк., Рэч. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., Мат. Гом., Шаталава, Сцяцко), *трані́ла* н. – Гродз. р., Шчуч., Бераст., Маст. (ЛАБНГ, СПЗБ, Цыхун), *трані́дла* н. – Свісл. (Шаталава), *трапі́ла* н. – Пруж. (ДСБ), *патро́йня* ж. – Віц. р. (Каспяровіч), *патрайня́* ж. – мясц. (Станкевіч), *разво́ра* ж., *разво́ры* мн. – пал. р., Гродз., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., ДСБ, ЛП), *разво́рына* ж. – пал. р. (ЛП), *разво́рка* ж. – зах.-пал. г., гродз.-бар. г. (ЛАБНГ, Сл. Гродз., ЛП, Шаталава), *разво́р* м. – Гродз. (Сл. Гродз.), *расшво́ра* ж., *рашво́рка* ж. – Дзятл., Зэльв. (Сл. Гродз., Мат. Гродз., Сцяцко), *ды́шаль* м. – паўн.-зах. з. (цэнтр. і паўдн. часткі), усх.-пал. р., Бяроз., Стол., Барыс. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., ЛП), *ды́шла* (*ды́шлё*) н. – пал. р., Гом., Шкл. (ЛАБНГ, ЛП, Мат. Маг.), *дышло́* н. – пал. р. (ЛАБНГ, ЛП), *праві́ла* н. – пал. р. (ЛАБНГ, ЛП, ДСБ), *суня́тла* (*сыня́тла, сынэ́тла*) н. – пал. р. (ЛАБНГ, ЛП), *свіня́тла* (*свыня́тла*) н. – Пін. (ЛАБНГ, ЛП), *дронк* м. – Мядз., Стаўб. (ЛАБНГ), *жэ́рдка* ж. – Іўеў., Шчуч. (ЛАБНГ), *кары́тка* н. – Іўеў. (ЛАБНГ), *кол* м. – Дзятл. (ЛАБНГ), *падге́йсцер* м. – Ветк., Лоеў. (ЛАБНГ), *падгэ́рац* м. – Бых. (ЛАБНГ), *по́дгур* м. – Ваўк. (Мат. Гродз.), *разво́дка* ж. – Гродз. (СПЗБ), *разво́д* м. – Брасл. (ЛАБНГ), *рубе́ль* м. – Добр. (ЛАБНГ), *свярдлі́шча* н. – Івац. (ЛАБНГ); *све́рдла* (*свэ́рдла*) н., *падто́ка* ж. 'раздвоены канец трайні' – Брэсц., Кобр., Малар. (ЛАБНГ, Н. сл-сць), (*а*)*лёнак* м. 'затычка на

канцы бруса, які злучае заднюю і пярэднюю часткі воза’ – Малар. (Н. сл-сць).

## Шворан

Жалезны стрыжань, які з’яўляецца вертыкальнай воссю передка павозкі, што забяспечвае паварот на ходу.

*шво́ран* м., *шво́рань* м. – агульн. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., ЛП, Цыхун, Шатэрнік), *шву́ран* м., *шву́рань* м. – Дзярж., Бяроз. (ЛАБНГ), *шваранóк* м. – мясц. (Насовіч), *шво́рнік* м., *шварнёк* м. памянш. – пал. р. (ЛП), *шмо́ран* м., *шмаранóк* м. памянш. – Мсцісл., Касц., Клім. (ЛАБНГ, Юрчанка), *шкво́ран* м., *шкво́рань* м. – Мсцісл., Чэрык., Краснап., Малар., Жаб. (ЛАБНГ).

**Іншыя часткі воза**:

**аснова воза без кузава**: *дра́бы* мн. – усх.-маг. р. (Бялькевіч, Станкевіч, Насовіч), *драбіна́* ж. – мясц. (Станкевіч), *дро́нчак* м. – Верхнядзв. (СПЗБ), *ка́ры* мн. – Астр., Ашм., Маладз. (СПЗБ, СЦБ), *панара́д* м. – Паст., Вілен. р. (СПЗБ), *го́лы воз* – пал. р. (ЛП); *адзёр* м. ‘корпус воза’ – мясц. (Станкевіч);

**аснова воза без кузава і колаў**: *бры́ка* ж. – пал. р. (ЛП), *драбі́ны* мн. – усх.-маг. р., Беш. (Бялькевіч, Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч), *драб* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *наса́д* м. – Кобр. (ДСБ), *аса́да* ж., *аса́дка* ж., *аса́дак* м., *аза́дак* м., *аса́дкі* мн., *ставóк* м., *станóк* м. – пал. р. (ЛП);

**пярэдняя частка воза (вось і два пярэднія колы)**: *перадóк* м., *перадóчак* м. памянш. – пал. р., Чэрв. р., усх.-маг. р., Лаг., Пух., Ваўк., Дзятл., Воран., Лід., Вілен. р., Латгал. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., ЛП, Варлыга, Бялькевіч, Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік,), *пе́рад* м. – пал. р., Воран., Вілен. р., Латгал. р. (СПЗБ, ЛП), *перадкі́* мн., *пераднікі́* мн. – Латгал. р. (СПЗБ, Станкевіч), *цяле́жкі* мн. – Віц. р., Верхнядзв., Лаг. (Варлыга, Каспяровіч, Станкевіч, Шаталава), *ву́злаўя* н. –

Дзярж. (НС), *рассувóрка* ж. – Ваўк. (Мат. Гродз.); *ход* м. ‘вось з парай колаў’ – Віл., Навагр. (СПЗБ);

**жалезны хамуцік, які сцягвае передок воза**: *тарадынка* ж. – Маст., Бяроз., Драг. (ДСБ, ЖС, Шаталава);

**задняя частка воза**: *задóк* м. – пал. р., Чэрв. р., Віл., Навагр. (СПЗБ, Мат. Гродз., ЛП, Шатэрнік, Насовіч), *зад* м. – пал. р. Вілен. р., Латгал. р. (СПЗБ, ЛП), *тыл* м. – Шчуч., Ашм. (СПЗБ), *асáда* ж., *асáдка* ж., *азáдак* м., *асáдак* м., *асáдкі* мн. – пал. р. (ЛП);

**драўляная рашотка, якая ўстаўляецца ў задок воза**: *драпчáк* м. – Гродз., Шчуч. (Мат. Гродз., НЛ), *драбíнка* ж. – Пух. (СЦБ), *грáдка* ж. – Маг. р., Мсцісл. (Н. сл-сць, Юрчанка);

**абшыўка воза**: **жалезныя кольцы рознай шырыні, якімі замацоўваюць розныя часткі воза**: *арэ́хвы* (*орéхві*) мн., *арэ́хаўкі* (*орéхоўкі*) мн., *арыхва* (*оріхва*) ж., *гарэ́хва* (*горéхва*) ж., *гарэ́хвы* (*горéхві*) мн., *рáхва* ж., *рáхвы* (*рáхві*) мн., *рыхва* (*ріхва*) ж., *рыхвы* (*ріхвы, ріхві*) мн., *рáфы* мн. – пал. р. (ЛП).

## 10.2. САНІ

*сáні* мн., *сáначкі* мн. памянш. – пал. р., Чэрв. р, усх.-маг. р., Астр., Ваўк., Лаг., Вілен. р., Латгал. р. (СПЗБ, Мат. Гродз., ЛП, Бялькевіч, Варлыга, Шатэрнік), *сáны* мн. – пал. р. (ЛП), *сáнкі* мн. – пал. р., Віц. р., Гродз., Вілен. р. (СПЗБ, ЛП, Каспяровіч, Станкевіч), *сáнькі* мн. – Калінк., Гл., Вілен. р., зах.-бран. р. (СПЗБ, Растаргуеў, Станкевіч, Янкоўскі), *санкí* (*санкы́*) мн. – пал. р. (ЛП), *саначкí* мн. памянш. – пал. р. (ЛП), *сáнечкі* мн. – Лях., Гл. (СПЗБ, Янкоўскі), *лагóшы* мн. – Мёр., Стаўб. (СЦБ, Мат. мін.-мал., ЖНС), *лагажы́* мн. – Ашм., Вілен. р. (СПЗБ, Сл. Гродз.), *дрóўні* мн. – Латгал. р. (СПЗБ), *карукí* мн. – Астр. (СРЛГ), *шыткі* мн. – Пруж. (ДСБ); *баўкары́* мн. ‘драўляныя сані’ – Свісл. (СРЛГ), *вадавóзка* ж., *вадзя́нікі* мн. ‘сані для падвозкі вады’ – Мсцісл. (Юрчанка), *гáры* мн. ‘сані трактарныя’ – Ельск. (Мат. Гом.), *кóрбы* мн. ‘сані для вывазкі гною’ – Мядз. (СЦБ), *лаґóжы*

мн. ‘старыя паламаныя сані’ – Ушацк. (НС), *латуны́* мн. ‘шырокія сані’ – Шчуч. (Сл. Гродз.), *рабо́чыя са́ні* (*рабо́чы са́ны*) – пал. р. (ЛП), *са́ньнік* м. ‘гружаныя сані’ – мясц. (Станкевіч), *рагажа́нка* ж. ‘сані, абабітыя рагожай’ – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *няко́ваныя са́ні* (*няко́ваны са́ны*) ‘сані без акоўкі на палазах’, *падко́ваныя (падко́ваны) са́ні (са́ны), ако́ваныя (ако́ваны) са́ні* (*са́ны*), *шыпо́ваныя са́ні* (*са́ны*) ‘сані з акаванымі жалезам палазамі’ – пал. р. (ЛП);

**сані, палазы якіх зроблены з сагнутых маладых дрэў**: *гну́цікі* мн. – мясц. (Станкевіч), *гнёнікі* мн. – Уздз., Маладз. (СЦБ), *гнёнкі* мн. – Смал. (СЦБ), *гну́тыя* (*гнётыя*) *са́ні* (*са́ны*), *загі́неныя са́ні* (*са́ны*) – пал. р. (ЛП), *самаро́дкі* мн. – Воран. (Сл. Гродз.);

**сані, палазы якіх высечаны з кораня, які мае загнутую форму**: *ко́панкі* мн. – Ваўк., Мсцісл. (Мат. Гродз., Юрчанка), *ко́панікі* мн. – Стаўб. (СЦБ), *капа́нкі* мн. – Пух. (СЦБ), *капа́нікі* мн. – Дзярж., Чэрв., Бялын., Светлагор. (СЦБ, Мат. Гом., Яўсееў), *ко́пані* мн. – Смален. р. (Дабравольскі, Станкевіч), *капані́* мн. – Бял. (Мат. дыял. сл.), *ко́паныя са́ні* (*са́ны*) – пал. р. (ЛП);

**выязныя сані (звычайна са спінкай, упрыгожаныя)**: *вазо́к* м. – пал. р., Віц. р., Чэрв. р., усх.-маг. р., Светлагор. (ТС, Мат. дыял. сл., ЛП, Бялькевіч, Насовіч, Каспяровіч, Станкевіч, Шатэрнік,), *вазо́чак* м. памянш. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *база́шак* м. – Шчуч. (СПЗБ), *разва́лкі* мн. – Воран. (СПЗБ), *разва́ліны* мн. – Ганц. (СПЗБ), *адва́льчык* м. – Сен. р. (Каспяровіч, Станкевіч), *калама́жка* ж. – пал. р. (ТС, ЛП), *карапа́шка* ж. – Шкл. (Мат. Маг.), *карахва́шкі* мн. – Барыс. (СЦБ, Мат. мін.-мал.), *лаго́жы* мн., *лаго́шы* мн. – Глыб., Лаг., Латгал. р. (СПЗБ, Мат. мін.-мал.), *лаго́ш* м. – Бярэз. (СПЗБ), *раго́жанкі* мн. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *аса́шкі* мн. – Гродз. р. (НС, Цыхун), *бры́чка* ж. – пал. р. (ЛП), *вяжа́ляс* м. – Гродз. р. (Цыхун), *гуса́рнік* м. – Стаўб. (СЦБ), *гуся́рнік* м. – Віл. (СЦБ), *залу́біцы* мн. – Кам. (ДСБ, ЖНС), *казыро́к* м. – Смален. р. (Дабравольскі), *качэ́брык* м. – Пух. (СЦБ), *караго́н* м. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *лубня́* ж., *лу́б-*

*нячка* ж. – Астр., Вілен. р. (СПЗБ, Сл. Гродз.), *рашо́тка* ж. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *са́нкі* мн. – Зэльв. (Сцяцко), *чухо́нка* ж. – Круп., Віц. р. (ЖС, Каспяровіч), *шы́ткі* мн. – Беластоц. р. (ЖНшС), *праязны́я са́ні* (*са́ны*), *лёгкія са́ні* (*са́ны*) – пал. р. (ЛП);

**развалкі** 'нізкія і шырокія сані з разваламі': *ро́звальні* мн. – Віц. р., Верхнядзв., Брасл., Навагр., Круп. (СПЗБ, Мат. Гродз., ЖС, Шаталава, Каспяровіч), *разва́льні* мн. – Гродз. р., Віц. р., Верхнядзв., Іўеў. (СПЗБ, Сл. Гродз., Цыхун, Каспяровіч), *разва́лкі* мн. – пал. р., Астр., Навагр. (Сл. Гродз., Мат. Гродз., ЛП, Станкевіч), *разва́лы* мн. – пал. р., Астр., Глыб., Калінк. (СПЗБ, Мат. Гродз., Мат. Гом., ЛП, Станкевіч), *разва́ліна* ж., *разва́ліны* мн. – Гродз., Шчуч., Карэл., Стаўб. (СПЗБ, Сл. Гродз., ЛП, ЖС), *разва́лінкі* мн. – Іўеў., Воран., Нясв., Лях. (СПЗБ, Сл. Гродз., Станкевіч), *развалі́нкі* мн. – Саліг. (Н. сл.-сць), *ро́звільні* (*ро́звільны*) мн. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *развалёшкі* мн. – Віц. р., Смален. р. (Каспяровіч, Дабравольскі), *лаго́жы* мн. – Маладз., Лаг., Чэрв., Бярэз., Верхнядзв., Вілен. р. (СПЗБ, СЦБ, Шаталава), *лаго́шы* мн. – Жытк. (ТС), *ро́спускі* мн. – Рэч., Жлоб., Ветк., Добр. (Мат. Гом.), *дро́гі* мн. – Верхнядзв. (СПЗБ), *гра́нды* мн. – Гродз. р. (НС, Цыхун), *по́бацні* мн. – Добр. (Мат. Гом.);

**сані для перавозкі бярвенняў**: *ка́ры* мн. – Свісл., Слон., Пруж., Ганц., Калінк., Светлагор., Маз., Гом., Ветк., Чач., Кір., Беластоц. р. (СПЗБ, ДСБ, Мат. Гом., НС, Н. сл-сць, ЖНС, Шаталава), *кры́нджалы* (*гры́нджалы*) мн. – Светлагор., Жлоб., Лоеў., Хойн. (Мат. дыял. сл., Мат. Гом., Янкова), *крынджо́лы* (*грынджо́лы*) мн., *грынджа́лы* мн. – пал. р. (ТС, ЛП, Шаталава);

**падсанкі** 'маленькія санкі, якія выкарыстоўваюцца пры перавозцы бярвенняў (прыпрагаюцца да каня, прымацоўваюцца да вялікіх саней або прызначаны для перавозкі ўручную)': *падса́нкі* мн., *падса́начкі* мн. памянш. – спарадычна паўн.-усх. д., сярэд.-бел. г. (спарадычна усходняя частка), пал. р., Гродз. р., Мядз., Зэльв., Капыл., Слуцк., Светлагор., Гл., Лун., Рэч., Маз., Хойн. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС,

СЦБ, Мат. Гродз., ЛП, НС, Бялькевіч, Цыхун, Шаталава), *падсáнькі* мн. – Ваўк., Слон., Барыс., Гл. (СЦБ, Мат. Гродз., Янкоўскі), *паўсáнкі* мн., *паўсáначкі* мн. – пал. р., Паст. (ЛАБНГ, ЛП), *сáнкі* мн. – Валож., Зэльв., Навагр., Карэл., Бераст., Бярэз., Бяроз., Маз., Лельч. (ЛАБНГ, Мат. Гродз.), *сáнькі* мн. – Бял. (ЛАБНГ), *сáначкі* мн. – Рас., Дубр., Бяроз., Пін., Лоеў. (ЛАБНГ), *кáры* мн. – усх.-пал. р., усх.-маг. р., Докш., Лаг., Барыс., Круп., Бярэз., Мін., Кругл., Бял., Бых., Чач. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. дыял. сл., НС, ЖС, Бялькевіч, Варлыга), *кáркі* мн. – Мін., Дзярж., Пух. (ЛАБНГ, Шатэрнік), *паўкáркі* мн. – Стаўб. (ЛАБНГ, З нар. сл.), *падкáркі* мн. – Барыс., Круп. (СЦБ), *падкáрні* мн. – Барыс. (Мат. мін.-мал.), *сýчка* ж., *сýчкі* мн. – гродз.-бар. г., пал. р., Слуцк. р., Чэрв., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, Мат. Гродз., Мат. дыял. сл., ЛП, ЖС, НС, НЛ, Н. сл-сць, Цыхун, Шаталава), *сýкі* мн. – Свісл. (СРЛГ), *падсýчкі* мн. – Люб. (ЛАБНГ), *казá* ж. – паўн.-зах. з. (цэнтральная частка), Карэл., Стаўб., Буда-Каш. (ЛАБНГ, СПЗБ, СЦБ, Сл. Гродз., Мат. Гом., З нар. сл., Варлыга, Шаталава), *кóзачка* ж., *кóзачкі* мн. – Маладз., Стаўб., Карэл. (СЦБ, З нар. сл.), *казá-падсáнькі* ж. – Іўеў. (СПЗБ), *крывýлі* мн. – Магіл. р., Іўеў., Воран., Шчуч. (ЛАБНГ, СПЗБ), *крывáліны* мн. – Чэрык. (ЛАБНГ), *падстáвы* мн. – Круп. (СПЗБ), *падстанóўкі* мн. – Бял., Раг. (ЛАБНГ, НС), *падстáўка* ж. – Бярэз., Бых. (ЛАБНГ), *саматýжкі* мн., *саматýжачкі* мн. памянш. – пал. р., Беластоц. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, ЛП, Н. сл-сць, Шаталава, Янкова), *самацяжкі* мн. – Стол. (ДСБ), *самакáткі* мн. – Лоеў. (Янкова), *грынджóла* мн. – Хойн. (ЛАБНГ), *карáўкі* мн. – Смарг. (ЛАБНГ, СПЗБ), *карýкі* мн. – Астр. (Сл. Гродз.), *каручкí* мн. – Астр. (СПЗБ), *курáч* м., *курачы́* мн. – Лях. (СПЗБ), *сабáчкі* мн., *сабачýкі* мн. – Астр. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *пагабóіны* мн. – Гарад. (НЛ), *паяды́нкі* мн. – Ваўк. (Сл. Гродз.), *салáгі* мн. – Чач. (ЛАБНГ), *рóспускі* мн. – Добр. (ЛАБНГ); *гáры* мн. ‘пара кароткіх саней на тры капылы для перавозкі доўгіх броўнаў’ – пал. р. (ЛП).

## Часткі саней

### Вяз

Перакладзіна ў санях, зробленая з вязу, дубу і інш., якая злучае загнутыя часткі палазоў.

*вяз* (*в'яз, в'ез*) м., *вязы́* (*вязі́*) мн. – агульн. (ЛАБНГ, ТС, СЦБ, ЛП, Н. сл.-сць, Варлыга, Каспяровіч, Станкевіч, Сцяцко, Шаталава, Шатэрнік), *вя́зы* (*в'я́зы, в'я́зі*) мн. – пал. р. (ЛП), *вязо́к* (*в'язо́к*) м. памянш., *вязкі́* (*в'язкі́*) мн. памянш. – віц.-маг. г. (спарадычна), пал. р., Бераст. (ЛАБНГ, ТС, ЛП, Юрчанка), *вя́ззе* (*в'я́з'е*) н. зб. – Чэрв. р., пал. р., Сен., Барыс., Клім., Ганц. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, Мат. Маг., ЛП, Н. сл-сць, Шатэрнік), *вязь* ж. – Ушацк., Лаг., Маг., Слуцк. (ЛАБНГ), *вя́зень* м. – Уздз. (СЦБ), *вя́знікі* мн. – Іўеў. (СПЗБ), *вязе́лья* мн. – Смален. р. (Дабравольскі), *і́цвіна* ж., *і́цвіны* мн. – віц.-маг. г., Лаг., Пух., Рэч., Добр. (ЛАБНГ, Варлыга, Бялькевіч, Каспяровіч, Станкевіч, Шатэрнік, Юрчанка, Яўсееў), *ві́цвіна* ж. – Астр. (ЛАБНГ), *ві́ціна* ж. – Лельч. (ЛАБНГ), *лі́цвіна* ж., *ліцві́ны* мн. – Пух., Буда-Каш., Браг. (ЛАБНГ, СЦБ), *лі́твіна* ж. – Бабр. (ЛАБНГ), *по́перадзень* м. – пал. р., Раг., Гродз. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП), *паперадня́* ж., *по́перадня* ж., *пу́перадня* ж., *по́перадніца* ж. – пал. р. (ЛАБНГ, ЛП), *пярэ́дніца* ж. – пал. р., Іўеў., Карэл., Слон., Люб., Лях. (ЛАБНГ, ЛП, ЖНС, Шаталава), *перадо́ўка* ж. – Зэльв., Гл. (Сл. Гродз., Янкоўскі), *перадня́* ж. – Валож. (ЛАБНГ), *перадо́к* м. – Лун. (ЛАБНГ, Шаталава), *ву́студзень* м. – Жытк. (ТС), *ву́сцузні* мн. – Стаўб. (ЛАБНГ), *ву́сцельга* ж. – Гл., Стол., Жытк., Маз. (ТС, Шаталава, Янкоўскі), *ву́сцегля* ж., *вы́сцегла* ж. – Стол., Жытк., Лельч. (ЛАБНГ, ТС), *усягля* ж., *уся́глі* мн., *усця́глі* мн. *ісяглі* мн., *сця́гі* мн., *сту́зень* м., *сту́зні* мн., *сту́жні* мн., *сту́дні* мн. – пал. р. (ЛП), *сцяглі́на* ж. – Акц. (ЛАБНГ), *усту́жына* ж., *усту́жжа* н. зб. – Гарад. (ЛАБНГ, НЛ), *вы́скарачэнь* (*вы́скарашэнь, вы́скаражэнь*) м., *вы́скараценьм.*, *вы́скачэнь* м., *вы́скарачні* (*вы́скарашні*) мн. – пал. р. (ЛП), *на́далабні* мн. – Жаб. (ЛАБНГ), *на́дабкі* мн., *на́дубкі*

мн., *надулубкі* мн. – Воран., Малар. (ЛАБНГ, СПЗБ, Н. сл-сць), *пóбаџень* м., *пóбуцень* м., *пóбацні* мн., *пóбатні* мн., *пóбуцце* н. зб. – пал. р. (ТС, ЛП), *галавéйнік* м. – усх.-маг. р. (Бялькевіч), *нáгалавень* м. – пал. р. (ЛП), *згалóвак* м. – Брэсц. (Н. сл-сць), *пярэ́чка* ж. – Пол., Рас. (ЛАБНГ, Шаталава), *папярэ́чына* ж. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *бараны́* мн. – Бераст. (ЛАБНГ), *вя́тліна* ж. – Чэрык. (ЛАБНГ), *клі́ба* ж. – мясц. (Станкевіч), *лісі́ца* ж. – Глыб. (ЛАБНГ), *насáдка* ж. – Брасл. (СПЗБ), *нáклескі* мн. – Ваўк. (ЛАБНГ), *плáнка* ж. – Дубр. (ЛАБНГ), *плáшка* ж. – Гродз. (ЛАБНГ), *пóдушка* ж. – Гродз. (ЛАБНГ), *распóрка* ж. – Віц. (ЛАБНГ); *дóўбаны вяз* 'вяз з дошкі, надзетай на капылы' – пал. р. (ЛП), *гну́ты вяз* 'вяз з тоўстага гнуткага прута' – пал. р. (ЛП), *гавéннік* м. 'вязка, якая накладваецца ў санях на канец раз'яднаных галовак палазоў, у іх пазы' – мясц. (Станкевіч);

**апошні задні вяз у санях, зроблены з шырокай дошкі, якая значна даўжэйшая за астатнія вязы**: *бáба* ж., *бáбы* мн., *бáбка* ж., *бáбкі* мн., *развáла* ж., *развáліна* ж., *расклáда* ж. – пал. р. (ЛП).

## Галоўкі

Пярэднія загнутыя часткі палазоў.

*галóўка* ж., *галóўкі* мн. – асн. мас. г. (акрамя ўскраінных заходніх гаворак паўн.-зах. з., спарадычна ў гродз.-бар. г.), пал. р., Беластоц. р., Латгал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, Мат. Гродз., ЛП, Каспяровіч, Насовіч, Станкевіч, Шатэрнік, Юрчанка), *галаўкі́* мн. – пал. р., Маст., Ваўк., Зэльв., Стаўб. (ЛАБНГ, ЛП), *згалóўкі* мн. – Жаб. (ЛАБНГ), *сýгалаўе* н. – Верхнядзв., Сен. (Шаталава, Каспяровіч), *скóрса* ж., *скóрсень* м., *скóрсы* мн., *скóрсні* мн., *скóрчань* м., *скóрчні* (*скóршні*) мн. – пал. р., Слон., Бар., Івац., Ганц. (ЛАБНГ, СПЗБ, ДСБ, ЛП), *скорс* (*скорш*) м. – Малар. (Н. сл.-сць), *ускóрсы* (*ускóрцы*) мн. – Паст., Мядз., Віл. (ЛАБНГ, СПЗБ), *вы́скарачэнь* (*вы́скарашэнь, вы́скаражэнь*) м., *вы́скараџень* м., *вы́скачэнь* м., *вы́скарачні* (*вы́скарашні*) мн., *вýскаратні* мн. – пал. р. (ЛАБНГ,

ЛП), *перадо́к* м. – Іўеў. (ЛАБНГ), *перадкі́* мн. – Лун. (ЛАБНГ), *по́перадзень* м. – Пін. (НЛ), *по́перазень* м. – Лід. (СПЗБ), *нос* м., *насы́* мн. – Шчуч., Бяроз. Брэсц., Малар. (ЛАБНГ, Н. сл-сць), *ґо́хта* ж., *ґо́хты* мн., *ґа́хты* мн. – Ашм., Іўеў., Воран., Вілен. р. (ЛАБНГ, СПЗБ), *палазы́* мн. – Паст., Смарг., Лід., Шчуч., Навагр., Хойн. (ЛАБНГ), *пало́зы* мн. – Астр. (ЛАБНГ), *пало́зья* мн. – Кам. (ЛАБНГ), *палазы́-гнёнікі* мн. – Валож. (ЛАБНГ), *гну́тыя по́лазы* – Лоеў. (ЛАБНГ), *абгані́* мн. – Бярэз. (ЛАБНГ), *клю́чка* ж. – Гродз.(ЛАБНГ), *бараны́* мн. – Беластоц. р. (СПЗБ);

**пярэднія канцы палазоў у санях, звязаныя вязам у адно цэлае**: *ву́згалаўе* н. – Карэл. (ЖНС), *ву́згалавак* м. – Зэльв. (Сцяцко), *во́перадзь* ж. – Воран. (Мат. Гродз.), *звя́занка* ж. – Іўеў. (Сл. Гродз.), *перадо́к* м. – Ваўк., Дзятл., Воран. (Мат. Гродз.).

## Заварацень

Вяроўка, лазовы прут, дрот і да т. п., якімі прымацоўваюць аглоблі да пярэдніх капылоў саней.

*за́варацень* м., *за́варатні* мн. – пал. р., Віл., Лях., Капыл., Барыс., Круп., Уздз., Слуцк., Чэрв. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Шатэрнік), *за́верацень* м., *за́вератні* мн. – пал. р., Чэрв. р., Карэл., Бар., Клец., Лях., Нясв., Дзярж., Мін., Пух., Асіп., Бярэз., Бялын. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Шатэрнік, Яўсееў), *за́верцень* м. – пал. р., Чэрв. р., Рас., Лаг., Барыс., Гл., Мсцісл., Асіп., Пух., Старадарож., Гом. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, Варлыга, Шатэрнік), *за́ўрацень* м. – Саліг. (ЛАБНГ), *за́верт* м., *за́верта* ж., *за́верты* мн.– віц.-маг. г., сярэд.-бел. г. (паўднёва-ўсходняя частка), зах.-бран. р. (ЛАБНГ, Мат. дыял. сл., НС, Бялькевіч, Каспяровіч, Насовіч, Растаргуеў, Юрчанка, Янкова), *за́верць* ж. – Шарк., Бярэз. (ЛАБНГ, СПЗБ), *за́варатня* ж. – Зэльв., Стаўб., Люб. (ЛАБНГ, СРЛГ), *за́варатка* ж. – Мёр. (НС), *за́вертка* ж., *за́верткі* мн.– Касц., Рэч. (ЛАБНГ), *за́вертак* м. – Рэч. (ЛАБНГ), *завёрткі* мн. – Івац. (ЛАБНГ), *за́вертня* ж., *за́вертні* мн. – пал. р., Бабр., Ветк. (ЛАБНГ,

ЛП), *за́вірціна* ж. – Верхнядзв. (ЛАБНГ), *за́вацень* м. – Чэрв. (ЛАБНГ), *за́вятня* ж. – Добр. (ЛАБНГ), *увярце́нь* м., *у́вяртні* мн. – Віл. (ЛАБНГ), *увёртак* м. – Верхнядзв., Рас. (ЛАБНГ), *увёртка* ж. – Мёр. (ЖНС), *вярто́к* м. – Навагр. (НС), *пера-вярце́нь* м. – Стол. (ТС), *су́вертка* ж. – мясц. (Насовіч), *акруце́нь* м., *акрутні́* мн. – Паст., Шарк., Глыб., Мёр., Смарг., Валож., Лаг., Чашн. (ЛАБНГ, НС, Варлыга, Каспяровіч, Станкевіч), *акрутня́* ж. – Віл. (СЦБ), *выкруце́нь* м., *вы́крутні* мн., *ву́крутні* мн. – Стаўб. (СЦБ), *во́крутня* ж. – мясц. (Станкевіч), *за́круцень* м., *за́крутня* ж., *за́крутні* мн. – пал. р., Докш., Іўеў., Дзятл. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП, ЖС, НЛ), *закру́тка* ж. – Мёр. (ЖНС), *укруце́нь* м., *укрутні́* мн. – Паст., Мядз., Іўеў. (ЛАБНГ), *у́крутня* ж., *у́крутні* мн. – Ашм., Віл., Лаг. (ЛАБНГ), *укру́тні* мн. – Маладз. (ЛАБНГ), *вяро́ўка* ж. – Ушацк., Астр., Гродз., Брэсц., Кам., Пруж. (ЛАБНГ), *вужы́шча* н. – Ганц. (ЛАБНГ), *вужвы́на* ж. – Пін. (ЛАБНГ), *вужо́вачка* ж. – Слон. (ЛАБНГ), *у́жва* ж. – Слон. (ЛАБНГ), *грывя́нка* ж. – Шчуч., Воран. (ЛАБНГ, Сл. Гродз.), *дрот* м. – Гродз., Маст., Ваўк., Кам., Кобр., Драг. (ЛАБНГ), *дра-ці́на* ж. – Бяроз., Драг. (ЛАБНГ), *мату́з* м. – Іван., Драг. (ЛАБНГ), *кала́ч* м. – Маз., Нараўл. (ЛАБНГ), *крук* м. – Бе-раст., Пруж. (ЛАБНГ), *валаке́й* м. – Драг. (ЛАБНГ), *гало́ўка* ж. – Жаб. (ЛАБНГ), *дубе́ц* м. – Лельч. (ЛАБНГ), *завя́зка* ж. – Кобр. (ЛАБНГ), *жале́зны хаму́цік* – Малар. (ЛАБНГ); *на́марзня* ж. ‘вяровачная пятля на капыле саней, якой пры-мацоўваецца аглобля’ – Дзярж. (НС), *рэ́квачка* ж. ‘жалезная пятля замацоўваць аглоблі да саней’ – Гродз. (Сл. Гродз.).

**Капылы**

Драўляныя брускі, якія ўстаўляюцца ў палазы і служаць апорай для кузава саней.

*капы́л* м., *капылы́* мн. – пал. р., Чэрв. р., Гарад., Воран., Астр., Навагр., Дзятл., Лаг., Бял., Ветк., Карм., Вілен. р., Лат-гал. р. (СПЗБ, ТС, Мат. Гродз., Мат. Гом., ЛП, Варлыга, Каспяровіч, Станкевіч, Шатэрнік, Яўсееў), *ко́пыл* м., *ко́-*

*пыль* м., *кóпылы* мн., *капалы́* мн. – пал. р. (ЛП), *капы́лле* н. зб. – пал. р., усх.-маг. р., Смален. р. (Бялькевіч, Дабравольскі), *спрык* м. – Вілен. р. (СПЗБ), *спры́кі* мн. – Вілен. р. (СПЗБ), *стóйка* ж. – Лаг. (Шаталава).

## Намаражні

Бакавыя планкі, якія набіваюцца на капылы ў санях паверх вязоў.

*нáмаражні* мн. – паўн.-зах. з. (паўночная і цэнтральная часткі з перыферыяй), паўдн.-усх. з. (пераважна паўднёвая і цэнтральная часткі), пал. р., Шум., Гарад., Барыс., Чэрв., Ваўк., Ганц., Вілен. р., Латгал. р. (ЛАБНГ, СПЗБ, ТС, ЛП), *нáмаражня* ж. – пал. р., Паст., Гом., Карм., Ветк. (СПЗБ, ТС, ЛП, Мат. Гом., Шаталава), *нáмаражань* м. – пал. р. (ЛП), *нáмаражыны* мн. – Мядз. (ЛАБНГ), *нáмеражні* мн. – Браг. (ЛАБНГ), *нáмаржні* мн. – Рас., Ушацк., Шкл., Уздз., Чэрв., Бярэз., Бял., Бых., Гом. (ЛАБНГ, СПЗБ), *нáмаржня* ж. – Чэрв. р. (Шатэрнік, Станкевіч), *нáмаржань* м. – Мёр., Пух. (СЦБ, ЖНС), *нáмаржніна* ж. – Гарад. (ЛАБНГ), *нáмаразні* мн. – паўн.-зах. з. (спарадычна цэнтр. і паўдн. часткі), пал. р., Слуцк., Гл., Акц., Жлоб., Добр. (ЛАБНГ, СПЗБ, ЛП), *нáмаразня* ж. – пал. р. Гом., Карм., Ветк. (ЛП, Мат. Гом.), *нáмаразень* м. – пал. р., Карэл., Дзятл. (СПЗБ, ЛП, НЛ), *нáмарзні* мн. – віц.-маг. г., Шарк., Віл., Лаг., Шчуч., Бераст., Карэл., Слон., Мін., Дзярж., Чэрв., Слуцк., Салiг., Старадарож., Асіп., Бабр., Рэч. (ЛАБНГ, СПЗБ, Сл. Гродз., Бялькевіч, Каспяровіч), *нáмярзні* мн. – Слон. (СПЗБ), *нáмарзня* ж. – Віл., Лаг., Вілен. р. (СПЗБ, Варлыга, Станкевіч), *нáмерзня* ж. – Буда-Каш. (Мат. Гом.), *нáмярзель* м. – Стаўб. (СЦБ), *нáдалабы* мн., *нáдалаба* ж. – пал. р. (ЛП), *надалóбы* мн. – Бяроз., Лях., Івац. (ЛАБНГ), *надлóбы* мн. – Карэл. (Шаталава), *нáдалабні* мн. – Драг., Кобр., Іван. (ЛАБНГ), *нáдалабкі* мн. – гродз.-бар. г. (ЛАБНГ), *нáдалба* ж. – Гродз. (Шаталава), *нáдаўбкі* мн. – Шчуч., Лід. (ЛАБНГ), *нáдаўбня* ж. – Маст., Стол. (ТС, Шаталава), *нáдаўб* м. – Смарг. (Шаталава),

